ISSN 0130 — 8068

1/2008



# ПОЛЫМЯ

**Ягор Конеў**
**Грэчкасейная ідылія Тадэвуша Касцюшкі**
Раман (пачатак)

**Васіль Ткачоў**
**Дошкі**
П'еса

**Віктар Шніп**
**Вольга Русілка**
**Уладзімір Мазго**
Вершы

**З вавілонскай паэзіі**
**Пераклады Янкі Сіпакова**

**Алег Лойка**
**Дзівосы прозы**
Эсэ

**Легенды XX стагоддзя**
**Яўген Глебаў**

Ты стаў ізноў відушчым, горад мой!
І нам не сорам Мінскам пахваліцца.
Ды хочацца часамі нахіліцца
Над скруткам старажытнасці сівой.

...Хацеў я, каб і Мінск Градчаны меў,
І бронзу палкаводцаў ганарыстых,
І нейкім замкам спакушаў турыстаў...
Ды ён другою славай прагрымеў.

Пімен Панчанка



# ПОЛЫМЯ

1

(939)

2008

студзень

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА

Галоўны рэдактар
Мікола МЯТЛІЦКІ



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2008

# ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



**Віктар ШНІП**

# «І СТАЛА СВЕТЛА Ў ХАЦЕ...»

## БАЛАДА АДЧЫНЕНЫХ ДЗВЯРЭЙ

Ён дзверы адчыніў, і вецер заляцеў
І свечкі затушыў ля абразоў,
Нібыта абарваў лістоту з райскіх дрэў,
Нібыта з Храма спудзіў галубоў.

І стала цёмна ў хаце і на ўсім двары,
Нібыта ў бездань паляцеў наш свет,
І толькі зоркі — залатыя камары —
Ляцяць за намі, быццам пыл, услед.

Ён дзверы адчыніў, і ў цемнату зайшоў,
І сам зрабіўся тою цемнатой,
Якую ў полі ліжуць языкі кастроў,
Шукаючы нябёсы над сабой

Высокім дымам, што нібыта Млечны Шлях
Губляецца ў сцюдзёнай вышыні.
Ён дзверы адчыніў, нібы прагнаў свой страх,
Нібы згарэў у незямным агні.

---

***Шніп Віктар Анатольевіч*** *нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Гронка святла», «Пошук радасці», «Шляхам ветру», «На рэштках Храма», «Выкраданне Еўропы», «Воўчы вецер», «Інквізіцыя», «Выратаванне атрутай», «Чырвоны ліхтар», «Беларускае мора», кнігі паэзіі і прозы «Балада камянёў» і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007).*

І стала светла ў хаце і на ўсім двары,
І свечкі загарэліся ізноў,
І ўпаў, як цень, у травы чалавек стары,
Які спазнаў нянавісць і любоў…

## БАЛАДА КАНЦА XX СТАГОДДЗЯ

Сёння Караткевіча чытаю,
Нібы ў Беларусь сябе вяртаю
З Беларусі, у якой няма
Беларусі, ёсць адна зіма,
Белая, як твары ваяроў,
Што ўжо больш не вернуцца дамоў,
Бо яны ўжо дома, як і ты,
Сумны, як пражытыя гады,
У якіх і Беларусь была
Сумная, як хата без цяпла,
Белая, як рукі маладзіц,
Чыстая, нібы вада крыніц,
Што яшчэ бруіцца і цячэ,
Як сляза ў матулі па шчацэ,
Светлая, як Беларусь, якая
І мяне дамоў заўжды чакае,
Без якой мяне нідзе няма,
А ёсць гэта, як нябыт, зіма,
Дзе мы Караткевіча чытаем,
Каб тут быць, як Караткевіч быў,
Каб тут жыць, як Караткевіч жыў…

## БАЛАДА БЕЛАРУСКАЙ НЯВОЛІ

Ланцугі беларускай няволі
Залатымі не будуць ніколі,
Як не будзе наш час залатым,
Над якім, як над вогнішчам, дым,
У якім пакрыху вар'яцеем
І жывём—жыць іначай не ўмеем,
І крычым, і маўчым, бо — няволя
І нябёсы над намі, як поле,
На якім аніштo не расце,
Бо — пясок, нібы зоркі ў нябёсах,
Што — як лісце на чорным кусце,
Пажаўцелае ў росах і ў слёзах
Беларускіх анёлаў, якія
Нібы пчолы лятаюць начныя
Па-над светам, дзе мы ланцугамі
Звонім болей, чым нават званамі
Медзянымі, нібы залатымі,

І губляемся ў травах і ў дыме,
І крычым, і маўчым, бо — няволя,
І травой зарасло наша поле,
Залатое, як мы залатыя...

Следам вецер ваўком шэрым вые,
Бо бяжыш ты па нашым па полі,
Ад няволі бяжыш да няволі,
З ланцугоў у ланцуг, каб крычаць,
Што не хоча ніхто ратаваць
Ні цябе, ні мяне ад няволі,
Бо — даволі, даволі, даволі...

## ВАЙСКОВАЯ БАЛАДА

На нашых магілах не будзе крыжоў.
З чужыны з табой мы не прыйдзем дамоў,
І нашы каханыя — прыйдзе той час,
Як сон невясёлы — забудуць пра нас
І будуць чужымі, як неба чужое,
Як травы чужыя і як нежывое
Чужое, што ў травах хаваецца чорных
Пад небам счарнелым, халодным і зорным,
Дзе нашы магілы не знаюць крыжоў.
Але мы ўсё ж прыйдзем, мы прыйдзем дамоў
І нашы каханыя, — прыйдзе той час,
Як сон невясёлы, — успомняць пра нас,
І будзе не позна паставіць крыжы
На нашых магілах, і пройдуць дажджы,
І хлопчык малы да крыжоў прыбяжыць
І стане такім, мы якімі былі,
І крыж, нібы меч, ён дастане з зямлі…
На нашых магілах не будзе крыжоў…

## БАЛАДА НЕБА

Гаварылі, што зваліцца неба…
І звалілася неба да ног,
Пакацілася зорнае срэбра
Па каменні і пыле дарог.

І чарнюткая прорва над намі
Загудзела, завыла, як цмок.
І зрабіліся людзі мышамі,
І разбегліся ў норы і змрок.

Затапталі блакітнае неба,
Замуцілі блакітную кроў
І сказалі, што гэтак і трэба,
Бо мы дзеці бязбожных бацькоў.

І смяяўся нячысцік, і плакаў
Над каменнем, над пылам дарог,
І не выў, а маліўся сабака
За нябёсы, што ўпалі да ног.

## БАЛАДА ЦЕМРЫ

З камянёў нараджаюцца цмокі,
Нараджаецца цемра з кастроў.
Як вар'яты, блукаюць пракокі
І прарочаць нам смерць і любоў.

І крычаць па-над светам вароны.
Нібы золата, свеціцца пыл —
Гэта коціцца д'ябла карона
Да карчмы, што на плітах магіл.

І глядзім мы на свет, як сляпыя,
І аслепла ідзём хто куды,
І, пакуль мы яшчэ ўсе жывыя,
Нам гаручай ахвота вады.

І забіць ёсць ахвотнікі цмока,
Ды, відаць, яго нам не забіць,
Бо ісці да яго нам далёка,
Ну а сам ён на смерць не ляціць.

І да цемры мы ўсе прывыкаем,
Прывыкаем да крыку варон
І ў карчме ўжо зусім мы не знаем,
Ці то ява ўсё гэта, ці сон…

## БАЛАДА АКТРЫСЫ

На сцэну актрыса выходзіць,
Бы сонца ўзыходзіць, каб мы
Не зніклі ў завеях стагоддзяў
І выйшлі, нібыта з зімы,
З самоты, якая пануе
І нам не дае вольна жыць
У свеце, дзе нас яшчэ чуе
Наш Бог на крыжы, і ў душы,
І ў небе, якое над намі,
Як нашай самоты сляза,
Дзе зоркі — паўстанцаў кастрамі,
Ля іх маладзік, як каса,
Што зброяй была касінера,
Які не вярнуўся дамоў.
З ягонай крыві — наша Вера,
Надзея, Спагада, Любоў
І Словы, якія мы чуем,
Якімі актрыса жыве,
Якімі нам душы лякуе,
Нібыта малітва ў царкве…

На сцэну актрыса выходзіць,
І трэшчына ў вечнасці лёдзе
З'яўляецца…

## БАЛАДА ТУТЭЙШАГА

Ты нікуды не ўцёк, не схаваўся ў кусты
І цяпер не гаворыш, што гэта не ты
Адышоў ад сяброў, што змагацца пайшлі
І за волю, й за мову, й за веліч зямлі,
На якой нарадзіцца нам дадзена лёсам…

І ты будзеш маліцца самотным бярозам,
І ты будзеш дзівіцца з рассыпаных росаў,
Што на травах, нібыта на дзідах, світаюць
І наш край асвятляюць ад краю да краю,
Дзе няма і не будзе ніякага раю,
Бо нікуды не ўцёк, не схаваўся ў кусты
Той, хто, тут каб пажыць, прывалокся сюды,
І чужым тут застаўся, і будзе чужым,
І яму наша веліч — ад вогнішча дым…

Ты нікуды не ўцёк, не схаваўся ў кусты.
Паміраючы, зноў нараджаешся ты…

## БАЛАДА СТАРОГА

Як робіцца сумна і блага, —
Табе ўспамінаецца Прага,
Дзе замкі старыя, і Храмы,
І вузкія вулкі, і крамы,
Бы ў Вільні, якую ты знаеш,
Якую ў сабе зберагаеш,
Як веру, што ты спавядаеш.

А ў Празе гады маладыя,
Нібы матылі залатыя,
Ляцелі, нібы на агонь,
На пляц, нібы снег на далонь.

Там скрыпка старая іграла,
І музыка ў Вільню вяртала
Цябе, і рабілася светла,
І цёплым здавалася летам
Халодная восень, сівая,
Але ўжо даўно не чужая,
Як ціхая родная хата —
Там дзён праляцела багата,
Там сумна бывала і блага…

Далёка далёкая Прага,
І блізкая Вільня далёка,
І сонца — як д'яблава вока…

## БАЛАДА ДАЖДЖЛІВАГА ЛЕТА

Зноў лета — як восень. Дажджліва,
І шчасця, як сонца, няма.
Ды кожны быць хоча шчаслівым,
Іначай жыццё — як зіма,
Дзе ты, як трава, прападаеш,
Не верачы, што праміне
Самота, што сэрца сціскае,
Святло адырдзее ў віне,
Бо лета — як восень. Дажджліва.
Ізноў ты злуешся на свет,
Дзе столькі заўсёды шчаслівых
І столькі прыгожых кабет,
Якія, праходзячы міма,
Не бачаць ніколі цябе
І, пэўна, не бачаць Радзіму,
Якая сягоння ў журбе,
Бо лета — як восень. Дажджліва,
І сонца, як шчасця, няма.
Ды спеюць усё-такі слівы
І сум — гэта шчэ не турма…

## БАЛАДА АПОШНЯГА ДАЖДЖУ

Лістапад адбушаваў даўно.
Неба — як разбітае вакно,
Праз якое з вечнасці начной
Л'еецца дождж, каб нам было з табой
Адзінока, бы ў краі чужым,
Сумна, нібы ў свеце незямным,
Дзе святла, нібы жыцця, няма,
Дзе наўколле — нібы Калыма,
Нам з якой нікуды не ўцячы.

Дождж ідзе, нібы звіняць ключы
За дзвярыма, за якімі шыр,
Дзе даўно заціхлы ліставір,
У якім згубіліся сады,
І, здаецца, — гэта назаўжды
Неба, як разбітае вакно,
За якім анёлаў не відно…

## БАЛАДА ВЫКРАДАННЯ ДАРОГІ

…І д'ябал у рай абяцае дарогу,
Калі адрачэшся ад родных, сяброў.
І ты яму верыш, не верачы Богу,
За д'яблам ідзеш па магілах дзядоў.

І вочы твае напаўняюцца цемрай,
Як куфлі атрутным чарнюткім вінам.
І ты ўжо, як д'ябал, у д'яблавай хеўры
Людзей спакушаеш пакінуць свой дом.

Ідзеш ты па свеце, шукаючы раю,
Яго ж, як святых, тут няма анідзе.
І воблакі ў небе, як мроі, лятаюць
І тонуць у небе, нібыта ў вадзе.

Ты бачыш адно — прад сабою дарогу,
Ды гэта дарога — над травамі дым.
І д'ябал святкуе сваю перамогу,
І сын твой смяецца над крыжам тваім…

## АДВЕЧНАЯ БАЛАДА

Яшчэ адзін, як крыж, за спінай год…
А ты сляпы і цёмны, нібы крот,
І шлях твой, як краціная нара, —
У цемры, дзе ідзеш без ліхтара
Туды, дзе невядомасць — як святло,

І цемра, нібы вечнасці крыло,
Плыве спакойна, нібы сон, над намі,
Над намі, як забытымі крыжамі…

І мы не плачам, мы з табой ідзём,
Нібыта дым за маладым агнём,
Ідзём за цёплым подыхам вясны,
Што ўзімку нашы асвятляе сны
І шлях наш, як крацінаю нару,
Якую я, бы скуру змей, здзяру
З сябе і выйду, як трава з зямлі,
Пад неба, дзе мы ёсць, як і былі,
І будзем, як мінулы дзень, як год,
Які, як попел, як на рэчцы лёд,
Нявечны, невядомы, як прастор,
Якім мы ўсе, як пыл, ляцім да зор…

## БАЛАДА НЯШЧАСНАГА

«Забіцца...Забіцца... Забіцца...» —
Ты шэпчаш, як вецер, адзін,
Нібыта ў турме, у святліцы,
Прыгожы, нібы сукін сын,
Якога ніхто не кахае,
Якога ніхто не кляне
І ў ночы п'янкой не чакае,
Цалуючы зоркі ў вакне.

Жанчыны твае з мужыкамі
Даўно, як забітыя, спяць.
А ты, нібы прывід, начамі
Выходзіш у горад гуляць,
І рана ці позна нарвешся
На тых, каго хочаш сустрэць,
І сам над сабой насмяешся
Прад тым, як у рэчку зляцець
З разбітай сівой галавою,
Што смерці шукае даўно,
Як човен у моры — спакою,
Як п'яніца ранкам — віно...

## БАЛАДА ВАЛАЦУГІ

…А ён тады быў проста валацугам,
І ён з усімі за табою цугам
Не мог хадзіць — не меў ён ні граша.
Але была, была ў яго душа,

Дзе ўсё, што ты казала, не знікала,
Яму душу, як свечка, асвятляла,
І да цябе ішоў ён, як да Храма,
Куды яго калісь вадзіла мама
Да споведзі, каб ён святлеў душой.
Ды, як зямля прад небам, прад табой
Заўсёды ён стаяў, і быў маўклівы,
І на цябе глядзеў, і быў шчаслівы,
Бо мог ён валацугам заставацца,
Які хацеў таксама цалавацца
І марыў пра ўзаемнае каханне…

Прайшлі гады, як вожыкі ў тумане,
І дзе той валацуга, — ты не знаеш,
Але прачнешся ноччу — і ўздыхаеш,
Ды не па ім, а па яго маўчанні,
Самотным, нібы вершы аб каханні…

## БАЛАДА ДАРОГІ ДАДОМУ

Не кажы больш нікому нічога,
Бо нічога ўжо нам не змяніць.
Зарастае дадому дарога
І знікае ў траве, нібы ніць
Арыядны, і ты з ёй знікаеш,
Як знікае над полем туман,
Калі сонца над ім усплывае
І святло, як цяпла акіян,
Затапляе цябе і дарогу,
Па якой ты не прыйдзеш дамоў,
Каб слязамі сказаць: «Дзякуй Богу,
Я дахаты, нарэшце, прыйшоў…»
Ты не прыйдзеш, не скажаш, не вернеш,
Што было і чаго ўжо няма,
Як няма і надзеі, і веры,
Што аднойчы заснежыць зіма
І залечыць той сум на душы,
Пра які ты не кажаш нічога.
Зарастае дадому дарога,
Нібы цвік іржавее ў крыжы…



ПРОЗА



Ягор КОНЕЎ

# ГРЭЧКАСЕЙНАЯ ІДЫЛІЯ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ

*Раман*

## *1785 год*

У яго жыцці былі розныя часіны.

Быў час дзяцінства, калі паводле бацькоўскай волі вучыўся ў школе пінскіх піяраў, збіраўся стаць святаром. Быў час юнацтва, калі пасля смерці бацькі вярнуўся ў Сяхновічы, дапамагаў матулі па гаспадарцы. Быў час, калі вучыўся ў Варшаўскім кадэцкім корпусе — фартыфікацыі, а затым у Парыжы — маляванню. Быў час, калі зарабляў на жыццё хатнім настаўнікам, вучыў маляванню дачок гетмана Сасноўскага. Быў час кахання да Людвікі Сасноўскай і быў час панічных уцёкаў з Варшавы. Быў час Амерыканскай адысеі, з якой вярнуўся брыгадным генералам і кавалерам ордэна Цынцыната. І быў час «сялянскай ідыліі», калі кіраваў гаспадаркай у родавым маёнтку і на свой манер бараніў справядлівасць.

Тая пара пачалася ў бязветраны веснавы дзень, калі экс-генерал амерыканскай арміі даехаў нарэшце да Сяхновічаў.

Над дарогаю, што вяла з Кобрына, прыўзняўся пыл, падняты коламі павозкі. Сонца залаціла абрысы шэрай хмары, прабівалася паўз яе снапамі прамянёў. Зграя крумкачоў кружыла над невялікім, у дванаццаць пакояў, аднапавярховым домам з дранкавым дахам і шырокім ганкам.

Загадзя папярэджаны лістом, выйшаў на ганак сустракаць Тадэвуша старэйшы брат Язэп — пяцідзесяцідвухгадовы ваяводскі суддзя з адвіслым жыватом, тоўстай жылістай шыяй, загнутымі брывамі на шырокім твары, адвіслымі шчокамі і карымі вачыма. Апрануўся брат урачыста — у паркалёвы зялёны жупан і кунтуш колеру рэвеню, аперазаўся сярэбраным літым поясам,

---

*Конеў Ягор Фёдаравіч нарадзіўся 21 снежня 1970 года ў Мінску. У 1994 годзе скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў карэспандэнтам у рэдакцыях газет «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», часопісах «Беларуская думка», «Беларусь», «Бярозка». Скончыў аспірантуру БДУ. З 1999 года выкладае на факультэце журналістыкі БДУ. Дацэнт кафедры замежнай журналістыкі і літаратуры, кандыдат філалагічных навук. Член Саюза пісьменнікаў і Саюза кінематаграфістаў Беларусі.*

*Аўтар кніг «Вартавыя» (1995), «Амерыканская адысея Тадэвуша Касцюшкі» (2006), п'есы «Дамавічкі» (пастаўлена ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі ў 2006 годзе), сцэнарыяў шэрага дакументальных фільмаў.*

абуў чырвоныя боты са штыльпамі, лакіраванымі паяскамі-аздобамі. Запінка жупана была брыльянтавай (сціплы прэзент просьбіта, на чыю карысць некалі была вырашана судовая справа).

За спінай пана Язэпа выстраіліся высокая кухарка, мажная аканомка, прыгожая ключніца, самавіты камердынер ды некалькі хударлявых памагатых. Толькі паказалася павозка, а прыслуга ўжо стала кланяцца.

Не спыніліся яшчэ колы, а з-за агароджы вылецеў шэра-чорны, з белым брухам, вастравухі сабака, загаўкаў, паспрабаваў ухапіць ікламі Касцюшку, які злез з павозкі, за бот. Рукамі экс-генерал сціскаў куфэрак з арэхавага дрэва, дзе змясцілася ўся яго маёмасць.

Язэп абняў брата:

— Дзесяць гадоў, Тадэ... Дзесяць гадоў не бачыліся...

А Тадэ адчуваў сябе ніякавата. Не годзе таго, што не можа брата абняць, — куфэрак перашкаджае, а яшчэ дакучлівы сабака ўчапіўся ў фалду сурдута!

Разгублена агледзеўся. Двор амаль не змяніўся з тае пары, як з'язджаў адсюль улетку 1775-га. Толькі новы «компас» — слуп, да якога прывязвалі коней, узвышаўся пасярэдзіне. З левага боку ад маёнтка — прысадзістае гумно, за ім — капліца і дамок капелана. З правага — хлявы, аборы і там жа хата старасты. Усё знаёмае з дзяцінства! І ўсё нібы нанава бачыць!

Касцюшка апусціў куфэрак на зямлю, прыціснуў Язэпа да грудзей, кіўнуў на сабаку, які падскокваў вакол братоў:

— Жвавы вартаўнік... Як назваў?

— Зюзя, — адказаў Язэп. — Ці памятаеш, раней у нас быў такі ж?

— І я ў Амерыцы свайго сабаку Зюзяй зваў, — прыгадаў Тадэвуш. — Дзіцячыя ўспаміны нас паўсюль дагоняць...

Ніякавата адчуў сябе, калі слугі апусціліся перад ім на калені, сталі цалаваць хто ў руку, хто ў калена. Адвучыўся Тадэвуш ад ліцвінскага этыкету — у Амерыцы ці Францыі гаспадароў віталі больш сціпла.

Камердынер падняў яго куфэрак, кучар пагнаў павозку ў стайню, кухарка пабегла накрываць на стол.

Язэп, абдымаючы Тадэвуша за плечы, павёў у дом, спытаў:

— Як даехаў, Тадэ?

* * *

Дарога з Філадэльфіі да Бацькаўшчыны пралягала праз французскі Брэст, Парыж і Варшаву.

Барк «Гіпапатам», на якім плыў экс-генерал з Амерыкі, прышвартаваўся ў порце Брэста на пачатку кастрычніка. Убачыўшы ўдалечыні бераг, Тадэвуш паднёс да вуснаў пярсцёнак — падарунак Людвікі Сасноўскай, з выявай сярэбранага арла ў чырвоным полі. Дзесяць гадоў спадарожнічала адданая птушка з Тадэвушам, стала амаль сябрам, якому давяраў свае мары, надзеі, страхі. Вось і ў той момант прамовіў яму ў думках Касцюшка: «Цяпер мы з Людвікай на адным кантыненце...»

У Брэсце затрымаўся на дзень, схадзіў паглядзець на прыбярэжную крэпасць. Любаваўся каменнымі сценамі-курцінамі на скалістым узвышшы, пяцікутнымі бастыёнамі-вежамі, чырвонацаглянымі казематамі і равелінамі, ацэньваў: «Няблага спраектавалі, пабудавалі... А ўсё ж мой Вест-Пойнт лепшы! Як лічыш?» — паглядзеў на сярэбраную выяву сыгнета.

Арол распасціраў крылы ў чырвоным полі, пагаджаўся: вядома, лепей!

«Добра было б і ў нашым Брэсце ўзвесці фартэцыю! — разважаў Касцюшка. — Збудаваў бы нават лепей, чым Вест-Пойнт! Як думаеш?» — зноў зірнуў на сыгнет.

Сярэбраны арол не пярэчыў: вядома, добра было б!..

Праз тыдзень Тадэвуш прыехаў у Парыж. Пайшоў прасіць прытулку ў амерыканскую амбасаду — двухпавярховы жоўта-белы дамок у Сен-Жэрменскім прадмесці. У прыёмнай перадаў сакратару ліст Кангрэса Злучаных Штатаў, у якім раілася «прадстаўнікам нашай свабоды аказваць усямерную падтрымку брыгаднаму генералу кантынентальнай арміі, кавалеру Ордэна Цынцыната Тэду Касцюшку...»

Экс-генерала неадкладна прыняў Бенджамін Франклін — стары мудрэц з даўгімі каштанавымі валасамі, што падалі на плечы, адкрытым ілбом і лысінай, зломанымі брывамі, падціснутымі вуснамі і шырокім падбародкам, які хаваўся ў завязанай на шыі белай хустцы.

Увайшоўшы ў кабінет амбасадора, што нагадваў тыповую лабараторыю вынаходніка — паміж груваcткімі прыладамі для выпрацоўкі электрычнасці і планшэтамі з чарцяжамі туліліся вузкі стол і два абабітыя шоўкам крэслы, — Тадэвуш прыстукнуў абцасамі, адрэкамендаваўся:

— Эндру Тэд Банавентура Касцюшка да вашых паслуг, сэр.

Настройваўся на афіцыйны лад, а Франклін адразу абняў яго і расцалаваў. Гаварыў Франклін гучна і безупынна ўсміхаўся:

— Я чытаў пра вас, дарагі генерал. Галоўнакамандуючы Вашынгтон, губернатар Джэферсан, старшыня Кангрэса Хэнкак — усе рэкамендуюць вас найлепшым чынам. Для мяне гонар прымаць лепшага фартыфікатара Амерыкі, будаўніка Цікандэрогі і Вест-Пойнта!

Тадэвуш не ведаў, як рэагаваць на пахвалу, дык заўсміхаўся ў адказ, чым яшчэ больш узрадаваў пасла.

— Так, мой дарагі генерал, усміхайцеся часцей! — ляпаў яго па плячы Франклін. — Ад таго, што хмурыцеся, шчаслівейшым не станеце! А ўсміхнецеся — і лёс вам усміхнецца ў адказ! Мы, янкі, часта ўсміхаемся — і таму Фартуна спрыяе Амерыцы!..

Пасланнік настаяў, каб Касцюшка пасяліўся ў амбасадзе, і абурыўся, калі Тадэвуш спытаў наконт платы.

— Хочаце мяне пакрыўдзіць, Тэд? Хіба мы зепленыя не з аднаго цеста?

— Што вы маеце на ўвазе, сэр?

— Па вашых манерах відаць, што вы нарадзіліся ў небагатай сям'і. Прыроджаны арыстакрат нават у пакой уваходзіць інакш, чым мы з вамі, шарачковыя вераб'і...

— Мой бацька паходзіў з небагатых шляхціцаў, — прызнаўся Тадэвуш.

— А мой наогул быў рамеснікам! У дзяцінстве, памятаю, мне заўсёды хацелася есці, — паляпаў Франклін сябе па адвіслым жываце. — Таму з дзесяці гадоў працаваў нароўні з дарослымі ў бацькоўскай майстэрні...

— І мой успамін пра дзяцінства — адвечны голад, — сказаў Касцюшка. — Бацькі хацелі, каб я стаў манахам, аддалі вучыцца ў школу піяраў. Там настаўнікі ахвотней частавалі выхаванцаў розгамі, чым хлебам...

— І каб выхаваць у сябе жыццялюбства, я мала хмурыўся і шмат усміхаўся. Таму мне цяпер ёсць чым пахваліцца.

Касцюшка гэта ведаў. У дваццаць адзін год Франклін заснаваў уласную друкарню, у дваццаць тры стаў выдаваць першую газету ў Амерыцы, у дваццаць пяць — першы часопіс. У дваццаць шэсць адкрыў першую грамадскую бібліятэку на кантыненце, у трыццаць адзін — першую паштовую службу. У 1774-м Франклін першым прапанаваў, каб трынаццаць амерыканскіх калоній злучыліся ў Канфедэрацыю. Зайздроснікі і нядобразычліўцы выжылі яго з Кангрэса, адправілі паслом у Парыж. А ён і тут не губляў час дарма: дамогся ваеннага саюзу з Францыяй, Іспаніяй і Галандыяй. Пад уплывам прыват-

ных размоваў з ім французскі кароль стаў называць сябе рэспубліканцам у душы...

— Мае заслугі ў параўнанні з вашымі нікчэмныя, — развёў рукамі Касцюшка. — І не ведаю, ці дамагуся яшчэ чагосьці. Праз тыдзень мне споўніцца трыццаць дзевяць. Большая частка жыцця пражытая...

— Памыляецеся, Тэд! — засмяяўся Франклін. — Мне ўжо восемдзесят, і я ўсё больш пераконваюся, што самае лепшае ў жыцці яшчэ наперадзе!..

* * *

Касцюшка пагасціў у бадзёрага мудраца да канца зімы 1785-га. За гэтыя месяцы не было дня, каб ён убачыў Франкліна засмучаным або panылым. Звычайна на вуснах пасла блукала ўсмешка — але з мноствам адценняў. То скептычная — калі Франклін чытаў інструкцыі Кангрэса, то з'едлівая — калі дамаўляўся з французскімі дыпламатамі аб новых пазыках для Злучаных Штатаў, то далікатная — у размовах з наведвальнікамі, то вінаватая — калі банкіры прыходзілі з патрабаваннем аплаціць пасольскія рахункі, то задумлівая — калі чытаў новую кніжку, то па-дзіцячы шчаслівая — калі ладзіў эксперыменты ў сваім кабінеце-лабараторыі.

Дыпламатычную дзейнасць Бенджамін лічыў другараднай у параўнанні з галоўнай справай жыцця — навукай аб электрычнасці. Паспрабаваў зацікавіць сваімі інтарэсамі і госця — не без поспеху.

Франклін параіў Тадэвушу пачытаць трактат англійскага вучонага Грэя. З яго Касцюшка даведаўся, што ўсе субстанцыі ў свеце падзяляюцца на дзве катэгорыі: тыя, што прапускаюць электрычнасць, і тыя, што не прапускаюць. Узброены такімі глыбокімі ведамі, Касцюшка, які меў процьму вольнага часу, пагадзіўся асісціраваць паслу. Разам яны эксперыментальным чынам правяралі прынцып дзеяння то маланкаадвода, то электрычнай лямпы для вулічных ліхтароў, то музычнага кола, якое круцілася пад уздзеяннем электрастатыкі і гучала дзівоснымі руладамі.

Здаралася, у час эксперымента то аднаго, то другога не жартам білі электраразрады. Калі б не гумавыя пальчаткі на руках, Тадэвуш мог бы ў той лабараторыі назаўсёды і застацца. Пару разоў яго так стукала электрычнасць, што валасы на галаве дыбам станавіліся.

Самы небяспечны эксперымент прыпаў на 28 кастрычніка.

* * *

Тым вечарам экс-генерал і пасланнік эксперыментавалі з лейдэнскай банкай, зацята заспрачаліся наконт ролі дыэлектрыка. Франклін сцвярджаў: менавіта дыэлектрык, які падзяляў праваднныя абкладкі, спрычыньваецца да з'яўлення электрычнасці! Тадэвуш сумняваўся.

Даказваючы, Франклін уключыў разрад, трымаючы провад у руках. Ад удару току пасол затросся, зароў. Паглыбіліся маршчыны на старэчым твары. Валасы на галаве нагадвалі іголкі раз'юшанага вожыка. Кожны мускул яго цела спаралізавала, моцы ўжо не хапала, каб адпусціць провад.

У разгубленасці Касцюшка схапіў пасланніка за плечы — і таксама атрымаў электрычны ўдар. Тадэвуш адскочыў, крыкнуў:

— Я зразумеў, сэр! Электрычнасць цыркулюе праз ваша цела і провад у замкнёным ланцугу. Трэба разамкнуць ланцуг! Толькі як?

Амбасадар адно лямантаваў ад жудаснага болю.

Касцюшка паспрабаваў адключыць лейдэнскую банку — не здолеў, атрымаў яшчэ ўдар, што адгукнуўся пранізлівым зубным болем.

Касцюшкаў позірк зачапіўся за таз з вадой, у якой звычайна мылі рукі пасля таго, як здымалі гумавыя пальчаткі.

«Вада прапускае электрычнасць... І што далей? — думаў Тадэвуш, ставячы таз на стол: — Там пабачым!»

Падышоў да Франкліна, схапіў провад, які той сутаргава сціскаў, — ад болю амаль аслепнуў — і неймаверным намаганнем сунуў яго ў таз.

Электрычны ланцуг разамкнуўся: ток скіраваўся ў ваду.

Знясіленыя ад болю эксперыментатары адкінулі провад, знямогла апусціліся ў крэслы. Цяжка дыхалі, з жахам пазіраючы на лейдэнскую банку, на ўваткнуты ў таз провад, на ваду, што булькала, бы варыва.

Пакрысе пабляднелыя шчокі Франкліна паружавелі.

Аддыхаўшыся, ён з падзякай усміхнуўся і заспяваў, памахваючы рукой:

— Бо ён такі слаўны хлопец!
Бо ён такі слаўны хлопец!
Бо ён такі слаўны хлопец!
Наш Эндру Тэд Касцюшка!..

Слаўны хлопец Касцюшка млява запярэчыў:

— Гэта ўсяго толькі эксперымент, сэр...

— О, мы на ўласнай скуры пераканаліся, што электрычнасць не спыніш, — засмяяўся амерыканскі мудрэц. — Але вы не пабаяліся, Тэд... Мой вам запавет: заўсёды будзьце смелым!

Касцюшка прамаўчаў. Не ведаў, што неўзабаве яшчэ неаднойчы ўзгадае Франкліна параду.

А ў той вечар пасол, разгладзіўшы валасы на галаве, жвава дастаў з шуфляды бутэльку віна, разліў па бакалах. Удакладніў:

— Калі не памыляюся, сёння ваш дзень нараджэння, Тэд?

— Трыццаць дзявяты...

Экс-генерал і пасол чокнуліся, выпілі. Франклін спытаў:

— Пра што вы марыце ў гэты знамянальны дзень, Тэд?

Пальцам, на якім ззяў сыгнет, Тадэвуш правёў па краі бакала:

— Хачу пакінуць пасля сябе прыгожыя будынкі, масты, фартэцыі....

— Калі Госпаду заўгодна — нашы мары супадуць з нашымі магчымасцямі! Я мог бы сёння выправіцца да Аўраама піць піва. Аднак літасцівае неба даслала мне вас. Значыць, нам наканава жыць доўга...

— Так, мы не маем улады над сваім лёсам, — пагадзіўся Касцюшка.

З вуснаў Бенджаміна Франкліна знікла звыклая ўсмешка.

— Я глыбока ўдзячны вам, Тэд, — ціха сказаў ён. — За тое, што ўратавалі. За тое, што падзяляеце мае навуковыя інтарэсы. Кожны чалавек мае патрэбу ў тым, каб нехта падзяляў ягоную зацікаўленасць... Ці не хацелі б застацца ў Парыжы, Тэд? Дакляруе вам пасаду сакратара з месячным заробкам у сто трыццаць долараў. Гэта ўдвая больш, чым жалаванне палкоўніка... Нам з вамі трэба яшчэ столькі вынайсці! Што вы думаеце наконт маёй тэорыі пра выкарыстанне электрычнага поля высокага напружання ў медыцыне? Напрыклад, як метад электрашоку...

— Я смуткую па Бацькаўшчыне, — прызнаўся Касцюшка.

— Думаеце, хтосьці будзе рады вас там бачыць?

Тадэвуш падумаў пра Людвіку.

— Адзін чалавек, упэўнены, будзе... Таму, Бэн, як толькі растане снег, схлынуць веснавыя паводкі, падсохнуць дарогі, паеду дадому...

Ён намаляваў у паветры пяць рысаў — знак майстра першай ступені.

Франклін дасведчана ўсміхнуўся, начарціў пальцам паветраны шасцікутнік — сімвал масонскага майстра другой ступені. Удакладніў:

— Вы належыце да армейскай ложы? А я — да філадэльфійскай. Пра свой уступ у ложу я нават змясціў паведамленне ў «Пенсільванскай газеце». Колькі шуму яно нарабіла!

— Магу ўявіць! — кіўнуў Касцюшка. — Папа рымскі забараніў вернікам уступаць у масонскія ложы. І рэдкі арыстакрат не парушае гэтую забарону...

Франклін пацёр далоні, добразычліва ўсміхнуўся, спытаў:

— Ну, дык працягнем эксперыменты, Тэд? Навошта адкладваць на заўтра тое, што можна зрабіць сёння?

Касцюшка ацаніў мудрую фразу, параіў:

— Гэты сказ мог бы стаць афарызмам. На ўзор афарызмаў Арыстоцеля ці Лафантэна... Вам трэба яго занатаваць, Бэн.

— Занатую і апублікую, — дакляраваў Франклін. — А што вы думаеце, Тэд, наконт маёй унітарнай тэорыі электрычнасці? Ці верыце ў існаванне адзінай электрычнай субстанцыі?

— Так! І мяркую, што недахоп або перавыдатак гэтай субстанцыі абумоўлівае знак зараду цела, — горача падтрымаў размову Касцюшка.

Не хацелася яму ў той вечар думаць пра будучыню! Занадта няпэўнай яна падавалася. Не тое, што эксперыменты з лейдэнскай банкай!

* * *

Здаралася, мудры Франклін сумняваўся: а ці не дарэмнай справай займаецца?.. Асабліва, калі эксперымент завяршаўся няўдала.

— Хіба нашы вынаходкі, Тэд, зробяць чалавечую натуру больш дасканалай? — пытаўся ў асістэнта. — Хіба адна навука здолее ўпарадкаваць грамадскае жыццё, гарманізаваць мараль і норавы?

Касцюшка разважаў па-генеральску:

— Каб змянілася сітуацыя па ўсёй лініі фронту, трэба здзейсніць прарыў хаця б на адным участку! Аднойчы пад Чарлстанам я павёў у атаку ўсяго адзін батальён. Нас расстрэльвала ва ўпор брытанская брыгада. Але за маім батальёнам памкнулася дывізія, а затым і ўся наша армія. І вораг капітуляваў... Гэтак жа і тут, Бэн! Калі будзе рухацца наперад навука, то за ёй памкнуцца да прагрэсу і астатнія грамадскія інстытуты...

— Мяне засмучае тое, што ніякія вынаходкі навукі не зробяць чалавечую натуру больш дасканалай, — прызнаўся Франклін.

У Касцюшкі і на гэты конт меўся свой погляд:

— У чалавечай душы пароўну і благога, і добрага. Аднак можна ўдасканаліць дзяржаўныя парадкі, дзякуючы якім чалавек здолее праявіць лепшыя якасці сваёй душы.

Наогул лепшым адпачынкам для іх ад небяспечнай для жыцця электрычнай навукі служылі размовы, звычайна пасля вячэры, на тэмы правоў чалавека. Абодва сыходзіліся на думцы, што такімі правамі з'яўляюцца жыццё, свабода веравызнання і ўласнасць.

— Народ — з'ява натуральная, улада — штучная, — гаварыў Франклін, папіваючы пунш. — Таму асновай дзяржавы павінна быць грамадская дамова, адным з пунктаў якой з'яўляецца права народа на паўстанне ў выпадку, калі ўрад не клапоціцца аб дабрабыце падданых...

— А Еўропа пакуль жыве згодна прынцыпу, нібыта задаволіць манарха і ёсць вышэйшы закон для дзяржавы, — казаў Касцюшка, частуючыся глінтвейнам. — І прыхамаці аднаго чалавека вызначаюць лёс народаў...

— Вось чаму я мяркую, што рэспубліканскі склад розуму мае безумоўную перавагу над манархічным. Шкада, што нельга ўсіх еўрапейцаў адправіць на выхаванне ў Злучаныя Штаты!

— Ідэалы свабоды ўкараняцца і на еўрапейскай глебе, — сцвярджаў Тадэвуш. — Я спадзяюся, што Стары Свет пойдзе далей, чым Новы. Ён цалкам адменіць рабства і ўстановіць усеагульнае выбарчае права!

— Паспрабуйце спярша ўкараніць гэтыя прынцыпы ў сваёй краіне, — скептычна ўсміхнуўся Франклін.

— У Рэчы Паспалітай зашмат забабонаў і анархіі, — панурыўся Касцюшка. — Але, мажліва, з нашага хаосу лягчэй народзіцца ліберальная ўлада, чым у імперыях, дзе абсалютная манархія непахісная...

— Аднак запомніце, Тэд, дэмакратыя — гэта толькі механізм, а не мэта, — папярэдзіў Фанклін. — Напачатку сапраўдным ліbeралам трэба мецъ мужнасць, каб ахвяраваць некаторымі атрыбутамі дэмакратыі...

— Што вы маеце на ўвазе, Бэн?

— Ці ведаеце, Тэд, колькі народу жыло ў трынаццаці амерыканскіх калоніях у 1775-м? Каля двух мільёнаў. А колькі з іх мелі выбарчае права? Шэсцьсот тысяч. Ведаеце, колькі першапачаткова было абрана дэпутатаў у філадэльфійскі Кангрэс? Дзвесце сорак. З іх сто восемдзесят былі лаялістамі, выступалі за тое, каб Амерыка заставалася брытанскай калоніяй. Толькі чацвёртая частка насельніцтва хацела незалежнасці! Калі б мы зважалі на дэмакратыю, улічвалі думку большасці, то і сёння Амерыка заставалася б пад уладай Лондана. Але я ўнёс прапанову ў Кангрэс: уключыць у яго склад толькі тых, хто выступае за свабоду Злучаных Штатаў. А лаялістаў не пусцілі на пасяджэнне. І, з’яўляючыся меншасцю ў сваёй краіне, мы адужалі мацнейшую імперыю ў свеце...

— Што вы хочаце мне давесці, Бэн? — удакладніў Тадэвуш.

— Калі нябёсы раптам ускладуць на вас адказнасць за лёс Польшчы, вы павінны памятаць найперш пра галоўную мэту, а толькі затым зважаць на думку большасці, — паясніў Франклін.

— Мая Айчына — не толькі Польшча, але і Літва, — нагадаў Тадэвуш.

— Вам трэба засвоіць навуку цярплівасці, Тэд. Цярплівы чалавек умее бачыць галоўнае і не зважаць на дробязі...

— І як доўга мушу вывучаць тую навуку? — усміхнуўся Тадэвуш.

— Колькі заўгодна вашаму наканаванню, — без усялякай усмешкі сказаў васьмідзесяцігадовы мудрэц. — Не меней...

Зразумела, Франклін не ўвесь час прысвячаў эксперыментам і філасафічным развагам. Значную частку дня адбіралі абавязкі пасланніка.

Найбольшы клопат у гэты час уяўлялі ветэраны вайны за незалежнасць — французскія валанцёры, з якімі Кангрэс не разлічыўся за пралітую кроў. Сэрца шчымела ў Касцюшкі, калі бачыў у прыёмнай гэтых візіцёраў: у кагосьці выбіта вока, у кагосьці адсечана рука, хтосьці валок скалечаную нагу. Адплывалі на той бок Атлантыкі маладымі і здаровымі, хацелі ваяваць за свабоду. Але плён іх перамогі скарысталі дзялкі і карупцыянеры з камітэтаў Кангрэса. Валанцёры вярталіся ў Стары Свет расчараванымі, але са спадзяваннямі, што атрымаюць шчодрую, згодна кантракта, кампенсацыю. Аднак Кангрэс ЗША спасылаўся на фінансавы крызіс, і цяпер нікому не патрэбныя гаротнікі жабравалі.

Франклін выслухваў іх скаргі моўчкі, уздыхаў — Кангрэс загадаў яму адмаўляць усім просьбітам.

— Не ведаю, што і рабіць! — сярдзіта скардзіўся ён Касцюшку неяк увечары, седзячы перад камінам і варушачы качаргою дровы. — Кангрэсмены раскрадаюць мільёны луідораў, што я выпрасіў у французскага караля, і не плацяць валанцёрам! Брыдкае паскудства!

І тут Касцюшка прапанаваў:

— А чаму б вам, Бэн, не пазычыць грошы ў банкіраў?

— У якіх? — адарваў Франклін позірк ад агню. — Ніводны французскі банкір мне ўжо не паверыць. Прасіць у іх новыя пазыкі цяпер — тое ж самае, што ў адкрытым моры дамаўляцца з галоднымі акуламі!

— Але ў галандцаў ды іспанцаў яшчэ не прасілі, — развіваў Тадэвуш сваю ідэю. — А Іспанія і Галандыя былі нашымі саюзнікамі! Набярыце ў іх крэдытаў, сплаціце валанцёрам. Яшчэ і кампенсацыю за затрымку дадайце.

— А як вярну запазычанасці? — ашаломлена глядзеў на яго Франклін.

— А вы бярыце крэдыты не ад свайго імя, ад імя Кангрэса. Хіба вы не яго паўнамоцны прадстаўнік? Дык і расплачвацца будзеце не вы, а Кангрэс. А крэдыторы знойдуць сродак вытрасці свае грошы з кангрэсменаў...

— Уяўляю сабе твары нашых казнакрадаў! — зарагатаў Франклін.

І тэрмінова сеў пісаць гарантыйныя абавязацельствы іспанскім і галандскім банкірам, якія мелі філіялы ў Парыжы.

А Касцюшка нанёс візіты ветлівасці старым знаёмым.

Найперш наведаў пасла Рэчы Паспалітай Міхаіла Вяльгорскага. У валасах амбасадора, з якім апошні раз бачыўся перад адплыццём у Амерыку, з'явілася сівізна. Мяркуючы са слоў Вяльгорскага, гэта аказалася ледзьве не адзіным, што змянілася за часы Касцюшкавай адсутнасці.

— Як і раней, польскі злоты застаецца нікчэмнай валютай, — шкадаваў пасол. — У Рэчы Паспалітай больш важаць нямецкія талеры або французскія дукаты... Але, дзякуй Богу, пакуль у Рэспубліцы спакойна. Звычайна любыя пераўтварэнні толькі на шкоду нашай мілай Айчыне. Пашыраюцца, праўда, небяспечныя настроі. На ваяводскіх сеймах гучаць час ад часу касмапалітычныя заявы. Той-сёй прапануе рэформы, піша праекты. Мо і вы, вярнуўшыся з чужыны, хочаце што-небудзь прапанаваць?

— Неблагая ідэя! — падзякаваў Касцюшка за падказку.

І неўзабаве напісаў праект аб пабудове крэпасці ў Брэсце. Тлумачыў: з тактычнага пункту гледжання такая фартэцыя затрымае любога заваёўніка на Літве і дасць магчымасць кароннай і княскай арміям атакаваць ворага з флангаў. Будаўніцтва будзе вымагаць шмат цэглы, лесу, рыштунку, асігнаванняў. Значыць, з'явяцца падставы для развіцця прамысловасці, для ўпарадкавання бюджэту. Дамагчыся гэтага лёгка — увесці аднолькавы падатак для ўсіх саслоўяў! Няхай і магнат, і святар, і селянін плацяць роўную долю са сваіх даходаў — і дзяржаўная казна нарэшце напоўніцца!..

Франклін, якому Касцюшка даў пачытаць праект, скептычна ўсміхнуўся:

— Ідэя бліскучая. І нерэальная для краіны, якая трымаецца на анархіі.

— А я прадстаўлю праект каралю, як прыеду ў Варшаву, — дэкляраваў Тадэвуш. — І тады пабачым...

Нанёс ён візіт і П'еру Агюстэну Карону дэ Бамаршэ.

Драматург-негацыянт, які дзевяць гадоў таму ўгаварыў Тадэвуша плыць у Новы Свет, сустрэў яго лямантам:

— Амерыка абрабавала мяне! — жаліўся Бамаршэ. — Я залез у пазыкі, панакупляў зброі на пяць мільёнаў ліўраў, адаслаў у Філадэльфію. А ўзамен не атрымаў ні су. Кангрэс спасылаецца на фінансавы крызіс!

— І я не разбагацеў у Амерыцы, — паспачуваў Касцюшка.

— Я ўяўляў амерыканскіх рэспубліканцаў на манер высакародных герояў Плутарха ці Тацыта! — лаяўся Бамаршэ. — А яны аказаліся такімі ж дзялкамі, як я. Бачаць, што могуць не плаціць, — і не плацяць.

— Калісьці і ў дзялкоў абудзіцца сумленне, — выказаў надзею Тадэвуш.

— Калі? Праз пяцьдзесят гадоў? — саркастычна спытаў Бамаршэ.

(Прынамсі, не памыліўся: праз паўстагоддзя Злучаныя Штаты нарэшце сплацяць доўг нашчадкам Бамаршэ!)

Бамаршэ запрасіў Касцюшку застацца павячэраць з ім.

Да стала выйшла жонка Бамаршэ і яго сакратар.

— Мая муза, — адрэкамендаваў драматург жонку — прыгожую невысокую кабету з пышным бюстам.

— Каханак маёй музы, — назваў хударлявага вастраносага сакратара. —Таленавіта рэдагуе мае п'есы. «Севільскі цырульнік» і «Жаніцьба Фігара» — плён ягонай дапрацоўкі. — Мой таварыш па галечы і фінансавым няшчасці, — прадставіў Бамаршэ Касцюшку жонцы і сакратару.

Насамрэч Бамаршэ занадта перабольшваў ступень страт. У той год дзялок-драматург дасягнуў росквіту. На выданні сваіх мемуараў ён зарабіў два мільёны ліўраў, а яго новая п'еса ішла ў «Камеды Франсэз» з трыумфам. Ён яшчэ не прадчуваў, што ў далейшым яго справы пакоцяцца пад схіл.

Увечары Касцюшка паехаў з Бамаршэ, яго жонкай і сакратаром у тэатр. Глядзеў «Вар'яцкі дзень, або Жаніцьба Фігара» і ад душы смяяўся, ажно жывот забалеў.

А каб яго вяртанне на Бацькаўшчыну не было неспадзяваным, перад выправай напісаў у Варшаву — даўняму апекуну князю Чартарыйскаму і ў Сяхновічы — брату Язэпу.

Дыліжанс, у якім ехаў Касцюшка, кіраваў паўз Альпы. Чым далей на поўнач, тым выразней змяняўся колер велічных гор — ад высачэзных белачорна-сініх скал у Францыі і Баварыі да пакатых узвышшаў, парослых жоўтазялёнымі лясамі, у Саксоніі.

У дыліжансе ехалі пасажыры трох класаў. Усе сядзелі на драўлянай лаве. Аднак, калі экіпаж цягнуўся ўгару, пасажыры першага класа заставаліся на месцах, пасажыры другога ішлі побач з коньмі, а пасажыры трэцяга — штурхалі вазок ззаду. Касцюшка ехаў другім класам, таму добрую палову дарогі прайшоў пешшу.

На памежнай польска-прускай заставе, пакуль афіцэры правяралі ў падарожнікаў суправаджальныя паперы, Касцюшка глядзеў на прылеглае шэрае ўзгоркавае поле, на брудны снег, які кавалкамі ляжаў у нізінах, думаў: «Вось я і ў Рэспубліцы... Мо згодна са звычаем пацалаваць родную зямлю? Як думаеш?» — паглядзеў на сыгнет.

Арол на пячатцы распасціраў крылы ў чырвоным полі — пэўна, не раіў.

«Так, тут польская зямля, — пагадзіўся з даўнім сябрам Тадэвуш. — Наша Айчына — Літва... А да Людвікі... — паглядзеў на поўдзень, адкуль чарадою цягнуліся птушкі, — міль дзевяцьсот будзе...»

У Варшаве князь Адам Казімір Чартарыйскі прыязна сустрэў свайго даўняга пратэжэ. З інтарэсам слухаў лаканічныя расповеды Тадэвуша пра Амерыканскую адысею, частаваў госця каньяком.

Калі ж зайшла гутарка пра будучыню Касцюшкі, пазмрачнеў.

— Мне шкада, Тадэ, да сардэчнага болю, — развёў рукамі, — але як дзесяць гадоў таму не мог уладкаваць цябе ў войска, так і цяпер не магу. Твая амерыканская слава тут нічога не вартая. І мой уплыў на дзяржаўныя справы за час тваёй адсутнасці не павялічыўся...

Тадэвуш, аднак, прыкмеціў, што, як і раней, правадыр адной з ганаровых дынастый Рэспублікі захапляецца стратэгічным планаваннем — на сценах яго кабінета віселі ваенна-тапаграфічныя мапы. Прычым Чартарыйскі відавочна займеў новую палітычную арыентацыю: калі раней збіраўся ваяваць з Прусіяй або з Аўстрыяй, дык цяпер чырвоныя стрэлкі на мапах былі скіраваныя на ўсход — да Полацка і Смаленска.

Чартарыйскі, праўда, нічога не сказаў аб сваіх далёкасяжных планах. Затое з колішнім імпэтам бэсціў караля Станіслава Аўгуста:

— Гэтае цяля на троне падпісвае патэнты на чыны з імёнамі зусім не вядомых яму людзей. А патэнты падсоўвае камердынер Ратц, які без хабару і не дыхне. Табе кароль не дасць генеральскай намінацыі. Ён памятае, што ты — мая крэатура яшчэ з часоў вучобы ў Кадэцкім корпусе. Станіслаў Аўгуст не захоча ўзмацняць свайго саперніка. Не захоча гэтага і Агінскі — новы гетман арміі Вялікага княства Літоўскага. Спрэчкі паміж Агінскімі і Чартарыйскімі часта заканчваліся вайной. За дзвесце гадоў нічога не змянілася... А твой даўні нядобразычлівец Язэп Сасноўскі пайшоў у адстаўку. Дажывае дні ў Сасновіцах на Валыні. Праўда, старыя сувязі пры двары захаваў, набыў сваім дочкам чын прыдворных дам. Усё ў Варшаве купляецца. Калі ты разбагацеў у Амерыцы, то набудзь генеральскі патэнт. Ён каштуе паўмільёна дукатаў...

— Такіх грошай у мяне ніколі не будзе, — з горыччу сказаў Касцюшка.

Аднак жа напісаў просьбу каралю — маўляў, гатовы прапанаваць вопыт, талент і здольнасці на карысць Айчыне — і папрасіў аўдыенцыі. Да просьбы дадаў складзены ў Парыжы праект аб будаўніцтве Брэсцкай крэпасці.

Праз пару тydняў Касцюшку прыняў каралеўскі сакратар Антоні Касакоўскі. Размова атрымалася непрацяглай і дыпламатычна-прахалоднай.

— Яго вялікасць вельмі занятыя і не могуць вас прыняць, — сказаў Касакоўскі. — Але з цягам часу паведамяць пра сваё рашэнне...

Каўнер мундзіра падаўся Тадэвушу мулкім. Паварушыў шыяй.

— Колькі часу мне чакаць адказу яго вялікасці? — удакладніў Тадэвуш.

Касакоўскі вытанчана-ветліва акрэсліў тэрмін:

— Некалькі месяцаў або гадоў...

— Калі шчыра, ці магу я разлічваць на станоўчы адказ?

— Мяркуйце самі, ваша мосць, — сакратар глядзеў на яго, бы на пустое месца. — Вольных генеральскіх намінацый няма і не прадбачыцца. Рэспубліка не збіраецца ні на кога нападаць. І нам ніхто не пагражае...

— Каб Рэчы Паспалітай і надалей ніхто не пагражаў, трэба і ў мірны час быць добра падрыхтаваным да вайны! — горача заявіў Касцюшка.

Сакратар паморшчыўся — хто любіць, каб яго перапынялі, ды з такім запалам!.. Памаўчаў, затым выразна запэўніў:

— Расійская імперыя абароніць Польшчу. Яго вялікасць мае на гэты конт цвёрдую гарантыю ад яе вялікасці царыцы Кацярыны. Ваша мосць дарма хвалюецца наконт нашай баяздольнасці. Калі шаноўны пан мяркуе, быццам слава, здабытая ў Амерыцы, чагосьці тут вартая, то мушу яго расчараваць...

Касцюшка начарціў пальцам у паветры пяць рысаў — знак майстра.

Касакоўскі зноў паморшчыўся і намаляваў паветраны трохкутнік, скіраваны ўніз — сімвал непрымірымасці.

— Я ведаю, што вы — член амерыканскай ложы, — вымавіў сакратар. — Але вы не ведаеце, што наша варшаўская ложа — дачка гесенскай ложы...

Гесенскае курфюрства ў саюзе з Брытаніяй душыла Амерыканскую рэвалюцыю. Гэта азначала, што экс-генералу пара развітвацца.

Перад сыходам Касцюшка без асаблівага імпэту спытаў:

— А што сказаў яго вялікасць наконт майго праекта?

Сакратар без выразнай сімпатыі ў голасе адказаў:

— У канцылярыю яго вялікасці прыходзяць стосы праектаў усялякага кшталту. Іх фізічна не могуць усе прачытаць. Ваш праект адасланы на разгляд гетману Агінскаму. Калі ягамосць пан гетман дасць адмоўную ацэнку, праект выправяць у архіў ці растопяць ім печку...

Болей у Касцюшкі не было прычын заставацца ў Варшаве. Развітаўся з князем Чартарыйскім і з пачуццём непрыхаванай горычы паехаў у Сяхновічы. У дарозе час ад часу паглядаў на сыгнет, пытаўся ў арлінай выявы на пячатцы: «Хіба адляталі мы сваё?»

Падалося яму: паніклі арліныя крылы ў чырвоным полі...

* * *

Пра ўсё гэта Касцюшка сціпла распавёў брату за вячэрай.

Ахмялелы Язэп абдымаў малодшага брата за плечы і енчыў:

— Ты пасталеў, Тадэ! І я адчуваю сябе старым! Надламала мяне судовая праца. Бачу толькі горшыя праявы чалавечай натуры...

З дзяцінства любіў старэйшы брат паскардзіцца на жыццё.

— Мы не маладзеем, — ківаў Тадэвуш.

— Я звыкся з тым, што ўжо стары, — прызнаўся Язэп.

Удосталь паплакаўшы, п'яны Язэп паваліўся з лавы ды так і заснуў на падлозе. Камердынер звыкла ўзяў гаспадара падпахі, пацягнуў у спальню.

Так скончыўся першы вечар, праведзены Тадэвушам у родавым гняздзе...

Касцюшку адвялі два невялічкія пакоі ва ўсходнім крыле дома. Адзін прызначаўся пад «гібінет», як казалі слугі, другі — алькоў, спальня. Язэпавы апартаменты размяшчаліся ў заходнім крыле, а пасярэдзіне — гаспадарчыя памяшканні і пакоі для прыслугі.

Пасля вячэры стомлены Тадэвуш адмовіўся ад паслуг камердынера, распрануўся сам. Памаліўся, загасіў свечку, лёг пад коўдру, паднёс да вачэй сыгнет, паскардзіўся выяве сярэбранага арла: «Нешта мне тут няўтульна...»

Ды не гаравала адважная птушка. Упэўнена распасцірала крылы ў чырвоным полі, бы казала: пан Тадэвуш зможа ўсё змяніць да лепшага!

* * *

Заняты частымі судовымі пасяджэннямі, марнатраўны Язэп не зважаў на гаспадарку, і гэта зберагло Сяхновічы ад канчатковага згалення. Маёнткам кіраваў Пётра Эстка, муж сястры Ганны. Эстка з жонкай прыязджалі сюды на чатыры месяцы, астатнюю частку года жылі ў родавым маёнтку Эсткаў у Даўгалісках на Любліншчыне. Сядзіба дбайнага Эсткі ў Даўгалісках квітнела, а Сяхновічы ён не толькі выцягнуў з даўгавой ямiны, але і аплаціў брэсцкаму крэдытору Самуэлю Шмулю ўсе пазыкі, зробленыя Касцюшкам перад ад'ездам у Варшаву ўлетку 1775-га.

Па прыездзе ў Сяхновічы Касцюшка напісаў у Даўгаліскі Пётру і Ганне: «Каб пазбегнуць грэчкасейнай ідыліі, я ўцёк у Амерыку... І там мог бы стаць плантатарам. Кангрэс узнагародзіў мяне 20 акрамі зямлі на «індзейскай» тэрыторыі. Я прадаў надзел Джорджу Вашынгтону і вярнуўся сюды, бо меў пэўныя надзеі. Аднак баявы генерал аказаўся не патрэбны дзяржаве ў мірны час. Таму, бачу, ад наканавання не ўцячэш...»

А ў пасткрыптуме зрабіў прыпіску для сястры:

«Ледзьве не забыўся, мілая Ганулька! Ці не ведаеш, як жыве княгіня Людвіка Любамірская? Быў час, я вучыў яе светласць маляванню...»

Насамрэч дзеля гэтай прыпіскі і дасылаў ліст. І хваляваўся: ці зразумее сястра намёк? Ці паведаміць Людвіцы пра яго вяртанне?..

Сястра і яе муж даслалі ветлівы адказ праз месяц.

Эстка напісаў, на правах сваяка звяртаючыся да Касцюшкі дзіцячай мянушкай: «Падазраю, Тадэ, што сееш грэчку і капусту на неўрадлівай брэсцкай

глебе не тое ж самае, што будаваць крэпасці ды весці ў атаку полк. Аднак і такі занятак, павер мне, не з лёгкіх. Без пільнага нагляду Сяхновічы згібеюць. Не раіў бы спадзявацца на руплівасць брата Язэпа...»

А Ганна дадала ў пасткрыптуме: «Пра тваё вяртанне я напісала, мілы Тадэ, усім знаёмым. У тым ліку і Хрысціне Сульпінскай. Яна — кузіна княгіні Любамірскай па бацькоўскай лініі і яе давераная сяброўка. Як мне стала вядома, княгіня ўзрадавалася, даведаўшыся пра тваё вяртанне. Яна напісала Сульпінскай, а тая — мне. Княгіня пыталася: ці не супраць ты аднаўлення сяброўства, ці не прыгнятаюць цябе ўспаміны мінулых дзён?..»

Касцюшка адразу ж адпісаў Ганне: «Я ахвотна падкладу дровы сардэчнай узаемнасці ў згаслы камін колішняга сяброўства!..»

А пакуль доўжылася гэтая перапіска, абумоўленая тагачасным этыкетам, пакуль Тадэвуш чакаў ліста ад Людвікі — бо не мог засцянковы шляхціц-халасцяк напісаць яе мосці княгіне першым! — ён завязваў знаёмствы з суседзямі, ездзіў да іх з візітамі і наогул прывучаўся жыць на новы, а праўдзівей кажучы, на стары, ліцвінскі лад.

* * *

Давялося яму развітацца з генеральскім мундзірам — не пасаваў ён да вясковых умоў. Брат Язэп параіў:

— Апранайся па-нашаму, па-сармацку...

Заходнеўрапейская мода — «нямецкі» ці «французскі» строй — распаўсюджвалася ў тую пару пераважна ў землях Польскай Кароны: у Вялікапольшчы, Мазовіі, на Правабярэжнай Украіне. А на Літве шляхціцы па-ранейшаму аддавалі перавагу «сармацкаму» строю часоў Яна Сабескага. Давялося і экс-генералу Амерыканскай арміі апрануць сатканыя прыгоннымі ткачыхамі аксамітны пунсовы жупан ды сінія штаны.

Жупан нацягваўся цераз галаву паверх нацельнай кашулі і зашпільваўся пад шыяй сярэбранымі гузічкамі. Пад штаны апраналіся споднія порткі з блакітнага адамашку, аблямаваныя сярэбраным галуном па швах. Брат Язэп насіў на жупане залатыя гузікі, асаджаныя па краях дробнымі рубінамі (прэзент яшчэ аднаго просьбіта па нейкай судовай справе). Тадэвуш на такую раскошу і не прэтэндаваў.

Аднак у жупане можна хіба ў пакоі сядзець. А захочаш пайсці на вуліцу — апранай кунтуш. Шляхціц без кунтуша — што жанчына без спадніцы!

Касцюшку на лета пашылі цёмна-зялёны баваўняны кунтуш — накшталт рускага каптана або ўкраінскай світкі. На зіму яшчэ адзін — шарсцяны, падбіты футрам, які добра саграваў у маразы. Меў кунтуш разразныя рукавы-«адлёты» і ўпрыгожваўся шасцю гузамі ў форме арэхаў. Звычайна заможная шляхта замаўляла сабе на кунтуш гузы з белага серабра або з пазалочанай пярэсты. Але Касцюшка задаволіўся гузамі і з чэшскага шкла, падобнага да белага серабра.

Тадэвуш не адразу ўпадабаў новы кунтуш: занадта вузкі і цягнецца да зямлі. Папрасіў падкараціць і пашырыць у таліі. Нязвыклыя да просьбаў (звычайна Язэп крычаў і лупцаваў) сялянкі расплакаліся.

Пакуль перашывалі кунтуш, браты пілі квас, седзячы на ганку.

Бязлітасна пякло сонца. Апранутыя ў аксамітныя жупаны Касцюшкі абліваліся потам. А Язэп расхвальваў вартасці сармацкага строю:

— Сармацкае адзенне, братка, — гэта не толькі вопратка, гэта светапогляд. Некалі нашыя продкі-сарматы з Паўночнага Прычарнамор'я прыйшлі сюды, скарылі балцкія плямёны. Нашчадкі балтаў сталі сялянамі, а нашчадкі

сарматаў — мы, шляхта. Яны нам служаць, а мы іх баронім. І наш сармацкі строй — напамін сялянам пра тое, хто на гэтай зямлі гаспадар...

— Нешта такога ж кшталту пісаў пра французскіх арыстакратаў граф Анры Буленвільe, — згадаў Тадэвуш. — Я чытаў яго гістарычныя працы, калі быў у Парыжы. Ён даказваў, быццам тамтэйшыя дваране — нашчадкі нямецкага племені франкаў, што ў пятым стагоддзі прыйшлі з-за Рэйна ды заваявалі Галію. А сучасныя сяляне і гараджане — трэцяе саслоўе — гэта, маўляў, праўнукі пераможаных галаў і рымлянаў... Паўсюль, атрымліваецца, правы шляхты — гэта правы заваёўніка. Гэта не засмучае, Язэпка?

— Ні ў якой ступені! А чаму цябе гэта бянтэжыць, Тадэ?

Тадэвуш пацiснуў плячыма:

— Ну, пасля амерыканскай адысеі я на ўсё пазіраю іншымі вачыма... Ды наогул, хто памятае, як насамрэч выглядаў сармацкі строй? Мне здаецца, так, як у нас на Літве, апранаюцца, бадай, туркі ды венгры...

— Вядома, — пагаджаўся Язэп. — Наша вопратка — шчэ і напамін самім сабе пра перамогі Стэфана Баторыя, які быў венграм. Гэта напамін пра перамогі над туркамі Яна Сабескага... Каб мы, шляхта, не забываліся, што маем слаўную мінуўшчыну, мусім апранацца так, а не інакш...

— Мне здаецца, што падставы для гонару шляхта мусіць здабываць слаўнымі ўчынкамі, а не вопраткай, — запярэчыў Касцюшка.

На гэты конт Язэп меў апакаліптычны пункт гледжання:

— Уся слава нашай Айчыны засталася ў мінулым. Наперадзе нас чакае катастрофа. І мы павінны адцягваць яе як мага даўжэй...

— З чаго такая роспач, братка? — здзівіўся Тадэвуш.

— Пажывi тут парачку гадоў. Цалкам зняверышся ў нашых людзях. Усе пачуцці адамруць, акрамя адзінага — смутку...

* * *

Амаль дваццаць гадоў Язэп Касцюшка служыў суддзёй, палову года праводзіў на выязных сесіях у Бярэсці, Пінску ці Камянцы — і ніколі не атрымліваў жалавання: не знаходзілася ў казне грошай на гэтую галіну бюджэту. Таму судзейскія людзі карміліся з «прэзентаў» зацікаўленых у адпаведным рашэнні асобаў. А паколькі рэдкая судовая справа на Літве цягнулася менш пяці-сямі гадоў, то і падарункі плылі ў рукі безупынна. Кожны суддзя меў свае схільнасці. Пан Язэп аддаваў перавагу паясам.

Багатая калекцыя рознакаляровых паясоў захоўвалася ў Сяхновічах. Былі паясы аксамітныя і вязаныя з паркалю, былі паясы з махрамі і кручанымі ў шнуркі канцамі. Меліся паясы турэцкія і персідскія. Ганарыўся пан суддзя кітайскімі паясамі — яны выраблялiся з такой тонкай воўны, што яго можна было працягнуць праз пярсцёнак. Мелася ў Язэпа і парачка слуцкіх паясоў, на якія пад уплывам князёў Радзівілаў распаўсюджвалася мода па ўсёй Рэчы Паспалітай. Такія паясы мелі на канцах вышытыя словы: «Тканы ў Слуцку». Адзін бок у слуцкіх паясоў быў светлы — калі гаспадар паедзе на вяселле, другі — цёмны, калі падасца гаспадар на пахаванне або памінкі.

Паводле тагачаснай моды паясы былі доўгімі і шырокімі. Язэп Касцюшка часта загадваў камердынеру, каб той абкручваў яго двума ці трыма паясамі разам. Спераду канцы паясоў звісалі да самых ботаў.

Каштавалі паясы, асабліва слуцкія ці кітайскія, да 500 злотых — столькі ж, колькі пара пародзістых коней. Калі вычэрпвалася грашовая скарбонка, пан суддзя загадваў прадаць пояс-другі.

Каб падтрымаць на першых парах брата, Язэп аддаў Тадэвушу дваццаць паясоў. Тадэвуш жа прадаваць іх не спяшаўся. І мяняў паясы не штотыдзень, як старэйшы брат, а штомесяц. А Язэпу тлумачыў:

— Годзе распрадаваць сваю маёмасць. Распродаж прывучае да марнатраўства. А Госпаду заўгодна, каб мы сталіся дбайнымі і руплівымі гаспадарамі, каб жылі з прыбыткаў, што Ён нам дасылае!

Старэйшы брат маўчаў у адказ. Што на такія довады запярэчыш!

* * *

Найперш Тадэвуш уладзіў справы з выплатай сваёй генеральскай пенсіі. Дзеля таго паехаў у Брэст, да крэдытора Самуэля Шмуля.

Перад выправай у дарогу замовіў Касцюшка новыя боты — старыя «прасілі кашы» яшчэ ў Парыжы. Сяхновіцкія майстры хутка пашылі яму тры пары — жоўтыя, чырвоныя і чорныя. Халявы ў тых ботаў былі караткія: ззаду закрывалі толькі лытку, а спераду — палову калена. Напяткі ў ботах умацавалі драўляным лубам, засаджаным паміж скурай — каб не выкрыўляліся і не моршчыліся. Пад напяткам была прыбіта цвікамі падкова таўшчынёй у два пальцы. Высціlaліся боты саломай, якая грэла ў маразы, а ў спякоту выцягвала з ног лішкі вільгаці. Паводле тагачасных звычаяў, пры сустрэчы з важнымі гасцямі належыла абуваць жоўтыя, пры спатканні з кабетай — чырвоныя, а чорныя — дзеля паўсядзённага ўжытку.

Адпаведным чынам паклапаціўся пан Тадэвуш і пра капялюш. Бо выйсці шляхціцу на вуліцу без капелюша — ганьба!

На лета пашылі Тадэвушу прыгонныя майстры канфедэратку з блакітнай аксамітнай тканіны, на зіму — абабіты футрам каўпак, а на ўрачыстасці — шапку з сабаліных шкурак і плюмажам з чапліных пер'яў.

— Сядзеш пры гасцях за стол, нізавошта не здымай шапку, — павучаў Язэп брата. — Скрадуць. Ці знойдзецца ахвочы памяняцца капелюшамі. Адмовіш такому, ён за шаблю схопіцца...

Дома браты Касцюшкі насілі саламяныя капелюхі, але — крадком, каб суседзі не ўгледзелі. Бо капелюхі звычайна насілі сяляне...

У карчму, дзе прымаў візіцёраў брэсцкі крэдытор Самуэль Шмуль, Касцюшка заявіўся ў жоўтых ботах і сабалінай шапцы, якую зачапіў шнурком за вуха і адкінуў на патыліцу.

Найбагацейшы на Брэстчыне чалавек, уладальнік уласнага банка, меў рэдкія чорныя валасы на галаве і шырокія — на англійскі ўзор — бакенбарды. Шмуль размаўляў з наведвальнікам і адначасова цёр тытунь у глінянай місе, нюхаў і аглушальна чхаў.

— Галава баліць ад скрушных думак, — патлумачыў Шмуль, — лячуся...

За дывідэнд у трыста злотых Шмуль абавязаўся знесціся з Варшаўскім банкам, куды дасылалі грошы з Парыжскага банка, а туды — з Філадэльфіі.

Крэдытор маланкава падлічыў:

— Ваш гадавы пенсіён будзе складаць менш шасці тысяч злотых...

— Кангрэс Злучаных Штатаў вінен мне сто дваццаць тысяч долараў, — сказаў Касцюшка. — Але пакуль у краіне фінансавы крызіс, і Амерыка не можа сплаціць усю сумму. Толькі працэнты...

— Долар — нікчэмная валюта, — скрывіўся Шмуль. — Слабейшая за наш злоты... Пэўна, у час вайны ваша мосць знаходзіліся не там, дзе трэба. Не ўлічылі, што славу здабываюць у бітве, а заможнасць — у тыле...

Касцюшка ўзгадаў, як аднойчы ў Філадэльфіі Бенедыкт Арнальд схіляў яго да афёры, усміхнуўся, адкінуўся на спінку крэсла і з гонарам сказаў:

— Я мог бы добра зарабіць. Дасылаў д'ябал такую спакусу. Затое цяпер я малюся Богу з чыстым сумленнем. А гэта куды важней, чым грошы...

Верагодна, Самуэль Шмуль меў на гэты конт іншы пункт гледжання. Але не спрачаўся. Чхнуў пару разоў ды панаракаў на благі фінансавы клімат:

— Мала ў нас на Літве грошай круціцца! Прамысловасці няма, гарады дробныя... Вось калі б здарылася вайна! Казна дала б грошы на закупку зброі, амуніцыі, рыштунку, боепрыпасаў... Праз чые рукі пацяклі б грошы? Праз нашы, праз рукі банкіраў... Як блага, што няма вайны!

Тадэвуш не стрымаўся, аспрэчыў фінансіста:

— Калі зараз пачнецца вайна, то і скончыцца хутка. У нашай Айчыны мізэрнае войска, доўга не пратрымаецца. І тады заваёўнік усё забярэ...

На гэта Самуэль Шмуль давёў:

— Не згінула Польшча раней, не згіне і цяпер. А вайна стварае больш магчымасцей для прыбытку, чым такі мір, як цяпер...

* * *

Пакуль Самуэль Шмуль перапісваўся з варшаўскімі банкірамі ў Варшаве, а тыя адпаведна з парыжскімі калегамі, пан Тадэвуш завязваў знаёмствы з суседзямі. Колькі каларытных асоб давялося яму пабачыць!

Шляхта на Літве, як і ў іншых землях Рэчы Паспалітай, адрознівалася паміж сабой, як звяры ў лесе. Мала было магнатаў, якім належала дзве трэці ўсёй зямлі Вялікага княства, і багата шляхціцаў, якія самі сябе называлі «шарачкамі» або «загоннымі». «Шарачкі» валодалі надзеламі-«шнюрамі» — такімі дробнымі, што, як жартавалі, калі сабака сядзе на такі «загон», то хвост абавязкова акажацца за мяжою. Такія рэдка ў госці запрашалі, самі напрошваліся да больш заможных.

Пыхі, аднак, у «шарачковых» суседзяў Касцюшкі хапала з лішкам. Так, сустрэў аднойчы Касцюшка, калі ехаў на кані паўз вёску Шчады, пана Мідалінскага, які жыў з жонкай і шасцю дзецьмі ў хатцы на ўскрайку. Цягнуў пан Мідалінскі вазок з гноем — угнойваў свой «шнур». Апрануты Мідалінскі быў у абноскі, але пры баку вісела бацькоўская шабля — знак шляхецкай годнасці. Убачыўшы суседа, пан спыніўся, загаварыў з Касцюшкам спярша пра благое надвор'е, затым — пра старадаўнасць свайго радаводу. Атрымлівалася, што прашчуры пана Мідалінскага былі шляхціцамі яшчэ ў часы Хама ды Іяфета. Ад Хама, як казалі ў той час святары на пропаведзях, пайшлі сяляне, ад Іяфета — шляхта. А прашчур пана Мідалінскага, безумоўна, пры гэтым падзеле прысутнічаў.

Наогул Мідалінскі перад кожным шляхціцам выхваляўся старажытным радаводам. А напрыканцы гутаркі пытаўся ў кожнага: няўжо, маўляў, літасцівыя нябёсы і далей будуць цярпець галечу такога слаўнага пана? Няўжо не дашлюць яму багацце ці, у горшым выпадку, сякі-такі чын?.. І кожны мусіў заяўляць, што літасцівыя нябёсы болей такой несправядлівасці цярпець не стануць — інакш Мідалінскі выклікаў на двубой.

Пан Мідалінскі мог ганарыцца хаця б тым, што захаваў бацькаву шаблю. Ягоны сусед пан Стрыганецкі з Мажэйкаў і тую прадаў карчмару — пакінуў толькі похвы ды эфес, каб усе меркавалі, быццам зброя пры ім. У астатнім пан Стрыганецкі нічым не адрозніваўся ад Мідалінскга — гэтаксама жыў з вялікай сям'ёй у хаце разам са свойскай жывёлай, бо не меў хлява, і з дзіркамі ў гонтавым даху, праз якія ў ясныя ночы бачыў зоры.

Што ж да заможных шляхціцаў, то рэдкі з іх не меў нейкага чыну. Няхай усе пасады і былі намінальныя і аніякай службы не прадугледжвалі, аднак

наяўнасць чыну сведчыла аб той прыступцы ў пакручастай шляхецкай іерархіі, якую займаў той ці іншы ўладальнік. Напрыклад, пасада кашталяна азначала, што шляхціц мае свой фальварак і заплаціў за свой чын трыста дукатаў. А пасада абознага — што шляхціц валодае, бадай, паловай сядзібы і заплаціў за чын парачкаю сялянаў або паўсотняю дукатаў.

Паколькі бацька Язэпа і Тадэвуша меў чын мечніка (нададзены каралём Янам Казімірам іхняму продку Аляксандру Касцюшку за подзвігі ў часы Руіны і Патопу), то намінальная пасада паводле спадчыннага права пераходзіла і да іх. Таму старэйшы брат неаднойчы паўтараў малодшаму:

— Калі хтосьці са шляхціцаў, Тадэ, праігнаруе твой чын, не назаве цябе «панам мечнікам» — адразу выклікай на двубой. Не абароніш гонар — іншыя таксама пачнуць табою пагарджаць, крыўдзіць і зневажаць...

Ганаровы чын даваў падставы яго ўладальніку вышэй задзіраць нос. Так, пан кашталян Абадзінскі, валадар сядзібы ў Грыцэвічах, любіў назапрашаць у госці чалавек сто (у тым ліку і паноў Касцюшкаў), але з гасцямі не сядзеў за адным сталом, а частаваўся прысмакамі ў суседнім пакойчыку. Калі хтосьці абвяшчаў тост у гонар гаспадара, слуга прыадчыняў дзверы і пан Абадзінскі падымаўся з кубкам з-за свайго стала. Гаспадар Грыцэвічаў меркаваў, што, калі сядзе на адну лаву з гасцямі, то абразіць такім чынам памяць продка, які служыў кашталянам у свіце самога Стэфана Баторыя.

Былі сярод суседзяў і такія, што мелі неблагі чын, але безупынна вымольвалі больш высокую пасаду — каб потым пахваляцца.

Так, пан падкаморы Пацей, што валодаў мястэчкам Сямёнаўцы, часта збіраў гасцей і падрабязна пералічваў усе крыўды, перанесеныя ім з часу нараджэння. Госці моўчкі сілкаваліся пад яго енкі. Калі ж пан Пацей пытаўся — ці заслугоўвае ён за перанесеныя пакуты чыну харунжага? — кожны мусіў паклясціся ўратаваннем сваёй душы, што лепшай кандыдатуры ад стварэння свету не было. Расчулены пан плакаў уголас. Адразу ж завывалі яго жонка, дзеці і прыслуга. Затым госці падпісваліся пад «маніхфестам», складзеным Пацеем і адрасаваным брэсцкаму ваяводзе. У «маніхфесце» выпрошвалася пасада харунжага для пана падкаморыя. На працягу семнаццаці гадоў дасылаў пан Пацей такія «маніхфесты». Станоўчага адказу, праўда, пакуль не атрымаў. Гэта служыла падставай для новай роспачы, і неўзабаве пан падкаморый зноў склікаў гасцей, каб падзяліцца з імі новаю самотай...

Вяртаючыся ад пана Абадзінскага і пана Пацея, Касцюшка звычайна думаў: калі б мела наша шляхта меней пыхі ды прыніжанасці! Але ж паспрабуй такім зрабіць заўвагу — смяротных ворагаў нажывеш!..

* * *

Быў у Касцюшкі яшчэ сусед, якога хвалявалі не чыны, а настальгічныя ўспаміны — небагаты ўладальнік фальварка ў Кірпічах пан Шантыроўскі. Гасцям ён часта распавядаў, як у юначыя гады служыў пры двары навагрудскага ваяводы. Да дваццаці гадоў набіраўся там «розуму і полеру», служыў «рэспектавым кавалерам», выконваў канфідэнцыяльныя даручэнні пана ваяводы, у час урачыстасцей стаяў «пад рукой у пані ваяводшы». Служба Шантыроўскаму падабалася, але скончылася не самым эфектным чынам. «Рэспектавы кавалер» «папсоціў» свайму гаспадару «каля жаночага фартушка». Пані ваяводша пакаялася духоўніку. Той, зразумела, данёс мужу. Пакрыўджаны ваявода выдаў Шантыроўскаму канверт — каб аднёс маршалку двара. Маршалак распячатаў канверт — там аказаўся загад адлічыць «кавалеру» дзвесце «корбачаў». Маршалак паклікаў слуг, якія расцягнулі Шантыроўскага на траве, і ўляпіў

«кавалеру» бізуноў. Болей за ўсё Шантыроўскага засмучала тое, што адхвасталі яго на траве, не падаслаўшы дыван, як належала б, зважаючы на шляхецкую годнасць! У той дзень жыццё пана Шантыроўскага нібыта скончылася. Цяпер жыў толькі ўспамінамі пра колішнюю службу.

Калі для Шантыроўскага ўспаміны былі падставай для меланхоліі, то пан Сяляха з Вітошкаў у размовах з гасцямі згадваў службу пры двары гарадзенскага ваяводы як лепшы час свайго жыцця.

Як і для многіх шарачковых шляхціцаў, для пана Сяляхі вышэйшай марай была прыдворная служба. І паводле пратэкцыі пашчасціла яму ў юнацтве паслужыць канюшым пры двары пана ваяводы. За тры гады зарабіў тры тысячы і тры злотыя. Аднак найбольш ганарыўся пан Сяляха тым, што на імяніны пана ваяводы атрымліваў з рук гаспадара то кавалак пірага са стала ягамосці, то больш-менш цалейшыя абноскі, то стары капялюш. У знак падзякі падаў пан Сяляха да ног ваяводы, са слязамі радасці цалаваў гаспадару боты, а затым калені. Марыў пан Сяляха служыць ваяводзе да скону, але не паспрыяла яму хутказменлівая Фартуна. Пасля трох год — традыцыйны для шляхціца час службы — пан ваявода, паводле старадаўняга звычаю, заляпіў «кавалеру» аплявуху — каб помніў гаспадарчую ласку! — ды выпіў з ім па келіху віна. Сяляха прасіў дазволу застацца пры двары: гатовы быў служыць на любой пасадзе. Пан ваявода, аднак, не затрымаў Сяляху — той падаваўся яму недастаткова пачцівым прыдворным. Аднак не зусім пакінуў Сяляху сваёй ласкаю — ажаніў яго з прыдворнай «рэспектавай паненкай» — былой каханкай, якой мусіў пазбавіцца з-за нараканняў раўнівай жонкі. У пасаг ёй ваявода даў фальварак у Вітошках, за які Сяляха мусіў сплачваць яму чынш.

І хаця чынш Сяляхі быў не надта вялікі, аднак маёнтак у Вітошках відавочна гібеў. Гаспадарыць пан Сяляха не ўмеў, дый не хацеў, жыў спадзяваннямі, што аднойчы пан ваявода зноў пакліча яго на службу. І каб быць гатовым з'явіцца ў адпаведным строі, пан Сяляха нічога не шкадаваў. Залез у пазыкі, але насіў на кунтушы брыльянт. Заклаў фальварак, але ўпрыгожыў шаблю дыямантамі. Акрамя таго, не квапіўся на шчодры пачастунак гасцям, з якіх браў клятву, што абавязкова паведамяць ягамосці ваяводзе, быццам пан Сяляха — шляхціц надзвычайных цнотаў...

Браты Касцюшкі ўдосталь панаслухаліся баек з вуснаў Шантыроўскага і Сяляхі. Усё таму, што на пачатку лета гэтыя паны, чые ўладанні межавалі, зацята паспрачаліся. Пану Сяляху падалося, быццам халопы Шантыроўскага перасунулі агароджу на сваю карысць ажно на пяць локцяў яго зямлі!

Язэп Касцюшка як суддзя мусіў разгледзець скаргу Сяляхі. Тадэвуш выступіў у гэтай спрэчцы ў якасці каардынатара — як незацікаўленая асоба.

Высветлілася, што мяжа паміж уладаннямі Шантыроўскага і Сяляхі ніколі не была дакладна вызначана. Каб прымірыць спрачальнікаў, пан Тадэвуш склаў чарцёж тэрыторыі, правёў дэмаркацыйную лінію, якую потым указаў і на мясцовасці, а пан Язэп зацвердзіў складзены з гэтай нагоды судовы пратакол.

Аднак аднаго судовага рашэння Шантыроўскаму і Сяляху падалося мала. Панам хацелася мець паболей сведкаў. Таму загадалі сваім старастам, соцкім і дзесяцкім сагнаць мужыкоў да новай мяжы, прынесці туды ж дубовую лаву і паболей лазы. Мужыкам паказалі, дзе тая мяжа, а затым уляпілі кожнаму па сто розгаў — каб лепей запомнілі і пры неабходнасці пацвердзілі пад прысягай.

Карацей, меліся ў Касцюшкі падставы, каб паглядзець на выяву сыгнета, спытаць у старога сябра: «Хіба можна з такімі людзьмі ўзрасціць на нашай глебе Дрэва Свабоды?»

Сярэбраны арол распасціраў крылы ў чырвоным полі, нібыта пярэчыў: найперш не дай згаснуць полымю свабодалюбства ва ўласнай душы! Пра іншых, маўляў, потым паклапоцішся!..

* * *

Тадэвуш мусіў часта раз'язджаць па гасцях. Бо праігнараваць нечае запрашэнне азначала смяротна пакрыўдзіць суседа. Адпомсціць жа сусед мог жорсткім чынам: заявіць на павятовым сейміку, нібыта пан Касцюшка — зусім не шляхціц, нібыта яго родавы герб Роха — падробны, а шляхецкая набілітацыя набытая за грошы. Галаслоўнага абвінавачання хапіла б, каб навакольная шляхта пазбягала Касцюшкаў, бы зачумленых.

Вядома, абвергнуць ману можна было праз суд. Але паколькі Язэп Касцюшка сам быў суддзёй, то добра ведаў, колькі месяцаў і колькі грошай будзе змарнавана на тое, каб абяліць сумленнае імя ад гнуснага паклёпу. Дый дзе гарантыя, што неўзабаве нехта зноў не пусціць брыдкую пагалоску?

Мелі Касцюшкі перад вачыма такі прэцэдэнт. Пан Ракітніцкі з Ракітаўкі трынаццаты год судзіўся з панам Стрыганоўскім, які неяк, у добрым падпітку, назваў таго «халопавым нобілем», несапраўдным шляхціцам. За гэты час паны суседзі ўжо двойчы страляліся, тройчы біліся на шаблях, а суд, які разглядаў іх стрэчныя іскі, аніяк не заканчваўся. Гаспадаркі суседзяў згалелі з-за судовых выдаткаў, але Стрыганоўскі карыстаўся павагай сярод знаёмых, а на Ракітніцкага пазіралі, як на белую варону.

Як хутка сцяміў пан Тадэвуш, з суседзямі лепш жыць мірна. Гэта азначала: зважаць на іх запрашэнні, аб'ядацца, напівацца, слухаць скаргі, п'яную балбатню і з усім пагаджацца.

Па тых жа прычынах мусілі Касцюшкі і прымаць частых гасцей — «шарачкоў», якія наведваліся звычайна «сюрпрызам», без запрашэння. Такіх называлі «паязджане», бо ездзілі буйнымі кампаніямі, часта з сем'ямі.

Здаралася, «паязджане» затрымліваліся ў Сяхновічах на два-тры дні. Тадэвушу такое баўленне часу падавалася невыносным. Асабліва востра адчуваў у такія хвіліны, што жыццё незваротна сплывае і нічога вартага ім не зроблена.

Аднак пакрысе Касцюшка прыдумаў паслабленне: пакуль брат Язэп часаў языком з гасцямі, Тадэвуш цішком загадваў кухару падсыпаць у віно соннага зелля. «Паязджане» хутка засыналі, а Касцюшка з чыстым сумленнем ішоў займацца гаспадарчымі справамі.

А справаў хапала! Тадэвуш разгарнуў буйнамаштабную будоўлю. Паводле ягонага праекта сяхновіцкія мужыкі, адпрацоўваючы паншчыну, узвялі флігель для гасцей, а яшчэ новыя стайні з вазоўнямі, лямусы, піўні, афіцыны. Затым да падвор'я далучыліся дамок для прыслугі, пякарня, свіран, птушнік, гумно і адрына. Непадалёку былі збудаваныя бровар са студняй і новы млын. Вакол сядзібы вырас высокі дубовы плот.

Упарадкаваў Касцюшка і занядбаны сад. Сам расчысціў ад зараснікаў стогадовую ліпу. Гэтае дрэва, пэўна, памятала прашчура Тадэвуша і Язэпа — пана харунжага Аляксандра Касцюшку Сяхновіцкага, слаўнага воя часоў Руіны і Патопу, героя войн са шведамі ды татарамі. Старая ліпа сталася галоўным дрэвам у садзе. Вакол яе Тадэвуш загадаў служанкам разбіць кветнік, а таксама рэгулярна пасыпаць жвірам дарожку, што паўкругамі бегла да сажалак, дзе разводзілі рыбу.

Карацей, было чым заняцца пану Тадэвушу ў Сяхновічах!

* * *

Напрыканцы лета Самуэль Шмуль прыслаў ганца — паведаміў, што дамовіўся з варшаўскімі банкірамі, маўляў, Касцюшка можа раз на год прыязджаць у Брэст, атрымліваць у яго банку свой генеральскі пенсіён.

Касцюшка тым часам дэталёва вывучаў бацькоўскі тастамент і фінансавыя паперы. Нават звярнуўся па кансультацыю да суседа — адваката Міхала Залескага, уладальніка дробнага маёнтка недалёка ад Жабінкі.

Аказалася, на Сяхновічы ў Тадэвуша болей правоў, чым у Язэпа. Братам належала вёска прыгонных — шэсцьдзесят душ. Прыбытак з іх меліся дзяліць пароўну. Але за час Тадэвушавай адысеі Язэп прысвоіў і растраціў усю тую частку, якая належала малодшаму брату. Дык цяпер Язэп мусіў сплачваць брату доўг і жыць у родавым маёнтку ў якасці кватаранта.

Гэтае адкрыццё дало падставы Тадэвушу распараджацца сяхновіцкай гаспадаркай на свой капыл, не зважаючы на Язэпавы нараканні.

Найперш Тадэвуш скараціў паншчыну да двух дзён на тыдзень для мужчын, а жанчын наогул вызваліў ад яе. Падумваў і пра тое, каб замяніць паншчыну аброкам. А на братавы нараканні пярэчыў:

— Не трэба знясільваць сялян. Я бачыў, як блага ў Амерыцы працуюць чарнаскурыя рабы. У нас павінна быць інакш. Дзеля ўласнага дабрабыту чалавек зробіць болей, чым пад прымусам. З плёну такой працы мы атрымаем большы прыбытак, чым з-пад бізуна.

— Ну дык наогул адмяні прыгон, калі такі разумны! — злаваўся брат.

Тадэвуш скрушна ўздыхаў:

— Пакуль гэта немагчыма. За такі ўчынак шляхта на шаблі нас падыме... А вось клапаціцца пра сваіх сялян, па-бацькоўску любіць іх — магчыма...

Тадэвуш паклапаціўся таксама, каб сяляне вырошчвалі на сваіх надзелах не толькі грэчку з капустай, але і бульбу.

Не першае стагоддзе сеялі грэчку сяхновіцкія мужыкі. Увосень разворвалі палі на ўзгорках, што аддзялялі вёску ад маёнтка Касцюшкаў, а ўвесну тройчы баранавалі. Як прагравалася зямля, пашу ўгнойвалі, а для сяўбы абіралі час, каб пара цвіцення не супадала са спякотным надвор'ем.

Паводле даўняй традыцыі стараста пытаўся ўвосень у валадара Сяхновіч:

— Ці можна, паночку, садзіць часнок?

А ўвесну:

— Ці можна, паночку, сеяць грэчку?

Звычайна адказ быў станоўчы.

Цяпер жа Касцюшка ажыццявіў землеробчую рэформу — за свой кошт, вядома. Скарыстаў амерыканскі вопыт і замовіў праз гандлёвы дом Самуэля Шмуля плады, раздаў вяскоўцам. Кожнаму гаспадару патлумачыў, як трэба вырошчваць, калі збіраць ураджай.

Надзвычай быў задаволены Тадэвуш сваім наваўвядзеннем. Казаў брату:

— Цяпер нашы людзі не будуць галадаць. Бульба вельмі прыдатная для брэсцкай глебы, не дасць прапасці ў неўрадлівы год. Вось пабачыш, Язэпка, прыйдзе час, і нас, ліцвінаў, назавуць бульбашамі...

А Язэп братавай радасці не падзяляў. Яго абурыла яшчэ адно Тадэвушава наваўвядзенне. Малодшы брат адмяніў старадаўні звычай, паводле якога гаспадары за кожную правіну хвасталі розгамі хатніх слуг.

Усчалася паміж братамі звадка — маўляў, хто ў маёнтку сапраўдны гаспадар! Прывучаны камандаваць свавольнымі амерыканскімі жаўнерамі, эксгенерал лёгка прыструніў і Язэпа. Сказаў брату:

— У мяне — неабвержаныя юрыдычныя правы. Але я гатовы адстойваць сваю праўду і шпагай, і пісталетам. Што абіраеш?

Не адважыўся Язэп біцца з братам. Бачыў, што часта практыкуецца Тадэвуш са зброяй, страляе ў садзе па вераб'ях з пісталета. Змірыўся Язэп з тым, што ў Сяхновічах цяпер адзіны гаспадар, і гэта — не ён!

* * *

Не доўга гараваў Язэп Касцюшка. Хутка суцешыўся ў абдымках свайго камердынера. Жанчын пан суддзя не любіў. Таму і не было ў яго нашчадкаў.

Калі Тадэвуш даведаўся аб схільнасцях Язэпа, то не дакараў брата. Узгадаў свайго амерыканскага ардынарца Марціна Эванса, які таксама да жанчын ставіўся абыякава. Паўздыхаў і сказаў Язэпу:

— Я мяркую, Язэпка, што каханне да мужчын — гэта лянота душы. Каб завязаць стасункі з прыгожым полам, патрэбны пэўныя высілкі, духоўныя цноты. А мужыка кахаць — аніякіх табе намаганняў...

— Што ты разумееш! — рассмяяўся Язэп. — Хіба сам кахаеш?

— Кахаю, — прызнаўся Тадэвуш. — Праўда, яна замужам...

— Кахаеш чужую жонку? Навошта? Хіба мала незамужніх белагаловак?

Слова «кабета» на тагачаснай Літве лічылася зневажальным. «Кабетамі» называлі жанчын распусных паводзін, а прыстойных маладзіц — «белагалоўкамі». («Чорнагалоўкамі» пачціва называлі манашак.)

— А ты думаеш, я да суседзяў езджу, толькі смактаць віно і слухаць размовы, якія яйка выедзенага не вартыя? — бараніўся Тадэвуш. — Я, між іншым, прыглядаюся і да прыгожага полу. Здзяйсняю, так бы мовіць, разведку. Але толькі зірну на чыйсьці прывялебны тварык — і раптам перад вачыма паўстае Людвіка. І зноў вабяць струмені яе валасоў, глыбіня яе позірку... І зноў усе думкі толькі пра яе! Гэта нейкае насланнё, якога не магу пазбыцца. І не хачу...

— Ну, значыць, ты, братка, больш хворы, чым я, — зрабіў выснову Язэп. — Мо ў мяне і ненатуральнае каханне, затое ў цябе — ненармальнае...

Кобрынская шляхта, прынамсі, добра ведала, што суддзя Касцюшка — асоба з неардынарнымі пачуццямі. І ніхто асабліва з пана суддзі не кпіў. Вось калі б пан Язэп меў які сур'ёзны грэх, напрыклад, недахоп набожнасці — тады павастрылі б суседзі языкі наконт гонару ягамосці!

* * *

Новаўвядзенні Тадэвуша выклікалі розгалас сярод суседзяў. Некаторыя палічылі яго вар'ятам. Маўляў, хіба здаровы на галаву шляхціц стане парушаць старадаўдаўнія звычаі! Пайшла пагалоска, быццам у Амерыцы прыхапіў ён невядомую хваробу. То, каб не заразіцца, не часта заязджалі у Сяхновічы госці дый самога Касцюшку ўсё радзей запрашалі.

Язэп непакоіўся з гэтай нагоды, а Тадэвуш толькі адмахнуўся:

— Менш гасцей — меней клопату. Усім не дагодзіш. То і не варта...

Куды болей клопату ствараў іншы родавы абавязак — фундатарства над касцёлам у Сяхновічах. Улагодзіць святара Матуша было складаней, чым падтрымліваць мірныя стасункі з ганарлівымі суседзямі.

Час ад часу наведваўся айцец Матуш у маёнтак Касцюшкаў і безупынна дакараў гаспадароў. За тое, што моляцца пераважна ў прысядзібнай капліцы, а не ў вясковым храме. За тое, што не клапоцяцца пра ўратаванне сваіх душаў — губяць іх, песцячы грэшнае цела!

Што тычыцца душы і цела, то тут святар — чалавек суровых нораваў — прапаноўваў свой метад уратавання. Рэдка ён прыязджаў у маёнтак без падарунка яснавяльможным панам — прэзентаваў то бізун з шыпамі, то плёткудысцыпліну са свінцовымі зорачкамі на канцах. Гэтымі прэзентамі, тлумачыў айцец Матуш, належала глыбокашаноўным панам Касцюшкам штовечар пасля малітвы ўлагоджваць сябе па раменах. Пажадана, праўда, маўляў, каб і ўранку, і ўночы ажыццяўлялі яны гэтыя неабходныя для душы працэдуры. У адваротным выпадку пагражала Касцюшкавым душам адвечнае пекла, ад якога наогул мала хто ўратуецца!..

Айцец Матуш суправаджаў павучанні дэманстрацыяй. Загадваў склікаць прыслугу, разам з ёю доўга маліўся, затым скідваў сутану па пояс і хвастаў сябе па плячах, равучы ў захапленні:

— З Боскай ласкі я перамог нячысціка! Бачыце? Уцякае праз акно!

Асабіста Касцюшка пераможанага нячысціка не прыкмячаў, але ўражаная прыслуга падала ў ногі святога айца, цалавала яму запылены абутак. Пры гэтым служанкі штурхалі адна адну, каб першай дацягнуцца да края сутаны, пацалаваць і прыкласці да шчакі.

Браты Касцюшкі, аднак, не мелі ахвоты ўратоўваць душу за кошт нявечання грэшнага цела. Таму абыходзіліся з апантаным святаром гэтак жа, як з гасцямі-паязджанамі — паілі віном, куды дадавалі соннага зелля, да страты прытомнасці ды адпраўлялі на фурманцы назад у вёску. А ксяндзовы падарункі, плёткі і бізуны, палілі ў печы...

Куды меней клопатаў ствараў для гаспадароў Сяхновіч капелан Якуб Выжыкоўскі, які жыў пры маёнтку амаль пяцьдзесят гадоў. Айца Матуша шаноўны капелан пазбягаў — той штораз пры сустрэчы бэсціў брата па Хрысце за тое, што «шануе ўтробу», любіць падсілкавацца прысмакамі.

Айцец Матуш у сваім служэнні аддаваў перавагу бічаванням і пастам, а айцец Якуб — сытным абедам у кампаніі з Язэпам і картачным гульням увечары ля каміна — у мар'яш, у панцаролю, у контру, у трышака. З Тадэвушам капелан Якуб раздзяляў іншую забаву — стралялі ў садзе ў ластавак на ляту. І не заўсёды Тадэвушаў стрэл аказваўся самы ўдалы.

Касцюшкам ды іхнім слугам капелан звычайна лёгка дараваў грахі, да самабічавання не схіляў. Пра адвечнае ж пракляцце згадваў, бадай, тады, калі чуў на споведзі, што нейкі слуга «папсоціў пры фартушку». Айцец Якуб запэўніваў вінаватага, што яго душу чакаюць чэрці ў пекле, калі той не ажэніцца з «папсаванай» дзяўчынай. Вядома, на пасаг адлічваў дзясятак-другі злотых з сямейнай скарбонкі пан Тадэвуш.

Неяк, калі ўвечары Касцюшка граў з капеланам у шашкі, то спытаў:

— Як так складваецца, святы ойча, што вы і айцец Матуш — такія розныя? Прытым, што царква ў нас — адзіная?

— Недарма сімвалам нашай каталіцкай веры з'яўляецца ружа, — вымавіў сямідзесяцігадовы капелан. — У ружы ёсць чароўны водар, прыгожыя пялёсткі. Але ёсць і шыпы. Ёсць падзвіжнікі і ёсць інквізіцыя. Ёсць бізундысцыпліна і ёсць міласэрнае слова спагады. Ты сам абіраеш, сыне мой, да чаго маеш схільнасць — да шыпоў ці пялёсткаў. У гэтым і ёсць найвялікшая ласка нашага Усемагутнага Госпада. Ён дае права выбару...

— Мне здаецца, ойча, што жыццё праходзіць дарма, — прызнаўся Тадэвуш, — што мог бы жыць лепей, прынесці болей карысці...

— Ты думаеш, сыне мой, быццам ведаеш, што табе патрэбна, — капелан пашавяліў пальцамі, абдумваючы мудрагелісты ход, — але насамрэч гэта ведае адзіны Бог. Ты незадаволены сённяшнім днём, а заўтра, магчыма,

будзеш узгадваць яго з замілаваннем. То не нудзіся ад таго, чаго не маеш, і будзь удзячны за тое, што ёсць, — і пабіў адразу тры Касцюшкавы шашкі.

Задаволена пацёр далоні, спытаў:

— Ведаеш, сыне, кім я марыў стаць у юнацтве? Генералам. Але бацькі, злітуйся Госпад з іх душаў, аддалі мяне ў кляштар. Я гараваў, а сёння ўдзячны ім. Я шчаслівы, што стаў святаром, а не кімсьці іншым. У войску я не спазнаў бы цудаў нашага свету, не зведаў бы тайнаў чалавечай душы...

— Мае бацькі хацелі бачыць мяне святаром, — усміхнуўся Тадэвуш. — А я стаў генералам... Забіваў людзей. Здзяйсняў смяротны грэх...

— Госпад кожнаму дае крыж, які той здатны цягнуць. Цябе, Тадэ, ён узнёс вышэй за іншых і спытае за гэта адпаведным чынам. Таму слухай сваё сумленне. Голас сумлення — гэта і голас Бога... Калі Госпаду заўгодна, ты дасягнеш і больш вышэйшых ступеняў. Але ў адпаведны час. Не раней.

Абодва пеоражагналіся. Тадэвуш апусціўся на калені, пацалаваў айцу Якубу руку. Потым сеў перад шашачнай дошкай, уважліва ацаніў сваю амаль прайграную партыю — і праз колькі хадоў перамог!

* * *

Наогул манаскі чын на Літве ў тую пару карыстаўся надзвычайнай павагай. Кожны ліцвін — і селянін, і шляхціц — размаўляў са святарамі, пераважна стоячы на каленях. У кожным гарадзе ўзвышаліся шпілі касцёлаў і кляштараў, у мястэчках меліся уніяцкая царква і сінагога, у маёнтках — капліцы са сваім капеланам. Амаль у кожным лесе была выкапана зямлянка, дзе жылі манахі-пустэльнікі. Карміліся яны звычайна за кошт паднашэнняў, але часам бралі сякеры ў рукі і рабавалі праезджых — самі сабе потым і даравалі грахі.

Болей за лясных пустэльнікаў шанавалі ў Кобрынскім павеце «дзявотку» Ядвісю, якая жыла ў драўлянай келлі на ўскраіне Жабінкі. Калісьці Ядвіся сышла з кляштара урсулінак, дзе парадкі падаліся ёй занадта мяккімі, і папрасіла месцічаў замкнуць яе ў сховішчы, дзе раней сушылі мяса. Як яна там не акалела зімой — аднаму Богу вядома, але пайшла пагалоска, што Ядвіся паспяхова замольвала грахі ўсёй Кобрыншчыны. Адпаведна ўсёй талакой яе і кармілі. Ежу падавалі ў шчыліну ў зачыненых звонку дзвярах. Пайсці з келлі-зямлянкі Ядвіся, вядома, ужо не магла. Бо хто ж тады замовіць за шматгрэшны Кобрынскі павет добрае слоўца Богу?

Аднак і нячысты дух не драмаў. Апанаваў аднойчы слабы розум манашкі, падбухторыў яе ўцячы са зняволення. Выпаўзла Ядвіся паўз адтуліну ў падлозе, прызначаную для здзяйснення натуральных патрэбаў, але далёка не збегла, яе злавілі, збілі да страты прытомнасці і пасадзілі назад. Такім чынам, д'ябал быў пераможаны.

Тадэвуш, пачуўшы ад слуг гэтую сумную прыпавесць, падумаў, што трэба яму паехаць у Жабінку ды вызваліць няшчасную пустэльніцу. Хацеў ужо каня запрагаць, ды Язэп адгаварыў, пераканаўча давёў:

— За такое святатацтва, Тадэ, айцец Матуш нам інтэрдыкт абвесціць. Ён нас не любіць... Як мы будзем жыць, адлучаныя ад царквы?.. Дый хіба не разумееш, што замест Ядвісі, якая, пэўна, даўно звар'яцела за кратамі, туды адразу пасадзяць іншую дзявотку. Ці варта мяняць быка на індыка?

Тадэвуш паслухаўся брата. Набожнасць тутэйшага люду часам бянтэжыла. Так, на свята Цела Хрыстова ў Сяхновіцкім храме, куды па настойлівым запрашэнні святара браты Касцюшкі прыйшлі памаліцца, давялося ім пабачыць, як прыхаджане пад уражаннем палкай прамовы ксяндза Матуша аб пакутах Хрыстовых з шалёнымі крыкамі біліся галовамі аб сцены і аб падло-

гу. Мужчыны абменьваліся аплявухамі, жанчыны гасілі аб сваё цела свечкі. Стараста сцягнуў з сябе кашулю, узмахнуў плёткай-дысцыплінай з валовай скуры і жалезнымі зоркамі на канцах, пачаў ірваць сабе плечы. Паколькі ранаў у Хрыста было пяць, то ўдарыў сябе стараста пяцьдзесят пяць разоў. Кроў пырскала на ўсіх, хто кленчыў побач. Браты Касцюшкі сыходзілі з касцёла запэцканыя крывёю з ног да галавы.

Па дарозе ў маёнтак Тадэвуш абурана казаў брату:

— Скура мёртвай жывёлы нявечыць жывых людзей! Дадумаліся ж да такога! Хіба гэта справядліва?..

Плётка-дысцыпліна свістала ў святы не толькі ў храмах.

Прыехаў аднойчы Касцюшка па запрашэнні да пана падкаморыя Рэйтаноўскага, які валодаў вёскай Мацяевічы. І трэба ж было яму патрапіць якраз тады, калі гаспадар спраўляў гавенне! Пан падкаморый запрасіў манахаў з бліжэйшага кляштара, выйшаў на двор і выгнаў усю чэлядзь, сам распрануўся па пояс і слугам загадаў. (Для жанчын, вядома, не зрабіў выключэння.) Манахі заспявалі малітвы. Літасцівы пан стаў хвастаць дысцыплінай то сябе, то чэлядзь. Слугі крычалі ад болю, а падкаморый роў на іх:

— Мой хлеб ясце, то і пакутуйце разам са мною!

Заўважыўшы Касцюшку, які спыніў каня ля брамы, Рэйтаноўскі радасна павітаўся, хвошчучы сябе на плячах:

— Госць у дом — Бог у дом. Далучайся, ваша мосць!

У Касцюшкі хапіла такту быць ветлівым. Сказаў:

— Бачу, ваша мосць вельмі заняты ўратаваннем душы...

— Але! — рыкнуў ягамосць. — Пан наш Езус Хрыстос цярпеў бічаванне. Мусім і мы цярпець. Распранайся, бяры бізун!

Касцюшка ўхіліўся ад гасціннага запрашэння.

— Няхай выбачае ваша мосць, у мяне яшчэ засталіся важныя справы. З дазволу вяльможнага пана заеду пазней! — павярнуў каня і даў шпоры.

Касцюшка гнаў каня і думаў: у небе сонца свеціць, а ў яго Айчыне пануе цемра. Цемра, што ўвасабляла гора тых, хто пакутуе. Цемра, што ўвабрала злосць тых, хто выракае на пакуты...

А мо проста ў яго пацямнела ў вачах ад нервовай узрушанасці?

* * *

Адзіны з суседзяў, які заўсёды рады быў вітаць у сваім маёнтку пана Тадэвуша, хто падзяляў ягоныя погляды і наваўвядзенні, быў адвакат Міхал Залескі. У яго Залессе Касцюшка ездзіў з ахвотай, адпачываў душою ў размовах. Сталіся яны добрымі сябрукамі.

Быў гэты Залескі шыракаплечы, рудавалосы і амаль безупынна дыміў люлькай з даўгім цыбуком. Рэдка можна было ўбачыць Міхала Залескага без жонкі Фаўстыны — грацыёзнай і далікатнай пані, з круглым тварам, тонкай таліяй, добрымі вачыма. Пані Фаўстына звычайна не ўмешвалася ў мужчынскія размовы, сядзела сабе ціхутка ў кутку, штосьці для дзетак шыла (іх было трое), але нічога па-за ўвагай не пакідала.

Любіў пан Залескі пасля вячэры пасадзіць Касцюшку перад камінам у крэсла, абабітае сіняй бавоўнай, пачаставаць згатаваным жоначкай пуншам, чарговы раз паслухаць гісторыю яго амерыканскай адысеі.

Звычайна распоседы Касцюшкі не вызначаліся красамоўнасцю. І пан Залескі штораз дзівіўся з такой нешматслоўнасці:

— Вы перажылі такія бурныя авантуры! І так сціпла пра іх распавядаеце!

— Не магу я шмат гаварыць пра сваю асобу, — вінавата ўсміхаўся Тадэвуш. — Мо хтосьці іншы калісьці раскажа пра мае гойсанні...

— Іншы ўсё пераблытае, прыпіша вам тое, чаго не рабілі, пра што і не думалі! — прарочыў Залескі, а потым з'едліва спытаў: — Ці чытаў ваша мосць апошні нумар «Новых Афін»? — і прынёс Тадэвушу часопіс.

Пагартаўшы варшаўскае выданне, Касцюшка даведаўся, што жыхары Амерыкі маюць сабачыя галовы і ядуць, пасыпаўшы соллю, уласныя языкі. Прычым гэта былі найбольш праўдападобныя звесткі.

— Дык вось, аказваецца, у якой краіне я ваяваў! — пасмяяўся Тадэвуш.

— Уявіце, што такія журналісты напішуць пра нашую эпоху праз сто ці дзвесце гадоў, — сур'ёзна сказаў Залескі.

— Цікава было б пачытаць!

* * *

На пачатку восені Касцюшку запрасіў у госці ў свой маёнтак на Наваградчыне стрыечны брат Рафал Заленскі.

Ад таго падарожжа засталіся ў Тадэвуша самыя прыемныя ўспаміны.

Спадабаўся яму брат, упадабаў і братаву жонку Мар'яну, у дзявоцтве — Верашчаку. Разам з Рафалам і Мар'янай з'ездзіў у госці да жончынай радні ў маёнтак Туганавічы недалёка ад Свіцязі.

Зачаравалі Касцюшку прыгажосць возера, валуны і плакучыя івы на берагах, а найбольш — паданне, што распавяла Мар'яна:

— Раней тут быў велічны горад. Шмат стагоддзяў таму акружыла яго татарская арда. Аблога доўжылася месяцамі. Нарэшце знясілелі абаронцы. Але горад так і не адчыніў браму татарам. Сышоў з жыхарамі пад зямлю. А на яго месцы разлілося возера, якое паглынула заваёўнікаў...

— Які жаль, што наша зямля не нарадзіла такога паэта, як Гамер! — пашкадаваў Касцюшка. — Якую велічную паэму мог бы ён сачыніць паводле гэтай легенды. Твор, які не саступіў бы «Іліядзе»! Свіцязь-горад — красамоўны сімвал старадаўняй Літвы. Адусюль нам пагражалі ворагі. Знясілілася легендарная Літва. Сышла ў нябыт, пакінуўшы нам паданні... А пра нас, баюся, і паданняў не складуць. Не заслужылі...

Спадабаліся Касцюшку і сціплая, утульная сядзіба Верашчакаў, дагледжаны Тугановіцкі парк. Сказаў гаспадарам:

— Тутэйшыя краявіды быццам створаны для кахання...

І не здагадваўся, што праз чатыры дзесяцігоддзі па сцяжынах таго парку будзе гуляць Адам Міцкевіч, які сачыніць паэму пра горад на Свіцязі і закахаецца ў ягоную далёкую сваячку — Марылю Верашчаку...

Узнёслае пачуццё не пакідала Касцюшку і падчас паездкі з Рафалам у Наваградак. Узышоўшы на Міндоўгаву гару, ён сказаў стрыечнаму брату:

— Я часта думаю, які лёс спасцігне нашу Бацькаўшчыну. Мы, ліцвіны, перажылі час свайго ўзлёту. Была пара — нашая дзяржава распасціралася ад Балтыкі да Чорнага мора. Князь Вітаўт садзіў на трон татарскіх ханаў і малдаўскіх ваявод. Але ў самой Літве падданым жылося не салодка. Пэўна, таму Літва цяпер толькі частка Рэчы Паспалітай, прычым не самая ўплывовая. Але і ў Рэспубліцы ніхто сябе ўтульна не адчувае — ні шляхта, ні магнаты, ні кароль. Таму я з трывогай гляджу ў будучыню...

— Я дзіўлюся: адкуль у вас бярэцца красамоўства, калі справа тычыцца грамадскага шчасця, і куды яно знікае, калі гаворка заходзіць пра вашы амерыканскія прыгоды? — зазначыў Заленскі. — Адкуль такая сціпласць?

— Толькі пачну пра сябе гаварыць — нібыта ў абцугі язык трапляе... — панурыўся Касцюшка.

І тады Заленскі зрабіў яму важную прапазіцыю:

— Я працую сакратаром пана ваяводы Наваградскага і мог бы вас рэкамендаваць як адданага патрыёта. Пан ваявода апякуе рэфарматараў. Думаю, вы з ім паладзіце...

— Буду вам удзячны, — прыклаў руку да сэрца Тадэвуш. — Шчыра кажучы, апрыкла мне дурнота нашай шляхты. Сядзяць у сваіх маёнтках, бы жабы на купінах, толькі сябе слухаюць... Часам здаецца, што і сам быццам патанаю ў гэтым балоце...

— Я адчуваю тое ж самае, пан Тадэвуш, — падзяліўся набалелым Рафал. — І часта задаю сабе пытанне: што я тут раблю? Ці не лепей з'ехаць за мяжу? У Францыю ці Амерыку... Там, кажуць, і парадку болей, і розуму ў людскіх галовах. А тут, у Літве, свядомае жыццё цалкам пазбаўлена сэнсу...

Убачыў Тадэвуш, што трэба яму не скардзіцца сваяку, які на дзесяць гадоў маладзейшы, а суцешыць гаротніка. Паклаў стрыечнаму брату руку на плячо, паглядзеў у вочы, упэўнена ўсміхнуўся:

— Паколькі мы з вамі, Рафал, у адрозненне ад многіх іншых, шукаем сэнс, то абавязкова яго знойдзем. І, магчыма, сённяшні боль стане крыніцай заўтрашняй моцы... Паверце, Рафал: на чужыне не лепш. Але мы можам зрабіць утульным свой край. І калі будзем змагацца за перамогу святла ў сваёй душы, то стане святлей і вакол нас...

Рафал схапіў яго далонь, пацалаваў, вымавіў:

— Умееце вы, пан Тадэвуш, словам загаіць душэўную рану...

* * *

Мог суцешыць Тадэвуш стрыечнага брата. Але не было побач нікога, хто суцешыў бы яго ў цяжкую хвіліну.

Такая выдарылася апоўдні 30 кастрычніка, калі Касцюшка выправіўся з сядзібы на праменад па ваколіцы.

Дарога вілася сярод пустых палёў. Праз сівыя воблакі падала сонечнае святло. Пахмурнеў лес удалечыні. На ўзбочыне калыхаўся ссохлы быльнёг. Кружыліся крумкачы над паніклай травой. Прахалода вужакай пранікала за каўнер падбітага футрам Тадэвушава кунтуша. Пад нагамі круціўся Зюзя — паўсюль цягаўся верны вартавы сабака за гаспадаром.

Па звычцы Касцюшка шпарка ішоў, пастукваючы па зямлі палкай з булдавешкай. І раптам задумаўся — а куды ён спяшаецца? Задумаўшыся, спыніўся, прытуліўся да прыдарожнай таполі. Узгадаў, як пазаўчора адсвяткаваў саракавы дзень нараджэння.

Пабаляваў у добрай кампаніі. Акрамя брата Язэпа, былі пан Міхал Залескі з жонкай Фаўстынай. Прыехаў з Наваградчыны стрыечны брат Рафал Заленскі з жонкай Мар'янай. Ірвалі струны на скрыпках запрошаныя вясковыя музыкі. Карчмар Сруль Пінхас ласкава прыслаў пяць бочак віна, прычым пятую — бясплатна. Піў Тадэвуш віно, танчыў з гасцямі, слухаў тосты ў свой гонар і думаў: лепшыя гады мінулі!

Падзьмуў вецер, прытуліў лісце таполі да галінаў, а галіны да шурпатага ствала. З поля чарадой узляцелі вароны, успудзілі карканнем усё навокал. Зюзя, круцячы хвастом, занепакоена глядзеў на гаспадара.

Паднёс Тадэвуш далонь да вачэй, горка ўсмінуўся выяве сярэбранага арла на сыгнеце:

— Адлёталі мы сваё, пара складсці крылы... Наш лёс нам не падуладны...

І так шкада было сябе! Колькі мог бы яшчэ карыснага зрабіць людзям, паслужыць Айчыне! Не зробіць, не паслужыць, згіне бясплодным пнём! Слёзы навярнуліся на вочы экс-генерала.

І з-за слёз не бачыў, што сярэбраны арол не складвае крылы, з надзеяй раскінуў іх у чырвоным полі, быццам хацеў сказаць: рана Касцюшка сябе шкадаваць! Лёс сапраўды непадуладны! І арол яшчэ ўзляціць да нябёсаў, а самотнік з літоўскай глушы стане нацыянальным героем!

## *1786 год*

Пасля Калядаў Тадэвуш атрымаў ліст ад княгіні Любамірскай.

Людвіка віншавала з заканчэннем амерыканскай адысеі ды шкадавала, што не можа запрасіць у госці да сябе на Валынь, паколькі цяжарная, носіць чацвёртае дзіця.

Усхваляваны Касцюшка зняў з шыі медальён, які насіў ужо дзесяць гадоў, паглядзеў на партрэт Людвікі, намаляваны ім улетку 1775-га. Хацеў бы ён убачыць, якой стала яна цяпер!.. І чаму так горка чытаць пра яе цяжарнасць? Хіба мог ён сапраўды ажаніцца з ёй?..

У пастскрыптуме Людвіка звярталася з просьбай: «Мая кузіна па бацькоўскай лініі Хрысціна Сульпінская ўвесну прыязджае ў свой маёнтак у Дубалеках. Паўгода таму неспадзявана памёр яе муж. Паколькі жылі яны ў Варшаве, дзе ты сам ведаеш якая дарагоўля, то з усёй маёмасці ў Хрысціны засталася Дубалекаўская сядзіба і сем навакольных вёсак. Гаспадарка адышла ёй паводле тастаменту мужа. Аднак цяпер на тую гаспадарку прэтэндуе брат нябожчыка Каспар Сульпінскі, вядомы сваім шалёным норавам. Раней і ён жыў у Варшаве, але прайграўся там да ніткі, і зараз у яго валоданні засталася вёсачка Федзюкі. Каспаравы прэтэнзіі беспадстаўныя, што ён і сам разумее. Але ён належыць да світы князя Караля Радзівіла, і гэтая акалічнасць дае падставы пагражаць наездам на Дубалекі. Няма каму абараніць бедную ўдаву. Мо ты не адмовішся? Прынамсі, кузіна распытвала мяне аб тваіх прыгодах і шчыра захаплялася тваёй асобай. Мо і яе асоба зацікавіць цябе? Хто можа спасцігнуць, якім чынам зviваюцца і разыходзяцца сцежкі чалавечых лёсаў?..»

Дачытаўшы, Касцюшка рассмяяўся — не без горычы. Людвіка сватае яго! За ўдаву, пра якую ён нічога не ведае! Хоча парадніцца з ім хоць такім чынам. О, непрадказальнае жаночае сэрца!..

Адразу ж даслаў адказ на Валынь: вядома, ён прапануе пані Хрысціне сваю абарону на час яе знаходжання на Кобрыншчыне! Ваяваў з брытанцамі, саўладае і са шляхціцам Сульпінскім...

* * *

Людвікін ліст стаў першым звяном у ланцугу далейшых бурлівых падзей.

Другім звяном сталася канфідэнцтва Касцюшкі — яго ўзяў пад апеку навагрудскі гетман Юзаф Несялоўскі.

Тое важнае здарэнне адбылося ў лютым, калі ў наваколлі снег валіў амаль безупынку. На дарогах выраслі высокія сумёты. Пра такое надвор'е сяляне казалі: у зімы жывот вялікі.

Пан ваявода запрасіў паводле пратэкцыі Рафала Залескага, які працаваў сакратаром ягамосці, сяхновіцкага гаспадара на імяніны сваёй жонкі.

Акрамя Касцюшкі, у ваяводскі маёнтак прыехалі з розных ваяводстваў яшчэ звыш тысячы гасцей. Баляванне было шчодрым і доўжылася тыдзень.

Касцюшку пан ваявода даў прыватную аўдыенцыю на пяты дзень.

Пяцідзесяцісямігадовы Юзаф Несялоўскі мог нечакана задрамаць за сталом ці ў час размовы. Аднак, размаўляючы з Касцюшкам, не прыкархнуў, праявіўшы тым глыбокую павагу да пана Тадэвуша.

— Баявому генералу жыць у краіне, якая паўстагоддзя ўжо не ваюе, відаць, тое ж самае, што арлу сярод вераб'ёў... — гаварыў Несялоўскі, між тым як Рафал Заленскі падліваў ім абодвум віна ў келіхі.

Тадэвуш пакруціў на пальцы сыгнет, паглядзеў на выяву сярэбранага арла на пячатцы, прызнаўся:

— Літоўскае неба — не для арлінага палёту. Але арол не стане пагарджаць вераб'ямі. Бо вераб'іная зграя можа закляваць адзінокага арла...

— Арол можа ўзяць у саюзнікі сокала, — алегарычна запрапанаваў сваю пратэкцыю ваявода. — І будуць разам сцерагчы нашу мілую Айчыну...

Касцюшка з падзякай прыклаў руку да сэрца і схіліў галаву ў паклоне.

Потым яны пілі віно, сілкаваліся цукровымі пернікамі, гаварылі пра набалелае. Шмат у чым мелі згоду, але ў нечым і разыходзіліся.

Пагаджаліся, напрыклад, што войска Рэчы Паспалітай — 17 тысяч польскіх жаўнераў і 5 тысяч літоўскіх — вартае жалю: не мае ні адпаведнай падрыхтоўкі, ні баявога вопыту, ні нават вартаснай артылерыі.

— А маглі б паставіць пад ружжо і сто тысяч! — гарачыўся ваявода.

— А колькі наогул народу жыве ў Рэспубліцы? — удакладніў Тадэвуш.

— Паводле апошняга перапісу, каля дзесяці мільёнаў у Польшчы і на Украіне ды каля шасці на Літве і ў Жамойці...

— Баяздольны звычайна кожны дзясяты, — падлічыў Касцюшка. — Значыць, мы можам утварыць армію амаль у мільён салдат. Гэта будзе ўдвая больш, чым зараз у Расіі. У пяць разоў больш, чым у Прусіі...

Несялоўскі пакруціў галавой:

— Немагчыма. Усёй шляхты ў Рэчы Паспалітай каля шасцісот тысяч...

— Трэба заахвочваць да службы сялян. Гарантаваць ім волю, зямельны надзел — у адпаведнасці з тэрмінам службы...

— А хто ж тады працаваць на зямлі стане? — здзівіўся ваявода. — Халоп да зямлі не схіліцца, калі над ім цівун пугай не ўзмахне...

— Трэба кардынальна змяніць гаспадарчы лад краіны, — развіваў думку Тадэвуш. — Няхай прымус шляхты над сялянамі саступіць узаемакарыснай залежнасці. Халопы з ахвотай стануць працаваць на зямлі, якую ім аддадуць у пажыццёвае карыстанне. Землеўладальнікі — атрымліваць сваю долю з плёну сялянскай працы... Трэба развіваць і фінансавую сістэму! Бо грошы — гэта кроў гаспадаркі. І адукацыю, вядома. Будзе менш забабонаў, цемрашальства...

Несялоўскі скептычна ўсміхнуўся:

— Асабіста я не згодны з такімі думкамі вашай мосці. Іх ажыццяўленне народзіць крывавую анархію. Халопу толькі дай штык у рукі! Ён не Айчыну стане бараніць, а свайго пана на той штык насадзіць... Але такія смелыя ідэі наогул карысныя тым, што ўскалыхнуць соннае балота нашай грамадскай думкі. Паболей такіх патрыятычных канцэпцый — і ў Рэспубліцы пачнуцца хоць нейкія рэформы... Чаму б пану Тадэвушу не аформіць свае развагі ў мемарандумы? З ахвотай іх пачытаю, адашлю сябрам у Варшаву, у Вільню...

Касцюшка ўпадабаў ідэю ваяводы. Насамрэч, у яго столькі ідэй! Няўжо ўсё марна згіне?.. А занатаванае на паперы слова мо і пераднвіе аўтара, паслужыць камусьці душэўным спажыткам...

Акрамя таго, пан Несялоўскі пацікавіўся:

— Чаму б вашай мосці не балатавацца дэлегатам? На заканадаўчым сходзе слова сумленнага ваяра важыць больш, чым лямант прадажных крыкуноў. У будучым годзе адбудуцца выбары ў павятовы сеймік. Затым — у ваяводскі

сейм. А потым збярэцца ў Варшаве Вялікі Сейм... Вы гатовы адстойваць у Сейме інтарэсы нашай Літвы?

— Я гатовы жыццё аддаць за Айчыну, — сур'ёзна сказаў Тадэвуш.

— Дык вып'ем за дэпутата Касцюшку з Камянецкага павета! — падняў келіх Юзаф Несялоўскі.

Выпілі, разбілі кубкі аб падлогу. Потым Касцюшка папярэдзіў:

— Чуў я, што выбары каштуюць дорага, а ў мяне бракуе сродкаў, каб частаваць выбаршчыкаў...

— Гэта ўжо мой клопат, — запэўніў ваявода. — А нашыя выдаткі з лішкам аплаціць князь Чартарыйскі. Ён і ваш, і мой даўні апякун. Чартарыйскі не шкадуе грошай, каб у Сейм абралі як мага больш патрыётаў і прыхільнікаў рэформаў. Бо калі такіх, як мы з вамі, будзе большасць, то лёгка змусім караля падпісаць карысныя для Рэспублікі законы.

Касцюшка і гэты план упадабаў:

— То добра! Няхай перамены адбываюцца мірным шляхам. Няхай ліецца чарніла, а не кроў... У Амерыцы на вайне я шмат паскудстваў пабачыў. Не хачу, каб і ў нас такое паўтарылася...

Перад тым як развітацца Несялоўскі сказаў яму:

— Здарыцца з вамі бяда — звяртайцеся па дапамогу. Абараню, як змагу. Я — ваявода, не апошняя птушка ў нашай ліцвінскай зграі...

Ахмялелы Тадэвуш апусціўся на калена і пацалаваў руку яго міласці.

* * *

У пачатку вясны задзьмуў на Палессі цёплы вецер. Чарнелі ад праталін дарогі, сыходзіў снег з палёў, каб даць волю вясковаму плугу, але шэрымі жмутамі яшчэ залежваўся ў навакольных лясах.

Трыццацігадовая пані Хрысціна Сульпінская нарэшце прыехала з Польшчы ў свой маёнтак у Дубалеках і адразу ж запрасіла пана Касцюшку.

Не чакаў Тадэвуш сустрэць у кобрынскай глушэчы такую адукаваную і абаяльную жанчыну! Раскошныя чорныя валасы пані Хрысціна не хавала пад парыком на манер правінцыйных модніц. Стройны стан падкрэслівала жоўта-зялёная шнуроўка. Пакатыя плечы і грацыёзную шыю адкрывала навамодная французская сукенка. На белым, бы парцэляна, твары чарнелі танюткія бровы, а вейкі нагадвалі мяккія крыльцы баечных мятлушак. У ее голасе спалучаліся душэўная параненасць, пачуццёвасць і нявіннасць. Голас пані Хрысціны вабіў і зачароўваў, гарэхавыя вочы глядзелі на Тадэвуша з пяшчотай і павагай, а з вуснаў амаль не знікала ўсмешка.

Папалуднічалі фаршыраванай рыбай і бабрынымі хвастамі.

Як чалавек выхаваны Касцюшка перад тым, як сесці за стол, нацягнуў лайкавыя пальчаткі — каб не запэцкаць рукі тлушчам.

— А ў Амерыцы карыстаюцца кавалкамі тканіны, называюцца сурвэткі, — узгадаў ён, — аб іх выціраюць рукі пасля ежы...

— Навошта? — здзівілася пані Сульпінская. — Гэта ж нязручна...

Сама не нацягвала пальчатак, але паводле тагачаснага звычаю выцірала запэцканыя далоні аб светлыя валасы малой служанкі, якая дзеля гэтага і прысутнічала пры трапезе.

Пасля рыбы перайшлі да лікёру і прысмакаў.

Вядома, спярша гаворка тычылася Людвікі Сасноўскай. Яшчэ б: яе ліст даў ім нагоду сустрэцца!.. Потым, зразумела, гутарка зайшла пра амерыканскую адысею пана Тадэвуша. І хоць Касцюшкаў расповед, як звычайна, быў сціплым, але пані Хрысціна з амаль дзіцячым імпэтам распытвала госця пра кож-

ную дробязь: як апраналіся філадэльфійскія жанчыны? Якімі прысмакамі сілкаваліся ў нью-йорскіх салонах? Што адчуваў пан Тадэвуш, калі вёў жаўнераў у атаку пад Йорктаўнам?..

— Слухаю пана — і быццам сама падарожнічаю ў далёкі край, ваюю за чужую свабоду, — палка прамовіла пані Хрысціна. — Асоба пана Тадэвуша для мяне — клад, неспадзявана знойдзены... А я ж так мала бачыла шчасця! Мой шлюб быў непрацяглым...

— Прашу прабачыць мне, калі маё пытанне падасца недалікатным, але што стала прычынай смерці пана Сульпінскага?

На Хрысцініным ілбе пазначыліся маршчынкі, вочы пасуровелі.

— Яму стала блага пасля балявання ў палацы князя Паца. Паклікалі дактароў. Яны тройчы пускалі кроў... Не дапамагло. Ён памёр уранку. А я дала зарок болей не вяртацца ў Варшаву... — і ціха дадала: — За тыдзень да смерці муж казаў, быццам малодшы брат прагне ягонай смерці. Мяркую, Каспар яго атруціў. Але не маю доказаў. А пан Каспар цяпер паўсюль крычыць, нібы гэта я забіла мужа... Крыўдна, горка...

Выразна паглядзела ў вочы Тадэвушу, сумна ўсміхнулася:

— Але я не адчайваюся. Бо пакуль мы жывыя — усё магчыма! Хіба не?..

З Дубалекаў Касцюшка вяртаўся ў Сяхновічы з думкай: «Здаецца, я мог бы яе пакахаць... Нездарма і Людвіка раіла...»

Каб суняць сумленне, пакруціў на пальцы сыгнет, звярнуўся да птушынай выявы на пячатцы: «Ці не здраджу я такім чынам даўняму каханню? Ці не здраджу памяці пра нашае з Людвікай лета 1775-га?..»

Сярэбраны арол распасціраў крылы ў чырвоным полі, нібы адказваў: мінула ж адзінаццаць гадоў! Нельга дажываць свае дні бабылём! Калі хоча сэрца пакахаць, то так і трэба!

«І ўсё ты разумееш! — падзякаваў Тадэвуш старому сябру. — І мае рацыю Хрысціна — усё магчыма...»

* * *

У красавіку неспадзявана загрымеў пасярод чыстага неба першы гром. Касцюшку ён падаўся падобным да стрэла з гарматы. Ці не знак гэта лёсу?

Доўга ўзіраўся ў бяздонны блакіт, спрабуючы зразумець гэтую прыкмету — нічога не ўгледзеў. Чаму ж, аднак, у душы пасялілася гнятлівае прадчуванне? Нешта такое адчуваў ён увосень 1775-га, калі ў Варшаве яго ледзьве не арыштавалі гайдукі ваяводы Сасноўскага...

Сяхновіцкія сяляне спяшаліся з сяўбой, памятаючы старадаўні запавет: хто вясной шчыруе, той восенню не бядуе.

А Касцюшка паехаў у Камянец — суправаджаў пані Хрысціну на павятовы суд, дзе абмяркоўвалася скарга на яе пана Каспара Сульпінскага. Вядома, суправаджаў не адзін. Акрамя яго і пані Хрысціны, у карэце ехалі дзве служанкі — Зоська і Данута. Служанкі аказаліся добра выхаваныя — да горада рота не расчынялі, вачэй на паноў не падымалі.

Пасяджэнне адбывалася ў шырокім двары дома павятовага войта. Яго слугі і з'яўляліся судовымі выканаўцамі. Пасярод двара быў укапаны дубовы кол. Трое суддзяў сядзелі на памосце, зацікаўленыя асобы — на лавах па абодва бакі. Ля брамы гуртаваўся натоўп месцічаў. Як пачуў пан Тадэвуш, іх цікавіла не звадка Сульпінскіх, але абвешчанае пакаранне нейкага злодзея.

З поўдня і амаль да вечара доўжылася слуханне справы Сульпінскіх. Уладальнік вёсачкі Федзюкі пан мечнік Каспар — нізкарослы, з рабацінiстым тварам і кароткай барадой, ужо на добрым падпітку, ад чаго часам рэзка хістаўся — скардзіўся на ўладальніцу сядзібы Дубалекі і сямі наваколь-

ных вёсак, даводзіў шаноўным суддзям, нібыта пані Хрысціна Сульпінская, у дзявоцтве — Камажэўская, валодае імі незаконна. У якасці доваду спасылаўся на волю малодшага брата — мужа пані Хрысціны.

— Аляксандр казаў мне па вялікім сакрэце, што збіраецца развесціся з жонкай! — крычаў пан Каспар. — Ён падазраваў яе ў намеры атруціць яго. Што яна потым і зрабіла!

Праўда, доказаў, якія пацвярджалі б ягоныя словы, пан Каспар не меў.

— Але клянуся ўратаваннем сваёй грэшнай душы! — ледзьве не ляманаваў пан мечнік. — Мае прэтэнзіі лічыць справядлівымі сам князь Кароль Радзівіл, да світы якога маю гонар належаць!

Апошні довад быў самым важкім у прамове абвінаваўцы. Перад неўтаймаваным норавам нясвіжскага валадара, які лічыў сваю прыхамаць вышэйшым законам для ўсіх, дрыжэлі суддзі па ўсёй Літве. Неаднойчы Радзівіл на чале буйной світы штурмаваў судовыя будынкі, вызваляў зняволеных і абражаў словам і справай служак Феміды.

Аднак Касцюшка загадзя паклапаціўся на гэты конт. Праз брата Язэпа, які быў з камянецкімі суддзямі на кароткай назе, ім былі перададзены каштоўныя прэзенты са скарбонкі пані Сульпінскай. Да іх дадаў пан Тадэвуш і парачку ўласных паясоў персідскага вырабу.

Не дзіва, што справядлівасць перамагла. Суддзі хутка абмеркавалі акалічнасці гэтай справы і вынеслі вердыкт: Дубалекі і навакольныя вёскі Залессе, Навасёлкі, Сіўкі, Кастары, Вялічковічы, Хацівалі, Ставы застаюцца за ягамосцю паняй Хрысцінай Сульпінскай, якая валодае імі з поўным правам на падставе тастамента нябожчыка-мужа. Судовыя выдаткі належала сплаціць пану Каспару Сульпінскаму.

Недачытаў яшчэ судзейскі сакратар пратакол, а пан Каспар ужо выхапіў шаблю з похваў (тое ж зрабілі і дзесятак ягоных таварышаў-шляхціцаў) і памкнуўся да пані Хрысціны, ашалела роў, пырскаючы слінай:

— Ты, гадаўка, і тут усіх перахітрыла! Але сцеражыся! Я аднаўлю справядлівасць! Смерць табе будзе не пакараннем, але дараваннем!

Касцюшка выхапіў з-за пояса пісталеты, узвёў куркі. Папярэдзіў:

— Яшчэ крок — і грэшная душа вашай мосці выправіцца ў пекла...

Пан Каспар з душою развітвацца не спяшаўся, таму, рассякаючы шабляй паветра, пайшоў з таварышамі ў шынок.

* * *

Пані Хрысціна асабіста падзякавала суддзям. А тым часам у двор панабіўся народ. Людзі стаялі шчыльна — не праштурхнешся да брамы. Давялося Касцюшку і Сульпінскай затрымацца, перачакаць, седзячы на лаве, яшчэ адно пасяджэнне.

Судзілі валацугу, схопленага летась сялянамі ў той момант, калі краў мёд на пасеках каля вёскі Хабы. Затрыманы прасядзеў у вязніцы войтавага дома паводле старадаўняга звычаю год і шэсць тыдняў. За гэты час слугі ягамосці пана войта апыталі вяскоўцаў, занатавалі паказанні. Сам арыштаваны — зарослы сівізной, у лахманах — нічога ў сваю абарону не гаварыў, адно захінаў твар ад сонечных прамянёў. Пэўна, за час зняволення чалавек, ад якога невыносна патыхала, згубіў рэшткі розуму. Такім чынам шаноўны суд меў дастаткова падстаў для смяротнага выраку — «на горла».

Цяпер Касцюшка зразумеў, навошта пасярод двара быў укапаны кол.

Судзейскія выканаўцы прыцягнулі злодзея да завостранай дзеравякі, сцягнулі з яго кашулю, успаролі яму жывот, выцягнулі кішкі, зачапілі за вастрыё і пачалі біць палкамі, ганяючы вінаватага наўкола.

Гледачы-месцічы азвярэла зараўлі, зацюгалі.

Тадэвушу было невыносна глядзець, як намотваюцца на дрэва бялява-акрываўленыя кішкі, слухаць, як нема раве іх уладальнік. Апусціў вочы, паўшчуваў сябе: з чаго зрабіўся такім далікатным? Хіба не бачыў у Амерыцы знявечаныя трупы забітых? Хіба на вышынях Бемуса не страсаў з мундзіра мазгі артылерыста, якому куля раскалола галаву?.. Але там была вайна. А тут — катаванне...

Апусціла вочы і пані Хрысціна. За гэта Тадэвуш быў ёй удзячны.

Натоўп доўга не разыходзіўся, з жартамі і кпінамі пазіраючы, як канае злодзей, прымацаваны да кала моцным ланцугом.

Пані Хрысціна ціха спытала Тадэвуша:

— Хіба на Літве крадзеж мёду не лічыцца страшным злачынствам? Такім жа, як паляванне на баброў ці забойства чалавека...

— У Амерыцы я добра падзабыў нашы звычаі, — прызнаўся Касцюшка. — І ўсё ж, здаецца мне, за крадзеж чалавека пакаралі надта строга...

Пані Хрысціна не адразу сцяміла, каго ён мае на ўвазе:

— Якога чалавека? Гэтага злодзея? Ён жа нават не халоп. Так, валацуга...

Валацуга ляжаў на акрываўленым пяску, адкінуўшы галаву, стагнаў і час ад часу ўздрыгваў.

Пан войт запрасіў суддзяў павячэраць у ягоным доме. Сталі разыходзіцца і месцічы, пакрысе пусцеў двор.

Касцюшка падаў руку пані Сульпінскай. Хрысціна паднялася, паправіла шырокую спадніцу. Калі падыходзілі да брамы, Тадэвуш выняў пісталет з-за пояса, узвёў курок і стрэліў пакаранаму ў галаву.

Пані Хрысціна ўздрыгнула ад нечаканасці, а Касцюшка выняў з-за пояса і другі пісталет, выразна паглядзеў на судовых выканаўцаў.

Тыя не ведалі, як адрэагаваць на выбрык сяхновіцкага пана. Так і засталіся ля акрываўленага кала вачыма лыпаць.

* * *

Карэта і служанкі чакалі пані Хрысціну і пана Тадэвуша недалёка ад шынка. У меру ахмялелы кучар плясnуў пугай. Зарыпелі, патанаючы ў дарожных каляінах колы.

Па дарозе назад служанкі Данута і Зоська аказаліся больш гаваркімі, падрабязна пераказвалі гаспадыні ўсе плёткі, якія за дзень пачулі ў горадку. Пан Тадэвуш у размову не ўвязваўся, заняты важнай справай — падняў з-пад сядзення скрыню з боепрыпасамі. Прачысціў шомпалам ствол пісталета, засыпаў пораху з ражка, увагнаў кулю.

Яго прыгожая спадарожніца нарэшце падала знак служанкам, каб маўчалі да самай сядзібы, і звярнулася да Касцюшкі:

— Пан Тадэвуш лічыць свой учынак праявай гуманнасці?

— Што ваша міласць мае на ўвазе?

— Адзін Бог адмярае, колькі доўжыцца зямное існаванне кожнай істоты. Нават злодзея-валацугі. А пан Тадэвуш...

— Я лічу, што злодзей, які нешта скраў, павінен сядзець у турме і выконваць якую-небудзь працу, — сказаў Касцюшка, — і частку заробку ўлады мусяць сплачваць тым, хто пацярпеў ад яго ліхадзейства. Наша заканадаўства павінна быць больш гуманным...

У Сульпінскай меліся свае погляды на гэты конт:

— Хіба не страх суровага пакарання ратуе нас ад паўсюднага разбою? Мой муж, злітуйся Гасподзь з яго душы, казаў, што трэба бязлітасна караць за нікчэмныя правіны. Тады ніхто не адважыцца на сур'ёзныя злачынствы...

— Тое ж самае дваццаць стагоддзяў таму сцвярджалі кітайскія філосафы-легісты пры двары імператара Шы Хуана. Але жорсткасць не ўратавала імпе-

рыю Цынь ад развалу, а яе падданых — ад нягодаў. Рэч Паспалітая, як і ўся Еўропа, жыве па законах легістаў. Жорсткасці ў нашым заканадаўстве шмат. Але хіба менш ад таго злачыннасці?

— Вы абураецеся старадаўнімі норавамі, але дзе доказы, што новыя законы не прынясуць болей шкоды? — не саступала пані Хрысціна.

Касцюшка не прыдумаў, як запярэчыць, панурыўся.

Між тым карэта далёка ад'ехала ад Камянца. І да бліжэйшага жытла яшчэ было далёка. З правага боку цягнуўся хвойнік, з левага — палі, засеяныя грэчкай. Раптам фурман стаў насцёбваць коней, перапуджана загарланіў:

— Пагоня, ваша мосць!

Карэту так падкідвала на калдобінах, што Сульпінская, Касцюшка і служанкі стукаліся галовамі аб дахаўку. А кучар, азіраючыся, лямантаваў:

— Яны блізка! Што з намі будзе?

Завішчалі і Данута з Зоськай. Хоць і пад трыццаць было абедзвюм, але хваляваліся за свой жаночы гонар, бяяліся гвалту!

Касцюшка высунуўся ў акенца, крыкнуў кучару:

— Спыніся!

— Пан зусім страціў розум? — учапілася ў яго руку пані Хрысціна.

Касцюшка выйшаў з карэты, спыніўся пасярод дарогі з пісталетамі ў руках. Куфэрачак з боепрыпасамі перадаў Дануце — тая падалася яму больш спакойнай. Хрыпелі, фыркалі, білі капытамі ўзмыленыя коні. Асядаў па ўзбочынах узняты коламі пыл.

Побач спынілася Хрысціна. Паправіла капялюшык, упрыгожаны кветкамі, адкінула з ілба пасму валасоў. Служанкі хаваліся за яе спінаю.

— Лепей вашай мосці застацца ў карэце, — параіў Касцюшка.

— Чаму мы стаім? — нервова спытала Сульпінская.

На захадзе барвавела сонца, да паловы схаванае за небакраем. З таго боку імчалі дзесяць коннікаў, наперадзе — Каспар Сульпінскі.

— А якія шанцы ў нас уцячы? — прыжмурыў вока Тадэвуш, прыкідваючы адлегласць. — Ніякіх. Значыць, трэба прымаць бой... Праўда, мы пакуль не ведаем, ці благія ў іх намеры? Мо пан Каспар хоча мірна дамовіцца...

Наконт Каспаравых намераў пані Хрысціна не мела сумненняў. Спытала:

— Навошта ж ён абраў для размовы такое глухое месца?

Кучар, пэўна, быў упэўнены, што дажывае апошнія хвіліны. Зляцеў з козлаў, падбег да пані Сульпінскай, паваліўся ёй у ногі, закрычаў:

— Выбачай, ваша мосць, саграшыў з пакаёўкай!

— З Анэляй?! — здзівілася Хрысціна. — Калі ж паспелі?

— У кладоўцы, ваша мосць...

— Вернемся ў сядзібу, абаім дам плягаў, — прыгразіла пані.

А саму прабірала нервовая трасца.

Вершнікі былі ўжо ў трыццаці кроках ад карэты.

— Прыйшоў час расплаты, гадаўка! — ашалела роў Каспар Сульпінскі. — І табе, і твайму памагатаму!

Данута з Зоськай таксама вырашылі, што прыспела пара ачысціць душу перад уваходам у царства нябеснае. Паваліліся на калені, але паспавядацца не паспелі. Касцюшка ўскінуў пісталет, стрэліў.

Дзіка заіржаў падбіты конь, кульнуўся цераз галаву пан Каспар.

Тадэвуш перавёў подых, стрэліў з другога пісталета. Ні ў кога не патрапіў, але астатнія коннікі спыніліся. Ён перазарадзіў зброю.

Але вершнікі не спяшаліся ў атаку. Касцюшка падстрэліў завадатара пагоні, а іншыя не хацелі рызыкаваць жыццём. Так і не выхапілі шабляў з похваў. Падабралі пана Каспара ды павярнулі назад, зніклі ў прыцемках.

А кучар падняўся з калень, пачціва спытаў гаспадыню:

— Мо яснавяльможная пані адменіць плягі? Мо лепей загадае ажаніцца з пакаёўкай? Я буду ёй добрым мужам...

— Падумаем, — ціха прагаварыла Хрысціна.

А служанкі пераглянуліся ды кінуліся ў ногі пану Тадэвушу, сталі ў знак падзякі яму калені цалаваць. Касцюшка адчуў сябе няёмка, паспешліва адышоў да ўзбочыны, дзе ляжаў паранены конь, кінуты вершнікамі.

Падстрэленая жывёла хрыпела, перасоўвала пярэднімі нагамі. Чырванню блішчэла конскае вока.

Касцюшка схіліўся над жывёлай. Ці можна яе ўратаваць?.. Ды дзе ж уратуеш, калі шыя прастрэленая!

Тадэвуш прыставіў пісталет да конскага вуха, вымавіў:

— Даруй, — і націснуў на курок...

Па галявіне, паварушыўшы траву і грыву забітага каня, прабег цёмны вецер. У полі палахліва свіснуў суслік.

Калі карэта кранулася, пані Хрысціна на свой капыл выказала падзяку ўратавальніку — вярнулася да перарванай размовы, узгадала часы шлюбу:

— Калі мы жылі ў Варшаве, то па святах ездзілі з мужам на Рынкавую плошчу, глядзелі, як караюць злодзеяў. Звычайна там збіраліся імянітыя варшавянкі, хваліліся ўборамі... Паводле польскіх звычаяў, гвалтаўнікоў садзілі на кол, ліхвяроў рассякалі на часткі сякерай, богазневажальнікаў ламалі калом, гандляроў крадзеным вешалі за жэбры на крук... І мне здавалася, што інакш і быць не можа. Справядлівасць павінна быць суровай. Але словы пана Тадэвуша нагадалі мне пра адну кнігу з нашай хатняй бібліятэкі. Не памятаю зараз назвы. Там распавядалася пра герцага Тасканскага, які яшчэ сто гадоў таму сваёй уладай змякчыў многія пакаранні. Адмяніў катаванні ў час следства, забараніў нявечыць асуджаных. Затое павялічыў штат паліцэйскіх чыноўнікаў. І праз дваццаць гадоў такой практыкі злачынстваў у Таскане стала ў дваццаць разоў менш! Памятаю, я тады падумала: італьянцы больш далікатныя, чым мы. У іх старажытная культура, а ў нас суцэльная нявыхаванасць... А вось цяпер зразумела: і пан Тадэвуш, як некалі герцаг Тасканскі, мае рацыю.

Касцюшка нізавошта не прыдумаў бы такіх довадаў у абарону сваёй ідэі. Якая гэта слодыч — слухаць разумную кабету, якая пазірае так прыязна!

Тадэвуш з падзякай усміхнуўся ёй.

— Мне падабаецца, што вы часта ўсміхаецеся, — сказала Хрысціна.

— Янкі лічаць, што ўсмешка прыцягвае ўдачу...

— Сёння — прыцягнула... Нам бы з вамі нарадзіцца дзесьці ў Таскане!

— А лепей тут наладзіць парадкі, як у Таскане...

— У Дубалеках будзем позна, — сказала Сульпінская. — Пан Тадэвуш акажа вялікі гонар майму дому, калі застанецца начаваць...

Касцюшка занепакоіўся пра яе рэпутацыю:

— Ці не падумаюць штосьці благое суседзі, калі халасцяк застанецца на ноч пад адным дахам з удавой?

— А каму належыць наш лёс — нам або суседзям? — засмяялася яна.

* * *

Па вяртанні ў сядзібу памаліліся, потым павячэралі.

Заначаваў Касцюшка ў флігелі, у гасцявым пакоі.

Далёка за поўнач да яго прыйшла Хрысціна. Начны змрок для абаіх напоўніўся шчасцем і пяшчотай.

Верная служанка Зоська да ранку дзяжурыла на лаве ў калідоры — пільнавала, каб хтосьці са слуг не з'явіўся неспадзявана.

Калі Тадэвуш прачнуўся, Хрысціны побач не было, толькі водар яе валасоў застаўся на падушцы ды запіска ў пару слоў: «Усё магчыма».

Пасля ранішняй малітвы за сняданкам абое не ўзгадвалі ноч кахання — паводле маўклівай згоды. Абмяркоўвалі іншае — як быць далей?

— Пан Каспар падасць апеляцыю, — сказала пані Сульпінская, — і на гэтым не супакоіцца. Баюся, пагоня — толькі пачатак...

— Мо паспрабаваць з ім дамовіцца? — прапанаваў Касцюшка. — Павінен жа і ён разумець, што благі мір лепей добрай звадкі...

— Пан Тадэвуш не ведае, які гэта страшны чалавек, — пакруціла галавой Хрысціна. — Мой муж перыядычна адкупляўся ад яго вёскай-другой, абы той не звяртаўся ў суд, не аспрэчваў бацькоўскі тастамент. А нахабны пан Каспар што ні атрымае — усё прайграваў у карты. Калісьці Сульпінскія валодалі буйнымі латыфундыямі. Цяпер засталося сем вёсак у мяне і адна — у яго. Пан Каспар дагэтуль не разлічыўся з даўгамі. Мой пасаг — адзінае для яго ўратаванне. Ён не кідаецца пагрозамі...

Касцюшка ўсё ж не губляў надзеі на прымірэнне.

— Сам я, вядома, да яго не паеду. Адпраўлю Язэпа...

— Наўрад ці Каспар збаіцца пана суддзі, — разважала пані Хрысціна. — На Літве ніхто не заклапочаны выкананнем судовых распараджэнняў. Акрамя зацікаўленых бакоў. А хто зацікаўлены ў абароне беднай удавы? Бадай, адзін пан Тадэвуш. Але моцы адважнага пана Тадэвуша будзе мала, каб стрымаць, не дай Божа, наезд на сядзібу...

Пан Тадэвуш зарыентаваўся маланкава. Прыкінуў:

— Я звярнуся па дапамогу да ваяводы Несялоўскага. І рэкруціруем вашых мужыкоў. Колькі наогул вашай мосці належыць душ?

Уладальніца Дубалекаў і навакольных вёсак не мела на гэты конт аніякага ўяўлення. Яна паклікала служанак, загадала расшукаць аканома.

Неўзабаве аканом — хударлявы, стрыжаны пад гаршчок саракагадовы мужчына з вострай русай барадой — жвава прыклыпаў, пакланіўся і павядаміў: у вёсках Залессе, Навасёлкі, Сіўкі, Кастары, Вялічкі, Хацiволі, Ставы жыве звыш двух тысяч душ, улічваючы жанчын, немаўлят і нямоглых. Паншчыну адпрацоўваюць чатыры дні на тыдзень...

— Значыць, ахоўваць Дубалекі змогуць сотні дзве, — падлічыў Касцюшка. — Трэба прыслаць іх сюды з рыдлёўкамі і сякерамі, — загадаў аканому, — а іх сем'ям скараціць паншчыну, — звярнуўся да пані Хрысціны, — каб працавалі ахвотней...

— Да галечы дойдзем! — заенчыў аканом, паглажваючы бараду.

— Цябе ніхто не пытаецца! — павысіла голас Сульпінская. — Выконвай!

Аканом нізка пакланіўся і вокамгненна знік за дзвярыма. На ўласнай скуры ведаў чалавек: хто панам пярэчыць, той плягаў на стайні каштуе...

* * *

Да позняга вечара Касцюшка рэкагнасцыраваў мясцовасць. Паўсюль за ім цягалася зграя дваровых сабак, суправаджалі кожны яго крок безупынным гаўканнем. А з акенца цікавала пані Хрысціна.

Дубалекі, пабудаваныя пасля Гданьскай вайны, у якой Сульпінскія ваявалі за курфюрста Аўгуста і былі шчодра ўзнагароджаныя, складалі ў дыяметры тры на тры мілі. Назву сядзіба атрымала ад старых дубоў, пасаджаных абапал брукаванкі. Дубовая алея выводзіла на ўзгорак, з якога адкрываўся прыгожы краявід раўніны, пасярод якой узвышаўся маёнтак, а з поўдня і поўначы размясціліся сасновы і хвойны лясы.

Драўляны двухпавярховы дом, у трыццаць вокнаў па фасадзе, меў прасторныя флігелі — кухонны, дзе апрача кухні і кладоўкі знаходзіліся пакоі для прыслугі, і стаенны, дзе былі стайні для коней, павозак, жылі конскія даглядчыкі і вартаўнікі. Да стаеннага флігеля далучаўся аднапавярховы «скарбец» з вялізнымі сутарэннямі. Некалі ў ім была турма і катавальня для прыгонных, а цяпер захоўвалі рыштунак і пітво. Побач з кухонным флігелем узвышалася каплічка і пры ёй дамок, дзе жыў капелан. Далей цягнуліся гаспадарчыя пабудовы — дом аканома, гумны, хлявы, свірны, птушнікі. З веранды дома можна было прайсці ў невялічкі парк, дзе раслі, акружаныя прысадамі з ліп, падстрыжаныя яблыні і вішні, грушы і слівы...

Бачыў Касцюшка: калі адбудзецца наезд, то атакаваць сядзібу можна, бадай, збоку дубовай алеі, іншыя падыходы нязручныя. Значыць, трэба абараніць толькі гэты ўчастак фронту!

І тут задумаўся пра тых, хто будзе бараніць Дубалекі, — пра мужыкоў.

Ці не збаяцца падданыя Сульпінскай бойкі з коннымі шляхціцамі?.. Трэба падахвоціць мужыкоў да смеласці, рашучасці. Але якім чынам?..

І раптам Касцюшку прыйшла неверагодная ідэя — такая, ад якой быццам прыўзняўся над зямлёй! Ведаў ён, як зрабіць з халопаў мужных вояў!..

За вячэрай Касцюшка гаварыў гаспадыні Дубалекаў:

— Калі пан Сульпінскі не пагодзіцца на мірныя прапановы і пойдзе на Дубалекі наездам, то з Боскай ласкі мы адаб'ём франтальную атаку. А на працяглую аблогу пан Каспар наўрад ці здатны...

Пані Хрысціна схілілася да яго, абаперлася на стол локцямі:

— І пан Тадэвуш не пакіне слабую ўдаву? Застанецца з ёй да канца?

— Уратаваннем сваёй несмяротнай душы ў тым клянуся, — паглядзеў Тадэвуш ёй у вочы. — Дый як магу пакінуць уладарку майго сэрца?.. Але прашу, каб усе мае распараджэнні выконваліся беззаганна...

Пані Сульпінская какетліва пакруціла плячыма:

— Я рада вітаць устанаўленне ў Дубалеках Касцюшкавай дыктатуры!..

* * *

Неўзабаве аканом прыгнаў з вёсак сотню мужыкоў — з піламі, сякерамі і рыдлёўкамі. Ссякалі сосны ў недалёкім лесе, ачышчалі ад сучча, узводзілі новую агароджу вакол сядзібы, капалі роў па перыметры, насыпалі абарончы вал. Дубалекі пакрысе ператвараліся ў фартэцыю.

Назіраючы за будоўляй, Касцюшка ўзгадваў, як дзесяць гадоў таму такім жа чынам упершыню ў жыцці кіраваў уфартыфікаваннем берагоў Дэлавара. Дарога, на якую тады ступіў, урэшце прывяла яго да чыну брыгаднага генерала і ордэна Цынцыната... А куды прывядзе сцяжына, па якой пайшоў цяпер? Мо да шчаслівага шлюбу? Чаму б не!

Штоноч да пана Тадэвуша цішком прыходзіла пані Хрысціна, а на досвітку вярталася ў сваю лажніцу. І аднойчы пяшчотна сказала Касцюшку:

— Калі пан Тадэвуш надумае прасіць у мяне рукі і сэрца, то наўрад ці пачуе з маіх вуснаў адмову...

І сарамліва выбегла з пакоя.

* * *

Новую агароджу складалі слупы, укапаныя на вышыні вала ў два рады. Прастору паміж імі запоўнілі зямлёй з выкапанага рова, у якім пакінулі шырокі праезд да брамы. На дне рова паўтыкалі калы вастрыём угору. З унутранага боку да сценаў можна было падняцца па насыпе. Адсюль добра прастрэльвалася прылеглая раўніна, ачышчаная ад хмызоў і дрэўцаў.

Пасля завяршэння будаўніцтва дваццаць мужыкоў, паводле Касцюшкавага загаду, засталіся ў Дубалеках, пасяліліліся ў кухонным флігелі, пацясніўшы прыслугу. Удзень і ўночы ахоўвалі сцены сядзібы.

Сам Касцюшка часта сярод ночы падымаўся, ішоў правяраць, ці не дрэмле хто з вартавых. Паклапаціўся і пра аддаленыя дазоры. На адлегласці трох міляў ад Дубалекаў, у лесе каля дарогі, што вяла да сядзібы, прыгонныя цесляры змайстравалі памост на дрэве, падвесілі званы. На тым памосце дзяжурылі вартавыя, якія мусілі, калі заўважаць набліжэнне ворага, біць у звон — каб абаронцы Дубалекаў падрыхтаваліся да адпору.

Адно сур'ёзна засмучала Касцюшку — адсутнасць стратэгічнай разведкі.

— Што ваша мосць мае на ўвазе? — спытала пані Сульпінская.

— Мы не ведаем, што адбываецца ў варожым штабе, у маёнтку пана Каспара. Няма чалавека, які паведамляў бы пра ягоныя намеры...

Хрысціна з гонарам прыўзняла галаву:

— Пан Тадэвуш памыляецца. Такі чалавек ёсць.

— Хто ж?

— Ганка. Служыць зялейніцай на Каспаравым двары, гатуе лекі. Яе матуля некалі жыла ў Дубалеках. А потым закахалася ў хлопца з Федзюкоў. Бацюхна майго мужа, хай злітуецца Гасподзь з яго душы, адпусціў яе замуж за федзюкоўца. А цяпер Ганка, яе дачка, кахае сына дубалекаўскага аканома. Яны часта сустракаюцца. Ганка распавядае, што задумаў яе гаспадар. Сын пераказвае тату, аканом жа — мне...

— Дай Божа, каб Каспар не даведаўся пра нашага агента, — паражагнаўся Касцюшка. — І што кажа Ганка?

* * *

Ачуняўшы — дапамаглі згатаваныя зялейніцай Ганкай кампрэсы і адвары — пан Каспар паехаў у Нясвіж, прасіў аўдыенцыі ў яснавяльможнага князя Кароля Радзівіла, празванага «Пане Каханку» за тое, што ўжываў гэты зварот амаль у кожнай фразе.

У Сульпінскага меліся істотныя падставы разлічваць на дапамогу. Справа ў тым, што дзесяць гадоў таму старэйшая сястра пана Каспара служыла прыдворнай дамай у Нясвіжы і пэўны час карысталася інтымнай увагай збоку юнага князя Кароля, за што пазней была ўзнагароджана пасагам і шлюбам з мірскім кашталянам. А Каспара, паводле сястрынскай пратэкцыі, нясвіжскі ўладар узяў у сваю світу. Сульпінскі суправаджаў ягамосць на ўрачыстых выездах, за што атрымліваў дзве тысячы злотых штогод.

Першы раз яго светласць не прыняў просьбіта з нагоды імянінаў сваёй жонкі, пяты дзень быў п'яны да непрытомнасці. Другі раз Сульпінскаму адмовілі таму, што ў ягамосці хварэў страўнік ад празмернай колькасці з'едзеных напярэдадні вустрыц. Толькі на трэці раз пану Каспару ўсміхнулася фартуна. Ягамосць, уладар Нясвіжа, Міра і яшчэ некалькіх тысяч селішчаў, пагадзіўся прыняць Сульпінскага.

Аўдыенцыя адбылася апоўдні ў мармуровай зале, дзе дваццаць слуг апраналі ягамосць князя і столькі ж давераных радцаў забаўлялі яго светласць размовамі і плёткамі.

Пан Каспар, як падабала выхаванаму шляхціцу, з парога паваліўся на падлогу, папоўз да ног яго светласці, лямантуючы:

— Шчасцем было б для мяне, грэшнага, служыць нізенькім падножкам для ботаў вашай глыбокашаноўнай мосці!

На апухлым твары Пане Каханку яскрава чыталася: такіх «падножакаў» пры яго двары — процьма з лішкам! Слугі не без цяжкасцей зашпілілі залатыя гузікі пунсовага жупана на жываце ягамосці.

Расчулена заплакаўшы — што таксама лічылася добрым тонам! — пан Каспар цалаваў вашчаную падлогу, па якой хадзіў яго светласць, затым меў шчасце дакранущца вуснамі і да княскіх ботаў. Адначасова выціраў рукавом слёзы і пералічваў крыўды, перажытыя па віне злоснай пані Хрысціны:

— Яна атруціла майго брата! Загнала ў труну, каб адной валодаць Дубалекамі з прылеглымі вёскамі. Прысвоіла тое, што належыць мне па справядлівасці! Вядзьмарствам зачаравала суддзяў, якія вынеслі заганнае рашэнне! А таксама мечніка Касцюшку, што служыць ёй адданым сабакам! А яшчэ нагнала мне, няшчаснаму, на сэрца скруху, жалобу і смутак, ад якіх, пэўна, сканаю хутка!

Радзівіл невыразна паглядзеў на Рыпінскага, лепшага радцу ў пытаннях палітычнай кан'юнктуры:

— З кім, пане каханку, у сваяцтве гэтая Сульпінская?

У лік абавязкаў Рыпінскага — даўгавусага, крыху гарбаватага, з амаль заўсёды апушчанымі вачыма — уваходзіла вывучэнне родавых сувязей паміж магнацкімі дынастыямі Кароны і Польшчы. Раптам закранеш нейчага сваяка — і пойдзе на цябе вайной цэлы род! Таму амаль кожны ўчынак самы ўплывовы магнат на Літве мусіў узгадняць — ці не парушыць хісткай раўнавагі, што доўжыцца ў Рэчы Паспалітай усяго два дзесяцігоддзі?

Рыпінскі задумаўся, зірнуў на Сульпінскага без усялякай прыязнасці і паведаміў гаспадару:

— У дзявоцтве яна Сасноўская. Значыць, за яе могуць заступіцца князі Любамірскія. За малодшым Любамірскім — старэйшая дачка экс-гетмана Сасноўскага. Хрысціна Сульпінская — яе кузіна...

— Любамірскія моцныя на Украіне, не на Літве, — прагаварыў Радзівіл.

Сульпінскі ўскрыяў духам: пэўна, Пане Каханку дапаможа свайму кавалеру! Усхвалявана пацавалаваў калені ягамосці.

— Так, — схіліў стрыжаную пад гаршчок галаву Рыпінскі. — Але па бацькоўскай лініі Сасноўскія ў сваяцтве з Камажэўскімі. Януш Камажэўскі нядаўна прызначаны дарадчыкам караля па ваенных пытаннях.

— І чым гэта нам можа пагражаць, пане каханку? — князь выцягнуў рукі, каб слугам зручней было нацягнуць на яго цёмна-сіні кунтуш з тонкага галандскага сукна і з пунсовымі адваротамі. — Гетман кароннага войска — Браніцкі, княскага — Агінскі. З імі ў нас мір...

Рыпінскі яшчэ ніжэй схіліў галаву:

— Хто ведае, што набалбоча яго вялікасці Камажэўскі, калі ваша светласць пакрыўдзіць ягоную хоць і далёкую, але сваячку... У караля мала ўлады, але дастаткова сродкаў, каб папсаваць нам жыццё...

Пане Каханку завагаўся, паморшчыўся, калі слугі абкручвалі жывот ягамосці слуцкім поясам. Запінкі з дыямантаў, як падалося князю, не зусім пасавалі да колеру кунтуша! Іх адразу ж змянілі на рубінавыя, а сцёгны яго светласці ўпрыгожыў персідскі пояс, які ззяў усімі колерамі вясёлкі. На княскую галаву насунулі шаўковы каўпак, упрыгожаны паўлінавым пер'ем.

Каспар Сульпінскі — яго заклапочаны твар блішчэў ад поту — тым часам падабраўся вуснамі ўжо да жывата яго светласці:

— Каб жа яснавельможны князь на чале ўсёй сваёй світы прыехаў бы ў Дубалекі, выгнаў мярзотную бабу! Каб загадаў камянецкім суддзям перагледзець сваё рашэнне! Прысудзіць мне спадчыну нябожчыка-брата! Той, пэўна, зараз у раі просіць у Пана Бога ласкі для вашай мосці...

Не зважаючы на перасцярогі мудрага Рыпінскага, Радзівіл схіляўся выканаць просьбу Сульпінскага. Любіў Пане Каханку пазабаўляцца наездамі на маёнткі

дробнай шляхты. Ды і світа — каля двух тысяч вершнікаў — паразмяла б косці!

Але здарылася неспадзяванае. Толькі скончыў яго светласць апранацца, выпіў, паводле даўняй звычкі, келіх віна, як у пакой фурыяй уляцела княгіня Радзівіл — дваюрадная сястра Пане Каханку. Слаўны на ўсю Літву дзікунскімі выбрыкамі Радзівіл пабойваўся яе шалёнага нораву. Грубаватую княгіню рэдка хто бачыў цвярозай. Піла яна пераважна з той нагоды, што ніхто ў свеце не хацеў ажаніцца з княгіняй-п'яніцай. Часта ўпадала ў белую гарачку. Паводле загаду гаспадара Нясвіжа, ад яе светласці ў замку хавалі віно і гарэлку. І тады княгіня рабілася зусім неўтаймаванаю.

Вось і цяпер прыйшла не з пустымі рукамі — сціскала ў далоні пісталет. З парога заверашчала, звяртаючыся да брата брыдкімі словамі:

— Куды віно падзеў, паскуда?!

— Нямашака, пане каханку, усё госці павыпівалі, — апраўдваўся князь.

— Брэшаш, набрыдзь! Хаваеш! — ускінула зброю і націснула курок.

Грымнуў стрэл. Слугі і кавалеры адскочылі да сценаў. Пане Каханку памкнуўся да дзвярэй, але паколькі Сульпінскі моцна абдымаў яго ногі, паваліўся. Спалохана зароў, раз'юшана выцяў ботам пана Каспара — абцасам патрапіў якраз у лоб. Рыпінскі падхапіў яго светласць пад руку, дапамог падняцца, і яны ўдвух кінуліся наўцёкі ад яе светласці. На падлозе застаўся толькі каўпак з паўлінавым пер'ем.

А з галерэі ў залу ўжо бегла ахова — нямецкія афіцэры ў бела-сініх мундзірах. Яны далікатна абяззброілі княгіню і пацягнулі ў вежу — там яе звычайна трымалі, пакуль не міне белая гарачка.

Пан Каспар падабраў згублены Радзівілаў каўпак, стаў цалаваць. Але ягамосць уладар Нясвіжа не вярнуўся. Каўпак у пана Каспара забралі слугі. На тым аўдыенцыя і скончылася...

Сульпінскі, аднак, не адчайваўся. Даведаўся ад афіцэраў світы, якія звычайна сядзелі каля кухні, чакаючы загадаў, што заўтра ягамосць паедзе ў Мір, і умудрагеліў новы план.

Раніцай спыніўся ля карчмы пры дарозе, што вяла з Нясвіжа да Міра, заплаціў карчмару Пінхасу, загадаў яму выцягнуць стол і лавы на ганак, паставіць пітво і закуску, а сам затрымліваў усіх праезджых:

— Выпіце са мною за здароўе слаўнага князя Кароля Радзівіла!

У адной руцэ трымаў келіх, у другой — каб падарожнік не адмовіўся — зараджаны пісталет.

Далёка за поўдзень, калі сам ужо няцвёрда трымаўся на нагах, угледзеў над трактам пыльную хмару: ягамосць ехаў на чале світы ў семсот коннікаў на Мірскі кірмаш — людзей паглядзець, зрабіць такія-сякія пакупкі.

Сульпінскі паваліўся пасярод дарогі на калені, раскрыжаваў рукі.

Радзівіл нацягнуў аброць, спытаў пана Каспара:

— Чаго табе, пане каханку? Зноў пакрыўдзілі?

— Прашу вашу міласць пакаштаваць віна! — Сульпінскі пацалаваў капыты княскага каня, а затым прыклаўся вуснамі да запыленых ботаў яго светласці. — Прашу выпіць усіх, хто шануе слаўны род Радзівілаў. Будзьма братамі!

Ведаў, як дагадзіць яго светласці! Любіў Кароль Радзівіл у тую пару дзве рэчы — выпіць і каб кожны шляхціц называў яго родным братам.

З ахвотай злез з сядла нясвіжскі ўладар, абапёрся ботам аб сагнутую спіну Сульпінскага, закрычаў:

— Будзьма братамі!

Світа спешылася, пачала піць віно і мёд, што везлі на падводах у абозе.

Сам Пане Каханку літасціва пагадзіўся дабрысці да стала, застаўленага куфлямі і квартамі, прыгубіў віно з шырокага келіха.

Сульпінскі расплакаўся, глыбока ўдзячны за такую ласку яго светласці, зноў цалаваў ягамосці калені, крычаў:

— Ускладаю на брата Радзівіла ўсе свае надзеі!

Расчулены далікатнасцю пана Каспара, Радзівіл спытаў Рыпінскага:

— Чым можам мы дапамагчы гаротнаму Сульпінскаму? Наездам?

Мудры канюшы, які са свайго келіха болей віна праліваў за плячо, чым адпраўляў у рот, цвяроза прыкінуў:

— Калі ваша светласць непасрэдна ўзначаліць наезд, то не пазбегне асуджэння сейма. А таксама вайны з Камажэўскімі і Любамірскімі...

— А ты не палохай Радзівіла, асліная галава! — закрычаў Пане Каханку, у якога настрой змяняўся маланкава.

— Калі ж наезд здзейсніць пан Каспар з таварышамі, то гэта будзе выглядаць звычайнай сямейнай звадкай, — спакойна працягваў Рыпінскі. — А ваша мосць заступіцца за пакрыўджанага перад камянецкім судом...

— Ніхто да мяне не далучыцца, — залівўся слязамі Сульпінскі, цалуючы край княскага пояса, што звісаў да зямлі. — Былі ў мяне спярша сябрукі. Дык збаяліся, як падстрэліў мяне памагаты ведзьмы Хрысціны...

— А я дам табе пяцьсот чалавек са сваёй світы! — дакляраваў Пане Каханку. — Хіба брат Кароль не дапаможа брату Каспару? Мае людзі прыедуць у твае Федзюкі праз пяць дзён. Дапамогуць табе. Прывязуць ведзьму ў Нясвіж. У замкавых сутарэннях знойдзецца для яе камора... — і працягнуў Сульпінскаму руку, каб пацалаваў.

Удзячны пан Каспар па-дурному зарагатаў скрозь слёзы. Уяўляў ужо, як пані Хрысціна будзе прыніжацца перад ім, маліць, каб дараваў, не караў. А ён не даруе, нізавошта не даруе!

* * *

Толькі вярнуўся ашчасліўлены пан Сульпінскі ў свой маёнтак, як прыехаў у Федзюкі пан суддзя Язэп Касцюшка — шукаць згоды.

Пана суддзю сустрэлі вартаўнікі ля брамы: адзін павёў каня на стайню, другі пабег паведаміць гаспадару пра госця.

Парыла спякотнае сонца ў бязвоблачным небе. Пан Язэп, ідучы ад брамы паўз двор, выціраў пот з пачырванелага твару. Па абодва бакі двара цягнуліся гаспадарчыя пабудовы. Язэпаву ўвагу прыцягнуў укапаны каля стайні адмысловы дубовы крыж. На крыжы вісеў чалавек.

Зацікаўлены пан суддзя наблізіўся. Да высокай перакладзіны была прывязана, тварам да крыжа, дзяўчына: кашуля спушчаная да пояса, а на спіне чырванелі пісягі, запяклася кроў. Кружыліся над акрываўленай спіной мухі.

На драўляным цвіку, убітым у сцяну пуні, вісеў скураны бізун, скручаны ў колца. Побач з ім на лаве сядзеў сівы вартаўнік, глыбакадумна курыў люльку. Заўважыўшы госця, вартавы ўскочыў, скінуў саламяную капялюху з галавы, пакланіўся ў ногі.

— Зялейніца правінілася, — патлумачыў, пачціва трымаючы капялюху на выцягнутай руцэ. — Пан Каспар перапыніў пакаранне на час поўдня...

Дзяўчына павярнула галаву ўбок суддзі. Пан Язэп уздрыгануўся: са знявечанага пакутай твару пазіралі вочы, у якіх ажно бялкі пачырванелі...

Уладара сядзібы пан Язэп убачыў на шырокім ганку, дзе той падсілкоўваўся рагу і фрыкасэ. Ласкавым жэстам пан Каспар запрасіў пана суддзю за стол. Слугі падалі госцю прыгатаваную на фанцузскі лад страву з цеста, фаршыраванага смажаным мясам і гароднінай.

За сталом палуднічалі і сыны пана Каспара: старэйшаму было дванаццаць, малодшаму — дзесяць гадоў. Як і належала добра выхаваным падлеткам, на госця вачэй не падымалі, моўчкі елі адмыслова згатаваных шчупакоў — засмажаных у галаве, звараных усярэдзіне, печаных у хвасце.

Язэп Касцюшка таксама пераважна маўчаў, затое пан Каспар балбатаў нястомна — распавядаў галоўным чынам, як яго любіць князь Радзівіл.

Паколькі федзюкоўскія кухары не квапіліся ў стравах на воцат, перац, гарчыцу і хрэн, то смагу спаталялі гарбатай дзеці, і гарэлкай — дарослыя. Прычым абодва напоі закусвалі маслам. Дапіўшы гарбату, дзеці падняліся, пакланіліся бацьку ў ногі, па чарзе пацалавалі руку.

— Ступайце ў двор, працягнем практыкаванне, — загадаў ім Сульпінскі.

— Што за практыкаванне? — пацікавіўся суддзя.

— Бачылі дзеўку на крыжы? — патлумачыў пан Каспар. — Ганкай завуць. Зранку яе караю. Стаміўся. Цяпер адпачыў, яшчэ крыху павучу яе, а потым і дзеткі папрактыкуюцца. Пара ім вучыцца бізуном карыстацца...

— А што гэтая Ганка такога страшнага нарабіла? — спытаў пан Язэп.

— Знюхалася з сынам дубалекаўскага аканома! — умомант раз'ятрыўся Сульпінскі. — Людзі бачылі, як бегала яна ў лес, сустракалася там з ім. Хто ведае, пра што яны балбаталі? А раптам яна паведамляе пра тое, што ў маім двары адбываецца? Я ў яе пытаўся. Маўчыць. Мусіў ужыць бізун...

Пан суддзя пакрысе скіроўваў размову на справу, дзеля якой прыехаў.

— Мо шаноўнаму пану Каспару не трэба так жорстка пераследаваць сваю зялейшчыцу? — прапанаваў. — Можа, варта аддаць яе замуж за дубалекаўца? А потым пані Сульпінская аддасць кагосьці са сваіх халопаў за федзюкоўца? Так і паміранца Федзюкі і Дубалекі...

Прымірэнне на падставе ўзаемнага кахання раззлавала пана Каспара. Пасунуўшыся да Язэпа Касцюшкі, ён затрос кулакамі, закрычаў:

— Не можа быць міру паміж сумленным хрысціянінам і гэтай ведзьмай! Яна атруціла майго брата ў Варшаве! І за гэта панясе пакаранне! Павешу яе, як Ганку, на крыжы і буду лупцаваць, пакуль не сканае! Ведаеце, колькі ўдараў можа на працягу дня вытрымаць ахвяра і не здохнуць? Дзесяць тысяч! Сам правяраў... Душой сваёй гатовы ахвяраваць, абы збылася мая помста!

У пана суддзі абудзіўся прафесійны інтарэс:

— Забойства брата вашай мосці трэба яшчэ даказаць...

— Доказаў няма! — адрэзаў Сульпінскі. — Ёсць толькі ўпэўненасць. Яна зачаравала брата і згубіла. Яна і мяне зачаравала. Бо я таксама меў глупства некалі прасіць яе рукі. А яна адмовіла мне, прынізіла, абразіла...

Язэп Касцюшка гнуў сваё:

— Душэўныя пакуты з цягам часу загояцца, пане Каспар... Судовая спрэчка паміж вашай мосцю і паняй Хрысцінай цягнецца другі год. І можа скончыцца ўжо сёння. Пані Сульпінская гатовая аддаць вам дзве вёскі. За гэта падпішыце адмову ад усялякіх прэтэнзій да яе мосці назаўсёды...

Сульпінскі зларадна зарагатаў. Адчуў: Хрысціна яго панічна баіцца!

— Ніякіх саступак з майго боку! — перакананa заявіў.

Язэп Касцюшка спаслаўся на прэцэдэнт:

— Ці ведае шаноўны пан Сульпінскі, як доўга цягнуцца судовыя справы ў нас на Літве? На мінулым тыдні я разглядаў апеляцыю пана Ляляўскага з-пад Воўчына. У 1711-м з яго дзеда каралеўская канцылярыя несправядліва спагнала тры тысячы злотых. Спярша дзед, потым бацька, а цяпер і ўнук Ляляўскі патрабуюць, каб тагачасны вырак быў адменены ды ім сплацілі кампенсацыю. А прадстаўнік караля кожны раз аспрэчвае іх іск. Ляляўскія змарнавалі на справу ўжо сто сорак тысяч злотых, а да яе завяршэння і цяпер далёка, як да Месяца...

Каспар Сульпінскі дэманстраваў рашучасць:

— Няхай не палохае мяне пан суддзя! Мае продкі — з Трансільваніі, служылі самому Уладу Цэпешу, празванаму Дракулам-Каласажальнікам. Мой прашчур, празваны Сульпай, прыехаў на Літву ў свіце караля Стэфана Баторыя. Прашчур служыў у свіце гарадзенскага ваяводы Каспара Бэкеша, які не прызнаваў Бога і не баяўся д'ябла. Мой дзед у час вайны са шведамі піў кроў з жывых людзей! Дык няўжо шаноўны пан суддзя думае, быццам шляхціца з такім слаўным радаводам можна запалохаць?

Пан суддзя так не думаў. Сказаў:

— Толькі мёртвыя нічога не баяцца...

У пана Каспара меліся свае разлікі:

— Сульпінскімі заўсёды нехта апекаваў. Маімі продкамі — Улад Цэпеш, кароль Стэфан... Мной — ягамосць князь Кароль Радзівіл. З яго падтрымкай я — непераможны! Хрысціне Сульпінскай — не жыць!

— Як можа пан Каспар так гаварыць! — абурыўся пан Язэп. — Што скажа на гэта вашая жонка?!

— Памерла жонка. Пры родах. Разам з трэцім сынам. Даўно тое было...

Абодва перажагналіся. Касцюшка далікатна спытаў:

— Чаму ж пан Каспар зноў не ажаніўся?

— Памерла жоначка любая і забрала з сабой у труну лепшыя пачуцці маёй гаротнай душы, — загараваў Сульпінскі. — Не засталося ў маім скрышаным сэрцы ані кахання, ані дабрыні. Адна злосць на ўвесь свет...

Пан Язэп паспрабаваў апеляваць да сумлення:

— Пан Каспар не горш за мяне разумее, што ўчыняе зладзейства. Ісці з шабляй на ўдаву — злачынства. Пан Каспар не баіцца помсты неба?

Сульпінскі нарэшце адкрыў галоўную прычыну сваіх высілкаў:

— У Варшаве ў мяне шмат даўгоў... Любіў узяць карты ў рукі... Увосень час разлічвацца. А яшчэ і працэнты набеглі...

— Прадайце тыя вёскі, што вашай мосці саступіць пані Хрысціна, — параіў суддзя. — У вас застануцца яшчэ Федзюкі...

— Каб цалкам разлічыцца, я мушу аддаць крэдыторам усе вёскі, што належалі брату-нябожчыку, а таксама Дубалекі! — прызнаўся Каспар. — І я мушу спяшацца! Дарма ваш брат Тадэвуш знюхаўся з той ведзьмай! Яна і яго атруціць, як атруціла майго брата! Няхай ратуе жыццё, уцякае з Дубалекаў... А зараз прашу прабачыць мне. У мяне важная справа!

З сядзібы Язэп Касцюшка ад'язджаў пад Ганкіны крыкі, што даляталі з падвор'я. Зялейшчыца маліла, каб яе лепей забілі, абы не катавалі болей. Адказам быў свіст бізуна...

*Заканчэнне будзе.*





## Вольга РУСІЛКА

* * *

Сцежка, сцежачка, сцяжынка...
Лёгкім подбегам дзяўчынка
па табе ляціць, знікае
ў квецені вясёлай мая.

Сцежка, сцежачка...Узмежак
на кавалкі долю рэжа.
Шлях няблізкі, шлях няроўны,
стомы і трывогі поўны.

Сцежка...Роўная ці злая,
ці да пекла, ці да раю,
на сляды не разбівайся,
покуль крочу — не канчайся.

### АДНАКУРСНІКАМ

Колькі гадоў прайшло...
Для мяне чарадзейная фраза:
«Мы вучыліся разам...»

Колькі ў нябыт адышло
настаўнікаў — нашых бацькоў...
Мы з імі — адзіная кроў.

Колькі вятроў адгуло...
Ў доме, дзе ўсё было першым,
намолены сцены вершам.

Колькі вадой сышло...
Дзякуй за гордую фразу:
«Мы вучыліся разам...»

### ЭКРАН

Сеціва цягне.
Экран выдае шляхі.
Шукаем выйсце.

Думка пульсуе.
Чый інтэлект мацнейшы?
Сто варыянтаў.

Міргнуў манітор.
Як свой, падаў падказку.
Розуму — брава.

Блок адключаю.
Сшытак чакае вершаў,
просіць эмоцый.

---

*Русілка Вольга Іванаўна нарадзілася 17 ліпеня 1959 года ў вёсцы Бершты Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1981), аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (1985). Кандыдат філалагічных навук, дацэнт.*

*Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе № 25 г. Віцебска. Цяпер — загадчыца кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. М. Машэрава.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Табе», «Ажына».*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. С. Караткевіча (2004).*

* * *

Ты ўздыхаеш разгублена: «Восень...»
Паўтараю з усмешкай: «Во-во...»
Ды такая адчайная просінь
Над тваёю сівой галавой,
Так стараецца ранняе сонца
След начнога марозу схаваць,
Што я веру і ў лета бясконцасць,
І што нам на дваіх сорак пяць.
Заадно — што дажджу больш не будзе
І няма калі маме хварэць...
«Во-во-во...» — мы наіўныя людзі,
Як і ўсе, мы баімся старэць.

* * *

Я знаю:
падбіраецца кіпцюр
да усяго:
кахання, блізкіх, справы,
бо кожнаму
бар'ер апошні ставіць
не вораг,
а няўмольны строгі лёс.
На дне душы —
бяздонны скрутны вір.
На дно яго
свае багацці кіну.
Пакіну верш —
і хай хоць нож у спіну,
мне ўлегцы
нават весела ісці.

* * *

Як верш даецца
дорага!
Мой лепшы верш —
ад ворага...
І часам верш мой
ворагу
каштуе вельмі
дорага.

* * *

Пад ветлівым восеньскім сонцам,
Якое баіцца мне ў вочы глядзець,
Апошняй пяшчотай бясконцай
Прачнуцца, дабегчы, паспець!





Васіль ТКАЧОЎ

# ДОШКІ

*П'еса ў дзвюх дзеях*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

*Людзі:*

Крупянка
Якушэнка
Шыш
Нямко
Кацька
Бабулька

*Птушкі:*

Бусел

*Вясна. Беларуская вёска ў прыфрантавой паласе.*

*Некалькі чырвонаармейцаў атрымліваюць загад зрабіць падлогу ў памяшканні сельскага Савета, дзе будзе размешчаны штаб дывізіёна, прыбыццё якога чакаецца праз двое сутак...*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

*Вясковая вуліца. На заднім плане — будынак сельскага Савета і абрысы царквы. Раз-пораз чуваць царкоўны звон: бом!.. бом!.. бом!..*

*З'яўляецца чырвонаармеец Крупянка, ён цягне за сабой дошку. Паклаў яе на зямлю, выцер лоб рукавом.*

---

***Ткачоў Васіль Юр'евіч** нарадзіўся 1 студзеня 1948 года ў вёсцы Гута Рагачоўскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча (1973), працаваў журналістам, доўгі час з'яўляўся старшынёй Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў.*

*Аўтар кніг прозы для дзяцей і дарослых «Хітры Данік», «Партрэт салдата», «Незвычайны дыктант», «Дзень у горадзе», «Пахвалі пражыты дзень», «Тратнік», «Нехта ходзіць за акном», «Мой рай зямны», «Непаразуменні» і многіх іншых. Вядомы і як драматург. Па яго п'есах у тэатрах, на радыё і тэлебачанні створаны шэраг спектакляў.*

К р у п я н к а. Адна! *(Знікае.)*

*Таксама з дошкай з'яўляецца чырвонаармеец Я к у ш э н к а.*

Я к у ш э н к а *(паклаў дошку на зямлю).* Дзве! *( Знікае.)*

*З'яўляецца К р у п я н к а з чарговай дошкай, паклаў яе побач з раней прынесенай.*

К р у п я н к а. Тры! *( Знікае.)*

*Прыходзіць з дошкай Якушэнка.*

Я к у ш э н к а. Чатыры! *( Знікае.)*

*Каля дошак пэўны час нікога няма. Даносяцца прыглушаныя гукі сваркі, і няцяжка здагадацца, што дошкі чырвонаармейцам дабываць складана — мясцовыя жыхары не дазваляюць разбураць вясковыя пабудовы, і таму чуваць воклічы: «Што вы робіце! Пашкадуйце!», «Гэта ж царква!», «Бог не даруе!», «Ён усё бачыць!», «А штаб куды загадаеце — на аблокі?!»*

*З'яўляецца Н я м к о.*

Н я м к о *(паказвае рукамі на дошкі, незадаволена).* А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Бярэ дошкі і знікае з імі.)*

*З'яўляецца К р у п я н к а з чарговай дошкай, разгублена глядзіць на тое месца, дзе павінны б ляжаць раней прынесеныя дошкі.*

К р у п я н к а *(злосна, у адчаі).* Дзесяць! Сто!.. Ды каму яны патрэбны, гэтыя дошкі? Каму? Там не даюць, тут — крадуць! Што з іх — дамавіны рабіць? Дык не ж — нас, салдат, так закопваюць... у зямлю... як бульбіну вясной... толькі глыбей крыху... *(Кліча.)* Якушэнка-а! Хахол!

*З'яўляецца Я к у ш э н к а з дошкай.*

Я к у ш э н к а. Больш няма дошак. Апошнюю забраў.

К р у п я н к а. Грай, Якушэнка!

Я к у ш э н к а. А дошкі... дзе?

К р у п я н к а. Грай, сказаў!

Я к у ш э н к а. А хто ты такі, каб мне загадваць? Тым больш — яфрэйтару?

К р у п я н к а. Ці будзеш граць, ці я раскурожу тваю скрыпку. К чортавай матары!..

Я к у ш э н к а. Нельга граць. З'явіцца старшына Гусеў, будзе лаяцца, калі ўбачыць скрыпку.... Сказаў, разламаю... Тут, кажа, вайна, а не кансерваторыя...

К р у п я н к а. Бо ён — дурань. Тамбоўскі.

Я к у ш э н к а. Сам ведаю... хто ён. Але чалавек добры.

К р у п я н к а. Грай, Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Не магу. Абяцаў старшыне не граць без яго дазволу...

К р у п я н к а. Бач ты! Граць на скрыпцы — дазвол трэба прасіць? У каго? У Бога ці чорта?

Я к у ш э н к а. У старшыны.

К р у п я н к а. Дзе ён, той наш разумны старшына?

Я к у ш э н к а. За цвікамі пайшоў...

К р у п я н к а. Ды гэта я ведаю... Але ўжо можна было прынесці не толькі цвікі, але і сам штаб разам з камандзірам. Гатовы. І рамантаваць сельсавет не трэба было б. А то — падлогу ім рабі. А дзе дошкі? Давайце дошкі — зробім.

Я к у ш э н к а. Не!

К р у п я н к а. Ніхто не верыць, каму не скажу. А яна, дзяўчына тая, была з соскай. Прыгожая... з вялікімі на ўздзіў цыцкамі... усё пры ёй... а — з соскай. Нават калі вальс кружыць пачалі, яна соску з рота не выняла... так і кружылі: я — з недарэчным тварам, з такім жа выглядам і яна... Уяўляеш? Дзяўчына — з соскай...

Я к у ш э н к а. Не!

К р у п я н к а. Сяброўка, якая з ёй на танцах была, калі я запрасіў Кацьку на вальс, працягнула руку: давай, кажа, соску патрымаю. Але яна зрабіла выгляд, што не пачула... Так і кружылі... Ты вер мне, Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Добра. Буду.

К р у п я н к а. Абед хоць даюць, Якушэнка? Кормяць?

Я к у ш э н к а. Мне не хочацца есці. Няма апетыту.

*Н я м к о знікае.*

К р у п я н к а. А-а, дык ты і там на дошцы сядзіш, Якушэнка? На той, якую з царквы садраў?

Я к у ш э н к а. Тут усюды дошкі, дошкі, дошкі... І на кожнай чалавек сядзіць...і плыве некуды, плыве... як на дыване-самалёце... А старшыны Гусева не бачу... Няма старшыны!.. Няма-а!..

К р у п я н к а. Кідай сюды дошкі! Там багата, а ў нас — няма! Размяркуй, каб не крыўдна было. Навошта іх на небе столькі? У нас жа загад! Яго ніхто не адмяняў! Заўтра штаб прыедзе!.. Кідай, Якушэнка, дошкі! Чуеш мяне? Без дошак не пераможам!.. Кідай, Якушэнка! Дзякуй, выручыў! Дзякуй, Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Ловіш, Крупянка?

К р у п я н к а. А то каб міма мяне што праляцела! Такому не бываць, Якушэнка! Ляцяць дошкі, ляцяць!.. Як птушкі!.. Як зоркі!.. Адна!.. Дзве!.. Тры!.. Пяць!.. Дзесяць!..

Я к у ш э н к а. Калі хопіць — скажаш!

К р у п я н к а. Іх нам багата трэба!.. Дваццаць!.. Сто!.. Колькі дошак!.. Ура-а-а!..

*І К р у п я н к а прыпаў на адно калена, схіліўшы наперад аўтамат, і нібы скамянеў — сам зрабіўся помнікам... А за ім з'яўляюцца Я к у ш э н к а, Н я м к о, Ш ы ш, К а ц ь к а і Б а б у л ь к а з кветкамі.*

Б а б у л ь к а. Дошкі тут павінны недзе быць... Не бачылі, людзі? Хлопчыкі, салдацікі, у вайну гулялі тут з імі, з дошкамі... маладзенькія... прыгожанькія хлопчыкі... Асабліва той, што гліну ў далоньках сваіх песціў... гушкаў камячкі, нібы мамка дзіцятка сваё...нібы калыханку для яе спяваў... як жывая была гліна ў ягоных руках... Дошкі трэба мне... Паплыву я на іх да хлопчыкаў... У неба... На спатканне... Да іх... Зачакаліся, родненькія мае... Даўно ж чакаюць...Палячу... Пара... Кветкі гэтыя — ім... Абрадуюцца...

*ЗАСЛОНА.*







## Уладзімір МАЗГО

### РОДНАЙ ЗЭЛЬВЕ

Мая раённая сталіца,
Калыска мар маіх
і сноў,
Я шчыра прагну наталіцца
Тваёй гасціннасцю ізноў.

Тут вобраз вечнасці лунае
У спелым водары травы,
Дзе бусел крылы развінае —
Абсягаў родных вартавы.

Царква прыветная спаткае,
Як маці хросная,
мяне.
А зеляніна трапяткая —
Пяшчотай лісця ахіне.

Чароўнай музыкай
Зальвянка
У сэрцы сцішана гучыць,
Нібы маленства калыханка, —
Калі прыеду адпачыць.

Я пакланюся кожнай былцы,
Здалёк вярнуўшыся дамоў,
І наталюся словам,
быццам
На свет народжаны ізноў.

### ЦВІТУЦЬ ВІШНІ

Здаецца,
Усявышні
Рассыпаў зорны рой:
Цвітуць агніста вішні
Вясноваю парой.

І ты святлу здзівіўся
Іскрыстага галля,
Нібы раптоўна з высяў
Праліўся Млечны Шлях.

---

***Мазго Уладзімір Мінавіч*** *нарадзіўся 5 сакавіка 1959 года ў гарадскім пасёлку Зэльва Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1985). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у выдавецтвах «Юнацтва» і «Мастацкая літаратура». Цяпер — у часопісе «Вясёлка».*

*Аўтар кніг паэзіі «Пад спеў крыніц», «Вершаліна», «Марафон», «Анёл нябесны», а таксама кніг для дзяцей «Калі спрачаюцца маланкі», «Суседзі па сусвеце», «Смехапад», «Прыгоды марахода».*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2005) і літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі (2005).*

## ПЦІЧ

Удалеч
уцякае Пціч
Красуняю чароўнай.
І колькі ты яе ні кліч —
Не вернецца ўсё роўна.

Бяжыць ад тлумнай мітульгі,
Шукаючы падтрымкі,
Дзе раскрываюць берагі
Гарачыя абдымкі.

Нібыта ў рот вады набраў,
Маўчыш, —
калі спаткае,
Калі ўцякае да Дняпра
Красуня гаманкая.

## ДЫЯЛОГ

— Я цябе адну кахаю,
Ненаглядная мая.
— Ах! Чаму, сама не знаю,
Гэтым казкам веру я?

— Ледзь твае спаткаю вочы —
Яркім полымем гару.
— Сваю ласку і пяшчоту
Аднаму табе дару.

— Палавінкі разам скласці —
Будзе цэлае адно.
— Захмяліла раптам шчасце,
Як салодкае віно.

— Спадзяванні паланілі
Нашы сэрцы ў гэты міг.
— Сум і радасць падзялілі
Мы з табою на дваіх.

## НАША ЛЕТА

Наша лета цвіло,
наша лета гуло над зямлёю.
І спявалі ад шчасця,
спавітыя хвалямі,
мы.
І так лёгка было,
і так светла было ля прыбою.
І бясконца далёка было да самотнай зімы.

І няхай
на двары ці зіма,
ці адчайная восень,
І няхай
залаты лістапад
ці густы снегапад уначы, —
Толькі нам
паміж зімаў халодных
і сонечных вёсен
Сніцца той летні рай,
ад якога згубілі ключы.

Можа, вернецца зноўку да нас тое цёплае лета,
Дзе сляды нашы
хвалямі змыла
марская вада.

Возьмем вось
і закажам на заўтра два новых білеты,
Сабяром рукзакі —
і да сонца і мора —
гайда!..

І няхай
на двары ці зіма,
ці адчайная восень,
І няхай
залаты лістапад
ці густы снегапад уначы, —
Толькі нам
паміж зімаў халодных
і сонечных вёсен
Сніцца той летні рай,
ад якога згубілі ключы.

* * *

А мы з табой —
як ноч і дзень.
А мы з табой —
святло і цень.
Так непадобныя,
таму —
Адно патрэбна аднаму.

Бо мы —
пачатак і працяг
Свайго святога пачуцця.
Яшчэ далёка да зімы,
Калі заўсёды разам мы.

## СЯРЭБРАНАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Гады імкліва праляцелі,
Цяплом сагрэтыя,
дабром,
І на сярэбраным вяселлі
Іскрацца скроні серабром.

Яшчэ агнём палаюць вочы,
І адступаюць халады,
А мы з табою побач крочым,
Як з маладою малады.

Жылі заўсёды ў добрай згодзе,
Без засмучэнняў і згрызот —
І праляцела
чвэрць стагоддзя,
Нібы адзін пражыты год.

Каля сямейнага парога
Няма для роспачы прычын,
Бо —
на дваіх адна! —
дарога
Няспынна кліча ўдалячынь.

Хацелі мы
ці не хацелі —
Іскрацца скроні серабром.
Гады імкліва праляцелі,
Цяплом сагрэтыя,
дабром.

## НЕДАСЛАНЫ ЛІСТ ЗМІЦЕРУ ЯЎТУХОВІЧУ

Калі дрыготкая рабіна
Крывёй сцякае на двары,
Лятуць у вырай сумным клінам,
Як жураўлі,
твае сябры.

Ім адгукаецца апошні
Расстайны птах тваёй тугі.
А погляд колецца аб пожні
І спадарожныя стагі.

Забыць такое немагчыма,
Іначай —
грош усім цана:
Краёў нямала,
а Радзіма
(Аж зашчымела сэрца,
Дзіма!),
Нібы матуля,
ў нас адна.

## З ПАЧУТАГА

Іграе дыск,
старая
Мелодыя гучыць,
І сэрца —
замірае,
Каб з ёю адпачыць.

Яна прыйшла здалёку
Праз далі і гады.
Яна для нас
у спёку —
Нібы глыток вады.

А хвіляй навальнічнай —
Як сонечны прамень.
Чароўны дыск музычны —
То лівень,
то духмень.

Нібыта подых ветру
У стомленай цішы,
Абуджанае рэтра
Варушыцца ў душы.

Мелодыя жывая
Спакою не дае:
Той сэрцам напявае,
Хто раз пачуў яе.

* * *

*Бібліятэка — для душы аптэка...*
З размовы

Бібліятэка —
для душы аптэка.
Адчулі гэта добра чытачы:
Ёсць многа кніг,
нібы дзівосных лекаў,
Што здольны нашы душы палячыць,

Ачысціць іх ад блуду і ад бруду,
Каб не зрабіць духоўных з нас калек,
Каб змог адрозніць кніжную атруту
Ад кніжнага лякарства
чалавек.

## ПРАГНОЗЫ

Гудуць назойліва прагнозы,
Нібы варожыя пагрозы:
Лятуць,
мяняючы арбіты,
Каля Зямлі метэарыты.
А на Зямлі —
ўявіце самі! —
Метамарфозы з палюсамі.
Ад Антарктыды да Еўропы
Людзей палохаюць патопы.
І землятрусы,
і вулканы
Нам,
як іспыт,
наканаваны.
У свеце хісткім,
неспакойным
Усе набыткі нішчаць войны.
Экзаменуюць ураганы
Заслугі нашы і заганы.
О Божа!..
Людзі ў перапудзе:
Якая
будучыня будзе?..
Хай адвядзе ад нас пагрозу
Наш чалавечы мудры розум.





**Мікалай ФЯДОСІК**

# ХІЛЬКО-ХВАЛЬКО

*Апавяданне*

У Лучыцах казалі: «Чалавек без мянушкі, што даведка без пячаткі...»

Прырасла, прыклеілася такая мянушка і да Пятра Хілько — чалавека вядомага на далёкай адлегласці ад нашай вёскі.

Чым ён адрозніваўся ад усіх людзей? Пятрусь — летапісец. З тае пары, як навучыўся добра пісаць і асэнсоўваць падзеі мясцовага і сусветнага маштабу, — а было яму тады чатырнаццаць гадоў, — пачаў весці дзённік.

Пра што пісаў? Ды пра ўсё. І пра ўсіх. Вока, трэба сказаць, меў пільнае і слых — лепшы, чым у бабра. Хто, калі і дзе нарадзіўся, каго і за што пабіла жонка, якая з дзяўчат яшчэ да вяселля паспытала забароненай асалоды... Пра надвор'е дык кожны дзень занатоўваў звесткі... З Мінска, кажуць, да яго прыязджалі нейкія вучоныя, давалі вялікія грошы, каб прадаў ім свой сшытак з назіраннямі. Не згадзіўся, сказаў, што грошы яго не хвалююць, а вось памяць пра сябе пакіне і на наступнае стагоддзе...

А колькі падзей было апісана ў тым сшытку! Ды з такімі падрабязнасцямі, ды такім паэтычным стылем, што тыя, хто чытаў дзённік ці слухаў сачыніцеля, за жываты браліся...

Пятро быў яшчэ і матэматык. Беспамылкова мог вызначыць, колькі яны з кумам Валодзем за год прапусцілі праз свой страўнік самагонкі. Бо дубовыя бочачкі, ці, як іх называлі, «барыльцы», ім вырабляў адзін і той жа бондар — Калінік Васілеўскі, — і былі яны заўсёды аднолькавай ёмкасці: на пятнаццаць літраў... Закваску і брагу з кумам таксама рабілі адначасова. У душы Пятро быў яшчэ і Штырліцам альбо Настрадамусам, які пісаў свае катрэны тайным шрыфтам.

---

*__Фядосік Мікалай Міхайлавіч__ нарадзіўся 1 мая 1947 года ў вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут і аспірантуру. Працаваў на Гомельскім хімічным заводзе — электраманцёрам, сакратаром камітэта камсамола, пасля — на партыйнай рабоце. З 1985 да 1999 года — генеральны дырэктар Гомельскага вытворчага аб'яднання пластмасавых вырабаў. Цяпер узначальвае дзяржаўнае прадпрыемства «Эксперт-Паслуга».*

*Кандыдат тэхнічных навук. Дацэнт кафедры тэарэтычных асноў электратэхнікі Гомельскага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта імя П. Сухога.*

Пагэтаму мог у сшытку з'явіцца і такі запіс: «Быў там, дзе ўсе...» А ў дужках пазначана літара «В». Вось і здагадайцеся, дзе гэта ён быў. А шыфраваны тэкст азначаў наступнае: ён быў у кума Валодзі.

— Хлопцы, я не хвалюся, — гаварыў Пятро, смешна ўскідваючы ўверх рукі, як быццам адганяў мух, — але мая самагонка самая смачная і п'ецца соладка...

Паспытаць для параўнання напою нельга было, бо Пятро характару быў скнарнага, у яго, як казалі, зімой і лёду не выпрасіш. Хаця ж сам «на халяву» выпіць мог амаль тое ж барыльца. Пры гэтым яшчэ і сказаць:

— Я, хлопцы, не хвалюся, але ад маёй гарэлкі — ізжога, а ад чужой — нічога...

Можа, ад таго, што часта паўтараў «не хвалюся», а можа, і ад таго, што прозвішча ў яго было блізкае да мянушкі, невядома, але неўпрыкмет вяскоўцы далі Пятру свой літаратурны псеўданім «Хвалько».

Была ў яго і яшчэ адна «любоў» — сад.

Гэтага ўжо не адымеш, першынство ў садаводстве цвёрда і грунтоўна належала яму. Толькі ў Пятра на адной яблыні выспявала пяць-шэсць гатункаў. Калі хто не верыў, гаспадар клікаў да сябе Фаму няверуючага і, паказваючы на кожны яблык, тлумачыў:

— Вось гэта — Мелба, а гэта — Асенні паласаты, які яшчэ інакш завуць Штрэйфлінг, Антонаўка звычайная, Палескі, Тэлісаара, Серуэл...

— А на гэтай? — паказваў здзіўлены і ашаломлены госць.

— А тут — Бойкен, Ауксіс, Спартан, Папяроўка, Мінскі, Жыгулёўскі...

— Глядзі ты... — ківаў недаўменна галавой наведвальнік, не зводзячы вачэй з яблыкаў. — Я такіх і гатункаў не ведаю...

Але прадметам асаблівага і найвышэйшага гонару Пятра была груша.

У лесе ён знаходзіў дзікія саджанцы, употай ад чужога вока прышчэпліваў, а потым праз год-два перасаджваў у свой агарод. Таксама, як і на яблынях, на грушы было некалькі гатункаў.

Каб зрабіць садаводу прыемнае, мы, дзеці, школьнікі ўжо сярэдніх класаў, спасылаючыся на тое, што пішам у школе пра сады і садавіну сачыненне, беглі да яго:

— Дзядзька Пятро, настаўніца казала, што ў вас самы лепшы сад на Палессі. Мы пішам сачыненне аб вырошчванні груш. Ці не маглі б вы расказаць нам пра іх?

Пятро, пачуўшы такое, расплываўся ва ўсмешцы, разводзіў убакі рукі:

— Чаму ж не паказаць, пакажу... Хваліцца не буду, але вы самі ўсё ўбачыце...

Мы дастаём сшыткі, каб запісваць тое, пра што будзе гаварыць садавод.

— Вось гэта, дзеці, Дзюшэс летні. На яго я прышчапіў яшчэ Лімонаўку, Тальсінскую красуню, Бэру лошыцкую, Пышную Яфімава, Беларускую познюю, Сапяжанку, Цукроўку...

— Дзядзька Пятро, а колькі жыве і пладаносіць груша? — пытаецца самы дасціпны з нас — Валік Шэцка.

— Колькі? — здзіўляецца з пытання грушавод і пільна глядзіць на вучня. — Груша пачынае пладаносіць праз шэсць-дзевяць год, а праз дваццаць ужо дае пад трыста кіло пладоў. Перыяд гаспадарчага выкарыстання, кажучы эканамічнай мовай, ад пяцідзесяці да шасцідзесяці гадоў...

— Ого! — ускліквае Верка Чыкілёва. — А якія яны на смак, дзядзька Пятро, вашы грушы?

Гаспадар аглядае нас, а мы ўжо ведаем, што ён пералічвае ўсіх, вызначае, колькі ж гэта груш прыйдзецца нам аддаць для пацвярджэння смакаты пладоў і унікальнасці яго гатункаў...

— Не буду хваліцца, але смачнейшых, чым мае грушы, вы не паспытаеце нідзе...

Пятро ідзе да паветкі, выносіць адтуль высокую тонкую жэрдку, на канцы якой па драўляным крузе прымацаваны дошчачкі — грушаздымка, і ідзе да гонару свайго мічурынства. Ён і сапраўды хоча пачаставаць усіх нас грушамі ці толькі каму аднаму падасць сваю Тальсінскую красуню?

Вось асцярожна адрывае ад галіны адну грушу і апускае яе перад тварам Веркі. Дзяўчынка зразумела, што гэта ёй, і, борздзенька выняўшы з «кошыка» вялізную, як гарбуз, і пахкую, як мёд, грушу, не вытрымлівае, упіваецца зубкамі ў мядовую мякаць...

— Ой, як смачна! — скрозь сліну ўскліквае дзяўчынка.

І гэта радуе гаспадара, і дзядзька Пятро зноў уздымае для шчыка здымачную прыладу. Потым — зноў. Мы не верым, бо чулі ад дарослых, што ён ніколі і нікога не частуе сваімі грушамі. Ці то нагаворвалі на чалавека, ці гэта мы змаглі знайсці да яго падыход?

На дарогу дзядзька даў самую прыгожую і вялікую грушу Верцы.

— Дадому занясі, — параіў мічурын, — сястрычку пачастуй...

Грушы ў Пятра паспявалі заўсёды ў сярэдзіне верасня. Яны былі вялікія і сакавітыя, мелі пераважна васковы колер, аж свяціліся на сонцы. І захоўваліся доўга — да самай вясны.

Можа, і быў скнарны лучыцкі мічурын, але я на свае вочы колькі разоў бачыў, як ён прыходзіў у адведкі да нашай хворай суседкі і прыносіў поўную міску груш. Суседка казала, што па смакаце яны саступаюць хіба толькі мёду...

Сваё багацце Пятро ахоўваў і бярог, як зрэнку вока. У чэрвені ён заступаў на варту. Што гэта такое? О, гэта цікавая старонка Хілько-Хвалько. Пра яе трэба сказаць асобна...

Як толькі пачыналася лета, Пятро пачынаў ладзіць паветку. Пераносіў туды свае рэчы, клаў побач стрэльбу, зараджаную соллю. Да верасня браў з жонкаю «развод», бо перасяляўся жыць у сваю «казарму». Ахоўваў сад. Грушы і яблыні.

Калі пыталіся, чаго ён ночы праводзіць каля садовых дрэваў, хітра адказваў, пагладжваючы няголеную бараду:

— А мне трэба зводзіць дэбет з крэдытам... Весці штодзённы ўлік пладоў. Пільна сачыць за тым, каб колькасць груш, якія ўпалі на зямлю, адпавядалі тым, якіх не стае на дрэве. Не хвалюся, але арыфметыка ў мяне — цюцелька ў цюцельку...

— А калі мы залезем у сад, дзядзька Пятрусь? — гаварылі хлопцы, якіх яшчэ не забралі ў армію. — Што тады будзе?

Гаспадар даставаў ружжо з-пад ложка і паказваў смельчакам:

— Тое і будзе, што вы доўга на свае азадкі сесці не зможаце... Соллю я іх пасыплю...

Гэта быў пераканаўчы факт, і юнакі адступалі назад — не асмельваліся здзейсніць дыверсію. Сваволілі, зразумела, бо ў іх бацькоў былі сады, і няхай не такія гатункі, як у Хілько, але садавіны хапала ў кожнага...

У той вечар невядома чаго занесла Пятра Хілько ў чайную ці кафэ, якое мела назву «Дружба». Пэўна, захацеў папіць халоднага піва, якое прывозіла з Мазыра ў дубовых бочках буфетчыца Маня.

Але як толькі Пятро пераступіў парог «забягайлаўкі», як празвалі мясцовыя жыхары кафэ, яго сустрэлі радасным воклічам падвесяленелыя хлопцы:

— О, Ігнатавіч, мы цябе ўспаміналі добрым словам! Падсядай да нас, мы і півам пачастуем, і віном... Гэта ж дзембель адзначаем, так што сёння ў нас свята! Запрашаем, Пятро Ігнатавіч! Пакрыўдзімся, калі не падсядзеш...

Для прыліку трохі паўпарціўся, пааднекваўся, але дужыя хлопцы падхапілі падпахі, амаль паднеслі да стала, усадзілі на пачэснае месца.

— Выпі за нас, за наш дзембель!

Хіба ж адмовішся, калі так настойліва ўпрошваюць? Выпіў і адну, і другую шкляначку. Дабрэнна на душы стала, амаль соладка.

— Ці добра ты спіш, дзядзька Пятро?

— Сплю добра, хлопчыкі. І чуйна. Сплю і чую, як у Пцічы сом хвастом боўтае. Не хвалюся, але так яно і ёсць...

— Ну і хвалько ты, дзядзька Пятро. Як можна чуць, што сом хвастом па вадзе б'е?

— А я чую, не хвалюся. Вуха ў мяне чуйнае, як у бабра...

— Малаток, Хвалько, так і трымай! — хлопцы ўжо асалавела глядзелі на мічурына, зноў падлівалі яму «каленвал» — нават гарэлцы далі лучынцы мянушку за «ламаныя» літары. І ганарыліся, што ад іх яна пайшла, што за імі першынство ...

Хоць і п'яны быў Хвалько, але не забываў пра свой «пост № 1» — так ён называў сваю паветку.

Жыў Пятро на ўскраіне вёскі — на выгане. Збоч выгана люстравалася штучнае возера на два гектары. Выкапалі яго на месцы тарфяной выпрацоўкі. Глыбіня была ўсюды аднолькавая — больш, чым паўтара метра. А па цэнтры ўзвышаўся астравок — па плошчы каля соткі. Астравок ледзь-ледзь пакрываўся вадой. На ім рос рагоз і асака. Тырчэлі невялікія купіны.

З прыходам ночы згусціўся туман, нізка паплыў над зямлёю і вадой. Вераснёўская ноч была ціхай і цёплай...

Дзікія качкі лапаталі крыламі, пералятаючы з месца на месца.

Ніхто не бачыў, як сярод ночы, недзе пад дзве гадзіны, да плота Хвалько ціха падышлі невядомыя. Гэтак жа ціха адарвалі некалькі частаколін. Працавалі зладжана і хутка — як разведчыкі. Калі б хто збоку назіраў за імі, то вызначыў бы дакладна, што хлопцы перад гэтым прайшлі вайсковую вывучку і да гэтай аперацыі рыхтаваліся доўга і метадычна.

— Цсс!.. — прыставіў адзін з іх палец да рота. — Цішэй!

— Ёсць цішэй, таварыш сяржант!

Размаўлялі толькі жэстамі, чужы чалавек зразумець не змог бы. Адзін паказваў рукой, што нешта трэба падняць з зямлі, другі, зразумеўшы, ківаў галавой.

А тым часам, паклаўшы правую руку пад шчаку, на варце № 1 спаў гаспадар саду.

Хлопцы абступілі соннага вартавога. Дасталі з-пад ложка ружжо, аднеслі яго дахаты. Ніводнага ўздыху не чуваць, ніводная галінка не трэснула пад іх нагамі... Адкуль высадзіўся той дэсант, ніхто, мусіць, не ведаў. І невядома было, якую сакрэтную ваенную аперацыю праводзілі хлопцы ў агародзе Пятра Ігнатавіча.

На зямлю вылілі таматны соус «Пікантны» — мусіць, для пікантнасці сітуацыі...

— Раз, два, тры! — прашаптаў, аддаўшы нейкі загад, камандзір дыверсійна-разведвальнай групы.

Рукі адначасова паднялі ложак у паветра. Паднеслі да вялікага прагалу ў плоце. Прасунулі праз яго за межы агарода. Нізка сагнуўшыся да зямлі, хлопцы неслі некуды ложак і таго, хто быў на ім.

Ззаду, трымаючы ў руках дзве шырокія дошкі, беглі двое астатніх членаў групы. І ўсё гэта рабілі моўчкі, без усялякіх камандаў. Мусіць, пра ўсё дамовіліся яшчэ загадзя, распрацаваўшы план па захопе «языка»...

Моўчкі ўвайшлі ў возера. Ішлі па шыю ў вадзе, несучы на паднятых руках ложак. Потым, дапяўшы да астраўка, паклалі на ваду дзве дошкі. На іх і паставілі металічныя ножкі спальнага прыстасавання вартавога.

Гэтак жа ціха разведчыкі, не прамовіўшы ніводнага слова, пасунуліся да берага. А потым разбегліся ў розныя бакі — як усё роўна растварыліся ў начным шэрым тумане, што насоўваўся на Лучыцы ад штучнага возера...

Звычайна гаспадар прачынаўся тады, калі жонка, Насця Пятроўна, расчыняла дзверы з хаты. Ішла даіць карову. Рыпенне дзвярэй для яго было накшталт будзільніка і арыенціра, што прыйшла раніца і пара прымацца за гаспадарскую работу...

На гэты раз Насця, не звярнуўшы ўвагі на Пятра, пайшла прама ў хлеў. За некалькі хвілінаў падаіла Чарнуху, выгнала ў двор.

Вяртаючыся, прайшла паўз грушу. І вельмі падзівілася, не ўбачыўшы пад дрэвам ложка. Ды што ложка — і гаспадара не было.

— Божа, ну бываюць цуды на белым свеце, але ж не такія, — прамовіла Насця ўслых. — Як растварыўся чалавек...

Жанчыну ахапіла яшчэ большая трывога, калі на дроце, які быў нацягнуты паміж дрэвамі, заўважыла адзенне мужа. Боты стаялі каля самай грушы.

Насця азірнулася, халадок пашыўся пад сэрца.

— Пеця-яяаа! — ціхенька пагукала. — Петрусё-ёоок!..

Памаўчала нейкі час, а затым пагукала гучней. Потым яшчэ гучней. У адказ — маўчанне...

— Забілі! Людзі добрыя, забілі майго Пецечку! Во і сляды забойцаў відаць. Цэлая група прыходзіла! Людзі-ііі! Памажыце!

У гэты час жанчыны, адправіўшы сваіх кароў на пашу, стаялі на вуліцы ды абмяркоўвалі вясковыя падзеі. Крык і плач Насці ўстрывожыў іх, прымусіў прыслухацца. Прыбеглі да яе...

А жанчына ламала ў роспачы рукі, плакала, галасіла. А калі ўбачыла на зямлі «кроў», якую імітавала таматная паста, яшчэ гучней загаласіла...

Але ніхто не чуў і не бачыў, што здарылася ноччу. Таму і не верыў у начное злачынства. Слядоў сапраўды шмат, але тыя сляды маглі з'явіцца і днём, можа, Пятро запрашаў каго да сябе ў госці...

— Нікога ў яго днём не было-ооо! — не магла Насця пераджыць такога гора.

Нехта сказаў-параіў, каб выклікалі міліцыю. Няхай, маўляў, прыедуць кінолагі з сабакамі ды вызначаць, у які бок пабеглі самі і панеслі нябожчыка забойцы. Мо дзе за гэты час закапалі ў лесе...

Пятра Хілько разбудзілі незразумелыя галасы, нейчы плач.

«Што б гэта магло быць? — пранеслася ў галаве. — Нешта ж здарылася ў вёсцы...»

Расплюшчыў вочы. І здзівіўся. Па ўсёй верагоднасці над яго галавой павінен быць дах паветкі, а тут — суцэльная імгла. Крутануў галавой налева-

направа — шэры туман, касмылі толькі плылі па зямлі. Няма ні яго хаты, ні груш, ні яблынь.

«Што ж гэта такое? — кінула ў халодны пот. — А дзе ж мой сад?..»

І Пятро сеў на ложак, усё яшчэ не цямячы, дзе ён і што з ім. Хацеў ступіць на зямлю, але ногі, не знайшоўшы цвёрдага апірышча, увязлі ў халоднай багне. Валасы ад страху і недаўмення сталі дыбам...

«Каюк мне, труба! — апякла думка. — Сусветны патоп? А дзе ж жонка, дзеці? Няўжо ўтапіліся, а я адзін выратаваўся?..»

У галаве прамільгнулі тысячы версій і разгадак, але ніводная не раскрыла перад ім тайну.

Калі трошкі суцішыўся, убачыў, што «пост № 1» стаіць на дошках і дрэйфуе, як нейкі незвычайны карабель, хіба толькі падпарадкоўваецца ветру...

Першым, што Пятро змог пракрычаць прастуджаным за ноч голасам, быў крык аб дапамозе:

— Ратуйце! Людзі добрыя, ратуйце!..

Але ніхто не адгукнуўся. Пятро чуў, як нехта галасіў і гукаў нейкага Пятра...

Пайшоў на тыя гукі. Ступіў крок і праваліўся ў ваду, з галавой нырнуў у яе, ад чаго яшчэ больш напалохаўся...

«Прапаў... За нішто прапаў, — агарнула шкадаванне самога сябе. — Як швед пад Палтавай...»

І Пятро паплыў, хутка грабучы рукамі, на людскія галасы. Падганяў холад, а таксама страх, што ўжо, мабыць, ніколі не выплыве з невядомага мора ці акіяна. Калі ж выкарабкаўся з возера і ступіў на сухі бераг, ахапіў жах і здзіўленне: насустрач беглі людзі, нешта крычалі і махалі рукамі. Лучынцы абступілі яго і не пазнавалі: твар перапэцканы, сподняя бялізна — кальсоны — не белыя, а спрэс афарбаваныя ў жоўта-карычневы балотны колер...

Першай пазнала мужа Насця, кінулася, абняла, радасна загаварыла:

— Ты жывы? Жывы, Пецечка? А мы ўжо думалі, што ты на тым свеце...

І тады зарагаталі ўсе, хто стаяў побач. І мужчыны, і жанчыны.

Пятро ж, убачыўшы, у якім выглядзе знаходзіцца, адпіхнуў ад сябе жонку і нішком кінуўся да свайго агарода.

Гэта была ганьба і крах яго непахіснага аўтарытэту, які здабываў гадамі.

Самае ж цікавае ў гэтай гісторыі было тое, што злачынцы не сарвалі з дрэваў ніводнага яблыка ці грушы. Дэбет цалкам сыходзіўся з крэдытам.

Затое для лучынцаў пачалася эра новага летазлічэння. Людзі казалі: «А, гэта было пасля ўжо, як Хвалько плаваў па возеры на ложку...»

Хвалько ж пасля тае начной прыгоды перастаў вартаваць грушу. І ніхто не спакушаецца на яе плады.

А заадно Пятро перастаў казаць і сваё звычнае: «Я не хвалюся...»

Ніхто і да сённяшняга часу не ведае, з якога самалёта ці верталёта скінулі тую разведдыверсійную групу. Бо ніхто ў тую ноч не чуў ніякага гулу рухавікоў лятальнага апарата.

Цікава было б на гэты конт зазірнуць у дзённік летапісца — якія ў яго вывады пра гэтае здарэнне. Каго Пятро абвінавачваў у начным рэйдзе: амерыканскі спецназ ці, можа, які НЛА.

Да хіба туды зазірнеш?



# ГЛІНЯНЫЯ КНІГІ

Гэтым вершам каля чатырох тысяч гадоў.

Яны пісаліся тады, калі Вавілонія і Асірыя былі магутнымі дзяржавамі ў старажытна-мудрым Двухрэччы.

Гісторыя Двухрэчча — складаная і таямнічая. Шумеры, плямёны невядомага этнічнага паходжання, асвоілі балоцістую, але ўрадлівую даліну паміж рэкамі Тыгр і Еўфрат, асушылі балоты, справіліся з разбуральнымі разлівамі Еўфрата, стварылі складаную сістэму ірыгацыі, пабудавалі гарады-дзяржавы.

Шумерскі перыяд гісторыі Двухрэчча налічвае каля паўтары тысячы гадоў. Потым тут засяліліся акадцы. Аднак моваю навукі, рэлігіі, літаратуры доўгі час заставалася шумерская мова — нават тады, як жыхары Двухрэчча перайшлі поўнасцю на акадскую мову, а шумерская стала мёртваю.

Вавілоняне — народ, які ўтварыўся ад зліцця шумераў і акадцаў, які гаварыў на акадскай мове. Найвышэйшага росквіту Вавілон дасягнуў пры шостым цары першай дынастыі горада Вавілона Хамурапі (1792—1750 гг. да н. э.). Аднак ужо пры апошніх царах Вавілон зазнае нашэсце горных плямёнаў і занепадае на пяцьсот гадоў.

Асірыя з'яўляецца на гістарычнай арэне прыкладна ў XIV стагоддзі да н. э. — як магутнейшая дзяржава Пярэдняй Азіі.

Клінапіс, пісьмо на гліняных таблічках, заўсёды панаваў у гарадах-дзяржавах Двухрэчча. Тады ж існавалі нават бібліятэкі клінапісных тэкстаў на табліцах. Гліняныя кнігі захоўваліся ў правінцыйных бібліятэках і ў палацах асірыйскіх цароў. Асабліва славутай была бібліятэка цара Ашурбанапала (669—636 гг. да н. э.) у Ніневіі, сталіцы Асірыі, у якой было сабрана больш за 700 твораў.

Але большасць тэкстаў дайшлі да нас, як кажуць, у абломках. Твораў, якія захаваліся поўнасцю, не многа. Таму перад асірыёлагамі і сёння стаіць нялёгкая задача: апазнаць асобныя фрагменты і са шматлікіх дробных частачак скласці адзіны зразумелы тэкст. Шмат дзе ім даводзіцца пазначаць: «астатняе разбіта», «далей — разбураны тэкст», «сорак два радкі захаваліся дрэнна», «далей не хапае сто дваццаць вершаваных радкоў» і г. д.

І перакладчык з гэтым таксама сутыкнуўся. Было нялёгка, але ж часам і ўскрыкваў ад радасці: «Дык мы ж молімся гэтак жа шчыра, як і вавілоняне!» Перакладаючы загавор для супакаення дзіцяці (таблетку ад заклінальніка Кіцір Набу), здзівіўся абраду: «Ты пакладзеш у галавах у дзіця хлеб, тройчы прачытаеш гэты загавор, правядзеш ад галавы да ног і кінеш гэты хлеб сабаку: і неспакойнае дзіця сціхне».

Ды ў якой-небудзь глухой беларускай вёсцы наша родная непісьменная бабка-шаптуха і сёння, у трэцім тысячагоддзі нашай эры, робіць і гаворыць усё гэтак жа, як рабілі тое ў славутым Вавілоне!

З хваляваннем прапаноўваю гэтыя пераклады з гліняных кніг чытачам «Полымя». Хачу, каб беларусы пачулі іх на роднай мове.

*Янка Сіпакоў*

# Я ЗНАЙДУ ДЛЯ ЦЯБЕ ЗАПАВЕТНАЕ СЛОВА

*З паэзіі Вавілоніі і Асірыі*

## ЗАМОВА

Я ж, божа мой, што я зрабіў?
Божа мой, госпадзе, што я зрабіў?
Спадарыня, багіня мая, што я зрабіў?
Божа, татулька мой, што я зрабіў?
Багіня, матулька мая, што я зрабіў?
О той, у чыім доме я рабом нарадзіўся, што я зрабіў?
О той, чый я раб, што я зрабіў?
Не пашкадаваў для яго быка са стойла,
Не пашкадаваў для яго дабра, якое маю.
Хлеб знайду — адзін не з'ядаю,
Ваду знайду — адзін не вып'ю.
Як таго, хто знойдзены хлеб адзін з'ядае, куды мяне гоніш?
Як таго, хто цяжкаю клятвай-бажбою лёгка пакляўся, куды мяне гоніш?
Божа, забраў ты жонку, забраў сына.
Божа, прымі маю малітву, смуткам поўную.
Быццам воды рачныя, куды я іду, — не ведаю,
Быццам лодка, прыстані, да якой прычалю, — не ведаю.
Упаў я — падымі мяне, спатыкнуўся — падай руку мне!
Божа, упаў я — падымі мяне, спатыкнуўся — падай руку мне!
У водах спакойных ты — весло мне,
У водах глыбокіх ты — стырно.
Не аддавай мяне часу злому,
Непагадзі пахмурнай мяне не выдай!
Хлеб знайду — са слязамі з'ядаю,
Ваду знайду — са слязамі вып'ю.
Як той, хто цягнецца па балоце, у гразі выкачаўся.
Ты, хто глядзіць, угледзься ў мяне як мае быць:
Як трысняговую затоку, няшчасцямі ты мяне запоўніў.
Галаву паднімі ж мне!
Ты, хто глядзіць, угледзься ў мяне хорашанька:
Чалавек, на якога ты паглядзіш, — чалавек гэты жыць будзе.
Ты, хто глядзіць, угледзься ў мяне добранька:
Ад позірку вачэй тваіх чалавек жыць будзе.
Ты, хто глядзіць, угледзься ж у мяне ўважлівенька!
Сэрца бога дзеля мяне на месца сваё няхай вернецца!

## НЯХАЙ АДПУСЦІЦЬ

*З заклёну*

Грэх мой, як дым, няхай падымецца ў неба.
Грэх мой, як воды, няхай пакіне цела.
Грэх мой, як хмара, што плыве, над полем чужым няхай выльецца.
Грэх мой, як полымя, няхай згасне.

Грэх мой, як агонь, што ляціць, няхай знікне.
Грэх мой, як цыбуля, няхай будзе абшалушаны.
Грэх мой, як фінік, няхай будзе ababраны.
Грэх мой, як цыноўка, няхай будзе расплецены.
Грэх мой, як пабіты гаршчок ганчара, на месца сваё няхай не вернецца.
Грэх мой, як чарапок, няхай будзе раструшчаны.
Грэх мой, як срэбра-золата, з гор прынесенае, на месца сваё няхай не вернецца.
Грэх мой, як прывазное жалеза, на месца сваё няхай не вернецца.
Грэх мой, як рухомыя воды рачныя, на месца сваё няхай не вернецца.
Грэх мой, як вырваны тамарыск, на месца сваё няхай не вернецца.
Грэх мой, як выліты лівень, на месца сваё няхай не вернецца.
Грэх мой няхай птушка падыме ў неба,
Грэх мой няхай рыба ўвалачэ ў бездань.

## ХОРАША МАЛІЦЦА ТАБЕ

*Малітва да Іштар*

Хораша маліцца табе — як лёгка ты чуеш!
Бачыць цябе — шчасце, воля твая — светач!
Злітуйся нада мною, Іштар, парадуй доляй!
Ласкава зірні, парадуй доляй!
Выберы шлях, пакажы дарогу!
Абліччы твае я зведаў — суцеш ласкаю!
Ярмо тваё я цягаў — ці ж заслужу адпачынак?
Загáдаў тваіх чакаю — будзь міласэрнаю!
Ясь тваю ахоўваў — палáшчы і даруй!
Ззяння твайго шукаў — чакаю для сябе прасвятлення!
Усёмагутнасці тваёй малюся — няхай буду я ў свеце!
Няхай будзе са мною добры Шэду, які стаіць перад табою!
Літасць Ламасу, што за табою, няхай будзе са мною!
Няхай прыбавіцца мне багацця, што беражэш ты справа,
Дабро, якое ты прытойваеш злева, хай атрымаю ад цябе я!
Загадай толькі — і мяне пачуюць!
І што сказаў я, няхай і здзейсніцца!
У здароўі цела і весялосці сэрца вядзі мяне якдзённа!
Прадоўжы мае дні, дабаў мне жыцця!
Няхай буду жывы я, няхай буду я здаровы,
Няхай збудуцца мае жаданні!
Няхай узрадуюцца табе нябёсы, з табой узвяселіцца няхай бездань!
Блаславённая будзь багамі сусвету!
Вялікія багі сэрца тваё няхай супакояць!

**Тлумачэнні на глінянай таблічцы:**

*Малітва падняцця рук перад Іштар. Паставіць перад абразом Іштар курыльню з духмяным кіпарысам, выліць ахвярнае піва і тройчы зрабіць падняцце рук.*

## ЦЯЛУШКА ЦЯЖАРНАЯ

*Замова для парадзіхі*

Цялушка цяжарная, цялушка раджае.
У загоне Шамаша,
У загарадзе Шакана.
Убачыў яе Шамаш — заплакаў,
Убачыў Найсвятлейшы — заструменілі слёзы.
Па кім жа гэта Шамаш заплакаў,
У Найсвятлейшага заструменілі слёзы?
«Па цялушцы маёй — не раскрыцца ёй,
Па цялятках маіх — не нарадзіцца ім.
Цяжарная яна, ды лона вузкае»...

*(Разбітыя тры радкі, захаваліся толькі асобныя словы.)*

І пакіне дзіця ўлонне!
Калі хлопчык гэта — то наш спадкаемец будзе,
Калі дзяўчынка — жаданая госця будзе!
Няхай дзіця на зямлю адпусцяць.

## ЖЫХАР ПОЦЕМАК ПРЭЧ З ПОЦЕМАК

*Калыханка-загавор*

Жыхар поцемак прэч з поцемак
Пайшоў паглядзець на сонечнае святло.
Што ж дзіця так зазлавала, што маці яго плача,
А ў нябёсах у багіні струменяць слёзы?
Гэта хто ж такі, хто на зямлі так раве?
Калі гэта — сабака, няхай адломяць яму скрылік,
Калі гэта — птушка, няхай ёй выкінуць крошак,
Калі гэта — свавольнік, дзіця чалавечае,
Няхай спяюць яму загавор Ану і Анту,
Каб бацька яго спаў, свой сон завяршаючы,
Каб маці-руказдольніца закончыла клопат свой.
Не мой гэта загавор, — загавор Эйі і Асалухі, загавор Даму і Гулы,
Загавор Нінакукутум, спадарыні чарадзейства:
Яны мне сказалі, а я паўтараю.

**Тлумачэнне на глінянай таблічцы:**

*Загавор, каб супакоіць дзіця. Абрад такі: ты пакладзеш у галавах у дзіцяці хлеб, тройчы прачытаеш гэты загавор, правядзеш ад галавы да ног і кінеш гэты хлеб сабаку: і неспакойнае дзіця суціхне. Таблетка Кіцір-Набу, заклінальніка.*

## У КРАІНУ БЕЗ ВЫХАДУ

*Сашэсце Іштар у Апраметную*

«Ідзі, о брамнік, адчыні ёй вароты,
Абыдзіся з ёю гэтак, як раяць даўнія законы».
Прыходзіць брамнік, адчыніў вароты ёй:
«Уваходзь, спадарыня! Весяліцца Куту!
Палац Апраметнай табе радуецца!»

У адны вароты ўвёў яе і здымае, прыбірае тыяру з яе галавы.
«Навошта, брамнік, ты прыбіраеш вялікую тыяру з маёй галавы?»
«Уваходзь, спадарыня! У царыцы зямлі такія законы».
У другія вароты ўвёў яе і здымае, прыбірае падвескі з яе вушэй.
«Навошта, брамнік, ты прыбіраеш падвескі з маіх вушэй?»
«Уваходзь, спадарыня! У царыцы зямлі такія законы».
У трэція вароты ўвёў яе і здымае, прыбірае каралі з яе шыі.
«Навошта, брамнік, ты прыбіраеш каралі з маёй шыі?»
«Уваходзь, спадарыня! У царыцы зямлі такія законы».
У чацвёртыя вароты ўвёў яе і здымае, прыбірае шчыточкі з яе грудзей.
«Навошта, брамнік, ты прыбіраеш шчыточкі з маіх грудзей?»
«Уваходзь, спадарыня! У царыцы зямлі такія законы».
У пятыя вароты ўвёў яе і здымае, прыбірае пояс нараджэнняў з яе паясніцы.
«Навошта, брамнік, ты прыбіраеш пояс нараджэнняў з маёй паясніцы?»
«Уваходзь, спадарыня! У царыцы зямлі такія законы».
У шостыя вароты ўвёў яе і здымае, прыбірае бранзалеты з яе рук і ног.
«Навошта, брамнік, ты прыбіраеш бранзалеты з маіх рук і ног?»
«Уваходзь, спадарыня! У царыцы зямлі такія законы».
У сёмыя вароты ўвёў яе і здымае, прыбірае хусцінку сораму з яе цела.
«Навошта, брамнік, ты прыбіраеш хусцінку сораму з майго цела?»
«Уваходзь, спадарыня! У царыцы зямлі такія законы».

Калі Іштар, спадарыня, сышла ў Апраметную, —
Бык на карову болей не скача,
Асёл асліцы болей не хоча,
Жонку пры дарозе муж не крые,
Спіць муж у сваёй спальні, спіць жонка ў сваёй...

## ПАСНУЛІ КНЯЗІ

*Малітва да начных багоў*

Паснулі князі, улегліся мужы, дзень завершаны;
Шумлівыя людзі заціхлі, расчыненыя раней дзверы замкнёны,
Багі свету, багіні свету,
Шамаш, Сін, Адад і Іштар, —
Пайшлі яны адпачываць у нябёсы;
Не судзяць болей судоў, не разводзяць болей сварак,
Ствараецца ноч, палац абязлюдзеў, заціхлі пакоі,
Горад улёгся, Нергал крычыць,
І той, хто просіць суда, напаўняецца сном;
Шамаш, абаронца невінаватых, бацька бяздомных,
Увайшоў у сваю спальню.

Вялікія багі начныя —
Палымяны Гібіль, магутны Эра,
Лук і Ярмо, Крыжавіна, Дракон,
Калясніца, Каза, Овен і Змяя —
Цяпер узыходзяць.
У здзейсненым гаданні, у прынесеным у ахвяру ягняці
Праўду мне абвясціце!

## ПРА ТАГО, ХТО ЎСЁ БАЧЫЎ

*З эпасу пра Гільгамеша*

### З табліцы IV

*(Ад гэтай табліцы захаваліся толькі фрагменты, узаемнае размяшчэнне якіх не зусім зразумелае.)*

Праз дваццаць попрышч адламалі лустачку,
Праз трыццаць попрышч на прывал спыніліся,
Пяцьдзесят прайшлі яны за дзень попрышч,
Шлях шасці тыдняў прайшлі — на трэці дзень дасягнулі Еўфрата.
Перад сонцам выкапалі калодзеж.
Падняўся Гільгамеш на гару, паглядзеў на наваколле:
«Гара, прынясі мне сон шчаслівы!»

### З табліцы VI

Ён абмыў сваё цела, уся зброя зіхцела,
І з ілба валасы на спіну ён закінуў,
З усім брудам расстаўся, ахінуўся ўсім чыстым.
Як накінуў ён плашч і як падперазаўся,
Як сябе увянчаў Гільгамеш тыярай, —
На яго прыгажосць заглядзелася Іштар, багіня:
«Я хачу, Гільгамеш, каб ты быў маім мужам,
Сталасць цела свайго, Гільгамеш, падары мне!
Толькі мужам ты будзеш мне, я табе — жонкаю!
Падрыхтую табе я калясніцу — усю з золата,
З залачонымі коламі, з рагаўём бурштыновым,
А ўпрагуць у іх буры — наймагутнейшых мулаў.
Увайдзі ж у наш дом з духмянасцю кедра!
Як ты будзеш заходзіць у дом наш,
Хай парог і пасад твае ногі цалуюць,
Хай укленчаць цары, уладары і ўладыкі,
Хай даніну нясуць табе з гор і раўнінаў,
Козы тройняў, авечкі хай двойняў раджаюць,
А асёл твой хай мула дагоніць,
І хай коні ў тваёй калясніцы будуць гордыя ў бегу,
А валы пад ярмом твае хай не ведаюць роўных!»
Гільгамеш раскрыў свае вусны і кажа спадарыні Іштар:
«Навошта ты хочаш, каб я ўзяў цябе ў жонкі?
Я шмат табе дам сукенак, ялею для цела,

Я дам табе мяса для харчу і ў ежу,
Накармлю цябе хлебам, што варты багіні,
Вiном напаю, што варта царыцы,
Жытло тваё я ўпрыгожу шыкоўна,
Клеці твае ўсе зернем засыплю,
І куміраў тваіх апрану я ва ўборы, —
Але ў жонкі сабе цябе не вазьму я!
Ты — жарніца, што ў холад згасае,
Чорныя дзверы, што не трымаюць ветру і буры,
Палац, які абваліўся на голаў герою,
Слон, які растаптаў сваю гуньку,
Смала, якою насільшчык апараны,
Мех, з якога абліты насільшчык,
Пліта, што сцяну не ўтрымала каменную,
Таран, што прадаў жыхароў у зямлю варожую,
Сандалета, што цісне нагу васпана!
Якога мужа любіла ты вечна?
Якою славай цябе шануюць?
Хочаш, пералічу я, з кім ты ў распусце блудзіла!
Мужу юнацтва твайго, Думузі,
З году ў год ты прыносіла адны рыданні.
Птушку-пастушка яшчэ ты любіла —
Ты яго ўдарыла, крылы зламала;
Ён жыве сярод лясоў і крычыць: «Мае крылы!»
І льва ты любіла, дасканалага сваёй сілаю, —
Сем і сем яму выкапала пастак.
І каня ты любіла, слаўнага ў бітве, —
Бізун, цуглі і плётку яму ты падаравала,
Сем попрышч скакаць ты яму судзіла,
Мутнае піццё ты яму дазваляла наперад,
Яго маці, Сілілі, ты таксама пакідала рыданні.
І яшчэ ты любіла пастуха-казапаса,
Які табе насіў папяловыя хлябцы,
Кожны дзень сасункоў табе рэзаў:
Ты яго ўдарыла, у ваўка ператварыла, —
Ганяюць яго цяпер свае ж падпаскі,
І сабакі свае за лыткі яго кусаюць.
Ішулану, бацькавага садоўніка, ты любіла,
Які табе заўсёды насіў фінікаў гронкі,
Кожны дзень табе стол прыгожачы, —
Падняла ты вочы, да яго падышла ты:
«О мой Ішулану, давай асалоду тваёй сталасці зазнаем:
Ты, рукою агаліўшыся, дакраніся да нашага лона!»
Ішулану адказаў табе: «Чаго ты ад мяне хочаш?
Чаго не пякла мая маці, таго не еў я, —
Як жа буду я есці хлеб грэху і сораму?
Ці ж будзе мне рагожка ад сцюжы ўкрыццем?»
Ты ж, пачуўшы ягоныя словы,
Ты яго ўдарыла, у павука перайначыла,
Пасяліла яго сярод цяжкай працы, —
Каб з павучыны не вылазіў, каб далоў не спускаўся.
І са мною, палюбіўшы, ты тое ж зробіш!»

Як пачула Іштар гэтыя словы,
Яна так раз'юшылася, паднялася на неба,
А падняўшыся, перад бацькам сваім, Ану, плача,
Перад Анту, маці ейнаю, цякуць яе слёзы:
«Татка мой, Гільгамеш мяне знеслаўляе,
Гільгамеш пералічыў усе мае грахі,
Усе мае заганы і ўсю распусту»...

## ЭЛІЛЬ ДАЎ ТАБЕ ВЕЛІЧ

*Ваенная песня цара Хамурапі*

Эліль даў табе веліч —
Што ж, каго ты чакаеш?
Сін табе даў перавагу —
Што ж, каго ты чакаеш?
Нінурта даў зброю славы —
Што ж, каго ты чакаеш?
Іштар дала табе сілу бітвы —
Што ж, каго ты чакаеш?
Шамаш і Адад твая заступа —
Што ж, каго ты чакаеш?

## Я — ШАРУКЕН, ЦАР МАГУТНЫ

*Паданне пра Саргона*

Я — Шарукен, цар магутны, цар Акада,
Маці мая — жрыца, бáцькі я не ведаў,
Брат майго бацькі жыве ў гарах,
Горад мой — Ацупірану, што ляжыць на беразе Еўфрата.
Зацяжарыла мною маці мая, жрыца, нарадзіла мяне ўпотай.
Паклала ў трысняговаю скрынку, уваход смалою замазала,
Кінула ў раку, але тая мяне не затапіла.
Падняла рака, панесла мяне да Акі, ваданоса.
Акі, ваданос, багром мяне падняў,
Акі, ваданос, выхаваў мяне як сына,
Акі, ваданос, садоўнікам мяне зрабіў.
Калі быў я садоўнікам, — Іштар мяне пакахала,
І пяцьдзесят чатыры гады на царстве быў я.
Людзьмі чорнагаловымі я валодаў і кіраваў,
Магутныя горы сякерамі меднымі зраўняў я,
Я падымаўся на высокія горы,
Пераадольваў нізкія горы,
Краіну марскую тройчы абложваў.
Дзільмун перамог я.
У Дуранкі вялікі ўвайшоў і пасяліўся там...
Хто з цароў, што ўзнімуцца потым,
Пасля мяне на царстве будзе, —
Людзьмі чорнагаловымі няхай валодае і кіруе,

Магутныя горы сякерамі меднымі няхай зраўняе,
Няхай падымецца на высокія горы,
Краіну марскую тройчы няхай аблoжа,
Дзільмун перамoжа,
У Дуранкі вялікі ўвойдзе
З майго горада Акада...

*(У другой палове верша таблічкі разбітыя, а некаторыя словы зацерліся так, што іх немагчыма прачытаць.)*

## РАБ, СЛУХАЙСЯ МЯНЕ

*Размова гаспадара з рабом*

### I

«Раб, слухайся мяне!» — «Ага, гаспадар мой, ага!»
«Хутчэй прывязі калясніцу, запражы яе, у палац я паеду!»
«З'ездзі, гападар мой, з'ездзі. Ласка цара табе будзе не лішняй.
Калі ты і правінаваціўся ў чым, ён даруе табе літасць».
«Не, раб, не паеду я ў палац!»
«Не ездзі, гаспадар мой, не ездзі.
Цар у далёкі паход цябе выправіць,
Пашле невядомаю дарогаю,
Удзень і ўночы пакутаваць ён цябе прымусіць».

### II

«Раб, слухайся мяне!» — «Ага, гаспадар мой, ага!»
«Прынясі-тку вады мне для рук, палі мне яе, я палуднаваць буду!»
«Палуднуй, гаспадар мой, палуднуй. Частая яда дае палёгку сэрцу,
Полудзень чалавека — полудзень яго бога, да вымытых рук добразычлівы Шамаш».
«Не, раб, не буду я палуднаваць!»
«Не палуднуй, гаспадар мой, не палуднуй.
Ежа і голад, піццё і смага — заўсёды з чалавекам».

### III

«Раб, слухайся мяне!» — «Ага, гаспадар мой, ага!»
«Прывязі-тку мне калясніцу, запражы яе, я на волю паеду».
«Едзь, гаспадар мой, з'ездзі. Вольны бадзяга заўсёды насыціць страўнік,
Бадзяжны сабака костачку знойдзе,
Пералётная птушка гняздо зладзіць,
Анагр, што бяжыць, спажытак знойдзе і ў пустыні».
«Не, раб, не паеду я на волю!»
«Не ездзі, гаспадар мой, не ездзі.
У вольнага бадзягі здрадлівая доля,
У бадзяжнага сабакі абломваюцца зубы,
У пералётнай птушкі дом яе ў сцяне замуруюць,
У анагра, што бяжыць, стэп — ягонае ложа».

### IV

«Раб, слухайся мяне!» — «Ага, гаспадар мой, ага!»
«Ствару-тку я сям'ю, завяду дзетак!»
«Завядзі, гаспадар мой, завядзі, ствары сям'ю,
Хто завёў дзетак — забяспечыў сябе памінальнымі ахвяраваннямі».
«Не, раб, не ствару я сям'і, не завяду дзетак!»
«Не стварай, гаспадар мой, не заводзь.
Сям'я — як зламаныя дзверы, пятля ёй імя.
З дзяцей толькі трэць здаровыя, дзве трэці — убогія».
«Дык ці ствараць мне сям'ю?» — «Не стварай сям'і!
Той, хто стварыў сям'ю, бацькоўскі дом раскідае».

### V

«Раб, слухайся мяне!» — «Ага, гаспадар мой, ага!»
«Свайму ворагу пакажу я пакору,
У судзе прамаўчу перад сваім супастатам!»
«Правільна, пакажы пакору, гаспадар мой, пакажы пакору,
Прамаўчы, гаспадар мой, прамаўчы перад супастатам».
«Не, раб, не скаруся я і не прамаўчу!»
«Не маўчы, гаспадар мой, не скарайся.
Калі нават ты і рота не адкрыеш зусім,
Ворагі твае будуць да цябе бязлітасныя і жорсткія».

### VI

«Раб, слухайся мяне!» — «Ага, гаспадар мой, ага!»
«А ці не ўчыніць мне злачынства?» — «Учыні, гаспадар мой, учыні.
Калі ты не ўчыніш злачынства, дзе возьмеш ты адзенне,
Хто дапаможа табе напоўніць жывот?»
«Не, раб, не зраблю я злачынства!»
«Не рабі, гаспадар мой, не рабі.
Хто робіць злачынства, таго ці заб'юць, ці з жывога здзяруць скуру,
Альбо яго аслепяць, альбо схопяць і кінуць у вязніцу».

### VII

«Раб, слухайся мяне!» — «Ага, гаспадар мой, ага!»
«Жанчыну я пакахаю!» — «Пакахай, гаспадар мой, пакахай!
Хто кахае жанчыну, забываецца на смутак і журбу».
«Не, раб, не буду я кахаць жанчыну!»
«Не кахай, гаспадар мой, не кахай.
Жанчына — яма, пастка, сіло-лаўніца,
Жанчына — вострый жалезны нож, які ўспорвае горла мужчыну».

### VIII

«Раб, слухайся мяне!» — «Ага, гаспадар мой, ага!»
«Хутчэй нясі мне ваду для рук, палі мне яе.
Здзейсню я ахвяру свайму богу!» — «Здзейсні, гаспадар мой, здзейсні.
Хто кладзе ахвяры свайму богу, у таго хараша на сэрцы,
Адну за другою пазыку дае ён».

«Не, раб, ахвяры я не зраблю!»
«Не рабі, гаспадар мой, не рабі.
Ці прывучыш ты свайго бога хадзіць за табою, як сабаку,
Калі ён патрабуе ад цябе то абрадаў, то паслухмянасці, то яшчэ чаго-небудзь!»

### IX

«Раб, слухайся мяне!» — «Ага, гаспадар мой, ага!»
«Даваць у рост буду я!» — «Правільна, давай, гаспадар мой, давай.
Хто ў рост дае, захоўвае сваё і прыбытак мае вялікі».
«Не, раб, не буду я даваць у рост!»
«Не давай, гаспадар мой, не давай.
Даваць у доўг — як кахаць жанчыну,
Атрымліваць назад — як нараджаць дзяцей шалапутных.
Людзі твае ж зерне з'ядуць, а цябе аблаюць
І цябе ж на тваё зерне прыбытку пазбавяць».

### X

«Раб, слухайся мяне!» — «Ага, гаспадар мой, ага!»
«Зраблю-тку я добрую справу для сваёй краіны!» — «Слушна, гаспадар мой, зрабі!
Хто робіць дабро для сваёй краіны,
Учынкі таго — у Мардука ў пярсцёнку».
«Не, раб, не зраблю я добрую справу для сваёй краіны!»
«Не рабі, гаспадар мой, не рабі.
Устань і прайдзіся па руінах старажытных,
Зірні на чарапы простых людзей і знатных:
Хто з іх быў злодзей, хто дабрадзей?»

### XI

«Раб, слухайся мяне!» — «Ага, гаспадар мой, ага!»
«Калі ўсё так, дык што ж тады дабро?»
«Шыю маю і шыю тваю зламаць бы,
У раку б кінуцца — вось што такое дабро!
Хто настолькі высокі, каб дастаць неба?
Хто настолькі шырокі, каб абняць усю зямлю?»
«Не, раб, я цябе заб'ю, выпраўлю туды першым!»
«А гаспадар мой хоць на тры дні ці перажыве мяне?»

***Пераклад Янкі Сіпакова.***

## СЛОЎНІК ДА ПУБЛІКАЦЫІ

А д а д — бог грому, дажджу і буры.
А й а — акадская багіня, жонка Шамаша.
А к а д — горад на Еўфраце, сталіца пры Саргоне, частка Месапатаміі. Дакладнае месцазнаходжанне не знойдзена.
А н т у — багіня, жонка Ану.
А н у — бог неба, галоўны ў трыядзе, у якую ўваходзілі яшчэ Эліль і Эйа.

Асалухі — спачатку бог невялікага горада Куара, а пры Хамурапі атаясамліваўся з богам Мардуком.

Ацупірану — «шафранны гарадок», «гарадок крокусаў» — з іншых крыніц невядомы.

Гібіль — бог агню.

Гільгамеш — паўлегендарны правіцель шумерскага горада Урука (Паўднёвая Месапатамія) у трэцім тысячагоддзі да н.э. У бібліятэцы асірыйскага цара Ашурбаніпала захавалася копія вавілонскай паэмы пра Гільгамеша, напісаная клінапісам на 12 гліняных таблічках.

Гула — багіня лекавання.

Дзільмун — востраў Бахрэйн, у старажытнасці цэнтр марскога гандлю з Індыяй і Аравіяй. У міфалогіі — «райская краіна».

Дуранкі — «сувязь неба і зямлі» — другое імя Ніпура, свяшчэннага горада шумераў і акадцаў.

Іштар — вавілона-асірыйская багіня кахання, урадлівасці і вайны.

Краіна марская — нізоўе ракі Еўфрат.

Куту — горад паміж Тыграм і Еўфратам, непадалёк ад Вавілона, месца культу бога Апраметнай Нергала.

Лук і Ярмо, Крыжавіна, Дракон, Калясніца, Каза, Овен і Змяя — сузор'і, вавілонскія назвы якіх не супадаюць з сучаснымі.

Мардук — спачатку бог Вавілона, а потым, у старававілонскі перыяд, галоўны бог усяго вавілонскага пантэона.

Нергал — бог Апраметнай.

Нінурта — бог вайны.

Попрышча (акадскае: бэру) — адлегласць двух гадзін ходу па роўнай дарозе.

Саргон (Шарукен) — цар Акада (2316—2261 гг. да н. э.), стваральнік першага палітычнага аб'яднання, якое ахапіла ўсю тэрыторыю Месапатаміі.

Сін — бог Месяца.

Чорнагаловыя — усе жыхары Ніжняй Месапатаміі.

Шакан — бог, заступнік стэпавых жывёл.

Шамаш — бог Сонца, нябесны суддзя, абаронца справядлівасці.

Шэду і Ламасу — добрыя духі-ахоўнікі.

Эліль — бог паветра і зямлі, вярхоўны ўладар усяго, што знаходзіцца паміж небам і зямлёй.

Эйа — бог сусветных прэсных водаў, захавальнік чалавечых лёсаў.

Эра — бог чумы. Ён жа — Нергал.

Этана — адзін з першых пасляпатопных цароў, які нібыта лятаў на неба на арле.





Ганад ЧАРКАЗЯН

# ТРЭШЧЫНА

*Апавяданне*

Расплюшчыць вочы ён не мог, нейкая нябачная сіла не давала растуліць вейкі, рабіла іх невыносна цяжкімі. І ён ляжаў з заплюшчанымі вачамі.

Да слыху даляталі асобныя словы чыхсьці размоў і гукі крокаў. І чамусьці музыка. Ён нават не быў упэўнены, што гэта рэальная музыка, а не якая там доўгая і сумная мелодыя ў самім сабе, таму што яна суправаджала яго даўно, вельмі даўно. Напэўна, з таго моманту, калі да яго пачала павольна вяртацца прытомнасць.

І словы: «Піць... Дайце пі-і-і-ць», — ён вымавіў раней, чым адчуў гэта жаданне. Ён яшчэ не зусім усведамляў, што вяртаецца да жыцця.

Чыясь рука даткнулася да яго лба. Напружыўся і расплюшчыў вочы. Калі да гэтага яму здавалася, што галоўнае — растуліць вейкі, сабраць сілы менавіта для такога імгнення, то калі зрабіў гэта, зразумеў, што нічога не бачыць. Дакладней, бачыць толькі цені фігур і водбліскі дзённага святла. Некалькі хвілін пайшло на тое, каб з гэтых ценяў акрэсліўся светлы і прыгожы твар медсястры, якая нахілілася над ім:

— Што ты просіш? У цябе ўсё добра. Усё...

Ён бачыў яе варушкія губы, але голас як быццам ішоў не адтуль, а аднекуль зверху. І нясцерпна хацелася піць. Перавёў пагляд ад гэтых губ да высокай белай столі, шырокіх вокнаў. Адусюль нясцерпна лілося вострае святло. Гэтае святло нібыта ўвабрала яго свядомасць, ён зноў заплюшчыў вочы і заснуў.

---

*Чарказян Ганад Бадрыевіч нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность», «Цвет доброты», «Пространство и время», «Караваны гор», «Чаргаві», «Плач», «Дом дождя», «Тоска по дому», «Зорная глыбіня», «Мелодия разлуки», кнігі прозы «Шамдзін», «Камни печали», раман «Опередить смерть» і інш; кнігі для дзяцей «Пумпур у калясцы», «Казкі дзеда Ганада».*

Прачнуўся ўжо ўначы. Калі ў палаце цёмна і ціха. Памяць была чыстая, толькі трохі балела галава. І ён пачаў успамінаць. Дзе я? Чаму тут? Што са мною здарылася? Але ўспамінаў урыўкамі і без логікі. І, можа, нават не ўспамінаў, а хутчэй за ўсё трызніў, то вяртаючыся памяццю ў рэальнасць, то ўцякаючы з яе...

Ён хацеў згадаць бацьку і маці, хоць якія дэталі іх любові да яго, і не мог. І таму не мог зараз, што даўно забыў сваю любоў да іх. Затое суровы твар дзеда Макара паўстаў у памяці зусім жывым. Не было для яго на свеце раднейшага чалавека, чым ён.

Тое, што называлася крэўнай роднасцю, што іншым было дадзена як паветра, якім яны дыхалі, яго абмінула. Ягонае дзяцінства прайшло ў дзіцячым доме, куды ніводнага разу не прыйшлі ні бацька, ні маці. Хоць ён ведаў, здагадваўся (пра гэта ў дзетдоме стараліся не казаць ні дарослыя дзецям, ні самі адно аднаму), што яны, бацькі, дзесьці ёсць. А ён адкуль узяўся? Не птушка ж яго прынясла? Дзе-дзе, а ў дзетдоме гэтым казкам не вераць з пялёнак. Яны прыдуманы для хатніх дзяцей, у якіх ёсць бацькі. А можа, іх і не было, хоць ён помніў, добра помніў, што калісьці іх бачыў. Але чаго не прыдумае адзінокае дзіця. Можа, ён і гэта прыдумаў? Прыдумаў іх твары. Бацькі і маці.

А вось дзеда Макара не прыдумаў. Дзед Макар быў, і сын яго Іван Макаравіч, і яго жонка таксама былі.

Па словах дзеда Макара, сын з нявесткаю спачатку не спяшаліся з дзіцём. Абое геолагі, пастаянна ў экспедыцыях, захопленыя працаю. І мінулі гады. Потым ужо было позна.

Вось тады ён і перасяліўся з дзетдома ў іх кватэру. Стаў унукам і сынам. Якія два салодкія словы! Ён нават зараз ізноў адчуў іх асалоду. А вось назваць Івана Макаравіча «татам» не паспеў...

І тут яму згадаліся крыўды. Іх было шмат. Хіба цяжка пакрыўдзіць сямігадовага хлапчука, яшчэ малога, але які ўжо ўсё разумее.

Умелі дзеці крыўдзіць:

— Твой тата не сапраўдны. А вось у мяне сапраўдны...

— Цябе з дзіцячага дома ўзялі. Там усе такія худыя, як алоўкі.

— Ідзі з пляцоўкі, прыёмыш, нават па мячу не трапляеш.

Дарослыя калі нават і шкадавалі, усё роўна крыўдзілі. Гладзілі па галоўцы:

— Сіротка ты няшчасны. Хапіла табе гора.

— Прыйдуць да Івана Макаравіча твае маці з бацькам, што тады будзе...

І адкуль у чалавеку зло? Кожны ж быў малым, шкадавала яго мама, спявала песні, расказвала казкі. Дарылі яму цацкі. Адкуль потым нож у руцэ ці невыноснае для іншага слова? Адкуль? Неаднойчы і раней задаваў ён сабе гэта пытанне, таму што насіў у душы шмат любові і хацеў любіць усіх, любіць кожнага.

Памятае ён, як плакала Алена Рыгораўна, жонка Івана Макаравіча. Аднаго разу ён не стрываў і расказаў ёй усё, пра ўсе свае крыўды. Яна плакала, як плачуць маленькія дзеці. Доўга і безнадзейна. Тады ён упершыню назваў яе «мамаю», яна, як ад удару, скаланулася ад гэтага слова. Ён спалохаўся, але ўбачыў яе вочы — са шчаслівым бляскам. І яму зрабілася лягчэй і не так страшна жыць сярод людзей.

У гэтым месцы ўспаміны перапыняюцца, да яго зноў вяртаецца боль. Ён зноў адчувае, як баліць усё цела і кожная яго клетачка. У першыя хвіліны ён падпарадкоўваецца болю, а потым здагадваецца, што гэта маленькая хітрасць ягонай душы, дакладней, фізікі яго цела, якая хоча гэтым матэрыяльным болем атуліцца ад іншага болю, больш страшнага.

...Калі плачуць дзеці — шкада. Калі плачуць дарослыя — незразумела. Калі плачуць старыя — страшна. Таму што гэтакія старыя людзі, як дзед Макар, якія жылі вельмі і вельмі доўга, пад восемдзесят гадоў, бачылі шмат рознага, жорсткага і вясёлага, справядлівага і ганебнага. У іх ужо не засталося слёз.

Ды не, засталіся. Дзед Макар плакаў не вачамі, а ўсім сваім яшчэ вялікім і цяжкім целам. І яшчэ нічога не ведаючы, хлопчык зразумеў, што здарылася нешта непапраўнае, бо калі б гэта было не так, дык у дзеда Макара хапіла б сілы не плакаць, ён бы цяжка ўздыхаў ці моўчкі сядзеў. Такім хлопчык яго ўжо бачыў. Калі адбылося нешта страшнае, дык чаму дзед Макар плача адзін? Дзе Іван Макаравіч і яго жонка? Ніхто яму нічога не казаў, але ён і сам зразумеў, што калі іх няма, значыць, бяда здарылася з імі.

Ён не бачыў іх мёртвымі, ад яго гэта хавалі, але здагадваўся, што іх ужо няма. У яго, як у звераняці, было выключнае чуццё на знікненне тых, хто дае цяпло і ласку. З ім гэта ўжо было. І зараз тое ж самае здарылася. Але чаму менавіта з ім? Вось гэтай несправядлівасці ён стрываць не мог і доўга плакаў па начах у падушку. Зноў адзін.

Ад тых жа суседскіх жанчын, што ўжо не хаваючыся і не саромеючыся лавілі сваімі цяжкімі рукамі яго галоўку, пачуў:

— Другі раз асіраціў Бог бедненькага. А Макар жа... Макар!.. Яму б таму п'яніцу, што за рулём сядзеў, трэба было ў вочы плюнуць. Душу выняць, калі яна ў яго ёсць. Ён жа яго пашкадаваў. Так на судзе і сказаў: «Маіх дзяцей ужо не вярнуць — ні добрым словам, ні злым. Дык няхай хоць яго дзеці пры бацьку растуць. Хопіць, што мой унук адзін застаўся...» А той і сам прызнаўся, што п'яны за рулём сядзеў. Плакаў, бачылі людзі, у судзе. Колькі суд ішоў, столькі і плакаў.

Не мог ён зразумець тады дзеда Макара. Атрымлівалася, што ён не сына з нявесткаю пашкадаваў і не ўнука свайго, а таго п'яніцу і яго дзяцей. Адкуль яму тады было ведаць, якія вялікія таямніцы ў дабра. Гэта потым ён даведаецца пра слова «генетыка», калі вырасце і пачне чытаць разумныя кнігі. У гэтых кнігах неаднойчы спатыкнецца на слове «спадчыннасць» і зноў задумаецца пра сваіх бацькоў, тых, сапраўдных, якія далі яму жыццё. Акрамя жыцця, што яны яшчэ яму далі разам з крывёю, з першымі пяшчотнымі клетачкамі. А раптам яны і яму далі зло, якое насілі ў сабе, непрыкметна пералілі па сасудах прыроды, калі яшчэ драмала яго свядомасць. Таму так хацелася быць падобным на дзеда Макара. Дзед быў добры і мудры.

— Вырасці добрым чалавекам, — прасіў ён і заглядваў у хлапечыя вочы для ўпэўненасці, што словы яго не прападаюць дарма, што дзесьці яны матэрыялізуюцца ў гэтай юнай падатлівай плоці.

— Ты, Сашок, не крыўдуй на людзей. Сярод іх — як? Адзін скажа нядобрае слова, а другі — ласкавае. Ты толькі старайся, каб і тое другое пачуць, якое ласкавае. Чалавек часцей пачуе кепскае, вушы ў яго закрыюцца, ён ужо і не ведае, што яшчэ адно слова было, ласкавае... І крыўдзяцца на людзей. А ты мне павер. Я ўжо, лічы, семдзесят сем гадкоў жыву. Вайну бачыў...

Думкі наскокваюць адна на адну... Перапыняюцца... Як быццам ён не сваё жыццё згадвае, а гартае кнігу пра чужое. І яно прыходзіць да яго ўрыўкамі...

...Ён стаіць у тэлефоннай будцы. Ідзе дождж, ад якога ён і схаваўся. Нехта барабаніць па шкле. Азіраючыся, ён бачыць праз яго вясёлы дзявочы твар. Дзяўчына адчыняе дзверы.

— Мне патэлефанаваць трэба...

— А мне куды дзецца? Давайце разам схаваемся.

— У мяне размова...

— Сакрэтная?

— Усе чужыя размовы сакрэтныя.

— А я хачу ведаць вашы сакрэты, — асмялеў ён, бо дзяўчына яму спадабалася.

— Ну, гэта ўжо як дазволіць вам ваша выхаванне.

— Як дождж дазволіць. — Яму і сапраўды не хацелася ісці ў дождж.

— Тады адсуньцеся, — сказала рашуча дзяўчына і заскочыла ў тэлефонную будку, апырскаўшы яго кроплямі з мокрых доўгіх валасоў. На нейкае імгненне ён нават як задыхнуўся.

Яна пачала набіраць нумар. На другім канцы трубку не падымалі.

— Усё роўна дазванюся, — упарта сказала дзяўчына і зноў пачала набіраць нумар.

Яна не памылілася. Пасля доўгіх гудкоў трубку паднялі. І ён чуў, як аўтамат праглынуў манетку.

— Гэта я. Прывітанне!

Дзесьці абрадаваліся яе голасу.

— Я прапала? Яшчэ невядома, хто прапаў.

Яна памаўчала, слухаючы чыесь ці то апраўданні, ці то дакоры.

— Дождж, залева... Можа, не варта? Ну, калі на некалькі хвілін... Зараз? Не, не адна. Тут малады чалавек побач. Не, так сабе. Толькі не вельмі выхаваны. Ну, добра. Я хутка...

Ляснула трубка аб рычаг. І яму зрабілася крыўдна, што неўзабаве гэта дзяўчына знікне. Знікне назаўсёды, як быццам яе і не было ў яго жыцці. Зусім не ўсведамляючы, што робіць, закрыў сабою дзверы.

— Пусці, — пачуў ён сярдзіты, але не перапалоханы голас.

Не падумалася нават пра тое, што яна можа закрычаць, паклікаць каго-небудзь. Але не закрычала, а спакойна адштурхнула яго і выйшла. Каля расчыненых дзвярэй ён убачыў жанчыну з сеткаю, з якое тырчалі курыныя ножкі.

З будкі ён назіраў, як дзяўчына дайшла да аўтобуснага прыпынку і нечакана павярнула назад. Напэўна, гэта было нечаканасцю як для яго, так і для яе самой.

— У цябе што — парасона няма? — сустрэў ён яе пытаннем.

— Парасон ёсць, і вялікі. На абаіх хопіць. Чаго тут стаіш з гэтакім тварам? У цябе здарылася што-небудзь?

Ён чакаў ад гэтай незнаёмкі ўсяго, але не той шчырай чалавечай спагады, якую шукаў заўсёды, але рэдка знаходзіў. Яна павінна была б яго баяцца, як звычай дзяўчаты баяцца незнаёмых мужчын у бязлюдным месцы. Ці, ва ўсялякім разе, не звяртаць на яго ніякай увагі. А ён ведае, што нічога асаблівага сабою не ўяўляе. Да таго ж яна прыгожая, на якіх ён прывык толькі ўзірацца. І ў той жа час адчуў, што яна, менавіта яна, магла б яго зразумець, калі б раптам расказаў ёй пра сябе, калі б яна захацела паслухаць, а ён асмеліўся.

Яны ішлі ўдваіх пад вялікім парасонам. Усё было так, як і казаў дзед Макар, пераконваючы яго верыць, што ўсе людзі добрыя. І што ў кожным чалавеку ёсць добры бок, трэба толькі павярнуць яго да сябе гэтым бокам. «Да добрага чалавека ўсё паварочваецца дабром», — казаў дзед.

Яна сярдзіта адсоўвала парасон у яго бок, убачыўшы, як ён стараецца прыкрыць яе, а сам ідзе мокры. Толькі ён ужо не заўважаў дажджу. Бо з ім адбываўся цуд. Цуд гэты звалі Таняю. Яна сама назвалася, не чакаючы, пакуль ён спытаецца. І гэта яму таксама спадабалася.

Як мала трэба, каб свет перамяніўся. Яшчэ паўгадзіны таму ён быў у змрочным настроі. А ў гэтыя хвіліны, нягледзячы на дождж, ён ужо быў не ён, а зусім іншы чалавек. Ён шчасліва азіраўся наўкол і ва ўсім знаходзіў радасць. Як, выходзіць, добра ісці пад дажджом, калі ў цябе над галавой маленькі дах. Колькі новых фарбаў ачысціў дождж на восеньскім лісці.

— У мяне сяброўка жыве ў гэтым доме. Зойдзем?

Але ў яго не трэба было пытацца ні пра што. Ён падпарадкоўваўся ёй, падпарадкоўваўся даверу да яе, якім быў увесь перапоўнены.

— У госці? А дзе наш торт?

— А мы не ў госці, мы на хвілінку. Торт купім іншым разам...

Тут ён злавіў сябе на тым, што схлусіў ёй. Ніколі ў яго не будзе грошай на торт, таму што пенсіі дзеда Макара ім ледзь хапае. А хлусіць ёй не хацеў.

— Я ніколі не купляў торт. Я чуў, што, калі ідуць у госці, купляюць торт. У мяне нікога няма...

Зноў схлусіў. У яго ж ёсць дзед Макар. Але ўжо позна было апраўдвацца. Яны стаялі перад дзвярамі, абабітымі чорным дэрмацінам. На званок выйшла высокая дзяўчына, якая адразу не спадабалася яму. Такое таксама здараецца.

— Знаёмцеся, — прадставіла яго Таня сваёй сяброўцы. — Чалавек, у якога нічога і нікога няма.

Закідаўшы яго кучаю замежных часопісаў, яны пайшлі на кухню варыць каву. Дзверы прыадчыніліся, і ён нечакана пачуў апраўдальны Танін голас:

— Не, ён харошы... Ты прыгледзься, якія ў яго вочы.

— Якія?

— Адзінокія...

— Ну, глядзі, сяброўка.

Тут дзверы мякка зачыніліся. Ён застаўся сядзець разгублены, гатовы ў тую ж хвіліну выскачыць і пайсці, тым часам ужо крануты чалавечым даверам.

— Ну як, не сумуеш? — першаю вярнулася з кухні гаспадыня.

І чаму ў яе такая высачэнная і злосная сяброўка? Ён пазіраў на іх, калі яны сядзелі ўтраіх за часопісным столікам і памешвалі каву. Зусім не падобныя. Яго не толькі ў тую хвіліну, а ўжо даўно хвалявала думка, чаму сыходзяцца зусім розныя людзі, а тыя, што, здавалася б, створаны адно для аднаго, ці не знаходзяць такога, а калі і знаходзяць, дык неўзабаве разыходзяцца.

— Ну і жывуць! — гаварыла сяброўка, гартаючы часопісы. — Знарок купляю, каб паглядзець на гэта жыццё. А ў нас? Тэлевізар каляровы ледзь выхапіла. Па блату... У масавым продажы абы-што...

— Не прыбядняйся, Бэла. Любіш ты прыбядняцца, — паджартавала над сяброўкаю Таня.

Ён агледзеўся: у доме было столькі дабра, якога яны з дзедам за ўсё сваё жыццё не бачылі. Усё новенькае, бліскучае, як у магазіне.

Яму хацелася хутчэй пайсці з гэтага дома.

...Не было ў яго на свеце нікога, радпейшага за дзеда Макара. Ён замяніў яму ўсіх — бацьку, маці. Не хапала ў іх доме жаночага цяпла, жаночай ласкі, прыгляду, не хапала абодвум. І як ні стараўся дзед, яго рукі не маглі зрабіцца такімі пяшчотнымі, як жаночыя. Ён быў мужчынам. Добрым, зычлівым, кемлівым, але мужчынам. Ды калі азірнуцца назад, няма ў яго там, у мінулым, апірышча больш трывалага і надзейнага, як дзед. Столькі вакол спакусаў, у іншых і мацяркі былі, і бацькі, а вось жа паддаліся на іх, на гэтыя спакусы. Ён жа курыць не навучыўся, а піць дык зусім не ўмее. У кампаніі дваровыя не лез. Усё гэта — дзед Макар, яго навука. А яшчэ ён заўсёды адчуваў мяжу, нябачную лінію, якая аддзялала яго ад звычайных аднагодкаў. Тыя, у каго былі бацькі, што б яны ні рабілі, ніколі не былі вінаватыя. У іх — бацька, маці. А вось, калі ён учыніў такое, за што бацькоўскім дзецям — толькі дакор, нічога больш, дык над ім заўсёды вісеў гатовы прыгавор — дзетдомаўскі. Маўляў, што з яго возьмеш, зразумела — бязбацькавіч. І гэта было самым балючым. Хіба ён забыўся, як маці аднакласніка Генкі Шутава не ўтойвала, што яе сыну не варта з ім сябраваць. Калі ён не ведае сваёй роднай мацеры, калі яна яго кінула, то й невядома, якая кроў цячэ ў яго па жылах.

Якая ж кроў цячэ ў яго па жылах? Чаму яна не думала, што такая ж чырвоная, як у яе сына. І што ён, як і Генка Шутаў, здольны плакаць і адчуваць боль. Толькі з той розніцай, што таго было каму пашкадаваць.

— Што ні здарыцца, — прагучалі, як клятва, гэтыя словы ў Генкі пасля чарговай сваркі з маці, — будзем сябраваць. На маю маці не крыўдуй. Яна харошая, а кажа злыя словы, таму што баіцца за мяне. Пакрыўдзіць яна цябе, ты пойдзеш, а яна будзе сядзець увесь вечар і плакацьме.

— Можа, таму яна так баіцца, што ты ў яе адзін? Яна ж без бацькі гадуе цябе.

— Не ведаю, бацька даўно пайшоў ад нас, калі мяне яшчэ не было. Я павінен быў вось-вось убачыць бацьку, але да яго сыходу не паспеў з'явіцца на белы свет.

— А дзе ён цяпер?

— Дзесьці на Поўначы. Мама кажа, што ажаніўся, гадуе чужых дзяцей, сваіх няма.

— Як гэта сваіх дзяцей няма? А ты?

— Давай не будзем пра гэта, — Генка кладзе яму руку на плячо і маўчыць.

...Яму хацелася пайсці і забраць з сабою Таню. За тыя некалькі гадзін, якія яны знаёмыя, хоць і сказалі ўсяго некалькі слоў адно аднаму, яна зрабілася яму не чужая. Яе ж сяброўка Бэла і за доўгія гады не стала б яму такой блізкай, як Таня за лічаныя гадзіны. Здараюцца, бывае, такія неспадзяваныя дзіўноты ў жыцці, хоць ён не дужа верыў раней у іх. Ён нават не чуў, не спрабаваў зразумець сэнс слоў, што безупынку прамаўляла Таніна сяброўка. І сама Таня, і ўвесь гэты вечар, і гэты чужы дом здаваліся яму нерэальнымі. Яны як бы не існавалі ў гэтыя хвіліны.

— Васіль Пятровіч — так завуць майго мужа. Сапраўдны клад. За такім, Таня не дасць мне схлусіць, як за каменнаю сцяною. Ён музыкант, часта ў замежных камандзіроўках, — урыўкамі далятала да яго.

Потым яна дэманстравала, як ёй пасуе мексіканскае самбрэра, панамскі халат з разрэзам ззаду да таліі. Паказвала не толькі рэч, але і сябе. Сябе таксама паказвала, як рэч.

Потым была музыка. Бэла пацягнула яго танцаваць. Танцавала, бессаромна прыціскаючыся да яго ўсім целам.

— Падабаецца? — спытала.

— Што?

— Танцаваць?

— Музыка падабаецца.

— А я? — Не дачакаўшыся адказу, працягвала: — Застанешся сёння ў мяне?

Ад здзіўлення ён змог адказаць толькі пытаннем на пытанне:

— А Таццяна?

— Ад гэтага аргумента вельмі лёгка пазбавіцца. Спачатку ты правядзеш Таню, а потым вернешся назад, сюды. Зразумеў? Дзверы будуць не зачынены...

Гаварылася ўсё гэта шэптам, а яму здавалася, што Бэлін голас грымеў на ўсю кватэру. Ён нават азірнуўся: Таня сядзела, задумаўшыся, і гартала часопіс. Нечакана яна ўзняла вочы і падміргнула яму:

— Ну як?

— Нармальна, — адказаў ён.

І тут жа над вухам зноў прашаптаў Бэлін голас:

— Дамовіліся?

Але ён не чуў яе, глядзеў на Таню і думаў, якая ж яе роля ва ўсім гэтым. Пастаўшчык кліентаў? Ці не так?

Скончылася музыка, пстрыкнуў галоўкаю прайгравальнік. Бэла падышла і паставіла кружэлку яшчэ раз.

— Мы ўжо збіраемся ісці, — сказаў ён, не чакаючы ад сябе такой рашучасці.

Бэла змоўніцкім паглядам зірнула на яго. Не пагляд, а проста таямніца. Не, яна не зразумела яго выкліку.

На вуліцы Таня спытала:

— Скажы, сумны чалавек, табе там спадабалася?

Ён прамаўчаў. Тады яна пачала абараняць сяброўку:

— Бэле дваццаць два гады. А муж старэйшы за яе на трыццаць. Яму пяцьдзесят два. Хіба што-небудзь табе не зразумела, сумны чалавек?

Гэта яна прамаўляла, ужо стоячы на падножцы аўтобуса, не даўшы правесці сябе далей. Ён нават не паспеў спытацца і запомніць яе хатні тэлефон. Калі аўтобус схаваўся за паваротам, ён павярнуў дахаты. Яму было недалёка, хацелася пасля ўсяго прайсціся пешкі.

Дома яго чакаў дзед Макар. За ўсе гады не было выпадку, каб ён не вярнуўся ноччу дахаты і каб дзед яго не дачакаўся. Хлопцы нават паджартоўвалі над ім, над такім яго хатнім паслушэнствам. Яны ж не ведалі пра два дзедавы інфаркты.

— Я цябе чакаю, унучак. Збегай у дзяжурную аптэку, сэрца баліць... Пячэ бок... як тады, калі «хуткая» мяне забрала, а лекі ўсе скончыліся.

Тое, што гэта сур'ёзна, ён вызначыў па бледным дзедавым твары.

— Я зараз. Паляжы, дзед... я хутка...

Ён выскачыў на вуліцу і не пайшоў, а пабег. У думках было адно: хутчэй, хутчэй. З аптэкі таксама бег. Жывучы так доўга побач са старасцю, ён ужо ведаў, якое яно нетрывалае, чалавечае жыццё. Каб скараціць сабе шлях, пабег праз чужы двор, які быў насупраць фабрычнай сцяны. І не адразу заўважыў невыразныя чалавечыя постаці, якія мітусіліся ў цемры, як на экране. Калі спыніўся і прыгледзеўся, зразумеў, што постаці па ланцужку перадаюць адна адной вялікія ці то прадметы, ці то важкія пакеты. Штосьці падобнае ён не раз бачыў у кіно ці па тэлевізары, але ніколі не мог уявіць сабе ў рэальнасці, ды каб гэта здарылася менавіта з ім. Вось так, гэта былі начныя рабаўнікі. Ягоныя вочы прывыклі да цемры і ўжо адрознівалі сілуэт грузавой машыны каля плота.

Ён ужо ведаў, што павінен на нешта адважыцца, штосьці зрабіць, але ўсё яшчэ стаяў і не рухаўся.

Нешта ўпала. Цяжка, з грукатам. Адзін з рабаўнікоў закрычаў:

— Ахова! Хлопцы, ахова!..

З унутранага боку плота калыхнуліся ў цемры яшчэ два цені.

Часу для выбару ў яго больш не заставалася.

— Стойце! Стойце! — закрычаў ён.

І ў тую самую хвіліну, трохі правей ад яго, каля самай бетоннай сцяны, з'явіўся ахоўнік. Ён пазнаў яго па форменнай фуражцы. Але не толькі ён убачыў ахоўніка, тыя, двое, што былі бліжэй, таксама выхапілі яго позіркам з цемры. Адна з цёмных постацей кінулася да ахоўніка. Пачулася нешта падобнае на хруст сухіх галінак. Яму і часу не было падумаць, што гэтак могуць трашчаць чалавечыя косці. Нават не ахнуўшы, ахоўнік цяжка паваліўся на плот, бездапаможна чапляючыся за гладкае каменне. Не знайшоўшы апоры, ён асеў на зямлю.

— Малакасос, — хрыпла вылаяўся адзін з ценеў. Клацнуў затвор.

— Ты асцярожней, — папярэдзіў другі цень.

— Не вучы вучонага, — адказаў першы.

А яму здавалася, што ахоўнік усяго толькі схітраваў, што міне якая хвіліна і ён падымецца, і іх таксама будзе двое, і яны нешта зробяць разам. Удвух яны змогуць спыніць злачынства. Але той працягваў ляжаць чорным страхотлівым погарбкам. А непадалёк, крэхчучы, валачылі ў машыну мяхі, ён нават чуў, як

закінулі ў яе лесвіцу. Яны яго не заўважылі, хоць перад з'яўленнем ахоўніка ён падаў голас. Рабаўнікі, відаць, вырашылі, што гэта голас забітага. Зноў яму далі перадых: можна было стаіцца і вычакаць, калі чорная начная машына і чорныя начныя людзі паедуць... Але што ён скажа сабе заўтра? Заўтра ён узненавідзіць сябе за баязлівасць.

Намацаўшы рукою першую, што трапілася, цагліну, ён кінуў яе ў шкло кабіны, у твар злачынцы, які прасвечваўся ў месяцавым святле. Нечаканая цішыня здзівіла слых. Усё нібы знерухомела — і цені каля машыны, і той, што ў кабіне. Колькі гэта працягвалася б, каб не яркае святло пражэктара, якое рэзка разрэзала цемру на два кавалкі — светлы і чорны. З чорнага ён пачуў блізкі шэпт:

— Бяжы на прахадную. Ключ... А я іх затрымаю на нейкі час, — ён згледзеў малады твар і міліцэйскую форму. «Дык яны былі ўдвух з ахоўнікам, — здагадаўся адразу. — Проста гэты чакаў... вычэкваў надзейную хвіліну, калі зразумеў, што застаўся адзін на адзін з цэлаю бандаю...»

— Іх багата... Аднаму нельга заставацца...

— Бяжы, я табе сказаў, — у руках у сяржанта бліснуў метал. Выгляд зброі — доказней за словы.

— Страляй! У іх таксама ёсць зброя. Не чакай. Страляй.

Вось каб яму сяржантаў пісталет, ён, які яшчэ нядаўна амаль па-дзіцячы перажываў гібель іх хатняга папугая, ні секунды не марудзіў бы, страляў бы. На зямлі сыходзіць крывёю чалавек... Яны стралялі ў яго...

Сяржант не страляў. І тады ён кінуў яшчэ адну цагліну насустрач крокам, што набліжаліся. Адтуль мігатнула агнём. Ён пачуў, як нечым цяжкім яго ўдарыла ў жывот, нават не падумалася, што ў яго магла ўвайсці маленькая куля, адразу было такое адчуванне, што гэта нешта цяжкае і тупое. І ўсё... Прытомнасць ён страчваў паволі, нават разумеў, што страчвае яе. Падумаў: «Гэта я так паміраю...»

...Вось што ўспомніў ён пра сваё кароткае васемнаццацігадовае жыццё, калі змог расплюшчыць вочы і здагадаўся, што побач медсястра, што ён ляжыць у бальнічнай палаце.

— Колькі я ляжаў так? — спытаў ён медсястру, калі змог гаварыць.

— Двое сутак, — сказала яна. — Было вельмі дрэнна. Зараз паклічу доктара. Ты не ўяўляеш, як ён абрадуецца, дазнаўшыся, што ты ўжо размаўляеш. Калі размаўляеш, значыць, будзеш жыць.

Доктар узяў яго руку, паслухаў пульс:

— Калі так і далей будзе, то заўтра ты зможаш пагаварыць з капітанам. Ён другі дзень дзяжурыць тут у нас.

— А злачынцаў злавілі?

— Вось гэтага я не ведаю, — падняўся доктар. — Мая справа — падняць цябе на ногі. Ох, і нялёгка гэта было...

...Следчы зайшоў у палату ў белым халаце. Ён спачатку нават палічыў яго за доктара.

— Ну, добры дзень, Бабрукоў...

— Добры дзень...

— Маё прозвішча Васін... — паправіўся: — Капітан Васін... Вяду тваю справу.

— Што з сяржантам? Ці жывы ахоўнік?

Але капітан не чуў яго пытанняў, ён задаў сваё першае, загадзя падрыхтаванае:

— Скажы, Бабрукоў, колькі вас было каля фабрыкі?..

На хвіліну яму здалося, што зноў страчвае прытомнасць. Як? Ён — злачынец? Дык што ж — і ахоўнік, і сяржант забітыя? Няма нікога, хто ведае, што

адбывалася на самой справе. І можа спрацаваць самая простая схема — калі ён там быў, не ахоўнік і не міліцыянер, значыць — злачынец. Вось пра гэта ён і падумаць не мог, калі ўрыўкамі ўспамінаў у бальніцы тое, што здарылася. «А што ж з дзедам Макарам?» — гэта думка апякла больш за ўсе іншыя.

Зразумеўшы яго маўчанне па-свойму, капітан суха працягваў:

— Я ўжо ведаю тваю біяграфію, Бабрукоў. Ну, зразумела, бязбацькавіч. Ды калі чыстасардэчна прызнаешся, лепш будзе для цябе. Суд улічыць...

— Дзе сяржант і ахоўнік? — паўтарыў ён сваё пытанне.

— Ты лепш ведаеш, — адказаў гэтым разам капітан. — Ахоўніка вы забілі. Толькі незразумела, хто з вас. А сяржант... Адным словам, ты адзін застаўся... Раю гаварыць праўду...

Крыўда ўдарыла яшчэ мацней. Так не адзін раз было з ім у дзяцінстве, калі яго білі гэтым жорсткім словам «бязбацькавіч», не жадаючы разабрацца, ці на яго баку праўда, ці ён вінаваты. Што тады тварылася ў яго душы? І кожны раз ён адчуваў, відушча ўсведамляў гэту трэшчыну, якая прайшла праз яго жыццё, аддзяліўшы ад астатніх людзей.

— Ну, калі так... Калі бязбацькавіч... што яшчэ казаць. Вы ўжо ведаеце... Як нарадзіўся, як жыў, хто бацькі... Усё вырашылі, не бачыўшы мяне... Не ўпершыню...

— Табе нельга так моцна хвалявацца. Сяржант жывы... пакуль што жывы... сёння яму зрабілі другую аперацыю... — сказала медсястра, якая стаяла ля ягонага ложка. — І ўжо капітану: — Яго яшчэ нельга так хваляваць... Разумееце...

Ён быў вельмі ўдзячны ёй, калі ўбачыў капітана каля дзвярэй. Хай ідзе, хай сыходзіць хутчэй. Яму трэба застацца аднаму, пабыць на адзіноце. Што можна зрабіць у яго сітуацыі? Нічога. Капітан не паверыць ніводнаму яго слову. Чысценькі, акуратненькі. З мамчыных сынкоў. У такіх у жыцці ўсё выверана і зразумела, акуратна і чысценька. Яны маладыя, але ўсё ведаюць зараней, як тыя старыя. Няма ў каго прасіць яму літасці і справядлівасці. Заставалася толькі адно — маліцца за сяржантава жыццё.

Уночы ён не мог заснуць. У скронях грукала: злачынец, злачынец... Злачынец! Ха-ха... Ён — злачынец... Глядзіце, людзі, на яго... Ён нарадзіўся невядома ад каго, невядома — дзе. Злачынец? З дзяцінства ўсе здагадваліся, што ён здольны будзе забіць чалавека. Ён рос без бацькі і маці. Такі на ўсё здольны...

Хацелася куды-небудзь схавацца. Схавацца ў падушку, у прасціны... Схавацца ад чалавечых вачэй і слоў. Напэўна, невыпадкова казалі яго аднакласнікі, што ён — змрочная і сумная асоба. А ці не яны, людзі, вінаваты, што ён баяўся іх, а зараз, пасля сустрэчы з капітанам Васіным, баіцца яшчэ больш. Адзіны чалавек, які б яго зразумеў, — дзед Макар. Але дзе ён. Што думае пра яго, свайго ўнука?

...Раніцаю ўбачыў медсястру, што клапатліва схілілася над ім, сам спалохаўся жаху, у якім пражыў ноч. Дайшоў быў да таго, што думаў: трэба набрацца сілы, падняцца з ложка, падысці да акна, расчыніць яго... З шостага паверха... Гэта ўжо пэўна... Такі палёт будзе варты жыцця... І вырашыць усе праблемы, усе яго рахункі з людзьмі, з светам і самім сабою.

— Чаго ты плачаш? — нахілілася над ім медсястра. — Ты павінен памятаць галоўнае — ты жывы.

Яе ласкавы позірк сагрэў яго, і яму зрабілася сорамна. Ён — жывы, а ахоўніка забілі, невядома, якое жыццё было ў яго. Напэўна, ён меў бацьку і маці. Сяржанту зрабілі другую аперацыю. Учора. А можа, памёр гэтай ноччу. А ён ляжыць вось і адчувае свае рукі, ногі, ён — жывы. І будзе жыць, кажуць дактары. Яму даравана самае галоўнае — жыццё. Што можа быць страшней

за смерць? Яна яго абмінула. Чаго ж спалохаўся? Ён будзе жыць. Гэта надта шмат у параўнанні з тым, што выпадак забраў і ахоўніка, і сяржанта. Ды што ж гэта ён... Шосты паверх... Акно...

— А дома ведаюць, што ты тут? — даляцеў да яго голас медсястры.

— Напэўна, ім сказалі.

— Калі ёсць тэлефон, я магу патэлефанаваць.

— Дзякуй.

— Чаго ж ты плачаш? У мяне ж такі, як ты, расце. Таксама заўсёды лезе, куды не трэба. Не думае ні пра мяне, ні пра бацьку. — На вачах у яе з'явіліся слёзы. — Назаві службовы тэлефон маці, я запішу і пайду патэлефаную.

— У мяне няма мамы.

Медсястра здзівілася, пашкадаваўшы:

— Мой ты гаротнічак. Тады давай бацькаў тэлефон.

— І бацькі ў мяне няма.

— Хто ж у цябе ёсць?

— Толькі дзед... дзед Макар...

Яна не знайшла, што сказаць, і знясілена села не на крэсла, а на ложак.

— Давай адрас. Пасля змены зайду да твайго дзеда. Усё раскажу...

Яго пашкадавалі, пашкадавалі па-мацярынску, ён адчуў сябе дзіцёнкам, маленькім хлопчыкам, і пачаў расказваць збіваючыся, незразумела, таропка, як расказваюць толькі ў дзяцінстве і толькі маме.

Медсястра ад разгубленасці, не памятаючы, што робіць, зняла белую касынку з галавы, нервова мяла яе ў руках. Калі ён скончыў, спытала толькі пра адно:

— Гэта праўда?

— Праўда.

— А следчаму ты ўсё расказаў, як мне?

— Ды не.

— Чаму?

— Ён не зразумее. Ён з тых, хто не слухае, а сам гаворыць.

— Нельга так, не верыць людзям. Вось я ж табе веру. Адразу паверыла...

... Пасля размовы, пасля сваёй споведзі Наталлі Пятроўне, ён упершыню згледзеў, што ляжыць у палаце не адзін. На суседні ложак паклалі пажылога мужчыну, якому аднялі нагу. Але ён знаходзіў у сабе сілы нават жартаваць, толькі скардзіўся, што нага баліць. А яе не было ўжо некалькі дзён. Чужы боль побач зменшыў яго боль, сыходзіла пачуццё пакрыўджанага ўсімі чалавека, якому здаецца, што балюча толькі яму аднаму, што ўсе крыўдзяць толькі яго.

Ноччу стараўся гнаць ад сябе гнятлівыя сумныя думкі. Згадваў Таццяну. І той вечар не здаваўся яму назусім сапсаваным. Наадварот, зараз гэта быў адзін з лепшых яго ўспамінаў. Думаў пра тое, што яго маглі б забіць, калі б нож злачынцы трапіў трохі вышэй, дзе было сэрца. Думаў, што раніцою будзе чакаць капітана Васіна, каб расказаць яму ўсё...

Раніца падаравала яму радасць.

Пасля слоў Наталлі Пятроўны: «Да цябе прыйшлі» ў дзвярах з'явіўся Генка Шутаў.

— Як справы, герой? — спытаўся.

— Дрэнь справы. Адкуль ты даведаўся, што я ў бальніцы?

— Дзед Макар патэлефанаваў. Да яго следчы прыходзіў. Ты не хвалюйся. — Ён пачаў даставаць нешта з пакета. — А вось мама табе прыслала.

— Мама?

— Ага, мама.

— А чаму дзед сам не прыйшоў?

Генка маўчаў, але, убачыўшы спалоханы твар, прызнаўся:

— Не хацеў хваляваць цябе. Дзеда «хуткая» забрала.

— Ты схадзі да дзеда.

— Мама ў яго сёння была...

— Пры чым тут твая мама?

— Аказваецца, яна ведае дзеда Макара. Я і сам здзівіўся, калі яна мне гэта сказала. Як у дэтэктыве...

Генка як з'явіўся, так і пайшоў. Хутка і нечакана. Праўда, перад тым вельмі ўважліва паслухаўшы ўвесь расповед пра тую ноч. І вочы яго гаварылі, што верыў кожнаму слову.

Калі Генка Шутаў пайшоў, ён пачаў чакаць капітана. Цяпер, пасля двух сваіх споведзей, ён гатовы і хацеў бы паверыць сам кожнаму, хто захоча яму дапамагчы.

Капітан Васін прыйшоў вечарам. Гэтым разам нечым узрушаны. Пачаў з ходу.

— Як сябе адчуваеш? Нармальна. Дык вось я табе скажу, што ўсіх тваіх сябручкоў мы злавілі. Аднаго толькі недалічыліся. Яны яго, відаць, самі, як гэта ў вас называецца, прышылі. Так што давай, выкладвай усю праўду... Цаглінаю яны яго прышылі...

— Цаглінаю? Дык гэта ж я! Я... — але тут жа спыніў сябе пад недаверлівым позіркам капітана.

— Ты мне лапшыну на вушы не вешай. Герой... Ты думай, што кажаш. За кожнае слова давядзецца адказваць.

— Пішыце, капітан, — раптам зліліся ў ім злосць і крыўда. — Пішыце, як вас ва універсітэце вучылі. — Я, Аляксандр Бабрукоў, прызнаю сябе ва ўсім вінаватым. Прызнаюся, што з'яўляюся завадатарам шайкі... З пяці гадоў я займаюся знішчэннем душ...

— Ты што? — перапыніў яго капітан. — Таго? — І пакруціў пальцам каля скроні.

— Таго ці гэтага, якая вам асабіста розніца. Вам важна хутчэй знайсці злачынца і далажыць.

— Асцярожней са словамі. Бачылі мы і не такіх. На ўсё ёсць доказы... Калі цябе знайшлі каля плота, ледзьве змаглі расціснуць рукі і забраць абрэз. Вось так...

— Абрэз? А хто ж мяне паласнуў нажом. Міліцыянер? Дык у яго быў толькі пісталет, з якога ён не хацеў страляць. Хіба што ахоўнікі ў нас, на заводах, з нажамі ў руках?

— І чаго ты плачаш? Чалавека забіў, а плачаш. Шкада мне цябе.

— Дзеда Макара шкада.

— Шкадуеш дзеда, а праўду казаць не хочаш. Калі я ўсё расказаў яму, яго ў бальніцу адвезлі.

— Мне няма чаго вам сказаць больш. Я нікога не забіваў, ні ахоўніка, ні дзеда Макара... Гэта вы, вы... — голас сарваўся, і больш гаварыць ён не змог. Калі б не прыйшла на дапамогу Наталля Пятроўна, з ім здарылася б істэрыка.

Але ў гэты дзень яшчэ не ўсё скончылася. Вечарам у палаце з'явілася Бэла.

— Гэта я ва ўсім вінавата.

— Ты тут не пры чым, Бэла. А як жа тут апынулася?

— Перадаў мне прывітанне сваім сябрам, Генкам Шутавым, а сам забыў?

— Але й Генка, які маладзец. Не забыўся... — здагадаўся, што сказаць ён, бо паведаў сябру толькі пра тую ноч, а перадаць прывітанне не прасіў.

— Гэта я...

— Не муч сябе, Бэла. Гэта гісторыя не мае да цябе ніякіх адносін. Я наадварот успамінаю той вечар з пяшчотаю.

— А я падумала, што не спадабалася табе. Усё гэта здарылася недалёка ад майго дома. Уяўляеш, я цябе чакала, а ў гэты час... Але ты не вінаваты... Праўда, ты не вінаваты, — зазірала яна ў вочы і зусім не была падобная на тую далёкую і чужую Бэлу, якая не спадабалася ў той вечар. — У гэтым жыцці іншы раз усё так заблытана... Праўда?

— Праўда, Бэла. А дзе Таня?

— Яна яшчэ нічога не ведае. Заўтра мы разам прыйдзем да цябе. Мы цябе не пакінем у бядзе... Я табе веру... Ты такі, што табе нельга не верыць.

Ён быў удзячны ёй, гэтым яе словам, у шчырасці якіх не сумняваўся, як сумняваўся ў той вечар ва ўсім, што гаварыла і паказвала Бэла. Яна зараз была зусім іншая.

Калі яна пайшла, ён ужо ведаў, што рабіць. І быў, як ні дзіўна, гатовы да такога павароту сваіх думак. Зробіцца ціха ў палаце, засне сусед, некалькі крокаў да акна, і ўсё... Ад кагосьці ён чуў: той, хто гіне такім чынам, не адчуе болю ўдару аб зямлю, сэрца спыняецца за некалькі секунд раней. Сэрца не вытрымлівае.

Гэта — адзіны выхад са становішча. У яго, як і тады каля плота, няма выбару. Выбару яму ў гэтым жыцці не засталося. Трэшчына... Яна жыве ў ім з самага дзяцінства. Правільна казаў некалі дзед Макар, хоць і наконт іншага выпадку: калі ў драўляным доме ў фундаменце з'явілася трэшчына — дом ужо не жылец, рана ці позна абваліцца.

Два-тры крокі да акна... І палёт у некалькі секунд... І ўсё... Ніхто ўжо не зможа сказаць пра яго дрэнна... Нават капітан Васін...

Зноў пачаў страчваць прытомнасць. Прачнуўся, калі нехта клікаў яго, клікаў настойліва і радасна.

— Ты паглядзі, глянь, хто прыйшоў...

Ён убачыў побач на каталцы белы сяржантаў твар. Той нешта шаптаў губамі і слаба паказваў рукою.

— Ён стаміўся, не можа болей гаварыць, — сказала Наталля Пятроўна. — Ад яго толькі што пайшоў следчы, ён яму ўсё расказаў.

— Спытайце ў яго, чаму ён не страляў?

— Я спрабавала, — адказала Наталля Пятроўна. — Я ведаю, чаму ён не страляў. Таму што страляць могуць усе, а не страляць — адзінкі. Разумееш? Ты чуеш? Што ж ты нарабіў?! Самасуд над сабою надумаў... Добра, што нянечка паспела...

Хуткім часам яму давялося перажыць яшчэ адзін нечаканы дзень. Забіраць яго з бальніцы прыйшлі Таня і Генка Шутаў.

— Гэта нявеста, — пажартаваў аднаногі сусед, гледзячы на Таню. — А ты, вядома ж, сябар, — сказаў ён Генку.

— Я яму брат, — з гонарам адказаў Генка.

— Брат?..

Дома ў Генкі яго мама раскрыла ім тайну, якую яны бераглі з дзедам Макарам.

Калі загінулі яго прыёмныя бацька і маці, іх, маленькіх, засталося двое — ён і Гена. Вось тады і рашылі, што дзеду з двума аднаму не справіцца.

Яна абняла іх:

— Калі б дажыў дзед Макар да гэтых дзён, не памерла б яго сэрца. Даруй, сынок, што пахавалі яго без цябе...

«Сынок!» — далёкім і ласкавым болем адгукнулася ў сэрцы...

***Пераклад з рускай У. Марука.***



**Арсен САКУН**

# МЕТРЫ ШЧАСЦЯ

Апошнім часам мне шмат даводзіцца ездзіць па Міншчыне, страчацца з людзьмі, гаварыць з імі аб надзённым у памкненні зразумець настрой душы і адчуць рух пачуццяў, якімі яны жывуць. І як ні ладзіцца тая ці іншая размова, так ці інакш яна закранае праблемы жыццязабеспячэння, і найперш — жыллёвую. У людзей старэйшага пакалення разважанні аб гэтым свае, яны больш схільны на пражытае, калі ў былыя часы прывілеі на яго атрыманне гарантаваліся, даючы спадзяванне ледзь не кожнай маладой сям’і мець свой уласны куток.

У кантэксце сённяшняй існасці гэтыя пытанні жыллёвага забеспячэння абмяркоўваюцца маладымі сучаснікамі неадназначна. Іх меркаванні больш прагматычныя: жыллё патрэбна кожнай сям’і, і чым хутчэй яго атрымаеш, тым больш гарантый на шчаслівае жыццё.

Мы ўсе шчыра радуемся ўтварэнню кожнай маладой сям’і і звязваем з гэтым свае надзеі на будучае. Нам хочацца, каб узаемаадносіны паміж уступіўшымі ў шлюб былі трывалымі, надзейнымі, і яны жылі ў згодзе. На гэта накіраваны ўсе дзяржаўныя праграмы сацыяльнага і маладзёжнага стасунку. І няхай не адразу і хутка ўсё вырашаецца, але зрухі да лепшага відавочныя. У гэтым пераконвае кожны куточак Міншчыны. Ледзь не шточасна шырацца будаўнічыя пляцоўкі, і, што характэрна, — пераважае будаўніцтва жылля і аб’ектаў сацыяльнай сферы. Прынамсі, усё адпавядае стратэгічнай праграме дзяржаўнай палітыкі, зарыентаванай на забеспячэнне камфортных жыллёвых умоў.

Дастаткова назваць некалькі лічбаў. У 2006 годзе ў вобласці задаволілі жыллём больш за 4600 сем’яў, 3718 з іх згулялі наваселлі ў новых дамах і кватэрах. У ліку такіх шчасліўшчыкаў ледзь не 2000 маладых сем’яў. За апошнія 12 гадоў жыллёзабеспячэнне ўзрасло больш чым у 2 разы.

Усё гэта хвалююча радуе. Тым больш што жыллёвая праблема вырашаецца як у вялікіх і малых гарадах, так і на сяле. Першачаргова ў населеных пунктах, дзе ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай адраджэння і развіцця вёскі шырыцца вытворчасць асноўных відаў сельскагаспадарчай прадукцыі, укараняюцца новыя тэхналогіі, сучасная тэхніка і абсталяванне. Прыярытэт накіраваны на замацаванне маладых перспектыўных кадраў. Менавіта яны здольны забяспечыць сёння эфектыўную работу новага абсталявання і сучаснай энерганасычанай тэхнікі, весці справу такім чынам, каб яна была прыбытковай, прыносіла карысць гаспадарцы і асабістае маральнае задавальненне.

Люба-дорага паглядзець на аграгарадкі, якіх на Міншчыне за апошнія 2 гады ўжо добраўпарадкавана больш за 70. Яны набылі сучаснае вабнае аблічча, неабходную інфраструктуру жыццязабеспячэння. Кожны з іх заняў сваю вартую нішу ў эканоміцы, набыў індывідуальнасць і захаваў гістарычныя

асаблівасці. А гэта ж так важна, калі пакінутае ў спадчыну вызначаецца адметнаю рукатворчасцю мясцовых майстроў, іх знаходлівасцю ў разнастайнасці форм і шматлікіх каларытных кампазіцыях прысядзіб.

Праектанты і выканаўцы работ удала знаходзяць прыдатныя архітэктурныя і канструктыўныя вырашэнні праектаў кожнага аграгарадка на базе ўжо створанага, што намнога танней для дзяржаўнай казны. Сапраўды, навошта, да прыкладу, зносіць будынак таго ж вясковага магазіна, калі ён можа яшчэ доўга праслужыць, варта зрабіць тут толькі добры рамонт. Прымяніўшы сучасныя матэрыялы, надаць яму прывабны выгляд і забяспечыць камфортнай мэбляй.

Аналагічны парадак усталяваўся і ў вырашэнні лёсу ўсіх астатніх грамадскіх пабудоў — дамоў культуры, сельсаветаў, памяшканняў аддзяленняў сувязі і бытавога абслугоўвання насельніцтва, бібліятэк, бальніц, спартыўных збудаванняў. Важна тое, што асаблівая ўвага надаецца фарміраванню сучаснага аблічча гарадоў і сельскіх паселішчаў, выкарыстанню сучасных матэрыялаў і канструкцый. Новае будаўніцтва вядзецца сістэматычна — вуліцамі і кварталамі, што стварае архітэктурна-планіровачную завершанасць і добраўпарадкаваны выгляд. Той, хто хоць адзін раз наведаў вёску Замкі Крупскага раёна, не мог не захапіцца кварталам дамоў-катэджаў з 70 забудоў. У такім доме жыць, бадай, не адмовіўся б ніхто. Агульная плошча кожнага — 80—100 квадратных метраў, усе выгоды на месцы, ёсць дваровыя пабудовы для ўтрымання хатняй жывёлы, што для вяскоўцаў суперважна і будзе доўгі час з'яўляцца крыніцай дабрабыту.

З кожным годам множацца адрасы такіх прывабных забудоў у рэгіёнах. У Мінскім — гэта вёска Ураджайная, у Капыльскім — Цімкавічы і Старыца, на Уздзеншчыне — Ліцвяны і Слабада, на Случчыне — Танежыцы. Сёлетні год прагназуецца не менш «ураджайным» па маштабах аднаўлення вёсак і гарадоў Міншчыны. Работы па стварэнні аграгарадкоў вядуцца ў 62 населеных пунктах вобласці. А ўсяго да 2010 года прэстыжны тытул у адпаведнасці з рэгіянальнай праграмай набудуць 325 вёсак і паселішчаў вобласці. Мяркуючы па тэмпах работы ў гэтым накірунку і ступені ўвагі да праблемы збоку мясцовых улад, намечанае стане рэальнасцю. Кіраўніцтва вобласці гэты стан кантралюе і пры неабходнасці аператыўна ўплывае на сітуацыю рашучымі мерамі.

Кіруючыя кадры Міншчыны прасякнуты трывогай за далейшы лёс вёскі, за тое, каб сюды прыйшлі маладыя спецыялісты, здольныя і ферму ўзначаліць, і новую тэхніку асядлаць. Сказаць, што ў вобласці сапраўды трывожная сітуацыя з кадрамі нельга. Але гэта дзень сённяшні. Жыццё працягваецца, і не дбаць пра перспектыву — значыць, пусціць усё на самацёк. Вось чаму і стараюцца на месцах згрупаваць сілы і сродкі для вырашэння стратэгічна важных задач. Будуюць, каб жыць не як набяжыць, а скарыстоўваючы ўсе арсеналы сучаснасці.

Міншчына ў гэтым сэнсе за апошнія гады ў авангардзе. Устойлівую дынаміку развіцця набыла адна з вядучых галін эканомікі — аграпрамысловы комплекс. Сёння вобласць апераджае рэгіёны рэспублікі па збожжанарыхтоўках — ледзь не 2 мільёны тон сабралі ў гэтым годзе. Тут самая высокая прадуктыўнасць дойнага статку і мясной жывёлагадоўлі. Можна многа гаварыць пра здабыткі гэтых цудоўных людзей, але, думаецца, дастаткова названай лічбы, каб яскрава ўявіць наколькі трывалы ствральны патэнцыял жыхароў сталічнага рэгіёна. Для пераканаўчасці можна прывесці ў якасці прыкладу копыльскіх будаўнікоў, якія за 10 месяцаў у Цімкавічах (на радзіме Кузьмы

Чорнага) узвялі і здалі пад ключ 41 дом катэджнага тыпу, а цяпер інтэнсіўна вядуць забудову другой чаргі гэтага аб'екта. Так, сапраўды прафесійна і памайстэрску працуе калектыў шырокавядомага ў рэспубліцы калектыву ААТ «Салігорскпрамбуд». Яго доўгі час узначальвае заслужаны будаўнік Рэспублікі Беларусь М. З. Ашэйчык.

У цэлым будаўнічы комплекс вобласці прадстаўлены 193 арганізацыямі з агульнай колькасцю працуючых 27,5 тысячы чалавек. Гэтымі стваральнымі сіламі штогод выконваецца падрадных работ амаль на 1,3 трыльёна рублёў. Найбольшая колькасць жылля пабудавана за кошт сродкаў насельніцтва і льготных крэдытаў банкаў і арганізацый. Ды, уласна кажучы, прынцыповага значэння гэта не мае, галоўнае — людзі займелі свае дамы і кватэры, што так неабходна кожнай сям'і. Характэрна тое, што пераважную большасць у агульнай структуры ўведзенага ў эксплуатацыю жылля займае індывідуальнае будаўніцтва. Менавіта за кошт яго прыкметна багацее жыллёвы фонд вобласці, у тым ліку і на вёсцы. Штогод заданні па гэтай пазіцыі перавыконваюцца.

Стварэнне аграгарадкоў не павінна негатыўна адбіцца на лёсе соцень іншых вёсак і пасёлкаў — так лічыць кіраўнік вобласці і з такога пункту гледжання падыходзіць да вырашэння задач іх развіцця. Прымаюцца меры па працаўладкаванні людзей, прадастаўленні ім комплексу паслуг у адпаведнасці з сацыяльнымі стандартамі. Па неабходнасці тут таксама будуецца новае жыллё, якое засяляюць маладыя спецыялісты, механізатары, жывёлаводы.

Нельга не сказаць некалькі слоў і аб рэгіянальнай праграме капітальнага будаўніцтва аб'ектаў сацыяльнай сферы. Дзякуючы яе рэалізацыі былі пабудаваны і здадзены ў эксплуатацыю дзе басейн, дзе стадыён ці музей, паліклініка ці дом для культурнага адпачынку. Згодна з інвестыцыйнай праграмай 2007 года будаўнічыя работы завершаны больш чым на 40 сацыяльна значных аб'ектах.

Канешне, даецца ўсё гэта нялёгка. Але калі пераважае разуменне, што яно на карысць людзей, у такім выпадку двухсэнсоўнасці не існуе. Трэба ажыццяўляць!







**Алег ЛОЙКА**

# ДЗІВОСЫ ПРОЗЫ

*Трыпціх*

## *1. Ці ілжэ падпаручнік Кіжэ?*

Падпаручнік Кіжэ і ілжэ, і не ілжэ. У рамане Юрыя Тынянава ён не ілжэ, бо ён ёсць як літаратурны герой — ёсць для тых, хто верыць, што ён ёсць, у прыватнасці, для цара Паўла І, які ўздымае яго як афіцэра па службовай лесвіцы, калі ў той жа час лёс іншых залежыць ад лёсу падпаручніка Кіжэ. Але ж мы ведаем, што самога Кіжэ не было, што ўся гісторыя з гэтым персанажам — анекдатычная, што пачалася яна са штабной пісарскай апіскі, ды і не з апіскі, а, пэўна, з пахмелля прачытанага «падпаручніка жэ», дзе ў сказе слова «падпаручнік» стаяла ў множным ліку, а «жэ», што ішло за ім як часціна мовы — у поўным кантэксце значыла, што гэта іншыя падпаручнікі маюцца на ўвазе. Ды ў царовай галаве «жэ» злілося з «кі» і атрымалася прозвішча Кіжэ, за якім уласна ніякай асобы, ніякага чалавека не было. Але ж гэта не абы-якая рука апісалася, дала маху, а рука самога цара, і таму ніякі палкавы ці непалкавы пісар не мог і падумаць, каб усумніцца. І — пайшло, паехала, — як у тыя часы пісалі: «Пайшла пісаць губерня!»... І аж да рамана тая губерня дапісалася: сатырычнага рамана, сатыры на царскія штучкі-выдрымучкі!..

Ой, як фантастычна выслужваўся падпаручнік Кіжэ! І не дзіва: хто нічога не робіць, нічога не псуе; хто ва фрунце не стаіць, фрунту не касабочыць; хто камандаў не падае, дурное каманды не падасць! А тым больш той, каго няма, той ні лішняй палюбоўніцы не завядзе, ні лішняга бакала шампанскага не вып'е і п'яным рылам у талерку не пляснецца, пад стол не зваліцца! Чысты фармуляр! Кар'ера заліхвацкая! І ніякіх табе плётак, нагавораў, клятвапарушэнняў, ілганства! Кіжэ не ілжэ!

Можа, было на самым пачатку, бо Кіжэ як Кіжэ не было! Нібы быў Кіжэ, рос рангамі, стаяў на забеспячэнні, быў у цара ў пашане, а мы, ды і не толькі мы, ведалі, што Кіжэ няма. З'явіўся, аднак, аб Кіжэ раман Юрыя Тынянава. Прывіднае нібы стала явай, прывіднае, ілжа, стаўшы аповедам, стаўшы выдатным літаратурным творам, загаварыла да чытача, выклікаючы ягоную ўсмешку, задавальненне, захапленне. Сапраўды ажыло тое, чаго не было, што не жыло. Хоць няпраўда! Што яно не жыло, то не жыло, але што самрэч было, было: быў анекдатычны факт з армейскіх парадкаў часоў цара Паўла І. Фокус-марокус? Хай фокус-марокус, але сапраўды цікавы, дзіўны да адурэння. Юрый Тынянаў, як чарадзей, яго вычараваў, у свет пусціў, сам пры гэтым не лгучы. І з такіх чарадзеяў Юрый Тынянаў быў не першы, не апошні.

Юрый Тынянаў быў, аднак, раманістам шырокага дыяпазону, і зусім іншага ладу-складу ягоны раман аб сапраўднай гістарычнай асобе. Адзін з яго герояў — Аляксандр Сяргеевіч Пушкін. «Кюхля» — называецца той раман у Ю. Тынянава, і ён цалкам заснаваны на дакументальнай аснове. І няхай сам Ю. Тынянаў аднойчы сказаў, што дакументы лгуць, як людзі, гэты ягоны афарызм праўдзівасці дакументальнага факта як яго асновы не перакрэслівае. Вядома, не аспрэчыш таго, што фальшывых, ілжывых дакументальных дадзеных на свеце хапае і што падробка — таксама рэальнасць, як і не падробка. Існасць чагосьці, такім чынам, не заўсёды прычына існасці чагосьці. Але што раман таго ж самага Ю. Тынянава «Кюхля» ісцінаправдзівы раман з часу жыцця А. Пушкіна — гэта несумненна, — раман з тыпу мастацкіх біяграфій жыцця вялікіх людзей. Дык што: атрымліваецца, раман пра падпаручніка Кіжэ няправдзівы? Праўдзівы, хоць аб няпраўдзе, хоць аб героі, якога не было, бо апошняе не перакрэслівае мастацкасці рамана аб паручніку Кіжэ, не перакрэслівае мастацкай праўды пра яго. І ўвогуле, што праўда ў мастацкім слове, у прыгожым пісьменстве — рэч надта складаная, мы пераканаемся яшчэ, але пакуль што вернемся да дзівосаў, да чарадзейства.

Зазірнём у гогалеўскія «Вечары на хутары бліз Дзіканькі», успомнім пра пачварнага страшылу Вія, што ўсоўвае сваё рыла ў вокны яе халупаў-ляпёнак, і легендарную Салоху, і сам сарочынскі кірмаш, і як на выгнутым маладзіку па начных нябёсах гойсаюць героі Мікалая Васільевіча Гогаля. Фальклор. Народная фантазія. І смешна, і грэшна, і пацешна, і — рэальна, хоць хто гэтага міфалагічнага Вія рэальна бачыў, хто рэальна на маладзіковым розе катаўся? Гогаль-мастак пісаў сваю Дзіканьку з жыцця, з тых уяваў, якімі жылі насельнікі Дзіканькі, з іх паэтычнага светабачання.

Блізкая нам, беларусам, была гогалеўская Дзіканька, але яшчэ бліжэй тое, што апавядаў шляхціцу Завальні над палачанскім возерам Нешчарда ягоны пляменнік. Актыўным быў апавядальнік, але праз яго вусны выяўляўся свет, які блізкі і любы аўтару кнігі «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1844—1846). Аўтарам быў Ян Баршчэўскі, а фантастычныя апавяданні — якраз з роду тых, што ў М. В. Гогаля гучалі на хутарскіх вечарах бліз Дзіканькі. Таму і не дзіўна, што беларускія даследчыкі жыцця і творчасці Яна Баршчэўскага даўно ўжо называюць яго беларускім Гогалем.

Адзін з сучаснікаў Яна Баршчэўскага адзначаў, што пісьменнік быў «поўны веры ў тое, пра што піша». А пра што ён пісаў? Пра чарнакніжніка і змяю, што вывелася з яйка, знесенага пеўнем, пра лесуноў, змяінага цара, ваўкалакаў. Іншы сучаснік Яна Баршчэўскага палічыў яго за гэта беларускім Гофманам, а беларускія вульгарныя крытыкі 20-х гадоў пусцілі версію, што гэта ўвогуле быў літататурны паклёп на беларускага селяніна, як нібыта беспрасветна-дзікунскага папуаса.

Паклёпу на родныя свае сёлы, вядома ж, ні ў Гогаля, ні ў Баршчэўскага не было. Было адлюстраванне веданага імі, любімага, роднага, народнага, спрадвечнага. Але што тут чыніць, калі яшчэ ў самым канцы XIX стагоддзя, у 1895 годзе, выдаючы ў Гародні кніжку «Пережитки древнего созерцания белорусов», яе аўтар — бацька Максіма Багдановіча Адам Ягоравіч — глядзеў на гэтыя перажыткі як на жывое дапатопнае дзікунства. Вучоны этнограф Адам Багдановіч нацыянальную міфалогію ў сваім рацыяналізме аднёс да адмоўных рэчаў «сузірання беларусаў», а яго сын-паэт адлюстроўваў перажыткавае як паэтычнае, як праўду паэтычнасці старажытнага сузірання сваіх далёкіх продкаў, што адухаўлялі флору і фауну, родную ім мёртвую прыроду. Паэтычнае пазнанне, навуковае пазнанне свету людзьмі прыходзіць пазней эмацыянальна-жывапіснага, таямнічага, сінкрэтычнага. Зварот Максіма Багдановіча да міфалагічных вобразаў лесуна, русалак, змяінага цара — зварот да прадгісторыі, якая для ягоных прадгістарычных продкаў была праўдай, іх духоўным набыткам, верай. І Багдановічаў сын быў не без рацыё, але ягонае рацыё адкрывала фактары мінулага як яву красы, рабіла іх увасабленнем красы, прычым нацыянальнага генезісу. Уласна за красу,

і толькі, свае міфалагічныя вобразы нашыя далёкія продкі ўрад ці — філасафічна — мелі. Максім Багдановіч не веру вяртаў у іх, а рабіў прадметамі, знакамі, сімваламі красы: эстэтызаваў для сучаснікаў, не адраджаючы іх. Была ў Максіма Багдановіча вера ў іх эстэтычную каштоўнасць, ён іх укладваў у нацыянальную скарбніцу прыгоства.

А Ян Баршчэўскі ўпаўне мог верыць і ў жывую існасць лесуна, змяінага цара. Як рамантык, ён наследаваў сярэднявечча. І на пачатку XIX стагоддзя столькі ж гаварылася ў Беларусі аб лесунах і змяіных царах, што ў іх рэальныя людзі верылі — верыла вёска, сельскі люд, шляхта не магла не верыць. Масавую, народную веру Ян Баршчэўскі адлюстроўваў у сваіх фантастычных апавяданнях, хоць фантастычнымі іх фанатык не назваў, бо, называючы іх фантастычнымі, адлюстроўваючы Беларусь у фантастычных апавяданнях, Ян Баршчэўскі быў рацыяналістам, паборнікам адукацыі, стаяў па-над фантастычным. Фантастыка надавала апавяданням Яна Баршчэўскага рамантычнага духу, менш усмешліва-гогалеўскага, больш страхотліва-гофманаўскага.

Скажам тут і іншымі словамі, міфалогія — славянская ці грэчаская — гэта з духоўнага свету чалавека, з ягонага ўнутранага духу, або адчувальная праўда яго вачэй, вушэй. Нерэальны свет, але ён больш для ўнутранага зроку чалавека, ён яго ім бачыць і ва ўяўнае верыць, як у яўнае. Ява душы! Ілюзія! Ілюзорны свет! Літаратуру трэцяй рэальнасцю называў Максім Горкі. Для матэрыяліста ёсць свет рэальны і духоўны, і такім чынам, трэцяя рэчаіснасць — з іх спалучэння — своеасаблівая, спецыфічная, ні першая — матэрыяльная, ні другая — ідэальная, а нешта паветранае, зрокам менавіта ўнутраным бачанае. Ілюзорнае бачанае. Бачанае як вобразы — паэтычныя вобразы, адбіткі рэальнага свету. Вобраз кветкі, вобраз дрэва, вобраз лася, вобраз самога чалавека. А тады міфалагічныя вобразы грэчаскіх багоў з Алімпа, пушчанскія — з Беларусі: лесуна, русалак, змяінага цара.

У Грэцыі-Эладзе было мнагабожжа, у Рыме з Хрыстом пачалося аднабожжа, монаістычная рэлігія. У славян-язычнікаў быў паганскі Алімп — персаніфікаваныя багі Перуна, Дажбога, Леля і г. д. З грэчаскай міфалогіі пачалася літаратура — драма, Эсхіл, Сафокл, эпас — Гамер з «Іліядай», з легендарнымі героямі — воінамі Гераклам і Антэем, з усядзержцамі іх зямных лёсаў, наканаванняў — алімпійскімі багамі. І вось нездарма вялікі нямецкі філасаф Ніцшэ сказаў, што чалавецтва стварыла дзве ілжы — рэлігію і мастацтва. Мастацтва, у тым ліку і літаратуру, — дадамо мы.

Дык ці праўда, што літаратура — ілжа?

Быў яшчэ і такі французскі паэт-камуніст, як Луі Арагон, які сказаў, што метад сацрэалізму, сам сацрэалізм — гэта лгаць праўду. Што сацрэалізм у сваёй чыстай кананічнай іпастасі лгаў, не быў праўдзівым адлюстраваннем жыцця, а яго ілюзорным, ідэальным адбіткам — гэта праўда. Але, адзначым, што ўся вялікая шматнацыянальная савецкая літаратура, няхай пакарожаная партыяй, галоўлітамі, цэнзурай, на ўсіх этапах свайго развіцця заставалася і праўдай жыцця, моўленай талентамі, якія так ці інакш знаходзілі хады, прыёмы, павароты, каб не лгаць народу, не быць псеўдасавецкай ілюстрацыяй да розных палітычных міфаў, лозунгаў, наказаў. Міхаіл Шолахаў, хай з досціпам, але сацрэалізм акрэсліваў куды больш натуральна: сацрэалізм — гэта выдатна напісаныя творы, ды за савецкую ўладу. Мастацкасць вялікі пісьменнік ставіў на першы план, ведаючы, што, калі яна выклікае партыйную крытыку, то будзе аб'яўлена безідэйнай, антынароднай, па-за рамкамі сацыялістычнага рэалізму, ягонай праўды аб жыцці народа («жить стало лучше, жить стало веселей!»).

Такім чынам, мастацкасць — праўда літаратуры. Але вернемся да лесуна і ваўкалака. Яны — ні звер, ні чалавек, а, як ужо гаварылася, вымысел, выдумка чалавека, у думках якога існуюць, як існуюць у ёй і казка, і байка. І казка, і байка — прадукт выябразні чалавека, ды і немалой. Зноў жа трэцяя рэчаіснасць. Ды ўжо, мусіць, не трэцяя, а чацвёртая і пятая. Казачны свет, ён —

асобны свет, баечны — асобны. Хоць — падкрэслім — па-беларуску казка і байка — тое ж самае, словы-сінонімы. Але свет баечны, свет казачны — не адно і тое ж. Героямі баек (літаратурных!) выступаюць перш за ўсё персанажы фауны — звяры, птушкі (могуць і бытавыя прадметы: вядро ці мятла, чартапалох ці крапіва). А што мы маем у літаратурнай байцы? Там мастацкі свет алегорыі: рэальныя звяры ці парасткі флоры, яны нешта сімвалізуюць, нешта сабой — паняційна — рэальна прадстаўляюць. Чым канчаецца літаратурная байка — Лафантэна, Крылова ці Крапівы? Мараллю. Героі літаратурнай байкі — алегорыя, не рэальны адбітак ваўка, лісы, вароны, а яе байкавы персанаж. У байцы галоўнае — мараль, фактар этычны, навучанне, моўленае на падставе вывадаў ад паводзін алегарычных носьбітаў тых ці іншых нораваў. У літаратурнай байцы алегорыя як выдумка шэрага чымсьці значных персанажаў дае праўду маральнага кодэксу паводзін чалавека. Праўды адлюстравання рэальнага жыцця няма, але ёсць праўда, якая вучыць чалавека ідэальным паводзінам!..

Тут можна і жахнуцца: алегарычныя героі літаратурнай байкі маюць усё ж сваіх жыццёвых рэальных прататыпаў, ці сабачку Моську, ці, як у Кандрата Крапівы, асла, якому сонца засланіць вушэй мала. А якія прататыпы ў герояў казак? Канешне, прататыпы і ў іх ёсць, бо хто такая, напрыклад, казачная Баба Яга? Яна не проста баба, — яна жонка Ёга, нашага праіндаеўрапейскага продка. Быў Ёг і была ў яго жонка Яга, і ў нашы беларускія казкі, як і ў расійскія, як і ва ўкраінскія, баба Яга з Індыі прывандравала. Але хто быў прататыпам такіх герояў нашых беларускіх народных казак, як Вярнідуб, Пакацігарошак, Рымша? І ўвогуле казка — гэта казка, гэта выдумка, няпраўда. Аднак успомнім А. С. Пушкіна: «Сказка — ложь, да в ней намек ...» Казка — ілжа, але не без праўды: непасрэднай маралі ў ёй, як і ў літаратурнай байцы, няма, але яна — павучальная, навучаннем сваім праўдзівая. Ілжэ праўду?... Але тут спытаемся, ці лгаў праўду, пішучы сваю паэму «Новая зямля», Якуб Колас?

Літаратура — ад жыцця, кожны твор мае сваю творчую гісторыю, свой прататыпны мацярык, прататыпаў сваіх герояў. Тым больш такі, як паэма «Новая зямля», — аснова якой аўтабіяграфічная.

Аднак, ідучы ад жыцця, ад лёсу сваёй роднай сям'і, Якуб Колас ніяк не быў яе аўтабіяграфічнай аснове цалкам падлеглы. Сам быўшы сярод мікалаеўцаў у сярэдзіне 50-х гадоў мінулага стагоддзя, сам жыўшы ва універсітэцкіх інтэрнатах з хлопцамі-студэнтамі з роднай Якубу Коласу вёскі Мікалаеўшчына, я з жывых вуснаў мікалаеўцаў, нават з вуснаў даволі блізкіх родзічаў яго, чуў рэальную праўду пра самога бацьку Якуба Коласа, пра рэальны лёс лесніка Міхала Міцкевіча. Ляснік для аднасяльчан ён быў вельмі злосны, і за гэта менавіта збіты імі ў лесе, ад адбітай вантробы ён заўчасна памёр. Міхал і Антось, назапасіўшы грошай, узяўшы пазыку ў віленскім Сялянскім банку, уласную зямлю купілі — фальварак Смальгавок каля Слуцка. Уладар фальварка іх падмануў, бо аж двойчы братам Міцкевічам прыйшлося раскашэльвацца на сваю новую зямлю. Іншымі словамі кажучы, мара Міхала аб новай зямлі спраўдзілася, здзейснілася, ды заўчасная смерць прывяла Міхала да трагічнага фіяска. Аднак бацька Якуба Коласа памёр у 1902 годзе, калі яго сын Кастусь ужо канчаў Нясвіжскую семінарыю. У фінале паэмы Кастусь сярод малой дзятвы лесніка Міхала, бо, калі дзеці нябожчыка малыя, большая жаласць да іх і ад родзічаў, і ад аднавяскоўцаў. Іншыя, вядома, пачуцці ў іх да дзіцяці, якому ўжо дваццаць гадоў. Зразумела, што аўтар «Новай зямлі» смерць бацькі ўтрагічніў, абвастрыў вакол яе пачуццёвую абстаноўку. Але ўжо гэта — так ці інакш — было адступленнем ад праўды рэальнага факта. Асаблівую непрыязнасць у мікалаеўцаў, аднак, выклікала адступленне іх аднавяскоўца ад рэальных фактаў жыцця — набыцця сям'ёй зямлі, паэтызацыі службістага лесніка Міхала, адступленне, па сутнасці, ад праўды набыцця ім новай зямлі, зусім небязбеднага жыцця яго як служакі князёў Радзівілаў. Не верыць мікалаеўцам-аднавяскоўцам паэта Якуба Коласа — падстаў няма. Але тут і ўзнікае праблема праўды рэальнага жыццёвага

факта і праўды мастацкага паказу жыцця не асобнай сям'і, а агулу, народа, лёсу сялянства як класа, як асновы новай нацыі, якая складвалася на базе сялянства. І тут ідзе вывад: ад рэальнай праўды жыцця Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч адступіў, але мастацкую праўду аб жыцці беларускага дарэвалюцыйнага сялянства, аб яго беззямельным бяспраўі і марах аб новай зямлі — гэтую праўду ён сцвердзіў. У вачах блізкаўзрочнага, літаратурна неадукаванага аднавяскоўца-мікалаеўца сын Міхала Міцкевіча быў і заставаўся махляром, адступнікам ад праўды ў той час, калі гэтае адступленне дало праўду абагульнення, — усенародную мастацкую карціну сацыяльнай нядолі селяніна-беларуса.

Увогуле адным з законаў мастацкай творчасці з'яўляецца завастрэнне ў сюжэце дзеля выявы агульнага, канцэптуальнага разумення мастаком жыцця ў яго сацыяльных падвалінах, у яго сутнасці не без мараў аб пераўтварэнні благога ў лепшае, не без веры ў навізну пераўтварэння, што дасць больш шчаслівую будучыню, больш шчаслівы лёс людзям, грамадству, народу.

З падманам гэтае завастрэннс мастаком сюжэта ці не з падманам? Чытач пісьменніку верыць, чытач напісанае пісьменнікам успрымае як праўду, бо нібы само жыццё перад ім, ні аб якой ілюзорнасці паказу чытач не думае, ні аб якой трэцяй рэчаіснасці, тым больш аб якімсьці там завастрэнні ў сюжэце глыбокадумным, канцэптуальным, якое выносіць прысуд рэчаіснасці, адмаўляе дзеля будучыні, выяўляе веру пісьменніка ў лепшае будучае, робіць яго аптымістам.

Яно, відаць, бывае лепш, калі чытач не ведае праўды, ад якое адштурхоўваецца пісьменнік. І галоўнае — ніякага піетэту чытач пісьменніку не выказвае, калі ведае рэальную прадгісторыю твора. Мікалаеўцы — землякі Якуба Коласа — рэальна гэта даказалі ў той час, калі якраз за адступленне ад рэальнага факта дзеля мастацкага абагулення пісьменніка трэба ўзвышаць, і толькі ўзвышаць. За што? За адвагу, за, па сутнасці, несыновыя адносіны да бацькі, за звышсмеласць асуджэння роднага, блізкага, любімага — і як рука паднялася?!. Як можна было дазволіць сабе такое?!. Салгаць, агаварыць свайго бацьку?

Па сутнасці ні ілжы, ні агавору. Геройства духу, смеласць, мужнасць — свядомая, сыноўняя, патрыятычная, нацыянальная.

І тут скажам, што ў сусветнай літаратуры гэта найбольш увыпукляецца, бо спашлёмся яшчэ на адзін вельмі красамоўны прыклад завастрэння пісьменнікам сюжэта — апавяданне «Муму» выдатнага рускага празаіка І. С. Тургенева. Аснова яго — таксама аўтабіяграфічная: прататыпам барыні таксама была родная маці Івана Сяргеевіча. Герасім у жыцці быў Сцяпанам, яго любімы сабака — Муму. Па загадзе барыні Сцяпан утапіў любіміцу Муму, але ў жыцці — рэальна — Сцяпан не пакінуў барыні, не сышоў ад яе нямым бедалагам, а нямком дажываў у сцёбцы акрутнай Салтычыхі — маці пісьменніка. А што ў фінале апавядання Тургенева «Муму»? Герасім пакідае самадурку, і якраз гэта красамоўна, гэта сімвалічна, гэта канцэптуальна. Не за фактам рэальнага жыцця пайшоў І. С. Тургенеў, а за паэтызацыяй нямога раба і яго сыходу ад прыгонніцы-пані. І вобраз нямка Герасіма з-пад пяра І. С. Тургенева вырас у мастацкае ўвасабленне ўсяго прыгоннага ладу — бяспраўнага, беспрасветнага расійскага сялянства, расійскага прыгоннага права, але не без веры ў маўклівую прыгонную сялянскую масу. Яна пакуль што, як Герасім, нямая, але яна, як Герасім, вось-вось запратэстуе, пакіне свае сцёбкі, выйдзе ў хараство расспяваных расійскіх раніц, спеву якіх пакуль што не чуе. Як бачым, да нечувана шматсэнсоўнага абагульнення дайшоў І. С. Тургенеў у сваёй аналогіі ўцёкаў-сыходу з маёнтка пані-прыгонніцы Герасіма. І гэта было вышэйшай мерай грамадскай смеласці Івана Тургенева — спісаць вобраз аднае з салтычых-прыгонніц з роднае маці.

Самім жа вобразам Герасіма вялікая праўда аб усім расійскім сялянстве была сказана.

І возьмем яшчэ прыклад твора, блізкага часам напісання да нашых дзён — паэму Аркадзя Куляшова пра Кастуся Каліноўскага «Хамуціус». Каліноўскага,

як вядома, генерал Мураўёў павесіў у 1864 годзе ў Вільні. Але ў фінале паэмы А. Куляшова «Хамуціус» Кастусь Каліноўскі — на барыкадах Парыжскай камуны 1871 года. Нежывы ўжо Каліноўскі поруч з героямі Вялікай Французскай рэвалюцыі? А чаму і не: быў бы жывы, быў бы ён поруч з земляком Валерыем Урублеўскім. Завастрэнне мастацкае, але сапраўды ці ж не правамернае яно, бо сапраўды дух рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага скрозь, дзе рэвалюцыі. Праўда логікі дыктуе тут праўду мастацкага асэнсавання, адлюстравання. Мастацкая праўда не ілжэ!..

## 2. На аднаго папа папоў капа

Рыфма такая штука, што заводзіць, бывае, куды і не чакаеш. «За добрую рыфму можна павесіцца!», — пераказвалі, чуў я сам, словы Змітрака Бядулі тыя, хто з вайны памятаў яго ці гэтую павядзёнку аб ім. Падводзіць рыфма і саму назву гэтага раздзела, бо Максім Горкі не пра шэсцьдесят папоў пісаў, калі пісаў, што каб аднаго папа адлюстраваць, сто іх трэба пазнаць. Але сто ці на сорак меней ці не усё адно? Не адзіночны лік — множны. І не грэх недакладнасць лічбы, названай класікам, хоць на адзін вобраз папа ў літаратуры, бывае, што хапае і аднаго прататыпа. Гэта, у прыватнасці, выдатна даказаў наш Якуб Колас у сваёй трылогіі «На ростанях».

Колькі ж вобразаў святароў у трылогіі? Чатыры: тры палескія, адзін — з Верамеек. Палескія — айцы Кірыл і Мадэст, звязаныя з Цельшынам, айцец Мікалай з вёскі Выганы, бацюшка Уладзімір з Верамеек, адзін на аднаго падобныя хіба тым, што ў расах і кожны больш ці менш выпівае, ды кожны з іх — запамінальны. Цікавымі, напэўна, у самой натуры былі алтаровыя служкі, пазнаныя пісьменнікам на жыццёвых сцежках. Якуб Колас ішоў ад людзей жывых, ад прадстаўнікоў пэўнай праслойкі, прафесія якіх накладвала на іх свае абавязкі, спараджала пэўную агульнасць, пэўны тыпаж. Але тыпажнае праяўляе сябе ў Якуба Коласа ў індывідуальнасцях. Індывідуалізацыя спараджала эфект — майстэрства адлюстравання. І што гэта так, пацвярджае ў Якуба Коласа кожны з асобных вобразаў духоўных айцоў.

Не без псіхалагізацыі асобы айца Кірыла пачынае Якуб Колас паказ яго: «Айцец Кірыл быў чалавек яшчэ малады, нізенькі, шчупленькі, худзенькі, з рэдзенькаю цёмнаю бародкай і жывымі, крыху неспакойнымі цёмна-шэрымі вачамі» — партрэт выдатны! А вось працяг паказу вобраза з псіхалагізацыяй: «Адбітак нейкай мукі адзначаўся на яго худым твары. Гаварыў а. Кірыл громка і бодра, часта смяяўся ад душы, але радасці, гэтай галоўнай уласцівасці здаровага смеху, не чулася. І варта было хоць на хвіліну яму сціхнуць, каб зараз жа цень смутку лёг на яго твар».

Напрамкі прычыны смутку а. Кірыла пісьменнік не раскрывае. Ці ад таго, што палескую глуш ён лічыць ямай, намыйніцай, «што другой такой і на свеце няма», ці ад таго, што надта ненавідзіць палешукоў: «яны, гэта быдла», — найперш заяўляе а. Кірыл настаўніку Лабановічу — асноўнаму герою трылогіі. Пафас знявагі палешука ў а. Кірыла надзвычайны: «...Зрабі яму дабро — ён адплаціць табе самай чорнай непадзячнасцю. Мужык — гультай, злодзей, п'яніца. Толькі і глядзіць, як абабраць цябе, ашукаць. Ніякай веры яму няма. Ён гатоў цябе ўтапіць, прадаць за чарку гарэлкі...» «Розгамі яго трэба сеч!...» «Мала білі мужыка! — падводзіць вынікі свайго маналога а. Кірыл, нібы самы найвялікшы цемрашал-ненавіснік мужыкоў. Але паслухаем, што гаворыць яго жонка — матушка-пападдзя: «А хто ўжо лепш можа дагадзіць ім, як не а. Кірыл? І землю ім аддаў, і сенакос, і лякарства дае, і добрым словам памагае. Ніколі ні ў чым ім не адмаўляе». І тут жа на вачах Лабановіча вяртаецца, даўшы споведзь хворай паляшучцы, а. Кірыл, вяртаецца з лаянкай: «Ну, як жа іх, гадаў, не лаяць:.. Чорт ведае, чым кормяць хворую, і гаворыш ім, прыказваеш, не, сваё робяць!...

А гразь!.. Свінні, свінні!..». «Крыху супакоіўшыся, — піша далей Якуб Колас, — а. Кірыл сказаў да матушкі ціха: «Зашлі ты ёй цераз Параску чаго». Гэтага ціхага а. Кірылу, мусіць жа, лепей, чым Лабановіч, ведае яго жонка-пападзіха, і таму нельга не верыць яе папярэдняй высокай атэстацыі свайго мужа.

І яшчэ адзін штрых да яго характарыстыкі дадасць пісьменнік: айцец Кірыл слова божае выкладаць за яго ў школцы папросіць Лабановіча і скажа, што і платай за тое з настаўнікам падзеліцца, гэтым зноўку выступаючы нешкадоблівым, не вельмі ўлягальным у выкананні сваіх алтарскіх абавязкаў, не педантычным іх спраўнікам, а значыць, ніякім не махровым служакам. У чым тады сапраўды прычына духоўнай знепакоенасці а. Кірыла? Дабрыня ягоная, якая не можа дапамагчы яму зыначыць нялюдскі стан жыцця палешукоў?

Айцец Мадэст гэтым не мучыцца — «вельмі заўзяты п'яніца і лаяльнік». Партрэта, псіхалогіі яго ў трылогіі няма, а паперадзе сатырычныя штрыхі: а. Мадэст у Цельшына прыязджае з вёскі Малевічы, вежу царквы якое разбіла маланка. Якуб Колас іранізуе: ці не сам прарок Ілья разбіў вежу — за грэх п'янства. «А можа, і другі грэх а. Мадэста, — піша аўтар трылогіі, — мог пацягнуць за сабою такую кару, бо ён сушыў жыта за царскімі дзвярамі, а ў святую нядзельку перад набажэнствам зазвычай хадзіў на балота трасці бучы з рыбаю сваіх парафіян». Ды было аднойчы, што па пояс а. Мадэст праваліўся ў багну, ледзь выцягнуў яго царкоўны стараста, «падлай пранцаватай» аблаяў якога а. Мадэст і ў чарговую нядзелю аб'явіў забастоўку.

«Што, бацюшка, можа, час званіць на абедню? — пытаў яго стараста. — А ні дзлэнг! — крыкнуў а. Мадэст, — як Бог мне, так і я да Бога!» У іншым месцы трылогіі Якуб Колас паказвае не так абыякавыя адносіны да службы айца Мадэста, як абыякавыя адносіны да палешукоў. Але і сам айцец Мадэст як ардынарная фігура запамінаецца тут, асабліва пытаннем да дзеда Мікіты: «Ці злавіў жа хоць рыбы?» «Дзе там у чорта? Няма!» — адказвае дзед Мікіта, якому Бог ці чорт — усё адно!..

Айцец Мікалай — з Выганаў. Аб ім апавядаецца ў трылогіі найбольш — у больш працяглым часе сустрэч з Лабановічам ён паказаны, але не так у гэтых сустрэчах айцец Мікалай як чалавек раскрываецца, як цераз анекдатычныя выпадкі з ягонага жыцця, чутыя, вядома, Лабановічам збоку. Самы неймаверна блюзнерскі з гэтых анекдатычных выпадкаў паказвае айца Мікалая не толькі як проста жуліка пры алтары, які зневажае тое святое, чаму служыць. Бо як гэта можа сабе дазволіць, напрыклад, правіць абедню і таргаваць карову ў парафіяніна Крэшчыка — на слыху ва ўсіх прыхаджанаў. Усе чуюць то голас айца Мікалая, то дзяка і Рыгора Крэшчыка. Айцец Мікалай заводзіць:

— «Благословенно царство всегда ныне и присно, и во веки веков...» А дзяк цягне: — Амінь.

Вось у гэты момант, калі яго змяняе дзяк, а. Мікалай і гаворыць: — Прадай мне, Грыгор, сваю карову.

Пачуць ад Грыгора адказ зараз жа не заўсёды ўдаецца, бо дзяк сваё канчае. Тады а. Мікалай заводзіць новы выгалас, каб дзяк не застаўся беспрацоўным. Дзяк спявае, а Грыгор у гэты час кажа:

— Купляй, бацюшка.

— Колькі ж ты за яе хочаш?

І зноў не ўпраўляецца пачуць адказу, бо дзяк чытае:

— «О изобилии плодов земных и времен мирных Господу помолимся!»

Дзяк спявае «Госпадзі, памілуй», а Грыгор назначае цану каровы:

— Сорак пяць рублёў.

— А яна ў цябе не перадойка?

— «О плавающих, путешествующих и страждущих, негодующих и плененных и о спасении их Господу помолимся!»

Дзяк зноў спявае, а Грыгор адказвае:

— Не! Пабегала! Каля Міколы ацеліцца...»

Айцец Мікола, такім чынам, і набажэнства правіць, і карову таргуе. Жыццём ён задаволены, сабой задаволены, а ўжо які рагатун, то не раўня айцу Кірылу: «А, Мікалай ... засмяяўся сваім працяглым смехам, потым, падумаўшы, перавёў вочы ў неазначальныя прасторы». Куды а. Мікалай пераводзіць вочы, яшчэ раз памяне Якуб Колас (айцец Мікалай, ён выдае гэтым сябе за чалавека шырокага кругагляду, а падпольныя пракламацыі ён проста паліць: Бог — усё адно, а жандар — Бог).

У Высокім самая відная фігура — з самага пачатку дазнаецца Лабановіч — поп. Імем, прозвішчам ён — Уладзімір Малевіч. Дзябёлы, кампанейскі выпівоха і шумнейшы, відаць, за ўсіх сваіх папярэднікаў па трылогіі. Але не айцец Мікалай майстра выдаваць сябе за вышэйшага сябе, ёсць у коласаўскай галерэі святароў, а менавіта айцец Уладзімір. І, можа, перш за ўсё, што ён — інтэлігент, не на паслугах у жандармерыі, як дзяк Бацяноўскі, як рэспектабельны айцец Мікалай. Сын сану свайго, архірэямі пасвечаны ў яго, ён, айцец Уладзімір, супраць наглядніцтва, даносаў, чарнасоценства сваіх аднапрафесіяналаў, і тое, як дае ён Лабановічу прычасце і даведку аб ім вышэйшаму начальству па часе, калі ўжо аб ніякім прычасціі марыць не было, бо з тыдзень, як Вялікдзень прайшоў, гэтае да неймавернасці немагчымае, аказваецца магчымым. Не назавеш айца Уладзіміра дэмакратам, але ён не заблудзіўшая авечка ў дэмакратычны стан. Яго кругагляд сапраўды шырокі, па-над кругаглядам усёй галерэі коласаўскіх бацюшкаў. Бо не толькі па часе дае ён настаўніку Лабановічу даведку аб яго прычасці, але і само прычасце ў яго прымае не па Евангеллі, а па пазалочаным выданні твораў А. С. Пушкіна. «Праз некалькі хвілін ён вярнуўся з ёмкаю кнігаю, нагадваўшую Евангелле, з лістом паперы, з чарнільніцай, ручкаю і царкоўнай пячаткаю. Усё гэта моўчкі палажыў і паставіў на стол. Настаўнік недаўменна пазіраў на бацюшку, а той некаторы час губляўся зірнуць на Лабановіча. Нарэшце бацюшка Уладзімір падняў вочы. Вясёлая і хітрая ўхмылка прабегла па яго губах...

Неўзабаве айцец Уладзімір рагатаў, гаварыў: «Усё гэта — адна фармальнасць...»

Фармальнасць выручыла Лабановіча, бо ўсе нагаворы чарнасоценных жукоў на яго трацілі сілу.

У цэлым сюжэт трылогіі Якуба Коласа т. зв. шматступенчаты: пісьменнік пераносіць свайго галоўнага героя ў часе і прасторы, з адных абставінаў — у іншыя, наступныя, з новымі мясцінамі роднага краю знаёміць, з новымі людзьмі ў розных новых сітуацыях сутыкае. Дзейнічае прынцып сувязі, супярэчнасці, сімпатыі, антыпатыі. З рознымі людзьмі Лабановіч сутыкаецца, менавіта ім то сімпатызуючы, то ставячыся да іх негатыўна. Канешне, Ядвіся Баранцэвіч ці Вольга Андросава — сімпатыі Лабановіча, а дзяк Бацяноўскі — навушннік, падслухівач пад акном, пляткар, чарнасоценец, як і чарнасоценная гніда пісар Васількевіч — ніякія не прыяцелі яму, не сімпатыкі.

Сваёй шматступенчатасцю сюжэт трылогіі блізкі да прыгодніцкага рамана, толькі ніякі ён не авантурна-прыгодніцкі, не дынамічны, не займальніцкі, а запаволены і нават расцягнуты ў часе. Гэта адбіваецца на характары галоўнага героя, робіць яго нібы марудным, запаволеным, не актыўным, зусім не героем — дзейсным, напорыстым, а сузіральнікам, назіральнікам — рэфлектоўным, летуценным. Заўважаючы гэта, маладнякоўцы 20-х гадоў і не прымалі Лабановіча за героя часу, тым больш за нацыянальнага, станоўчага героя ў той час, калі ён, Лабановіч, ім быў. Праз розныя мясціны і часіны Якуб Колас вёў свайго Лабановіча як бы прыкладам да той часткі горкаўскага азначэння сюжэта, дзе М. Горкі сцвярджаў, што сюжэт — гэта ўвогуле гісторыя росту і арганізацыі таго ці іншага характару, тыпу. Трылогія Якуба Коласа — гэта ўвогуле гісторыя станаўлення Лабановіча як характару, тыпу — цераз многія сітуацыі, цераз гушчу людзей праводзіць пісьменнік свайго любімага героя, робячы настаўніка, народнага інтэлігента нацыянальным героем, узвышаючы яго інтэлект, памнажаючы жыццёвую вопытнасць, нацыянальную свядомасць, грамадскую заангажаванасць. Турма,

бальшавік Галубовіч не робяць яго рэвалюцыянерам, бальшавіком, хоць ва ўгоду сацрэалістычнай крытыцы нібы да сімпатый бальшавізму Лабановіча Якуб Колас прыводзіць. Ды белымі ніткамі бальшавізм Лабановіча ў трылогіі шыты, хоць ва ўгоду афіцыйнай крытыцы і крывіў душою сваімі алюзіямі аўтар трылогіі. Вобраз Кастуся Каліноўскага — беларускага нацыянальнага героя прыйдзе куды пазней у беларускую літататуру (п'еса «Кастусь Каліноўскі» Фларыяна Ждановіча, у паэзіі П. Броўкі і М.Танка, А. Куляшова, у рамане «Каласы пад сярпом тваім» Ул. Караткевіча), ды першым нацыянальным станоўчым героем стаў у нас менавіта Лабановіч з трылогіі Якуба Коласа.

Сюжэт яе, спецыяльна адзначым, у аснове — аўтабіяграфічны. З самога сябе спісваў Лабановіча Якуб Колас, хоць, канешне, у выніку трылогія стала творам аб шляхах беларускай інтэлігенцыі пачатку XX стагоддзя — творам вялікага абагульнення. Біяграфізм трылогіі стаў запарукай яе праўдзівасці, мастацкасці, рэальнай населенасці мноствам герояў. Але біяграфізм яе — гэта не той біяграфізм, што ў аснове, напрыклад, такіх мастацкіх палотнаў, як «Споведзь» Жан Жака Русо, «Былое і думы» А. Герцэна, «Споведзь» Ларысы Геніюш. Пачуццёвая, сентыментальная «Споведзь» Русо, рацыяналістычна-псіхалагізаваныя «Былое і думы» Герцэна, сурова-драматызаваная «Споведзь» Л. Геніюш — усё гэта лепшыя творы, якія паказваюць, што менавіта ад адной, пэўнай, канкрэтнай асобы ўзнікае тыпізаванае, тыповае, што самасцвярджэнне асобы як сябе, як персоны — адно з найпершых прынцыпаў мастацкага абагульнення ў літаратуры.

Але літаратура тым, можа, найперш найбагацей, што ідзе не толькі ад асобы творцы, але і ад погляду яго на іншыя асобы, індывідуальнасці, характары. Так, вялікі рускі раманіст XIX сагоддзя Іван Сяргеевіч Тургенеў гаварыў, што не аб сюжэце ён дбае, не сюжэтабудаўніцтвам займаецца, а перш чым пісаць новы раман, ён імкнецца, ён павінен убачыць характары герояў будучага рамана, убачыць іх у твар, пачуць іх галасы, убачыць іх міміку і жэсты. «Не сышліся характарамі», — гаворым часта мы, калі муж і жонка разводзяцца. Менавіта характарамі людзі сходзяцца, разыходзяцца, сімпатызуюць адно аднаму, любяцца, ненавідзяць адно аднаго. Калі ёсць характары, ёсць іх адносіны: характар праяўляе сябе ў зносінах са знешнім светам, у адносінах да іншых людзей, іншых характараў. Характары паводзяць сябе так ці інакш і так ці інакш сутыкаюцца. Уступаюць у прыяцельства або канфліктуюць, словам, тонам, жэстам, выразам твару выяўляюць сябе. Іншымі словамі, характар — гэта псіхалогія персанажа ў яе адзінстве, у тым першасным (як і непершасным), што прадвызначае думкі, паводзіны, перажыванні героя. І першае, і другое, і трэцяе прадвызначаецца яго, па-першае, светапоглядам, па-другое, тыпам уласна характару героя (халерык, сангвінік, флегматык, меланхолік) і, па-трэцяе, яго нацыянальным менталітэтам (нацыянальным народным характарам), абумоўленым гісторыяй народа, бытавымі традыцыямі, звычкамі, вобразамі, рэлігійнасцю, кліматам. Як бачым, характар — адзінства шматручнае, шматлікімі комплексамі абумоўленае, але менавіта адзінства. Усё ў адной кропцы, з адной кропкі. Таму ўмоўна (метафарычна ці сімвалічна) характар можна назваць кропкай, з якое, як праменні, ва ўсе бакі ўкруга разбягаюцца вектары.

Чым больш вектараў, тым больш характар шматлучны, больш ёмкі, больш багаты, больш усеахопны, больш дзейсны, жыццёвавопытны. У сваёй поўні вектараў у выніку вакол кропкі, як арбіта, акружнасць: яна, як круг сонца ці поўні. Чалавек у сталых гадах больш поўня, малады юнак — больш маладзік.

Такім чынам, даволі лёгка ўявіць, як І. Тургенеў развіваў дзеянне ў сваім рамане «Бацькі і дзеці», бачачы ўжо герояў рамана ў іх паўнаце і маладзіковасці, сутыкаючы іх, агучваючы іх словы, даючы ім псіхалагічны каментарый, акрэсліваючы рухі персанажаў, выразы іх твараў, рост і ўзрост іх постацяў, іх адзенне, іх звычкі-прывычкі, што называюць другім характарам чалавека. Два браты — Мікалай Пятровіч і Павел Пятровіч Кірсанавы — далёка, як браты,

не падобныя, бо першы, — віціеваты ліберал, другі арыстакратычны англаман. І зусім адрозныя ад іх сын Мікалая Аркадзь і ягоны сябар па вучобе Яўген Базараў. Арыстакрацішкі, як іх называе Базараў, не могуць прыняць недавярка да іх ісцін Базарава. Канфлікт завязваецца: бацькоў і дзяцей і — Бог яго ведае?! — як складуцца адносіны саракагадовай прыгажуні Ганны Адзінцовай і мужлаватага, нехлямяжага, самалюбнага Базарава, які слыве нігілістам (ад слова nihil — нічога), нічога не паважае, не прызнае ў пакаленні бацькоў, акрамя сваёй увагі да прыроды, чалавек у якой — вечны работнік. І інтрыга ёсць, і напачатку, пэўна, і сам раманіст І. Тургенеў не ведаў, якія перыпетыі дзеяння разгорнуцца, якія развязкі ў яго будуць. (Падобна не ведаў наперад і А. Пушкін, «сквозь даль волшебную кристалла не различал», як павядзе сябе Таццяна Ларына, якія конікі выкіне, якія ўчынкі падыктуе ёй яе характар.) Але і перыпетыі ў Тургенева наступілі, і развязкі знайшліся — усё ў залежнасці ад характараў герояў: за імі ішоў аповед пісьменніка. І — што вельмі цікава — нігіліст Базараў, чалавек моцнай волі, які супрацьстаіць у рамане слабавольнаму Аркадзю — сыну Мікалая Пятровіча, у выніку як бы пацвярджае арыстоцелеўскае азначэнне характару («...характар гэта тое, у чым выяўляецца напрамак волі» (падкрэслена намі. — **А. Л.**). Воля — сама па сабе воля, якая можа быць у чалавека, можа не быць, як і напрамкі свае чалавек можа мець і не мець. І. Тургенеў Базарава як героя не вельмі любіць, але як моцнаму валявому характару не можа яму не сімпатызаваць, не паэтызаваць яго. І. Тургенеў, як мы ўжо вышэй гаварылі, ішоў ад характару. Знойдзеныя ім характары сутыкаліся, канфліктавалі і «вялі» сюжэт. Ёсць характары, ёсць сюжэт! — мы гэта ўжо абвяшчалі. Але, калі няма характараў, калі характары трэба раскрыць? Што тады? Тады зрабіць гэта трэба ў сюжэце. Але ці сюжэт раскрывае характары? Бяром вопыт І. Тургенева: калі ёсць характары, будзе сюжэт. Ды ці ўласна ён раскрывае характары? Раскрывае, але раскрывае, пачынаючы з сутычак, канфліктаў героя з нашымі героямі, з асяроддзем, з сіламі сацыяльнымі, палітычнымі, якім герой супрацьстаіць. Значыць, галоўнае тут цераз супрацьстаянне героя знешнім сілам? Супрацьстаянне знешнім сілам, якое яно? Найперш актыўнае, бо яно найперш — дзеянне, яно не можа быць без актыўнасці, якая і выяўляе сутнасць характару, супрацьстаянне выяўляе характар. Чалавек супрацьстаіць чалавеку, але перш за ўсё ён супрацьстаіць свету, наваколлю, таму, што дзеецца навокал яго. А тое, што дзеецца, ёсць падзеі, перш за ўсё чалавек, ён герой літаратурнага твора. І таму тут нам вельмі дарэчы ўспомніць адно з самых кароткіх азначэнняў сюжэта, якое даў вядомы рускі крытык XX стагоддзя Віктар Шклоўскі: «Сюжэт — гэта даследаванне характару цераз падзею». Як бачым, на першым месцы ў ім стаіць падзея — падзея як фактар характараў ствaральны. Сам пісьменнік, вядома, наперад ведае характары сваіх герояў, але чытачу ў дадзеным выпадку ён раскрывае іх якраз праз тую ці іншую сітуацыю, у тых ці іншых абставінах.

Падзея і сітуацыя ці абставіны — паняцці не адназначныя, бо падзея — гэта ў патоку дзеяння, а сітуацыя ці абставіны — гэта прасторавае, з пэўным месцам звязанае. Але з месцам, дзе адбываецца падзея, так што падзея насамперад абумоўлівае сітуацыю ці абставіны, у якіх дзейнічае літаратурны герой, учынкамі сваімі як рэакцыяй на сітуацыю і абставіны праяўляючы сябе, свой характар, свае адносіны да свету, да людзей, што поруч з ім, да таго, што яму пагражае ці не пагражае.

Як майстра, які перш за ўсё раскрываў сутнасць сваіх герояў цераз падзею, успомнім тут Васіля Быкава, у якога гэтая асаблівасць ярка праявілася ўжо ў першай яго ваеннай аповесці «Жураўліны крык» (1969). Месца яе дзеяння — чыгуначны пераезд, які загадана трымаць суткі, і каля сутак дзеянне ў аповесці трывае. Загадана абараняць пераезд атраду з шасці чалавек. Іх зброя — адзін ПТР, адзін кулямёт, вінтоўкі, супрацьтанкавыя гранаты. Шасцёра супраць да зубоў узброенага, колькасна Бог ведае ў колькі разоў пераважаючага ворага. Усе шасцёра ўпаўне разумеюць, што іх сітуацыя трагічная, што яны асуджаныя не проста на суровае

выпрабаванне, а на трагічны зыход, ды пачуццё страху, якое пісьменнік раскрывае з талстоўскім разуменнем чалавека на вайне, гераізму на вайне.

Тры ўзроўні паказу ўзяты ў аповесці дзеля раскрыцця шасцёркі герояў: два звязаныя найперш з выявай знешняга іх аблічча (партрэтны, выкарыстанне біяграфій), трэці — іх духоўнасці, унутранага свету, выявы ўнутранага праз учынкі. Выкарыстанне біяграфій ёсць як бы прадгісторыя духоўнасці, вышыні духу герояў ці іх маральнага падзення. Але асноўнае, што адразу ж прыкоўвае ўвагу чытача, гэта надзвычайнасць сітуацыі, у якую трапіла шасцёрка, повязь іх з ёю, іх рэакцыя на яе — паводзіны ў гэтых канкрэтных трагічных абставінах.

Усё адбываецца не па-за аўтарскімі сімпатыямі да сваіх герояў ці пэўным нейтралізмам або эмацыянальнай стрыманасцю аўтара пры падачы характарыстычных біяграфій, партрэтных дэталяў. Пісьменнік відавочна сімпатызуе Глечыку, даўшы яму нават сваё імя: «Ціхае і прыгожае было маленства Васількі Глечыка... А цяпер ён быў нясмелы і маўклівы хлопец. Усё слухаў другіх, думаючы, што ягонае гора — не гора. Праўда, ад таго не было лягчэй, і ўсё чарнела ўнутры ад непазбыўнага болю мінулага...» У мінулым была заўчасная смерць бацькі, забітага токам; новае замуства маці, з-за якога Васілька пакінуў родную хату і яе. «Незабыўны боль мінулага» — гэта найперш уцёкі з роднае хаты, перажыванні, звязаныя з пакінутай маці.

Фішар у Васіля Быкава блізкі яму як мастак («мастацтва даўно і назаўжды зачаравала яго істоту, напоўніла дух неспатольнай прагай цудоўнага»). Фішар, кандыдат мастацтвазнаўчых навук, вучоны ў «чорных акулярах», канешне, не сябра Свісту, які сядзеў у турме за свае пагулянкі, за крадзеж дзяржаўнай маёмасці — гарэлкі, якой як грузчык ён спрыяў, як і не раўня Аўсееву, здольнаму ад прыроды, які ні музыкантам, ні танцорам не стаў. Вочы ў яго не блакітныя, як у Васіля Глечыка («...прастадушна здзівіўся Глечык, узняўшы... вялікія чысцюткасінія вочы...»), а цыганскія («Аўсееў, паводзячы чорнымі цыганскімі вачыма»). Ён удумлівы: «Але што яны, шасцёра, могуць зрабіць той фашысцкай навале, калі з ёй чацвёрты месяц не зладзіць уся наша армія?..» Што Аўсееў легкадумнай натуры, пасля гэтага не скажаш, але галоўнае ў яго сяберазуменні «глядзець на сябе як выключэнне»! «Як уцалець?» — гэта стае яго нормай. Выключнасці — выключнае, і ён выключыць сябе з шасцёркі.

Пшанічнаму пісьменнік не сімпатызуе ўжо тым, калі піша: «Спаважна падаў сваю пухлую далонь непаваротлівы, мардаты Пшанічны». Потым будзе: «Камлюкаваты Пшанічны разваліstай хадою ступіў наперад», «Ён даўно ўжо прагаладаўся і хацеў есці, але на людзях усё не наважваўся рабіць гэта, бо тады трэба было б з кім падзяліцца, а дзяліцца Пшанічны не хацеў...» І далей: «Толькі — сам сабе, сам для сябе, наперакор усім — такі воўчы дэвіз засвоіў пакрысе Іван Пшанічны». І яшчэ такія партрэтныя дэталі: «шырокае аблічча Пшанічнага», «мардаты, з тлустымі вуснамі твар», «Пшанічны крыва ўсміхнуўся сваім мардатым адкормленым тварам».

Свіст абзывае Пшанічнага мурлом. Свіст крадзе ў яго сала — у кацялок, дзе варыцца агульная для шасцёркі каша. На яго затым і навальваецца Пшанічны: «Зладзюк ты, Свіст, вось хто. За такія ўчынкі табе трэба морду біць, блатняга».

Морды ніхто Свісту не б'е, яго, бадай, усе астатнія з шасцёркі любяць. Аліка — з яго задаткамі, здольнасцямі, выхадца з прафесарскай сям'і — прымаюць сціха, а Віцьку Свіста — гаманкога, гарэзна-жартаўлівага, з яго любімым «ярына зялёная» (маналог: «Што было, то мінула, трэба — яшчэ адседжу, стрываю, толькі без біркі, без штэмпеля — чалавек я, ярына зялёная...) — не вылучаюць, каб яму сімпатызаваць, каб яго палюбіць — ні абаронцам пераезда, ні чытачу аб гэтай абароне.

«Чалавек я», — падкрэслівае Свіст, і гэтае адчуванне сваёй высокай чалавечай годнасці прадвызначыць яго ўчынкі да канца.

Фішар сваёй цягай да мастацтва, улюбёнасцю ў прыгожае — «белая варона» сярод радавых старшыны Карпенкі, які камандуе на абароне пераезда. Але

гэты нехлямяжы радавы салдат на нашых вачах становіцца нязломнай, гераічнай сілай, калі, па сутнасці, адзін у сваім акопчыку каля бярозы апынаецца перад матацыкламі і транспарцёрамі з фашысцкай армады. Пісьменнік у паказе апошняга ўчынку гэтага героя вельмі тонкі псіхолаг: «У Фішара, — піша ён, — маркотна заныла ў грудзях, аслабелі рукі, насцярожаным поглядам уставіўся ён удалячынь і з тугою адчуў, што надышоў той час, калі вызначыцца ўвесь сэнс яго жыцця». «Сэнс жыцця» — усведамленне яго як галоўнага, вышэйшага на свеце — узвышае Фішара: сэнс у стойкасці духу, мужнасці, непераможнасці. Без лірычнага штрышка да гэтых філасафічных, чалавечных асноў пісьменнік не можа, і ля мушкі ён прымушае затрымцець сцяблінку: «Схіліўшыся, ля мушкі далікатна трымцела на лёгкім ветры нейкая ўсохлая сцяблінка». Няхай і ўсохлая, але ля мушкі, якая смерць ворагу вяшчуе, пра жывое трымценне сцяблінак нагадвае яна, вечна жывое паэтызуе, з гэтым вечна жывым спалучае героя, у якога «ад частых гарачых выдыхаў пацелі шкельцы акуляраў». Фішар, — піша В. Быкаў, — баіцца іх зняць, каб працерці, бо яго герой «вельмі дакладна адчуваў свой абавязак і ўжо набраўся рашучасці да канца выканаць яго». Усе страхі перамагае адчуванне абавязку! І яшчэ адзін вывад героя: «Відаць, барацьба за права жыць была пярвічней за мастацтва, і ёй, пэўна, суджана перажыць яго». Гэты нечаканы вывад трохі супакоіў Фішара, і баец адчуў болей сілы ў сабе. Ніякі не асілак Фішар, ды гэта «болей сілы» становіцца подзвігам, вянчае для Фішара сэнсавасць жыцця як «барацьбы за права жыць», самаахвярнай барацьбы.

Самаахвярнасці не хапіла Пшанічнаму, таму што ў ім верхаводзіць эгаізм. У сваім націску на кулацкае паходжанне Пшанічнага як на генетычны пачатак яго здрадніцтва, намеру здацца ў палон В. Быкаў не пазбег пэўнага спрашчэння, абумоўленага вульгарна-сацыялагічнымі перажыткамі: раз кулак, то абавязкова здраднік, морда, тлустыя вусны, жмут, шмагега. Старэйшы гадамі: за ўсіх радавых, за старшыну Карпенку ўдвая, Пшанічны проста як больш жыццёва вопытны чалавек мог не прымаць савецкіх парадкаў, непрыняцце іх магло ісці і ад былога заможнага жыцця, згвалчанага раскулачваннем. Але менавіта акцэнтацыя толькі апошняга пэўным чынам схематызавала гэты ўвогуле цікавы і сваёй кулацкай махровасцю вобраз, і сваім трагічным канцом, бо перабежчыка Пшанічнага фашысты забіваюць, выклікаючы аўтарскае шкадаванне яго, калі ў апошнім абзацы аб ім пісьменнік напісаў: «Напаследак, сударгава хапаючы ротам паветра, Пшанічны ўчуў роспачны лямант кабеты і нема замычэў — ад болю, ад усведамлення канца і апошняй лютай нянавісці да немцаў, якія забілі яго, да тых, хто на пераездзе, што яшчэ заставаліся жыць, да сябе, ашуканага сабою, і да ўсяго белага свету...» «Ашуканы сабою», відаць, непасрэдна раскрывае лёс і характар Пшанічнага.

Не самаахвярны, як і Пшанічны, Аўсееў. Увогуле ён — не баязлівец, увогуле ён — хлопец настраёвы, шкадуе, «што гэтак мала дасталося яму зухаватай радасці» ад бою, у якім хлопцы Карпенкі адбілі атаку фашыстаў і прымусілі іх прыпыніцца, увогуле заданне спыніць рух наперад выканалі, яшчэ не на цэлыя суткі, але спынілі, і спыняць застаецца старшына Карпенка, Свіст, Аўсееў, Глечык. Але Аўсееў — не толькі хлопец «зухаватай радасці», бо ён і рацыяналіст, няўстойлівы ў настроях. Ён разумее, што значыць стаць кулямётчыкам, і баіцца адпаведнага загаду Карпенкі. В. Быкаў піша: «Адразу чорным ценем азмрочыўся яго спачатку праяснелы настрой, зноў у галаў шыбануў жаль, што, паддаўшыся нерашучасці і стоме, праспаў такую здатную для паратунку ноч. Трывожнае пачуццё асуджанасці ўсё больш ахоплівала яго». «Мне яшчэ жыць хочацца», — за хвілю да гэтага гаварыў Аўсееў. Віталістычная прага жыць буяла ў ім, маладая, што ўсімі фарбамі супраціўлялася пагібелі. Ці ж трэба асуджаць яго за гэта? Гэта ж — натуральнае чалавеку, асабліва маладому. Ды мы ўбачым, што ўцёкі Аўсеева са свайго акопа асудзіць самы малады з абаронцаў чыгуначнага пераезда Глечык. Не будзе ўжо старшыны Карпенкі — суровага іх камандзіра, патрабавальнага кадравіка, салдафона, грубаватага, рэзкаватага, за што не вельмі прымалі яго і

аўтар, і Глечык, ды менавіта карпенкаўскі прысуд вынясе Аўсейчыку Глечык, расстрэльваючы яго, уцекача з пазіцыі, з кулямёта, застаючыся адзіным абаронцам пераезда — з супрацьтанкавай гранатай у руцэ, у чаканні ў сваім акопчыку наезду на яго стальной аграмадзіны. В. Быкаў тут на вышыні свайго псіхалагізму. Цытуем адзін з апошніх абзацаў пра Глечыка з ягонымі думкамі пра сябе: «Які ён быў дурны, крыўдуючы калісьці на маці, айчыма, балюча перажываючы дробныя нягоды вайсковай службы, — старшынову строгасць, нячуласць таварышаў, сцюжу і голад, страх смерці. Якое ўсё гэта было далёкае і надзіва нязначнае, дробязнае ў параўнанні з толькі што перажытай трагедыяй пагібелі тых, каму болей чымся сабе верыў ён і каго гэтак паважаў у жыцці, відаць, гэтае няшчасце было яго першым пасля смерці бацькі сапраўды жахлівым няшчасцем. Хлопец невыразна адчуваў, што, перажыўшы яго, ён ужо не мог застацца ранейшым, ціхмяным, боязкім Глечыкам, нешта новае — мужнае і цвёрдае ўваходзіла ў яго характар». Характар, скажам мы, сфарміраваны цалкам на чыгуначным пераездзе, у абароне яго, за час гэтай абароны, якая ўвогуле на карце ваенных падзей была падзеяй мясцовай, прыватнай, але такою, што дала В. Быкаву магчымасць стварыць выдатны твор, даць у ім панараму вобразаў з размаітымі характарамі, з размаітымі лёсамі.

Размаітасць лёсаў залежала ад выбару героямі свайго месца ў барацьбе, у абставінах, у якія яны трапілі. В. Быкаў праводзіць сваіх герояў цераз незвычайныя падзеі будзе яшчэ не ў адной са сваіх аповесцей: і ў «Круглянскім мосце», і ў «Альпійскай баладзе», і ў «Здрадзе», і ў «Мёртвым не баліць», але незвычайнасць падзеі з выбарам героямі свайго лёсу, з раскрыццём пры гэтым іх характараў будзе асабліва напятай у аповесці «Сотнікаў». Смерцю будзе ў ёй аплачвацца выбар Сотнікава і выбар Рыбака: нязломнага партызана Сотнікава — слаўнай смерцю, паліцая Рыбака — бясслаўным самагубствам у прыбіральні.

А ў цэлым трэба падкрэсліць, што Васіль Быкаў быў сапраўдным майстрам у стварэнні вострасюжэтнай прозы, ідучы ад першаўвагі да яе вялікасці падзеі, да сітуацый, у якіх ён раскрываў праўду аб вайне, аб гераічнасці і подласці на вайне, ламаючы шаблонную ўяву, што вынікае з прыказкі: «На вайне, як на вайне». Каму была вайна, каму войначка, — гаварылі падчас Вялікай Айчыннай вайны і ў даволі доўгім часе пасля яе. В. Быкаў перш за ўсё сваімі ваеннымі аповесцямі паказаў, што на вайне, як на экзамене — экзаменуецца ў чалавеку, у народзе ўсё. Саму вайну героі В. Быкава асуджаюць, як герой самай першай яго аповесці аб ёй, сам кадравы ваенны старшына Карпенка: «Але хай яна згарыць, вайна гэтая. Колькі ліха, колькі гора!» Ды ліха, гора трэба было пераадолець — ліхія, горасныя падзеі, пакуты, абставіны.

Чаго ні бывае ў літаратуразнаўстве, асабліва, у яго тэрміналогіі, асабліва, калі літаратурныя тэрміны перакладаюцца з мовы на мову. Французскае «belle lettre» па-руску загучала «беллетристика», таксама — а пасля — і па-беларуску, толькі ў напісанні страціла падваёнае «л». У дакладным перакладзе «belle lettre» — прыгожая літара, тое ж па значэнні, што прыгожае пісьменства, «изящная словесность». Але ні ў рускай, ні ў беларускай мовах «белетрыстыка» не стала сінонімам «прыгожага пісьменства», «изящной словесности». «Белетрызаванае» ў нас стала абазначаць «зробленае пад прыгожае пісьменства», не «прыгожае пісьменства», а ніжэйшае яго падпісьменства, нейкі нібы сурагат ці падробка пад яго, або яшчэ «лёгкае чціва», несур'ёзную літаратуру, аповед аб чымсьці другазначным, малазначным. У выніку белетрыстыка ў нас меншай мастацкасці, хоць з-за сваёй «аблегчанасці» большага попыту.

Так, у рускай літаратуры ў XIX стагоддзі белетрыстамі лічыліся А. Марлінскі — аўтар рамантычных аповесцей, Данілеўскі, які пісаў на гістарычныя тэмы (раман «Княжна Тараканава»). Абодва яны мелі шырокі розгалас, але па разрадзе сур'ёзнай прозы, як Леў Талстой ці Ф. Дастаеўскі, не ішлі.

Вялікай папулярнасцю ў нас у савецкі час карыстаўся Іван Шамякін, папулярнасцю не рэгіянальнай, а ўсесаюзнай (у канцы 70-х гадоў ён быў у СССР па

чытабельнасці на пятым месцы!). Што забяспечвала пісьменніку такую шырокую чытацкую аўдыторыю? Відаць, па-першае, вострая праблематыка яго раманаў, але не ў меншай ступені, па-другое, напружаныя, дынамічныя сюжэты, уменне інтрыгаваць чытача, не даваць яму шансу адарвацца ад разгортвання сюжэта, развязвання канфліктаў, перыпетый духоўнага развіцця, станаўлення герояў, хоць не ўсе яны ў І. Шамякіна былі запамінальнымі, глыбокімі характарамі. Пагэтаму, хоць у голас гэта не абвяшчалася, І. Шамякіна не залічвалі да «цяжкай» псіхалагізаванай прозы — не Кузьма Чорны, а белетрыст, ці што, пісьменнік хваткага, але больш па вярхах паказу, паспешлівага пяра, без асаблівага пранікнення ў глыбіні народнага жыцця, у сацыяльна значныя канфлікты. Якая «глыбокая» плынь, якія «крыніцы»? Нібы ў ванне пісаныя яго аповесці «Глыбокая плынь» (1949) і раман «Крыніцы» (1957). Так разважаў малады Алесь Адамовіч у сваёй лімаўскай рэцэнзіі на раман «Крыніцы». Але ўжо «Глыбокая плынь» была на самой справе не без паказу глыбіні народнага жыцця, праўды барацьбы беларусаў супраць агрэсіўнага, бесчалавечага ворага. Вельмі цікавым было тое, што гэту аповесць пра партызан Беларусі першым напісаў не жывы яе ўдзельнік, а малады чалавек, які ваяваў на Поўначы, у Карэліі. За што ж ён зачапіўся, знайшоўшы ўдачу? За кондавыя праявы беларускага народнага характару, якія ён спазнаў з маленства, са свайго юнацтва, бо вобраз Карпа Маеўскага спісаны пісьменнікам з бацькі — лесніка. А яго дачка Таццяна, няхай не мае выбарнага прататыпа, яна менавіта ўсынаўленнем малога яўрэйчыка выяўляе спаконвечную ў беларусаў павагу да людзей іншых нацыянальнасцей, іх не простую талерантнаць, а глыбокачалавечную, мацярынскую, бацькоўскую. Мацярынскую выяўляе дзяўчына Таццяна, бацькоўскую — яе бацька Карп. А да чаго вядзе ўсынаўленне Таняй яўрэйчыка, да якой сітуацыі, да якога выхаду з яе? Гэтае ўсынаўленне пагражае Тані і яе бацькам расстрэлам! Таня разбівае свае найлепшыя адносіны са сваім каханым, бо сама сябе гэтым асудзіла на маўчанне, на немагчымасць растлумачыць свайму каханаму і ўсім родзічам, усяму сялу, што не байструка яна прынесла ў родную хату.

Іншымі словамі, за вельмі цікавы збег абставін учапіўся ў сувязі з учынкам Тані Іван Шамякін, і ў яго верагоднасці ніхто з чытачоў і крытыкаў не засумняваўся. Але пісьменнік разам з тым пайшоў на неверагодны вымысел, гераізуючы вобраз партызана Буйскага, які як рэпарцёр пранікае ў варожы штаб і гіне, падрываючы сябе і фашысцкіх чыноў. Тады, калі пісалася «Глыбокая плынь», ніхто яшчэ ў Савецкім Саюзе не ведаў пра ідэнтычны подзвіг уральца Кузняцова, учынены ім на Украіне. А колькі крытыкі меў І. Шамякін з-за Буйскага! А яго смелы вымысел, аказваецца, быў праўдай жыцця. Была ў І. Шамякіна з самага пачатку смеласць публіцыстычная, смеласць мастацкага вымыслу.

Ды І. Шамякін, як І. Тургенеў, неаднойчы ішоў ад бачання свайго героя — як індывідуальнасці, як характару. Так, за галоўным вобразам рамана «Атланты і карыятыды» (1974) Максімам Карначом вельмі выразна для запазнаных з ім бачыліся постаць і характар Андрэя Макаёнка, з якім І. Шамякін да апошніх дзён гэтага выдатнага драматурга сябраваў. Падобна ж вобраз гандляркі ў аповесці «Гандлярка і паэт» (1977) паэтызаваўся І. Шамякіным паводле характару жонкі Івана Навуменкі Ядвігі Паўлаўны — ад яе пісьменнік пабраў як знешнія рысы, так і жэсты, паставу, досціп.

Яскравыя прататыпы мелі раманныя вобразы І. Шамякіна. Вобразы, спісаныя ім з сябе, са свае жонкі Марыі Філатаўны, сталі таксама сярод яркашамякінаўскіх (пенталогія «Трывожнае шчасце», 1956—1966). Але вылучаліся ў яго і вобразы, якія былі больш зборнымі, ішлі не ад адзінага прататыпа (настаўніка Лемяшэвіча, сакратара райкама Бародкі з рамана «Крыніцы», Антанюка са «Снежных зімаў»). Пенталогію «Трывожнае шчасце» ў сувязі з прывязкай да біяграфіі пісьменніка можна ставіць у тыпалагічны шэраг, які прадоўжыў трылогію Якуба Коласа «На ростанях», і ў цэлым, такім чынам, І. Шамякін як раманіст быў вельмі размаіты ў сюжэтабудаванні, вельмі віртуозны.

З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны ў шматнацыянальнай савецкай літаратуры вылучалася ваенная тэма. Яна заставалася адной з вядучых у ёй да канца XX стагоддзя, асабліва ў прозе. «Ваенная лірыка», або «ваенны верш» звычайна шырока не гаварылася, а «ваенная аповесць», «ваенная проза» ў сэнсе аповесць, проза аб вайне, прыжылася ў літаратуразнаўстве і крытыцы. І ўвогуле сталі вельмі цікавымі іх, прынамсі, дзве асаблівасці, звязаныя, па-першае, з рэальнай блізкасцю да жыцця, па-другое, з эвалюцыяй мастацкага адлюстравання гэтай блізкасці.

Усенароднай, высакароднай была барацьба супраць фашызму, хоць хапіла і здрадніцтва, і проста подласці, абумоўленай здрадніцтвам, і не толькі ім. Увогуле літаратура стала непасрэдным адлюстраваннем вайны, і што гэта так, красамоўна засведчыла і беларуская літаратура. Яна стала магутным летапісам вайны, вырасла ў яго на працягу трох-чатырох дзесяцігоддзяў. Сярэднявечны летапіс ішоў за рэальнымі гістарычнымі падзеямі, ішла за імі і беларуская ваенная проза. Адлюстроўваючы падзеі Вялікай Айчыннай вайны, пісьменнікі ішлі ў асноўным толькі ад жыцця, толькі ад перажытага, ад свайго лёсу, ад сваіх біяграфій. Аўтабіяграфічнай прозу не назавеш, бо яна ў свой асобны мастацкі свет пераўтварала перажытае. Але гэта не перакрэслівае таго тэзіса, што менавіта вайна ў цэлым была прататыпам, ад якога адштурхоўваліся празаікі як старэйшыя, так і маладзейшыя: ад Міхася Лынькова — аўтара эпапеі «Векапомныя дні» (1948—1958), да Міхася Стральцова — аўтара аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь» (1968). Аб сваім палоне і ўцёках з яго пісаў у рамане «Птушкі і гнёзды» Янка Брыль, у аснове аповесці Аляксея Карпюка «Белавежская адысея» таксама ўцёкі яе аўтара з фашысцкага канцлагера, перыпетыі ягонага партызанскага жыцця, і трылогія Івана Навуменкі звязана з лёсам яе аўтара, з палескімі Васілевічамі, дзе ў вайну ён жыў і партызаніў, і дылогія Алеся Адамовіча «Сыны ідуць у бой» — зноў жа ад палескай Глушы — радзімы пісьменніка, дзе ён партызаніў; усходнебеларуская родная вёска Івана Чыгрынава паўстала ў яго рамане «Плач перапёлкі», заходнебеларуская, у якой прайшло маленства Вячаслава Адамчыка, — у рамане «Чужая бацькаўшчына», з ваеннымі падзеямі на Лагойшчыне звязана проза Івана Пташнікава і з тым, што дзеелася ў вайну ў палескім сяле Вялікі Бор, — проза Барыса Сачанкі; непасрэдна ад рэальных падзей і людзей, што прайшлі партызанку і франты, пайшлі аповесці Уладзіміра Дамашэвіча «Між двух агнёў», «Порахам пахла зямля», свой дзетдомаўскі лёс раскрываў у аповесці «Суд у Слабадзе» Віктар Казько.

Так што — за малымі выключэннямі — ваенная проза ў нас рэальна абапіралася на жыццё народа, на рэальныя гістарычныя падзеі, на перыпетыі вайны, якую паэты называлі Вялікай Айчыннай бядой. Але нельга сказаць, што праўда жыцця адразу стала мастацкай праўдай аб вайне, сам факт абапірання на рэальныя факты не гарантуе мастацкай праўды і верагоднасці. Бо галоўнае пры гэтым — вышыня асэнсавання, блізкасць яго да рэальнай гісторыі, іншымі словамі — канцэптуальнасць мастацкага адлюстравання. І тут — напачатку — сцвердзім толькі адно — наша ваенная проза ўвесь час рухалася да праўдзівага адбітку велічы і горычы вайны, што выпала на лёс роднага народа, і, такім чынам, у выніку беларуская проза дала шырокапанарамны манументальны мастацкі адбітак вайны.

Аднак эвалюцыя мастацкай праўды і жыццёвай праўдзівасці, можна сказаць, неверагодная, хоць яна вяла да рэальных маштабных здабыткаў. На саму гэтую эвалюцыю нельга не глядзець як на дзівосную, займальную, хоць займальнасць яе, абумоўленая знешнімі, перш за ўсё таталітарна-дагматычнымі ўмовамі, — займальнасць горасная, надта невясёлая.

Ды зноў жа, як не дзіўна, менавіта з вясёлага пачыналася яна, бо з фельетона — карыкатурнага паказу ворага, як у аповесці М. Лынькова «Дзед Аўсей і Палашка», дзе дзед і баба з адной дубальтоўкай бяруць у палон ледзь не да зубоў узброены ўзвод фашыстаў. Праўда, яны палоняць фашыстаў голымі, калі

тыя вырашылі пакупацца ў возеры. Анекдатычная наскрозь сітуацыя, дурны фрыц, як варона, і нібы народныя героі дзед Аўсей і баба Палашка, — тут нічога сур'ёзнага не скажаш. Яшчэ добра, што ў дзеда — дубальтоўка, а было ў іншых апавяданнях, што перамагчы нямецкі дэсант хапала бабінай качаргі ці мешалкі-мяла.

У гэтай сувязі варта ўспомніць адзін з першых савецкіх фільмаў аб вайне — «Сакратар райкама», які здымаўся дзесь у пясках Узбекістана. Дураслівы нямецкі палкоўнік там вымахвае рукамі, вывіваецца, крычыць-камандуе з танка, а партызаны, асабліва ў выкананні Міхаіла Жарава, зарослыя барадамі, дзед Аўсей, амаль што з тою ж паляўнічаю бярданкай ідуць на танкі, — зноў жа — канцэптуальна — вораг-дурань, пасмешышча, а мудры таварыш кіраўнічы — сакратар райкама. Пад яго мудрым кіраўніцтвам перамагаецца зграя акупантаў.

У ваеннай прозе М. Лынькова былі апавяданні і іншага складу, як, напрыклад, «Васількі», якія адразу пачалі вывучацца ў школе. Гэта апавяданне аб гераічным учынку школьніка, які, падбіваючы нямецкі танк, гіне. Васількі, якія ён любіць, расчульваюць. Гераічнае пісьменнік спалучаў з горасна-пачуццёвым, больш сентыментальным, чым шчыра перажывальным. Сантымент, як вядома, сурагат пачуцця, пачуццёвае і штучнасць паказу ішла менавіта ад нябачанага рэальнага гора, ад уласна пісьменнікамі не перажытага, а прыдуманага, сканструяванага.

Ды ў аналах ваеннай прозы М. Лынькоў застаўся не толькі першаспробным творцам прозы малых жанраў, бо і эпапеяй «Векапомныя дні», якую народны пісьменнік Беларусі ствараў аж дзесяць гадоў (1948—1958). Да гэтага часу большыя поспехі ў адлюстраванні вайны былі ў паэзіі і драматургіі, якія многія трагічныя і драматургічныя вузлы падзей, што адбываліся ў Беларусі, выкарысталі, паказваючы барацьбу чыгуначнікаў-аршанцаў на чале з Канстанцінам Заслонавым, і драматызм, звязаны са згубай партызанскім камандзірам бацькам Мінаем дзяцей і жонкі; драматызм і трагізм мінскага падполля. Усе гэтыя сюжэтныя вузлы пабраў у сваю эпапею М. Лынькоў, і ўжо гэта прадвызначала яе манументалізм. Але яго перш за ўсё фундаментавала сцвярджэнне кіруючай ролі партыі і разгортвання партызанскай вайны ў Беларусі. Першаснай ідэяй было сцвярджэнне векапомнасці народнага змагання пад бацькоўскім кіраўніцтвам партыі. Усё гэта рабілася ў парадку выканання афіцыйнай палітыкі, патрабавання, якое лішні раз пасля жніпеньскай пастановы па ленінградскіх часопісах «Звязда» і «Ленінград» 1946 года жорстка паўтаралася ў газеце «Правда» (3.12.1947), крытыкуючы раман А. Фадзеева «Маладая гвардыя». Сваю эпапею М. Лынькоў пачынаў у 1948 годзе. Манументалізацыя ў літаратуры ішла на пару з манументалізацыяй у архітэктуры, ваенны матэрыял ішоў як ілюстрацыйны матэрыял да канцэпцыі вядучасці партыі ва ўсенароднай барацьбе. Паказ падзей падвёрстваўся пад ідэю, ідэйнасць забівала рэальную праўду аб вайне, ідэя звужвала мастацкі паказ і верхаводства яе, у прыватнасці, у беларускай літаратуры вельмі зацягвалася ў часе, па сутнасці, да канца 50-х гадоў, да заканчэння М. Лыньковым яго эпапеі «Векапомныя дні» (1958).

Руская савецкая ваенная проза развівалася ў 40—50-я гады куды больш шырэйшым, чым беларуская, фронтам і спакойнага манументалізму яна не ведала, і дыяпазон яе быў ад рэалістычна-праўдзівых аповесцей Веры Пановай «Спадарожнікі» (1946) і «Кружыліха» (1947) да фальшывага сваім паказам першых пасляваенных гадоў «Кавалера залатой зоркі» Сямёна Бабаеўскага (1947—1948). Ды ні «Спадарожнікі», ні «Кавалер...» уплыву на беларускую прозу не мелі, а ўплыў аповесці Канстанціна Сіманава пра Сталінград «Дні і ночы» (1943—1944) і асабліва аповесці Віктара Някрасава «У акопах Сталінграда» (1946) аказаўся вельмі дзейсным, вельмі плённым. Аповесць В. Някрасава запачаткавала т. зв. акопную праўду аб вайне. Не камісара і не каманднае начальства ў бліндажы В. Някрасаў вылучыў, а раскрыў самыя будні вайны, байца ў акопе, праўду ўсенароднай барацьбы позіркам знізу, а не зверху — з акопа, а не з каманднага пункта.

Нельга сказаць, што беларуская літаратура адразу хапілася за паказ акопнай праўды, — хутчэй наадварот: развіццё яе ў гэтым кірунку было марудным, замаруджаным, бо толькі ў 1959 годзе з'явіцца «Жураўліны крык» В. Быкава.

У гэтым жа годзе пабачыў свет шырокапанарамны раман К. Сіманава «Жывыя і мёртвыя» — пікавая вышыня рускай савецкай ваеннай прозы з псіхалагічнай праўдай паказу як каманднага бліндажа, так і салдацкага акопа. 1959 год аповесцю В. Быкава «Жураўліны крык» адкрывае ў прозе новую старонку. «Векапомныя дні» М. Лынькова як бы вянчалі ў ёй першы пасляваенны этап з яго алімпійскім пафасам манументалізму і партыйнага мудрага кіраўніцтва вайной. Але трэба падкрэсліць, што не суцэльнапафасны паказ вайны дамінаваў і на гэтым, першым пасляваенным этапе яе адлюстравання. Бо яшчэ падчас вайны былі напісаны выдатныя раманы аб ёй Кузьмы Чорнага (апублікаваныя пасля яго смерці — «Пошукі будучага» (1950), «Млечны шлях» (1954), «Скіп'ёўскі лес» (1955). У 1946 годзе апублікаваў свой першы зборнік «У мяцеліцу» І. Мележ, ваеннае апавяданне якога «У гарах ідуць дажджы» вітаў незадоўга перад смерцю ў 1944 годзе К. Чорны. З першых пасляваенных аповесцей вылучаліся «Нёманскія казакі» Янкі Брыля, з раманаў — «Мінскі напрамак» І. Мележа (1949—1952). Апошні тым, што спалучаў паказ фронту з партызанскай барацьбой у Беларусі, як і К. Сіманаў, паказ каманднага бліндажа (вобраз маршала Чарняхоўскага) з імкненнем паказаць рэальную праўду яе франтавых будняў і жыцця партызанскай брыгады. Гэтым І. Мележ прарываўся ў дзень паказу вайны будучы, быў прадвесцем яго.

60—70-я годы мінулага стагоддзя сталі для беларускай літаратуры проста трыумфальнымі менавіта перш за ўсё з мастацкім раскрыццём ёю тэмы вайны. У гэтай сувязі яна набыла не толькі ўсесаюзны розгалас, але і ўсееўрапейскі. Шырыня мастацкага ахопу яе можа толькі здзіўляць, бо за поспехамі раскрыцця акопнае праўды аб вайне («Жураўліны крык», 1959; «Мёртвым не баліць», 1966; «Праклятая вышыня», 1968; «Яго батальён», 1976; «Пайсці і не вярнуцца», 1978, В. Быкава) прыйшло тут жа мастацкае раскрыццё вайны пад стрэхамі — змагання ў Беларусі пад акупацыяй простага народа, інтэлігенцыі (раманы «Сасна пры дарозе» І. Навуменкі, 1962; «Вайна пад стрэхамі» А. Адамовіча). Звычайны фашызм, яго будні на нямецкай зямлі вачыма палоннага Руневіча паказаў у рамане «Птушкі і гнёзды» Янка Брыль (1964), тэму 41 года, вялікую праўду аб ім, калі пакідаючы Беларусь, па загадзе Сталіна камісары выпальвалі жыта, сказаў у сваім рамане «Плач перапёлкі» Іван Чыгрынаў (1972), саму атмасферу акупацыі 1943 года ў рамане «Сорак трэці» раскрыў І. Навуменка. Лёс Заходняй Беларусі, пачынаючы паказам 38-га перадваеннага года, сваім раманам «Чужая бацькаўшчына» (1978) пачаў раскрываць В. Адамчык. Фінскую вайну 1940 года памастацку надзвычай пераканаўча адлюстроўваў сам яе ўдзельнік у рамане «Смутак белых начэй»(1979) Іван Навуменка, «Хатынскую аповесць» у 1974 годзе напісаў Алесь Адамовіч.

Беларуская ваенная проза такім чынам сапраўды стала палатном шырокім, яскравым. Менавіта кожны з названых раманаў — непаўторны: аб вайне, але розняцца танальнасцю, стылем, рознай псіхалагічнай напоўненасцю, наборам псіхалагічных калізій; рознымі жыццёвымі рэаліямі, побытавымі дэталямі і штрыхамі. Уся гэтая рознасць таксама прадвызначала моц беларускай ваеннай прозы, яе ўсесаюзнае, усееўрапейскае, сусветнае значэнне.

Цяжка тут рабіць вывад, ці гэта быў пачатак новага вітка ў эвалюцыі беларускай ваеннай прозы, ці падагульненне яе, толькі ўжо не ў мастацкай, а ў дакументальнай форме (маецца на ўвазе кніга «Я з вогненнай вёскі...», створаная А. Адамовічам, Я. Брылём, У. Калеснікам (1977). «Я з вогненнай вёскі...» — кніга запісаў з вуснаў беларусаў, якія цудам засталіся жыць, так ці інакш выйшаўшы з полымя, якое ахапіла іх спрадвечнае жытло. У краіне, у якой перастала пасля вайны існаваць шмат вёсак, не магла ваенную тэму не вянчаць дакументалістыка. І нездарма «Я з вогненнай вёскі...» адразу ж была перакладзена.

І усё ж «Я з вогненнай вёскі...» — твор не вяршынны ў беларускай ваеннай прозе. Вяршыннымі поруч з творамі аб вайне В. Быкава сталі ў ёй дзве кнігі А. Адамовіча «Карнікі» (1980) і «Vixi» (1992). «Карнікі» — на дакументальнай аснове, але аснова гэтая — незвычайная, бо звязаная з паглыбленнем пісьменніка ў псіхалогію здрадніцтва, у раскрыццё яго, у асуджэнне яго. Першым адкрыў яе І. Чыгрынаў, калі яшчэ маладым празаікам напісаў апавяданне пра маці паліцая. А. Адамовіч даў проста жахлівую панараму маральнага падзення чалавека, пафіласофску паглыбіўся ў яго сацыяльныя і генетычныя першапрычыны. Але найбольшага абагульнення А. Адамовіч дабіўся ў сваім апошнім творы «Vixi», дзе ён увогуле намагаўся раскрыць філасофію сталінізму і гітлерызму, як асноў таталітарызму, якія вядуць да вайны, абумоўліваюць яе. «Vixi» — як бы падагульненне мастацкага паказу вайны ў літаратуры, як бы найвышэйшае на спіралі эвалюцыі ў ёй тэмы вайны. Сінтэтычна-мастацкае перарасло ў А. Адамовіча ў аналітычна-філасофскую канцоўку. Не было б разгорнутага мастацкага паказу ў нас гераізму і жаху вайны, не было б і вышынь іх філасофскага асэнсавання. Ад увагі да канкрэтнай індывідуальнасці, да сацыяльнага тыпажу, да народнага жыцця, да гуманістычных ідэалаў, да гэтага высокамастацкая беларуская проза не прыйсці не магла.

Асобна адзначым, што на вітку эвалюцыйнага развіцця беларускай ваеннай прозы адчуваецца брак гумарыстычнага ці сатырыстычнага ракурсу. У рускай літаратуры ён з'явіўся, напрыклад, у прозе Уладзіміра Вайновіча — у аповесці пра байца Чонкіна. У Францыі выйшаў фільм «Бабета ідзе на вайну» — з сатырычным паказам і фашыстаў, і саміх французаў. У нас, у беларусаў, наўрад ці тэма Вялікай Айчыннай вайны займее гратэска-сатырычны кірунак. Вельмі ж балючай, горасна ліхой старонкай у гісторыі нашага народа была Вялікая Айчынная вайна, і ўвогуле не той менталітэт у нашага народа, каб трагедыі пераўтвараць у фарс, у трагікамічнае, ягоны аптымізм абыходзіўся дасюль без гэтага.

## 3. *«Мадам Бавары — гэта я...»*

Гюстаў Флабер, якому належыць гэтае сцвярджэнне, быў мужчынам, і таму жанчынай, мадэмуазель, мадам ён не быў. Але хто з жывых на свеце ведае, хто ён, мужчына ці жанчына, будучы па пашпарце чалавекам акрэсленага полу. Мы не будзем чапаць выбрыкаў прыроды, калі яна нараджае гермафрадыта; не будзем кранаць даволі модныя — дзякуючы дасягненням сучаснай медыцыны — пераўтварэнні асобін з Апалона ў Венеру, з Венеры — у Апалона; нават не будзем ісці ад пануючых рысаў характараў людзей, за якія сусед суседу можа выгукнуць: «Баба ты!..» У Францыі ўвогуле дзеўчанё з хлапечымі павадкамі называюць la garson, па-французску хлопец le garson, але, калі дзяўчына вядзе сябе як хлопец, то яе і клічуць «la garson» — хлапец жаночага роду.

Увогуле людзі мужчынскага полу ў славянскіх народаў пабралі сваё ўзвелічэнне ад слова «муж» цераз паняцце мужнасць, як асноўнай рысы, якая абавязвае мужчыну быць мужным, без мужнасці мужчыны ў ідэале не ўяўляе.

Пафасна велічная генетыка і слова «жанчына», корань якога ад лацінскага генус — род, вытокі чалавецтва. Генетычна абодва палавыя роды ад аднаго родавага пачатку: ад маці, ад жанчыны. Слава жанчыне, што пачала роды, плямёны, народы, расы!.. А. П. Чэхаў уславіў жанчыну, па-чэхаўску жартоўна, заявіўшы, што ёй належыць падзяка ўжо за тое, што яна раджае такіх мілачак, як мужчыны.

Сваё выслоўе «Мадам Бавары — гэта я...» Г. Флабер мовіў, пэўна, не без залежнасці ад пераконанняў, існуючых не толькі ў ягоным грамадстве: істоту мужчыны куды лепш, чым ён сам сябе, ведае жанчына, а таямніцы жаночага характару шырэй дадзена бачыць, разумець мужчыне. Але, думаецца, не так гэтая з падумак была прадвызначальнай у Флабера, як глыбіня псіхалагізму,

выяўленая ім у сацыяльна-бытавым рамане, якім быў раман «Мадам Бавары», і якраз яго вылучаў, падкрэсліваў Флабер сваім выслоўем.

Больш чым стагоддзе пасля вядомы рускі паэт Яўгеній Еўтушэнка скажа, што самы лепшы мужчына — гэта жанчына. Быць самым лепшым мужчынам, упадабняючыся мадам Бавары, можа, і хацеў Г. Флабер, хоць як аўтар заставаўся мужчынам, ды на гэты раз так аналізуючы жаночы вобраз, так наблізіўшыся да яго, так увайшоўшы ў яго, стаў сябе ўспрымаць ім. Адбылося зліццё аўтара з вобразам, які ён стварыў: не свой вобраз ствараў, з сябе, сваім сэрцам і своеасабліва ствараў сімпатычны яму вобраз жанчыны, што, урэшце, атаясаміў з сабой.

Як месье Г. Флабер, канешне, не мадам Бавары, ён яе мастак-тварэц, спараджальнік яе характару, удавальнік яе перажыванняў, апавядальнік аб яе рэфлексіі, душэўных зрухах, рэальных учынках. Правільней мо было б гаварыць аб ім як пра бацьку Бавары, аб самой жа Бавары як дачцэ Флабера. Ды пісьменнік, кажучы «Мадам Бавары — гэта я...», сябе як мастака слова ў гэтым жаночым вобразе бачыў цалкам, увесь як мастак ёю быў!..

Увогуле так разумець духоўны свет, душу і перажыванні, летуценні і працэс выветрывання іх, ілюзій, спадзяванняў, тое ўсё, што рускія крытыкі назвалі дыялектыкай душы, — гэта ў Флабера здзіўляльна, геніяльна. Такога тонкага, глыбокага, далікатнага пранікнення ў душу жанчыны еўрапейскія літаратуры да Г. Флабера не ведалі. Але пасля Г. Флабера пайшло ў іх проста трыумфальнае шэсце прадстаўнікоў прыгожай палавіны роду чалавечага. І для гэтага дастаткова ўспомніць жаночыя вобразы рускай літаратуры, хоць бы гераінь раманаў І. С. Тургенева, Л. М. Талстога, Ф. М. Дастаеўскага. Жаночыя вобразы ў класікаў рускай літаратуры, мноства з іх проста цуд: зваблівасць, незабыўныя воблікі, постаці, галасы, тонкія, складаныя нюансы перажыванняў. Але ці ж мог І. С. Тургенеў сказаць, што Адзінцова — гэта я; ці ж мог Л. М. Талстой сказаць: «Ганна Карэніна — гэта я...», а Ф. М. Дастаеўскі пацвердзіць, што Грушанька — гэта ён? Гераіні розных рускіх пісьменнікаў — розныя гераіні. Але не менш выдатныя вобразы мадам Бавары іх, вобразаў жанчын, у рускіх пісьменнікаў дзесяткі. Мог бы ўпаўне Л. М. Талстой сказаць, што Наташа Растова — я, Каця Маслава — я, распараджальніца салона мадам Шэрар — я. Усе яны былі асобна ў жыцці і, нібы ў вялізным інтэрнаце, у сэрцы, у памяці, у роздуме пісьменніка. Узроўні пазнання, разумення лабірынтаў жаночай душы, рэакцый іх на знешні свет, таямніц, багацця іх пачуццяў, — усё гэта ў класікаў рускай літаратуры XIX стагоддзя сапраўды надзвычайнае. І краса, і дэманізм жанчыны былі ў чароўнай паўнаце імі раскрыты, як і даказана, што аб'ект паказу не робіць суб'екта, якога ён захапіў, радней, двайніком аб'екта паказу.

Такім чынам — пісьменнік найперш адкрывальнік душ чалавечых. Калумб, які не новыя землі, а новых герояў адкрывае. Ён ідзе ад аб'екта, не становячыся ім, бо, калі мадам Бавары надавала Г. Флаберу прэстыжу ў літаратуры, то ці б займеў яго сённяшні пісака, які б стаў пісаць вобразы Гітлера, Сталіна, Мусаліні, Пінагчэта, заяўляючы «Сталін — я...», «Пінагчэт — я...»?.. Так што і каварны зігзаг пагражае атаясамліванню аўтара сябе з выбраным ім для адлюстравання героем. Але, дзякуй Богу, у часы Г. Флабера ні Гітлера, ні Сталіна не было, і гэты выдатны пісьменнік не жартаваў, вельмі сур'ёзныя, правільныя рэчы выяўляючы сваёй фразай — перш за ўсё аб пераўвасабленні ў літаратуры, аб таямніцах яе псіхалагізму, аб генетычных яго вытоках.

Трэба сказаць, што ўсё ж нярэдка паказ, разуменне, бачанне, паэтызацыя жанчыны пісьменнікам абумоўлены яго лёсам мужа, ці лёсам яго першага кахання, ці перыпетыямі яго адносін, сувязей з жанчынамі. Зірнём, напрыклад, на вобраз жанчыны ў І. Шамякіна: у большасці яго буйных твораў ён пабірае рысы жаноцкасці ад любімай жонкі Марыі Філатаўны. Ды пра гэта гаварыў і сам І. П. Шамякін.

І ясна, чаму гэта ісціна гаварыла вуснамі творцы, бо, напрыклад, пенталогія «Трывожнае шчасце» пабудавана на сюжэце з рэальнага жыцця будучых мужа і

жонкі Шамякіных, хоць ён у пенталогіі прататып Сашы, яна — таксама не Марыя Філатаўна. У апошняй аповесці І. Шамякіна ні пад якім выдуманым літаратурным імем ідзе Марыя Філатаўна: «Авэ, Марыя» названая аповесць, канкрэтна — Марыя Філатаўна, якой была яна ў жыцці, у ёй апаэтызавана.

Аднак бліскуча ішоў і ад прататыпа не сваёй жонкі І. Шамякін у такой надзвычайнай сваёй аповесці, як «Гандлярка і паэт». Прататыпам гандляркі ў Шамякіна была адна з яго суседак — жонка І. Навуменкі Ядвіга Паўлаўна. Яна была гісторыкам, дацэнтам БДУ, але не як дацэнта ішло яе адлюстраванне ў аповесці «Гандлярка і паэт». Ядзя Іконнікава вырасла на ўскраіне Мінска над Свіслаччу ў дзяльніцы Серабранка. Гэта непадалёк Чэрвеньскага рынку, і ўвогуле кожны мінчанін ведаў дух Камароўкі. Ды Ядвігу Паўлаўну з-за яе галасістай жартоўнасці, ведання народнай мовы ў яе бліскучых павучальных прыказках і прымаўках студэнты называлі любоўна Мамкай, і дасціпнасць, размашысты характар добра ведаў увесь двор па Кірава, 30, дзе доўгі час Іван Якаўлевіч і Іван Пятровіч былі блізкімі суседзямі. Тэмперамент, гаспадарлівасць, лексіку і жаноцкую жаласлівасць у Гандляркі з аповесці І. Шамякіна «Гандлярка і паэт» — усё гэта па партрэце Ядвігі Паўлаўны, з яе спісаныя.

Мужнай беларускай патрыёткай гандлярка канчае свой шлях у акупацыйным Мінску. Гэта, канешне, не з лёсу Ядзі Іконнікавай, гэта — ад вымыслу пісьменніка, ад яго паказу лёсу гераіні, перыпетый яе настрою, светаразумення. Гэты лёс быў не лёсам Ядвігі Паўлаўны Навуменкі, а быў падгледжаны пісьменнікам, тонка ўлоўлены яе характар. Ды і проста надзіва ўдала перададзена празаікам сама постаць, фігура, манеры паводзін, жэстаў, дасціпнасць Ядвігі Паўлаўны. Такім чынам, у адмысловым сюжэце аповесці прататыпным быў не лёс, а менавіта жывы, непаўторны характар, і яшчэ сам знешні воблік гандляркі, як амаль Ядвігі Паўлаўны.

Але што было прадвызначальным у паказе вобраза жанчыны ў І. Шамякіна? Ён амаль усе свае вобразы жанчын любіў. Як любіў цалавацца, так любіў жанчын, будучы адналюбам. Марыя Філатаўна была першым каханнем пісьменніка, здрады ён не ведаў і нават разлучніцу ў рамане «Атланты і карыятыды» не вельмі асуджае. І — наадварот — іншае пануючае стаўленне да жанчыны было ў Івана Навуменкі. Перажыўшы здраду сваёй першай жонкі, стаўленне І. Навуменкі да жанчын было прадвызначана гэтым. Ён гатоў быў увесь жаночы род асуджаць: праўда, не ў апавяданнях «Семнаццатай вясны», поўнай рамантызацыі равеснікаў, але пакрыўджанага жанчынай чалавека асабліва выразна відно ў трылогіі «Дом пад сасною», «Вецер у соснах», «Сорак трэці».

І адно толькі параўнаўшы розныя стаўленні да жаночага свету Івана Шамякіна і Івана Навуменкі, мы выразна бачым розныя вытокі іх псіхалагізму, іх канцэптуальнага бачання свету кахання, сутнасці жаночай прыроды, псіхалагізму. І гэтая рознасць — у пачатку творчых індывідуальнасцей, іх арыгінальнасці, непаўторнасці. Але галоўная рознасць палягае ў іншым: празаікі або цераз знешняе раскрываюць унутранае, душу чалавека, або імкнуцца да непасрэднага аналізу душы, перажыванняў чалавека, розныя станы яе раскрываючы, апісваючы, каментуючы. Ад гэтай рознасці пачынаецца ў класічнай прозе XIX—XX стагоддзяў дзяленне пісьменнікаў на два тыпы з іх дзвюма манерамі пісьма, двума стылямі — тып празаіка лірычны, эмацыянальны і тып аналітычны — дакладна-інфармацыйнага вядзення апісання. Як кажуць, у чыстым выглядзе асобных гэтых тыпаў няма, бо і лірычны, эмацыянальны пісьменнік ніколі не можа пазбыцца простага апісання, унутраных маналогаў, непасрэдных характарыстык героя ад сябе.

І ўсё ж недзе яркасць сваю атрымлівае проза таго ці іншага пісьменніка ад інтанацыі, метафарычнасці, намёкавай ці фундаментальнай сімволікі, дынамічнасці, «рванасці» сюжэта, інтрыг, магутных перыпетый, развіцця сюжэта, а ў іншым выпадку — замаруджанасць апісання, аніякай эмацыянальнасці (дзеля аб'ектыўнай праўды апісання), выключэнне са свету эмоцый, як пачатку суб'ектыўнага, паэтычнай фігуральнасці. Такім чынам, вылучаецца проза лірычная і

аналітычная, хоць літаратура ў цэлым — аналіз, даследаванне жыцця — быційнага і бытавога, сацыяльнага і нацыянальнага, чалавека, яго характару, лёсу, асобы. Нездарма М. Горкі называў літаратуру чалавеказнаўствам, бо пазнанне чалавека — найпершая яе задача. Але і геаграфія, і гісторыя, і космас, у якіх жыве чалавек, з якімі чалавек жыве, — не толькі аб'екты навуковага вывучэння, а і мастацкага адлюстравання. Чалавек знаходзіцца ў абставінах геаграфічных, гістарычных, геалагічных, касмічна-зорных — і яны адлюстроўваюцца, пазнаюцца, але ж мёртвая прырода не дыхае, не аналізуе, яна ў паказе літаратуры псіхалагічная хіба што ад эмацыянальнасці гэтага паказу. І толькі жывы чалавек — праблема, бо свае думкі і эмоцыі выказвае: думкі — не без эмоцыі, эмоцыі — не без думак. Мы ўжо сказалі, што паказ фауны і флоры можа быць эмацыянальным, больш ці менш хвалявацъ, аналітычная ж літаратура толькі ад жывога. Хімія чалавека не аналізуе, хоць аналітычная ёсць вышэйшая хімія. І сваё якраз «аналітычнае» названне літаратура пабрала ад хіміі як навукі ці не ў празе ад аналізу, каб стаць у свеце мастацтва вышэйшай? Можа, і гэтыя амбіцыі натхнялі пісьменнікаў-аналітыкаў, хоць дарма, бо ў сапраўднай мастацкай літаратуры любы яе абсяг — высокі!..

Роды ядналіся, змяняючы асобнасць жанраў, ішоў працэс дыфузіі — супрацьлеглы арыстоцелеўскаму — дыферэнцыяцыі жанраў, іх кананізацыі. Ода пры гэтым была одай, байка — байкай, эклога — песня-ідылія — эклогай. Гэтую традыцыю ў сярэднявеччы навуковым аўтарытэтам падтрымаў класіцызм, Буало, які ўласна быў неакласіцыстам, ён абагульняў практычны вопыт арыстоцелеўцаў, замацоўваў фармальныя нормы асобных жанраў, патрабаваў «чысціні» жанру, стылю.

Але новы час, які ўсё шырэй і шырэй адстойваў дыфузію родаў у жанрах, а не схаластычнай іх родавай чысціні, быў наватарскага стаўлення да жанру і стылю, да аднаўлення іх, відазмянення. Працэс дыфузіі ахапіў усе роды, жанры, усіх іх, былых чыстых. У часе ён быў даўні, бо пачаўся з новым часам, ужо ў XVIII стагоддзі, прычым найперш у прозе. Неакласічную паэзію XVIII—XX стагоддзяў ён вывеў на шырокі прастор мадэрнізацыі, авангардызму, футурызму, імажынізму і меў куды менш поспеху, чым сваёй сілай нараджаючы раман як найлепшую форму новага часу, як галоўную форму літаратур XIX—XX стагоддзяў.

Яднанне эпічнага, драматычнага, лірычнага магло б і не быць, каб не панаванне закону дыфузіі, генетычнай змены прыроды эпасу як проста апавядальніцтва, нарацыі, сухой паведамляльнасці. Першая падзяка ў гэтай справе — В. Скоту, які, як сам казаў, ствараючы жанр гістарычнага рамана, драматызм драм і трагізм трагедый з падмосткаў сцэны перанёс у апавядальніцкі кантэкст, такім чынам эпас спалучаючы з драмай, уводзячы аўтарскі каментарый да драматычных, трагічных падзей, унутраныя маналогі, абвастраючы гэтым псіхалагізм прозы. Бальзак ішоў за Вальтэрам Скотам, не ўздымаючы спецыяльна тонусу апавядання, будучы назіральнікам, адлюстравальнікам жыцця з позірку на яго збоку, паказам рэалістычным. Таму Бальзака і называлі бацькам рэалізму.

Наладжванне тону ў апавядальніцтве ад сябе адлюстраваў Стэндаль сваімі рамантычнымі раманамі ці Жан Жак Русо, сентыментызуючы прозу, напаўняючы яе эмоцыямі, даючы волю самаму шырокаму суб'ектывізму. Але «Споведзь» Ж. Ж. Русо не магла не быць такой, якой была, бо была аповедам асобы аб самой сабе — аб самім сабе, аб сваіх уласных пачуццях пісаў Ж. Ж. Русо. Флабер рабіў дзіва тым, што раман не аб сабе зрабіў раманам аб самім сабе: «Мадам Бавары — гэта я...»

Мы ўжо гаварылі аб флабераўскім разуменні раманнага майстэрства — нанізванні на нітку сюжэта дэталяў. Цікава, што шлях менавіта з пошукаў гэтага майстэрства ўсчаў адзін з пачынальнікаў беларускай прозы, аўтар трылогіі «На ростанях» Якуб Колас. І гэта — як дзіва. Менавіта ў першай частцы трылогіі — у аповесці «У палескай глушы» мы маем — паўтарэннем не назавём — паэтычную

дэталь кветкі. У рамане «Мадам Бавары» духмяны букет, падораны Бавары, знешне раскрываў напачатку надзеі, спадзяванні, а потым — ссохлым венікам выкідаўся спустошанаю душой Бавары на сметнік, сведчачы пра крах ілюзій. Дык, канешне, гэта не перайманне — вясковы букецік, пакладзены на стол настаўніка Лабановіча. Была і запіска Ядвісі Лабановічу: «Мілы дурань» — зноў жа дэталь на сюжэтнай лініі Лабановіч — Ядвіся. І як бы зусім мімаходнай на ёй фаунаўскай дэталлю стала дзікая грушка, саджаная маладымі закаханымі. Ад'язджаючы з Цельшына, Ядвіга заломвае вяршыньку грушкі. Абламаная сюжэтная лінія!.. Чытачу да канца трылогіі шкада, што Лабановіч і Ядвіга не сталі парай, чытач не вельмі хоча верыць абламанай грушцы, але праўду яна знаменавала.

Як вядома, руская літаратура XIX стагоддзя рабіла асабліва магутны ўплыў перш за ўсё на нашу паэзію, а затым і на прозу. Якуб Колас — празаік, ён быў як мастак родам і з А. С. Пушкіна, і з М. В. Гогаля, і з І. С. Тургенева, і з Ф.М. Дастаеўскага, і з Л. М. Талстога. Вузейшае кола бачыцца за спінаю Кузьмы Чорнага, бо толькі перадусім Ф. М. Дастаеўскі імпанаваў яму ў яго пошуках чыстай прозы — сама класічнай, сама ўзорнай, самай існай прозы. Тэндэнцыі ў Кузьмы Чорнага ў яго пошуках чысціні прозы былі некаторы час вельмі настырнымі і ішлі ад яго часовых уяваў аб рознасці прозы як такой, паэзіі — як такой, ад іх нібы цалкавітай асобнасці. Эмоцыі, пачуцці, метафара — барані ад іх аповед празаіка, бо аповед гэты тады — ніякая не проза, бо стыхія яе — незалежны ад інтанацыйных, эмацыянальных ацэнак слоўны паток, без ніякай паэтычнай фігуральнасці, без ніякай суб'ектыўнасці. Суб'ектыўнасць пагражае праўдзе адлюстравання, скажае яе аб'ектыўную існасць, непасрэднасць. Калі ўзышло сонца, чыстаму празаіку яно адно ўзыходзіць, і ўсё. Чалавек ідзе па дарозе, набліжаецца да вас і, як празаік, вы бачыце яго на дарозе спачатку як кропку, пасля як кепку, пасля як лапсардак, у які ён апрануты, а ўжо ў блізкасці бачыце вочы, колер іх, выраз. На апошні прыклад з К. Чорнага ў сваіх лекцыях спасылаліся першымі Ю. С. Пшыркоў, А. М. Адамовіч, проста бачачы рэальную перспектыву.

Закон дыфузіі, паспрыяўшы ўзнікненню паэзіі сімвалізму, акмеізму, імажынізму, несумненна, шчыра ўзбагаціў літаратуру, але ўсё ж, як ужо гаварылася, асабліва на найвышэйшы п'едэстал узвёў ён жанр рамана — сапраўднага героя, героя часу як XIX стагоддзя, так і XX. І гэтае ўзвышэнне рамана якраз і ішло пад знакам дыфузіі, у стыхіі дыфузіі, самое адно будучы ўвесь часам самым духам сучаснай прозы. Нацыянальныя літаратуры Еўропы былі ў яго наватарамі, і, можа, цікавейшыя пошукі дала маладая беларуская проза, часта кідкая ў форме экстраардынарнасці, як, напрыклад, у Якуба Коласа і Кузьмы Чорнага. Ёсць у Якуба Коласа аповесць «Дрыгва». Настраёвая, дынамічная, узнёсла-пачуццёвая, яна, можа, самы класічны ўзор так званай рамантычна-лірычнай прозы, што ярка выяўляе пяць яе асноўных прыкмет: 1) настраёвасць, інтанацыя, яе красамоўнае гучанне, уводзіны ў аўтарскую канцэптуальнасць жыцця; 2) дыяхронны выбар, падача падзей; 3) метафарызм, які вядзе да абагульняючых увасабленняў, пераўтвараючы рэальныя вобразы ў сімвалы; 4) даючы шырокі падтэкст, намёкава развіваючы сюжэт, вяршачы яго; 5) унутранае, душу, характар раскрываючы праз знешняе.

Узор лірызму ў нарацыі ў аповесці «Дрыгва» — паэтызацыя Прыпяці, якая спакойна, бы ў зачараваным сне, нясе сваю багатую даніну сухадоламу Дняпру. Метафарызацыя, эпітэты, параўнанні — усе яны ў сваёй арганічнай еднасці ачароўваюць, — з'яднанасці, якая ідзе найперш ад інтанацыі, тону, прытоенага аўтарскага захаплення прадметам паэтызацыі, прагай паэтызацыі яго.

У «Дрыгве» дыяхронная падача падзей робіць яе сюжэт у часе даволі шырока разгорнутым, «пераскокавым», рэзка змяняючым характар галоўнага героя — мужыка-палешука, дзеда Талаша. Ранняе ранне, дзед Талаш на запытанне суседа хто ён, адказаў, я — нічый. Але вось час ужо пад поўдзень. Дзед Талаш — ля роднае хаты, ля стажка, які ў яго забіраюць заваёўнікі-легіянеры. «А чым жа я сваю кароўку карміцьму?..» — пытае «нічыйны» дзед Талаш у нечаканых рабаўнікоў.

Пра гэта ўжо хораша пісаў, будучы яшчэ маладым коласазнаўцам, Ю. С. Пшыркоў: на калені перад легіянерамі дзед Талаш падае рабом, а моўчкі ўздымаючыся з каленяў з сякерай у руках і знікаючы, як чорны дух, у гушчы палескага кустоўя, ён ужо герой, партызан. Выбар падзей у часе — вечар, сустрэча з сынам, мала часу сыходзіць, а дзед Талаш — на чале атрада, і слова яго да сваіх дружбакоў — не са старапалескай формай палескага дзеяслова: «...карміцьму», а савецкім часам абноўленае: «Таварышы партызанскае войска!..» Такім чынам, дыяхронная падача падзей вяла, патрабавала выхоплівання зместу вельмі агульнага, успышліва вельмі накапляльнага.

А яшчэ выразней у намёкавыя сімвалы абярталіся ў аповесці «Дрыгва» рэчавыя дэталі, звязаныя з любоўным трохвугольнікам — Мартын Рыль, Аўгіння, Басак. Успомнім найперш заляцанні Рыля да Аўгінні падчас палявання на качку. Качку то Рыль падстрэліў, але з хваляў — не падхапіў, бо яе глынуў сом (прадказваючы чытачу, што Аўгіння будзе чыясьці, ды толькі не Рылева). Ды вось ужо іншая сітуацыя: лес, Мартын — удалы партызанскі важак, Аўгіння — вольная, бо пакінула нялюбага сома — Бусака, — і што?.. Сустракаюцца Мартын і Аўгіння ў вольным лесе, але, — піша аўтар, — толькі далёкія, халодныя, высокія зоры дыгочуць над імі. Знакі, што шчасце далёка?.. Інтрыга прымушае, канешне, сэрца чытача заміраць, хоць пра рэальную неўзабаве пагібель важака партызанаў сосны, зоры, вядома, ці ж могуць ведаць?..

У Якуба Коласа, як бачым, падтэкставасць, тое, што робіць сосны і зоры дэталямі, вельмі малавыразная, не тое, што дэталь abламанай грушы-дзічкі, якая пэўна «прарочыць» абламанасць далейшых жыццёвых шляхоў Ядвісі і Лабановіча, разыходжанне іх у трылогіі «У палескай глушы».

Ад дэталі адрозніваюць штрых: назву канкрэтнай рэчы, прыкмету, што характарызуе героя, з'яву; яны адкрыта раскрываюць унутранае праз знешняе, так што з'яўляюцца ў блізкім сваяцтве з дэталлю. Ды справа ў тым, што штрых — элемент у аповедзе разавы, мясцовы, рэгіянальны, у той час як дэталь прадаўжае іграць сваю вобразна-выяўленчую ролю ў разлозе ўсяго ў тэксце, у поўнай сувязі з усёй змястоўнасцю твора, у раскрыцці лёсу, характараў, абставін.

Трэба падкрэсліць, што дэталі, асабліва пейзажныя, у Коласа, Багдановіча ігралі першасную ролю, як і разавыя бытавыя штрыхадэталі былі шырокім фундаментам Коласавай трылогіі, карцін турэмнага жыцця, выяўлення побыту Палесся, Панямоння.

Перш за ўсё супраць гэтага Коласа-празаіка бунтаваў Кузьма Чорны, ваюючы за сапраўдную «чыстую» прозу. Пачаў Чорны ўласна як паэт, пішучы настраёвыя, метафарычныя раннія аповесці «Зямля», «Вясна». Паводле ягонай канцэптуальнасці непасрэдны прадмет прозы — гэта ўнутраны свет героя, псіхалогія, абумоўленасць яго паводзін. Выступаючы супраць метафарычнага пісьма, супраць сентыментальнай млявасці ў ёй метафарыстыкі, сімволікі, скрытага, намёкавага на чорт ведае каго і што, — з гэтым як бы ішла падрыхтоўка да горкаўскага наказу: «Пішыце проста — без алегарызму, падтэкставасці, метафарычнасці як формаў, што могуць служыць антысаветчыне, могуць хаваць антысацыялістычныя выпады».

Ф. М. Дастаеўскі — псіхолаг-наватар. Яго проза — уся ў маналогах і дыялогах. М. Бахцін — вядомейшы даследчык Ф. М. Дастаеўскага ў яго паэтыцы вылучаў хор галасоў. Так, напрыклад, галасы герояў Дастаеўскага з яго рамана «Браты Карамазавы» мы найперш чуем, пісьменнік ідзе праз іх жыццё не з люстрам, як у свой час ішоў Стэндаль, які ў люстры нёс адбітак жыцця, ды не ператтвараў яго ў катрынку галасоў. Л. М. Талстой ішоў праз жыццё і з люстрам, і з катрынкай. Вядома, душа пісьменніка пры гэтым хвалявалася, радавалася, захаплялася, асуджала.

І над вачамі, і над вухам і ў першага, і ў другога было сэрца, мозг, розум. Традыцыі Заля Л. М. Талстой расшыраў, М. Ф. Дастаеўскі — вузіў. Леў Талстой быў і па-пушкінску паэтычны, жывапісны, лірычны, гераічна-баладны, спасцігаў

чалавека і праз яго партрэт, простую характарыстыку, індывідуалізацыю мовы, у яго дыялогах і ўнутраных маналогах. Усё гэта — прыкметы сінтэтычнай прозы. У Пушкіна было ўсё, і ўся руская літаратура выйшла з-пад крыла Пушкіна. Але ўспомнім і тое крылатае выказванне, што ўся руская проза XIX стагоддзя з «Шыняля» Гогаля.

І дыялогі, і маналогі былі ў яго і разгорнутыя, і лаканічныя, самай рознай таніроўкі. Л. М. Талстой — узорны класік рэалізму, і яму даваліся роўна раманы і п'есы, сцэны батальныя, пачуцці закаханага, сцэнкі інтымныя. Ф. М. Дастаеўскі, прыйшоўшы да псіхалагізму ад фіксацыі галасоў фізічных і ўнутраных духоўных, быў апавядальнікам манатонна роўным, абсалютна варожым метафары, інтанацыі з выражэннем суб'ектыўных адносін аўтара да таго, што ён апісвае. Прычым час аўтарскага апісання часта быў адэкватны часу, у якім тое, што дзеялася, дзеялася.

У гэтым сэнсе сваім сінхронным, гэта значыць, суадпаведным часу дзеяння ў зададзенай сітуацыі паказам асабліва здзівіў у свой час у рамане «Абломаў» І. Ганчароў, — здзівіў першаю яго часткай «Раніца», дзе аб паўтарагадзінным ранку чытач і чытае паўтары гадзіны. Сапраўды праўдзівасць адлюстравання месца дзеяння, паводзін героя, наведванне яго гасцямі да ёты! Бытавы рэалізм рэальнае адлюстроўваў, рэальна — у прасторы і часе. Сапраўды, напрыклад, узорнай — чыстай, натуральнай, аўтахтоннай мастацкай прозай «Раніца» Ганчарова з поспехам выходзіла.

Кузьма Чорны засведчыў на адным з этапаў свайго развіцця (раман «Трэцяе пакаленне», аповесць «Люба Лук'янская») сваё сцвярджэнне «чыстай», «прыроднай» (echte) прозы. Якраз яна амаль поўнасцю была на прынцыповых праграмных пастулатах аналітычнай прозы. Мы ўжо спецыяльна вылучылі чатыры асноўныя пастулаты прозы лірычнай, суб'ектыўнай, паэтычнай (сінтэтычнай), чатыры патрабаванні мела да сябе гэтая першая проза, чатыры — паралельна, супрацьлегла іх мае і проза аналітычная, хоць не ўсе яны ў сваёй асобнасці вельмі праглядаюцца.

Вось яны на кантрасце:

1) лірычная — суб'ектыўнае (пачуццёвае, настраёвае, усхваляванае, перажывальнае аўтарам); аналітычнае — аб'ектыўнае (дзеля праўдзівасці паказу без выяўлення пісьменніцкага хвалявання за яго, інфармацыйна-алімпійскае, без інтанацыйна-музыкальнага, не сімфанічнага, нелірычна-пранікнёнага);

2) у лірычнай прозе — дыяхронная падача падзей, у аналітычнай — сінхронная (час раманны — час, рэальна ў раманах адбіты: у гэтым сэнсе мы ўжо гаварылі аб першым раздзеле рамана Ганчарова «Абломаў» «Раніца»);

3) дыяхронная падача падзей вымушала згушчаць мастацкую фігуральнасць да дэталізацыі; аналітычная проза — ніякай дэталі з яе намёкавасцю, падтэкстам! Тэкст без інтанацыі, метафары, дэталі!

4) лірычная проза — пры напаўненні твора псіхалагізмам зварот да перадачы ўнутранага цераз знешняе. Псіхалагізм аналітычнай прозы менш за ўсё карыстаецца правілам перадачы ўнутранага свету героя праз знешняе, нездарма гэтая проза — аналіз, непасрэдны аналіз, раскрыццё, даследаванне, абгаварэнне, перажыванне стану душы, перш за ўсё маючы за прадмет адлюстраванне, тлумачэнне, асэнсаванне.

У ідэале літаратура як такая не без навязлівай прагі быць самой сабою, чыстай. Як такая, яна проста ненавідзіць фактары дыфузіі — змешванне гароху з капустай, як кажуць у нашым народзе. Хоць менавіта змешванне, ад яго ідзе генетыка, перараджэнне. Наватарства Моргана да хрыпаты не прымала калісь савецкая біялогія, ды хрыпата ахрыпла: асанна генетыцы, што нараджае новыя яблыкі і абрыкосы!

Увогуле сама прырода — творца: з часоў стварэння зямлі, вады, неба, крэменю. Але што тут нечаканае: тварэц-прырода, творачы новае, застаецца, як пры ідэале, пры пародзістасці, застаецца з марай не перасцвярджэння, а вяртання

да першароднай існасці, чысціні: «Каб сёння крэменем, толькі ім заставаўся крэмень, то ці ж свет крышталяў, перлін, брыльянтаў быў бы сёння такі багаты, здзіўляльны?..

А вада — рачная, крынічная, калодежная, з-пад крана, лячнічая з Друскенікаў, Кіславодска, Бадэн-Бадэна, ці ж гэта не асобны свет воднага царства, найбагацейшага з усіх былых царстваў у свеце, нябачаных і не чутых нават у казках?..

Навука хімія мае для абазначэння вады дзве літары: $H_2O$ і песціць чыстую, чыстую ваду дыстыляваную. У прыродзе, аднак, дыстыляванай вады няма, — ёсць розная — ад мясцовасці, якога-небудзь пласкагор'я ці пустыні, Палесся ці Каўказа, тундры ці Аляскі. Крынічная вада беларускіх крыніц, хто яе піў, век не забывае! І аднаго яна смаку Нарачанская, іншага — крыніц, з якіх п'юць Нёман, Прыпяць, Дняпро, Буг, Дзвіна. Непаўторнасцю сваёю яны цешаць, лечаць, запамінаюцца.

А вада дыстыляваная?

«Паскудства, брат, і не пытайся!» — так у Якуба Коласа свае клёцкі ў бярозавым соку, сам бярозавы сок у адчаі хрысціў дзядзька Антось перад сваімі пляменнікамі. А хто падобнае ж не выгукне, глытнуўшы дыстыляванай вады, па Мендзялееву, $H_2O$?

Прырода тым і мудрая, што не дала зямлі, свету, людзям вады, паветра, хлябоў дыстыляваных. Па сутнасці, імкнуцца да дыстыляванай, чыстай прозы — гэта ўсяго толькі аналогія каўтануць бярозавага соку, здзівіць якім дзятву брата свайго Міхася імкнуўся Антось.

Дыстыляванае — не прыроднае, не смачнае, не да захаплення. Прырода да яго не імкнулася, няма чаго імкнуцца да яго і чалавеку, асабліва літаратару-празаіку. У чалавека, аднак, такая прырода, што без імкненняў, ім сабе пастаўленых, ён не можа. Менавіта пагэтаму наш Кузьма Чорны ў чыстым празаізме рашыў пераўзысці М. Ф. Дастаеўскага, яго псіхалагізм, псіхалагізм Г. Флабера.

Смак дыстыляванай прозы не доўга цешыў К. Чорнага. Ён баяўся, напэўна, бытавізму, да якога яна вядзе, ахалоджання стылю, ды і натуралізму, проста сухой рэляцыі аб жывым, дзейсным, эмацыянальным. І ў выніку К. Чорны не тое, каб вярнуўся да лірызму, паэтычнасці сваіх аповесцей 20-х гадоў «Зямля» і «Вясна», ён іх традыцыйную паэтычнасць у ваенны час пачаў спалучаць са сваім вопытам аналітызму, «чыстай» прозы, сінтэзуючы другое з першым, вяртаючыся да традыцый Льва Талстога. Іменна пра гэта засведчыў раман К. Чорнага «Скіп'ёўскі лес».

Маўклівы крэмень у полі і хуткаплынная вада ў рэках, яны, можа, ці не з найлепшых літаратуразнаўцаў, бо на сваіх прыкладах паказваюць, што чыстай ні проза, ні паэзія быць не могуць, у сваёй дыстылізаванай хімізацыі — прафанацыя мастацкай літаратуры з ніякім каэфіцыентам эстэтычнай вартасці, важкасці. Наадварот, эстэтычнае пачынаецца, дзе канчаецца хімічная формула вады $H_2O$, дзе пачынаецца хваля Волгі ці Дняпра, блакітнага Дуная ці жоўтай кітайскай Хуанхэ, паўнаводнай Нявы ці летам перасохлых Аму-Дар'і, Сыр-Дар'і. Вада Каўказа на смак не вада прыполюснай Грэнландыі, амерыканскай Амазонкі ці афрыканскага Конга. Смачная вада любога аазіса ў пустыні, як і любой крыніцы ў Беларусі: палескай, паазернай, дняпроўскай, нёманаўскай. Вось яны, кожная з іх — з каэфіцыентам смагі, розных солей, рознага духу пластоў, каменняў, што іх родзіць, спалучае, сінтэзуе. Усё — не без дыфузіі, усё — не без сінтэзу, якія пачынаюць смак, водар, дух, непаўторнасць, якімі дыхае краса!..

Мы ўжо гаварылі аб зацятасці нашага Кузьмы Чорнага ў пошуку існай, чыстапароднай прозы. Ды вайна як бы адваявала Кузьму Чорнага ад гларыфінацыі чыста аналітычнай, натуралістычнай, бытавісцкай прозы. Ад варштата толькі аналітычнага, пры якім пісаліся раман «Трэцяе пакаленне», аповесць «Люба Лук'янская», адрывалі спробы першых жа вялікіх рэчаў у прозе — пачаткі раманаў «Скіп'ёўскі лес», «Млечны шлях», «Пошукі будучыні».

К. Чорны быў найбольш ужо запалонены шырокай задумай мастацкага летапісу Беларусі ад паншчыны да часу, што ішоў пасля перамогі ягонага народа над фашызмам.

Эксперымент, асабліва пад пяром вялікага пісьменніка, ён заўсёды каштоўны. Ды моладзь у літаратуры — верны шлагбаум эксперыменту, які без будучыні. І вітанне ў Мінску К. Чорным першых апавяданняў Івана Мележа было ўжо ў рэчышчы, у якім сам К. Чорны — аўтар раманаў «Млечны Шлях», «Пошукі будучыні» — ужо быў. Заўчасная смерць перапыніла волатаўскую дарогу, і К. Чорны не давёў пачатага да канца, да апагея. Да апагея давёў яе магутны дар І. Мележа — перадусім раманам «Людзі на балоце» (1960).

Раман — жанр веку. Гэта гаварыў век XX, з нашай Беларусі — найперш Алесь Адамовіч. Але раман, відаць, перш за ўсё жанр XIX веку, бо гэта Бальзак, Талстой, Дастаеўскі. У XX стагоддзі ён быў, вядома, прэстыжны, але ён не толькі паўтараў класіку XIX стагоддзя, ён яе адмаўляў, як Джойс, як Кафка, як пасляваенны антыраман Англіі ці Францыі. У СССР антырамана не было, раман быў у сіле, яго чыталі, асабліва ў першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі. Сталінскія прэміі трох ступеняў ішлі найперш за раманы, Ленінская прэмія — за раманы. Лаўрэатам Ленінскай прэміі за палескія раманы, за «Людзі на балоце» стаў і беларус Іван Мележ.

«Людзі на балоце» — гэта адна з вяршынь рамантыкі СССР, БССР. І гэты раман стаў выдатным арганічным спалучэннем традыцый класічнай раманістыкі XIX стагоддзя — перадусім Талстога і Дастаеўскага, як і Флабера, Стэндаля, Ібсена. Узорным спалучэннем традыцый лірычнай і аналітычнай прозы стаў раман «Людзі на балоце» І. Мележа, узорным прыкладам рамана як жанру сінтэтычнага, як сінтэзу ў ім лірыкі, эпасу, драмы, эмацыянальнага, апісальна-маляўнічага, падзейна драматычнага і трагічнага. І калі Б. Пастарнак скажа, што найлепшая паэзія — гэта проза, то таму, што раманныя шэдэўры XX стагоддзя былі сінтэзам, дзе верх над аналітыкай браў эмацыянальна-лірычны, паэтычна-вобразны пачатак, як ён бярэ верх у рамане І. Мележа «Людзі на балоце».

У лірычнай прозе ёсць праблема першага сказа. Ён у ідэале мусіць быць такой танальнасці, такога тэмбру, такой музыкі, якія б выражалі само светаадчуванне, светабачанне, агульную канцэптуальнасць аўтара твора выражалі, твора як мастацкай цэласнасці. Раман І. Мележа — не лірычная проза. Але зірнём на яго першы абзац, — не на сказ, а на абзац: «Хаты былі на востраве. Востраў гэты, праўда, не кожны прызнаў бы за востраў — аб яго не плёскаліся ні марскія, ні нават азёрныя хвалі. Навакол адно гніла куп'істая дрыгва ды моклі панурыя лясы». Абзац, па сутнасці, лірычна-паэтычны, хоць пачаты кароткім інфармацыйна-апавядальным сказам, нібы чыста эпічным. Ды аб востраве не ўсё ў ім сказана: востраў — не востраў. Ад аб'ектыўнага апавядальніка вы чуеце зварот да вас, нібы самую інтымнасць аўтара, яго, як апавядальніка тут прысутнага, яго, па сутнасці, як паэта тут прысутнага, бо вобраз хваль, хай яны не марскія, не азёрныя, гэта вобраз паэтычны, выключна паэтычнымі паўстаюць эпітэты пры дрыгве (куп'істая), пры лясах (панурыя), «моклі... лясы» — гэта ўжо блізка да метафары, «плёскаліся хвалі» — блізка да метафары. І ў цэлым абзац, хай стрымана, але як песенны запеў, як нешта эмацыянальнае, што зачароўвае, што зваротлівасцю сваёй да чытача не можа ўводзіць яго ў гэты куп'істы свет дрыгвой, пануры лясамі, хай не рамантычны марской ці азёрнай хваляй, але апавядальніку істотны, незвычайны, вельмі душы яго блізкі.

А хто ў рамане перад намі далей — эпік ці паэт, навеліст ці лірык?

Канешне, спачатку апавядальнік, эпік: «Вёска тулілася ля берага вострава...» «Жылі ўжо Курані і ў гэту чэрвеньскую рань...» Але як жылі? «Журавель варухнуўся, падаўся вочапам да вады, здаволена, радасна зарыпеў». Для каго ён зарыпеў радасна? Гэтую яго радасць чуе, апісвае раманіст. Гэта пры яго радасці гераіня рамана, якая, каментуе раманіст, «хацела, мусіць, паглядзець у ваду, але з хаты раптам пачуўся незадаволены крык:

«— Ганно-о! Дзе ты, нячыстая сіла?!.»

Вось так мы і пазнаём імя галоўнай гераіні рамана, і чуем «нячыстая сіла», хоць для бацькоў у роднай хаце ці ж была яна нячыстай сілай?

Следам за знаёмствам з гераіняй рамана абзац аб суседнім двары, аб барадатым дзядзьку, які завіхаўся пры калёсах, мазаў восі «квачом з дзёгцем, што маслена паблісквconfigаў ад сонца». Вёска — гэта, канешне, дзёгаць, ды дзёгаць нездарма пад пяром раманіста «паблісквaў ад сонца». Нячыстая сіла, дзёгаць, сонца — дэталі, і чаго больш будзе ў паказе вёскі: сонца, дзёгцю, нячыстай сілы?

З чэрвеньскай рані пачынае пісьменнік апісваць Курані: «У такі час, — піша ён, — з хаты, недалёка ад той, дзе дзяўчына брала ваду, выйшаў на ганак, пацягваючыся, хлопец з хмурымі заспанымі вачыма, з камлатай не то русявай, не то чорнай чупрынай, з упартымі невясёлымі губамі». Імя хлопца адразу не назавеш, — яно называецца ў наступным абзацы — апавядальна-паведамляльным, без ніякіх эмоцый: «Жмурачыся ад сонца, на ганку Васіль...» Цераз аж тры абзацы фраза-пытанне, звернутая да дзеда: «Мо паправіш ужо?..» з, так сказаць, аўтарскім каментарыем: «кінуў Васіль, саскочыўшы з каня» і пасля дыялога з дзедам імя будучага асноўнага героя пачынае абзац, як нам ужо даўно знаёмае, да дзеяння набліжанае, у раманную плынь уведзенае: «Васіль прывязаў каня да падмазаных яшчэ ўчора вечарам калёс і ўвайшоў у хату» — можна сказаць увайшоў у раман, ва ўспрыманне яго чытачом. «Хмурачыся ад сонца...» — гэта знамянальна: ад чаго толькі не будзе хмурыцца Васіль, прыжмур вачэй будзе не толькі ад сонца, але і ад позірку, успрыняцця вобліку каханай Ганны, і ад успрымання на вочы, што будзе існі ў палескую вёску і што не заўсёды будзе разумець Васіль, і ад крутых паваротаў у яго жыцці. Зрэшты, прыжмур вачэй Васіля — не дэталь, і можна над яго больш красамоўным значэннем і не падумаць, не гаварыць аб ім, ды ўсё ж ён у блізкім суседстве з рэальнымі дэталямі, што ўводзяцца пісьменнікам у ягоны ток апавядання і якія знакі самой паэтычнасці рамана лірычнага, сімволіка-метафарычнага пачатку сінтэтычна спалучаны ў ім з эпічна-інфармацыйным, аналітычна-псіхалагічным, каментарна-псіхалагічным, каментарна-візуальна-псіхалагічным. Возьмем, напрыклад, чыстую дэталь-намёк: Васіль на балоце распальвае сваё вогнішча, распаліць яму яго не ўдаецца, і ён ідзе па вуголле, па жар да кастра Глушакоў, ідзе, не думаючы, якую ролю ў распальванні жыццёвага, уласнага ачага сыграе іх сын Яўхім. Але гэтай дэталлю-намёкам на будучыню Ганны Чарнушкі, што стане нявесткай старога Глушака, раманіст не толькі намякае на будучы лёс сваіх герояў, але і інтрыгуе свайго чытача, паэтызуе свой стыль, робіць яго шматслойным — адначасова і апавядальна-падзейным, і метафарычна-прарочым, і жывапісна-лірычным, і псіхалагічна-заглыбленым. І гэта сапраўды вышэйшае празаічна-паэтычнае майстэрства пісьменніка, якое прозу паэтычніць, псіхалагізм яе спалучае з паэтычнай вобразнай стыхіяй, лірызм яе па-філасофску паглыбляе.

Але раман — каскад падзей. Ці ж апісанне іх каскада лірызуецца? Відаць, не, бо возьмем, напрыклад, адную з асноўных, апагейных падзей першага рамана трылогіі І. Мележа — бойку Васіля Дзятліка з Яўхімам Глушаком, бойку на былой палосцы Глушакоў, якую заворвае сабе Васіль. Партрэт Яўхіма, які набліжаецца да аратага Васіля, не без эпітэтаў: «...твар чырвоны, люты. Злы (гэта сам Яўхім. — **А. Л.**), зямлі пад сабой не чуе...» Рэакцыя на гэтую злосць Васіля: «Васілёвы ногі прыкра паслабелі, як не падагнуцца...» Стан герояў такім чынам пісьменнік перадае апісальна, каб выявіць драматызм іх стану, напружанасці, чым увогуле драматызуе сутычку, а далей яшчэ глыбей драматызуе яе маці Васіля, якая на павышаных інтанацыях звяртаецца да яго:

«— Васілько!.. Не пярэч! Саступі!..»

Пісьменнік заклікі маці перарывае каментарам, што, заўважыўшы Карча, «маці жахнулася».

Паводзіны Васіля: «Васіль не варухнуўся. Нібы не чуў. Не зводзіў вачэй з чубатага, падахвочваў сябе: «Няхай бяжыць, няхай! Пабачыць!» І яшчэ Васіль здзіўляўся: «Трэба ж, каб так паслабелі ногі!»

Маці памкнулася Яўхіма перапыніць. «Ён, як бег, таўхануў яе так, што яна і не войкнула — тузанулася, упала на бок... Чубаты наскочыў на Васіля. З ходу дужа рвануў за плячо. Васіль упусціў плуг».

Як бачым, учынкі герояў паўстаюць у іх канкрэтнасці, аб'ектыўнасці. І сваю ролю пачынае іграць тут дыялог:

«— Т-ты...ш-што ето? — Яўхім, задыханы, цяжка соп. Рот злосна крывіўся, шчэрыўся. Зараз здавалася, пена на губах забялее... — Т-ты ш-што?!. — Ён грозна мацюкнуўся.

— А ты — што?.. — адважыўся Васіль. Натапырыўшыся, як малады каршачок, гатовы біцца.

— Ш-што?!. — Глушакоў твар яшчэ больш заліўся крывёю. — Прэч! — раптам шалёна, з віскам, закрычаў ён. — Зараз жа!!! Штоб духу твайго смярдзючага не было!»

Лексіка Яўхіма, партрэтная дэталь («твар яшчэ больш заліўся крывёю»), тое, што Яўхім раптам шалёна, з віскам, закрычаў — усё гэта шматзначна раскрывае характар Яўхіма, поўнага шаленства, ашаломленага самавольствам Васіля-ўласніка, упэўненага ў сваёй моцы, ваяўнічага ў абароне, у адстойванні свайго, уласнага, цвёрда перакананага ва ўласнай праваце, у нахабстве паскудніка батрака, галапузага бедняка, нікчэмнага прыўлашчальніка яму не належнага. Наўпрост, адкрыта пісьменнікам гэтага не гаворыцца, але яно ёсць, выяўленае апасродкавана, ёсць як матэрыя псіхалагізму рамана.

Дыялог Васіля і Яўхіма асабліва напружваецца, калі Яўхім хапае Васіля загрудкі так, што стала цяжка дыхаць. Пісьменнік зноў адзначае, што Яўхім закрычаў шалёна:

«...На чыю зямлю ўспёрся?! Чыё поле паганіш?!! Не бачыш?!!»

— Було... вашае...

— Було!! — Чубаты матнуў плячом, адштурхнуў Дзятліху, якая ўчапілася, як кіпцюрамі, намагалася адарваць ад сына.

— Було... Цяпер — наш-шае...

— Вашае?.. Брэшаш, гад!!»

Такім чынам, сацыяльная прычына, якая прывяла да бойкі Яўхіма з Васілём, становіцца цалкам яснай, як відавочцы ў гэтым аўтарскім тэксце напор на раскрыццё драматызму абставін, высокай напружанасці нерваў і галасоў герояў.

Але звернем яшчэ ўвагу і на драматызм рамана, звязаны з выкарыстаннем унутраных маналогаў, — драматызм ціхі, але, пэўна, глыбейшы, чым звязаны з шалёна-крыклівымі дыялогамі. Відаць, самая ў гэтым сэнсе красамоўная старонка з апісаннем першай ночы пасля вяселля Ганны з Яўхімам. Чытаем:

«У тую ноч, першую ноч замужжа, Ганна доўга не магла заснуць. Адсунуўшыся ад Яўхіма, адвярнуўшыся, стараючыся не чуць, як ён храпе, ляжала яна, спусцелая, стомленая, атупелая ад пераэжытага, ад нядаўняга гоману, ад самагоннага дурману. Ляжала ў душнай цемры, здавалася, забытая ўсімі, пакінутая, адна-адзінокая ў цэлым свеце.

«От і ўсё», — як бы прарываючыся праз туман, думала яна з такою тугою, нібы настаў канец свету. «Усё, усё, усё», — гаварылі, паўтаралі ёй бясконца ходзікі на сцяне. «Што — усё?» — губляла, намагалася яна зноў злавіць сэнс гэтага «ўсё» і часта не магла знайсці, вярнуць хоць якую яснасць галаве, якая поўнілася непадатным, нядобрым туманам».

«Усё адно. Рано ці позно... Ніхто не мінае... Прывыкну як-небудзь... Усе прывыкаюць, і я — таксама...» — прадзіраліся часам у галаве важкія, цягучыя думкі, потым зноў усе прападалі ў тумане і атупеласці».

Уласна ўнутраны маналог ва ўрыўку — кроплі ў шырокай плыні тэксту: «От і ўсё...», «Усё, усё, усё...» «Што — усё?..» Адказ на апошняе пытанне ідзе ў больш разгорнутай частцы ўнутранага маналога: «Усё адно. Рано ці позно», — гэты пачатак разгорнутага маналога паглыбляецца развагай: «Ніхто не мінае...» і вывадам з філасофіі патрыярхальнага жыцця вёскі на прымірэнне з тым, што

адбылося ў жыцці гераіні не без надзеі на нармальнае замуства, выказанае ў формуле «Прывыкну як-небудзь — усе прывыкаюць і я — таксамо...» Што любоў не абавязковае ў сялянскай сям'і, што селяніну-гаспадару важная перш за ўсё матэрыяльная выгада — гэтыя менавіта падваліны ў аснове Ганнінага «прывыкну». Сцерпіцца — злюбіцца, — гэты пастулат часта вёў у нялюбасныя адносіны дзяўчат аднаасобніцкай вёскі, і псіхалогія Ганны Чарнушкі, развага яе ў першую ноч замуства з Яўхімам менавіта ад перажыткавых уяў — у беларускай вёсцы 20-х гадоў.

Аднак, калі думкамі гераіня прымае сваё замуства, то сваім нутром, сваімі пачуццямі яна яго ніяк не прымае, і гэта пісьменнік раскрывае нам апісаннем душэўнага стану гераіні, якая ляжыць на вясельным ложы «спусцелая, стомленая, атупелая», ляжыць «у душнай цемры», і ёй здаецца, што яна «забытая ўсімі, пакінутая, адна-адзінокая ў цэлым свеце». І першае Ганніна «от і ўсё» — адзначае пісьменнік, прарываецца «як бы... праз туман». Паэтычны вобраз туману будзе і ў заключным абзацы ўрыўка, які мы аналізуем, калі пісьменнік піша: «Прадзіраліся часам у галаве важкія, цягучыя думкі, потым зноў усё прападала ў тумане і атупеласці». Эпітэты ў І. Мележа ў цэлым ва ўрыўку надзвычай драматычныя (паўторым іх: «спусцелая», «стомленая», «атупелая», думкі — «важкія, цягучыя», «душная цемра», галава поўнілася «...непадобным, пустым туманам», сама гераіня — «забытая ўсімі, пакінутая, адна-адзінокая ў цэлым свеце». Эпітэты, як бачым, і псіхалагізаваныя, і жывапісныя, і абагульняюча філасофскія («душная цемра»). І сваю асобную кульмінацыйную ролю пры іх мае падкрэсліванне адзіноцтва гераіні «ў цэлым свеце», бачанне пісьменнікам яе без яснасці, «у тумане і атупеласці». І Мележ не ідэалізуе сваёй гераіні, але яго спачуванне ёй сапраўды шырока выяўленае настраёвасцю аповеду, насычанасцю яго паэтычнасцю, пераводам ва ўсезямны ракурс думак і перажыванняў любай сэрцу пісьменніка паляшучкі.

І тут увогуле хочацца думаць, што, каб была пэўная нагода, Іван Мележ упаўне мог бы сказаць флабераўскай формулай «Ганна Чарнушка — гэта я...», і, відаць, прататып вобраза Чарнушкі быў у жыцці Івана Мележа не толькі прататыпам. Мяне пераконвала ў гэтым непаўторная паездка ў роднае сяло Івана Паўлавіча ў дні святкавання ягонага 50-годдзя. Я быў сярод тых шчасліўчыкаў, калі Іван Паўлавіч абраў наведванне Глінішча. Едучы праз Хойнікі, Іван Паўлавіч паказваў нам двор, дзе арыштаваны Васіль Дзятлік пілаваў міліцыі дровы. Але мяне вельмі ўразіла, калі на павароце ў Глінішчы Іван Паўлавіч паказваў магазін, на сходках якога Дзятлік развітваўся з Чарнушкай. Аб прататыпе Чарнушкі ён гаварыў як аб настаўніцы, што паехала працаваць у Баранавіцкую вобласць. Падумалася: «Ці не сам Іван Паўлавіч на ганку, які ён паказваў, праводзіў яе ў Баранавіцкую вобласць?» Уголас тады маё пытанне не прагучала, не магло прагучаць, бо не вельмі этычным яно мне здавалася. Але ўсё ж нездарма будучы стваральнік вобраза Ганны Чарнушкі паказваў нам памятны яму ганак, а вочы яго таямніча зіхацелі і, як заўсёды, ён сімпатычна з мудрай маўклівасцю вачэй вельмі дабрадушна ўсміхаўся. І сапраўды пасля сваёй такой глыбокай выявы яе паэтычнасці, псіхалогіі, паляшуцкай непаўторнасці, духоўнасці, жаноцкасці, як такой увогуле, не сказаць пра Івана Мележа, што ў яго Ганне Чарнушцы ўвесь ён сам, проста нельга.



# Яўген ГЛЕБАЎ

## (1929–2000)

Яўген Аляксандравіч Глебаў нарадзіўся **10 верасня 1929** года на Смаленшчыне ў горадзе Рослаўль. Першыя крокі ў музыцы рабіў самастойна, засвоіў ігру на гітары, мандаліне, балалайцы. Вучыўся ў Рослаўльскім тэхнікуме чыгуначнага транспарту, дзе арганізаваў самадзейны ансамбль.

Пасля заканчэння тэхнікума Яўген Глебаў быў накіраваны ў Магілёў, працаваў аглядчыкам вагонаў. Неардынарны талент Глебава быў заўважаны Іосіфам Жыновічам, які параіў маладому самадзейнаму кампазітару рыхтавацца да паступлення ў кансерваторыю.

У **1950** годзе Яўген Глебаў паступае ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю на кампазітарскі факультэт у клас Анатоля Багатырова. Выкладчык прывівае яму любоў да беларускай песні, да беларускага нацыянальнага музычнага мастацтва.

У **1956** годзе Яўген Глебаў заканчвае Беларускую кансерваторыю, але яшчэ з **1953** года працуе выкладчыкам Мінскага музычнага вучылішча.

З **1971** года вядзе клас кампазіцыі ў Беларускай кансерваторыі. У **1978** годзе яму прысвойваецца званне дацэнт. Адначасова з працай у кансерваторыі Яўген Глебаў займае пасаду кіраўніка эстрадна-сімфанічнага аркестра Дзяржтэлерадыё БССР, працуе музычным рэдактарам «Беларусьфільма», дырыжорам аркестра Рэспубліканскага тэатра юнага гледача.

Яўген Глебаў — аўтар шэрага сімфанічных твораў, балетаў, оперы. Вялікую цікавасць майстра прыцягвала сусветная літаратурная класіка, творчасць Шарля дэ Кастэра, Янкі Купалы, Антуана дэ Сент-Экзюпеpы, Васіля Быкава. Асновай музычных твораў Яўгена Глебава з'яўляецца беларускае нацыянальнае мастацтва, але майстра шырока выкарыстоўвае музычныя матывы Іспаніі, Бельгіі, Нідэрландаў і іншых краін Еўропы.

Яўген Глебаў аўтар першага беларускага балета «Мара» (**1961** г.).

У **1967** годзе з'яўляецца яго балет «Альпійская балада» паводле аповесці Васіля Быкава, які быў пастаўлены ва ўсіх буйных тэатрах Савецкага Саюза.

У **1970** годзе Яўген Глебаў атрымлівае Дзяржаўную прэмію СССР.

З **1973** года Глебаў — народны артыст БССР.

У **1974** годзе ажыццяўляецца пастаноўка балета «Ціль Уленшпігель» на музыку Яўгена Глебава. Менавіта «Ціль Уленшпігель» стаў першым беларускім балетам, які быў пастаўлены за мяжой. Твор карыстаўся вялікай папулярнасцю, і ў **1977** годзе выходзіць сімфанічная паэма «Успаміны пра Ціля».

У **1982** годзе пастаўлены балеты на музыку Глебава «Маленькі прынц», «Курган». У **1992-м** — «Майстар і Маргарыта».

Яўген Глебаў — аўтар выдатных сімфоній: «Партызанская» (1958), «Альпійская сімфонія-балада» (1967), «Паэма-легенда» (1955); араторый «Званы» (1967), «Свяці, зара» (1970), «Мы славім радзіму сваю» (1974), араторыі для дзяцей «Запрашэнне ў краіну маленства» (1974), кантат «За праўду ўстанем» (1956), «Ад вышыні да вышыні» (1976).

Адметны след пакінуў Яўген Глебаў у кінематографе, ён — аўтар музыкі да шэрага фільмаў: «Трэцяя ракета» (1963), «Апошняе лета дзяцінства» (1974), «Вянок санетаў» (1976), «Дзікае паляванне караля Стаха» (1979), «Амністыя» (1981).

З **1984** года Яўген Глебаў народны артыст СССР.

Майстра не стала ў **2000** годзе.

***Падрыхтавала Марыя Шамякіна.***

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

# У ПОШУКАХ СВАЙГО ЧАСУ

Мастак не выбірае час, у якім яму жыць, ствараць. А калі б і выбіраў — ці быў бы з ім у бесканфліктным суладдзі? Наўрад... Хіба ведае гісторыя імёны вялікіх талентаў, якім удавалася жыць у заўсёднай гармоніі з уласным «я», ладзіць са стракатай людской грамадою, не спрачацца з рэальнасцю? Зрэшты, што б там ні было, нават у сучаснага і паспяховага мастака свае, **пазачасавыя** — як ні дзіўна гэта прызнаваць — стасункі з жыццём. Кампазітар Яўген Глебаў дасягнуў прыжыццёвага прызнання, папулярнасці, славы, становішча лідэра, вядомасці за межамі не толькі Беларусі, а і колішняга Савецкага Саюза, заслужыў неафіцыйнае званне класіка беларускай музыкі XX стагоддзя: народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, прафесар, акадэмік Міжнароднай славянскай акадэміі навук, адукацыі і культуры, абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі... Аднак... аднак, нягледзячы на прафесійную ўпэўненасць, творчыя дасягненні, грамадскі аўтарытэт, любоў вучняў, павагу (і зайздрасць!) калег, надзейны сямейны тыл, Яўген Глебаў не адчуваў сябе ўтульна ў рэальным часе. (Насмельваюся казаць гэтак, бо ведала Яўгена Аляксандравіча з 1976-га і наіўна суцяшаю сябе тым, што наша знаёмства не скончылася і нікуды не знікне, пакуль будзе гучаць яго музыка, — проста перарваліся зямныя стасункі.)

Пакутліва перажываючы публічны поспех сваёй чарговай музычнай прэм’еры, ён мог у даверальнай размове ўздыхнуць: «Вы ж ведаеце: мастаку нідзе ніколі не бывае добра. Думаеце, Пушкіну было добра?» Аднойчы з непрыхаванай роспаччу выгукнуў: «На жаль, не ў той час мы жывём. Гэта не наш з вамі час...».

А гэта быў час так званага застою, калі чыноўніцкі кантроль у сферы культуры і мастацтва дасягнуў татальнага размаху, што вымушала творцаў — нават у музыцы! — працаваць абачліва і спараджала часам недарэчныя сітуацыі. Яўген Аляксандравіч прыгадваў, напрыклад, як дапытваўся такі пільны «кантралёр» пра Чацвёртую сімфонію кампазітара: «І што вы мелі на ўвазе, на што вы тут намякаеце — чаму так змрочна гучыць?». Аўтар твора вырашыў тады не ўсчынаць гаворку пра свае чыста эстэтычныя пошукі, скіраваныя на абнаўленне і ўскладненне мовы аркестравага пісьма, і абмежаваўся кароткім тлумачэннем: «А гэта... пра вайну!». Такі адказ і задаволіў, і супакоіў апанента, упэўненага, што абстрактную сімфанічную вобразнасць, за якой насамрэч няма канкрэтнага праграмнага зместу, а ёсць пэўны роздум, настрой, душэўны стан ці нават філасофія, можна «пераказаць словамі», нібы літаратурны сюжэт.

На жаль, для шматлікіх нашых суайчыннікаў, сяк-так навучаных, адпаведна школьнай праграме, «разбіраць» раман або верш, ды зусім не прыахвочаных слухаць, адэкватна ўспрымаць (а то і з веданнем справы характарызаваць) творчасць прафесійных кампазітараў, гучанне сур’ёзнай музыкі нагадвае, бадай, гаворку экзатычнага іншаземнага племені: усё неўразумела, нудна, сумна — таму раздражняе і адпрэчвае. Нігілізм, падсілкаваны нежаданнем спазнаць «нецікавае», тое, што існуе па-за межамі масавых прыярытэтаў ды ўласных захапленняў, часта безапеляцыйны: «Сімфоніі, філармоніі... Гэта нікому не трэба!». Напэўна, з такой жа катэгарычнай непрыязнасцю разважаў бы — агулам! — пра вартасць мастацкай літаратуры малапісьменны чалавек, не дасведчаны ў яе жанрах і плынях, не прыахвочаны чытаць, глухі да яркага вобразнага радка, не навучаны



цаніць паэтычнае слова. Але сур'ёзным кнігам пашанцавала больш за высокае кампазітарскае мастацтва: пра сур'ёзную музыку многія мяркуюць без ведання яе азбукі і хоць бы збольшага — законаў яе адмысловай мовы...

Цяжка разважаць і пераконваць кагосьці ў чымсьці, калі гаворка ідзе пра самае эмацыянальнае і самае суб'ектыўнае з мастацтваў. І ўсё ж творчасць Яўгена Глебава сталася той аб'ектыўнай рэальнасцю, якую нават слухачы-дылетанты ніколі не ўспрымалі насцярожліва, нібы рэч у сабе. Яго музыка без каментарыяў і разваг звяртае на сябе ўвагу, гаворыць сама за сябе, хутка знаходзіць шматлікіх прыхільнікаў, для якіх робіцца блізкай, сваёй, бо яна, незалежна ад жанру (а гэты кампазітар працаваў ва ўсіх асноўных жанрах: ад оперы да песні), у лепшым сэнсе слова — **дэмакратычная**.

Выразны даходлівы мелас, яркая і трапная інтанацыя, маляўнічая вынаходлівая аркестроўка, рытмічная разнастайнасць, дасціпная дыялектыка ўнутранай музычнай драматургіі, агульная дынамічнасць формы ёсць у «джэнтльменскім наборы» кожнага прафесіянала, ці не так? Апрыёры — так. Але пачынаецца творчы працэс, і нават пры роўных стартавых магчымасцях мала каму ўдаецца дасягнуць бліскучага мастацкага выніку. У Яўгена Глебава, праз яго выключны талент і майстэрства, усе вядомыя сродкі кампазітарскага пісьма трансфармаваліся ў непаўторны індывідуальны почырк, фарміравалі бліскучы адметны стыль, спрыяючы стварэнню дзівосных гукавых вобразаў, якія можна характарызаваць адным словам: **тэатральнасць**. А тая тэатральнасць музычных вобразаў, што ўласцівая менавіта яго стылю, выклікае лёгкі сугестыўны эфект. Такая тэатральнасць здатная настолькі захапіць слухача і разгайдаць яго фантазію, што падчас гучання твора праграмнага, з канкрэтнай назвай, натхнёнага, напрыклад, зместам літаратурнай першакрыніцы (згадайма сюіты з глебаўскіх балетаў «Альпійская балада», «Ціль Уленшпігель», «Маленькі прынц»...), узнікае ілюзія **зрокавасці** слыхавых уражанняў. Зрэшты, пра вытокі тэатральнасці дый пра ролю тэатра ў творчасці Глебава гаворка тут яшчэ будзе.

Некалькі пасляваенных пакаленняў, узгадаваных, скажам так, на рэпертуары даступных, а таму і папулярных радыёкропак, мелі магчымасць штодня чуць у эфіры музыку Яўгена Глебава. Слухачы новай генерацыі, якія спажываюць «фарматную» прадукцыю FM-станцый, ужо і не здагадваюцца, што ёсць у неабсяжным свеце музыкі такія залацінкі, як «Фландрыя» з балета «Ціль Уленшпігель» — сакавітае, напоўненае жыццёвай энергіяй і магутным пазітыўным духам, сімфанічнае палатно; шчымлівае і крохкае «Адажыо Прынца і Ружы» з балета «Маленькі прынц»; каларытныя «Дудары» і заліхвацкі мажорны «Танец» з «Палескай сюіты»; бадзёрая «Гумарэска», якая вось-вось укруціць слухача ў скокі; пяшчотны вальс-песня з пазабытай кінастужкі «Каханая»; гратэскавы «Галоп» з прыгодніцкага серыяла «Апошняе лета дзяцінства»; падобны да крышталёвай мроі настальгічны матыў з фільма «Вянок санетаў»; вострахарактарныя «Фантастычныя танцы» для фартэпіяна; прасякнуты гумарам марш «Мушкецёры» (з музыкі да тэатральнага спектакля паводле папулярнага твора Аляксандра Дзюма); сентыментальная



*З Васілём Быкавым.*

п'еса «Залатая восень»... Яны разам з іншымі найбольш вядомымі старонкамі музычнай спадчыны кампазітара адраджаюцца сёння ў канцэртных праграмах Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё, гучаць у перадачах канала «Культура». Ды, на жаль, рэдка пачуеш творы Глебава ў філарманічнай зале.

Засталіся тры найбольш стабільныя крыніцы непасрэдных слухацкіх уражанняў. Першая — балет «Ціль Уленшпігель», некалькі гадоў таму з поспехам узноўлены яго харэографам-пастаноўшчыкам, мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі Валянцінам Елізар'евым пад назвай «Легенда пра Уленшпігеля» (што адпавядае назве літаратурнай асновы — аднайменнага рамана Шарля дэ Кастэра). Другая — фестывальныя праграмы, якія ладзіць у малых гарадах і мястэчках Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга. Рэпертуар камерных калектываў, што ўваходзяць у структуру вялікага аркестра, узбагаціўся творамі Яўгена Глебава, пералажэннямі яго партытур для розных інструментальных складаў, што дазваляе і ўключаць іх у фестывальныя выступленні асобнымі нумарамі, і рабіць манаграфічныя праграмы. Да слова, несталічная публіка вельмі цёпла прымае гэтыя ўзоры айчыннай класікі. А яшчэ адна жывая крыніца гучання музыкі нашага вялікага кампазітара — справаздачныя канцэрты юных выканаўцаў: вядома, не толькі ў Мінскай дзіцячай музычнай школе № 10, якой нададзена імя Яўгена Глебава, але і ў іншых аналагічных навучальных установах па ўсёй краіне, яго п'есы складаюць «залаты запас» педагагічнага рэпертуару.

Так было і пры жыцці кампазітара: дзеці ў спецыялізаваных школах актыўна і ахвотна ігралі яго музыку, з цікавасцю вывучалі творчую біяграфію. Дырыжоры і салісты вылучалі творчасць Яўгена Глебава з агульнай музычнай плыні, што ахоплівала вялікі абсяг колішняга СССР, як прыклад высокага прафесійнага майстэрства і, зразумела, — вялікага самабытнага таленту. Гэта сёння кампазітары ці не на студэнцкай лаве могуць прадумваць, планаваць, а неўзабаве і спраўджваць уласныя замежныя творчыя праекты. У 1950-я і нават у 80-я дакамп'ютэрныя, «даінтэрнетныя» гады музыка прафесійных беларускіх кампазітараў жыла і развівалася ва ўласным клёку, у адрозненне, скажам, ад творчасці літаратараў, якую перакладалі і выдавалі не толькі, як сказалі б цяпер, у блізкім замежжы (у межах Савецкага Саюза), але і далей. Не было ў БССР нотнага выдавецтва, даводзілася аўтарам «займаць чаргу» на няпэўны час да кіеўскіх, піцерскіх ці маскоўскіх нотадрукароў. Не было і студыі грамзапісу: задавальняліся фанатэкай Беларускага радыё. Ды чакалі, часцей марна, свайго шанцу, калі ў Мінск наведвалася адпаведным чынам аснашчаная брыгада спецыялістаў-масквічоў — каб запісаць «нешта беларускае» для пласцінкі Усесаюзнай фірмы «Мелодия».



*З Міхасём Казінцом падчас рэпетыцыі.*

Кампазітары марылі прагучаць у Маскве на пленуме Саюза кампазітараў СССР або хаця б аднойчы трапіць у рэпертуар музыканта з Малдовы, Арменіі, Літвы, іншай братняй рэспублікі... Уявіце, якім дзёрзкім і неверагодна ўдачлівым выглядаў у вачах калег Яўген Глебаў, чыя музыка менавіта ў той час імкліва вырвалася ў шырокі свет! Яго балеты ставіліся не толькі на мінскай сцэне: «Альпійская балада» (паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава) — у Чэлябінску, «Выбранніца» (паводле рамантычных паэм Янкі Купалы) — у Новасібірску, «Ціль Уленшпігель» — у Львове, Чэлябінску, Ленінградзе, Хельсінкі, «Маленькі прынц» (паводле аповесці-казкі Антуана дэ Сент-Экзюперы) — у Хельсінкі, Маскве, Ніжнім Ноўгарадзе, пазней — у Самары; аперэта «Мільянерка» (паводле вядомай п'есы Бернарда Шоў) — у Маскве... Гэты пералік можна ўдакладніць значнымі дэталямі. Прынамсі, у Хельсінкі «Ціль...» быў пастаўлены па ініцыятыве Тэатра фінскай нацыянальнай оперы (1977 год). І менавіта па замове гэтага тэатра кампазітар напісаў свой наступны балет «Маленькі прынц» — між іншым, адзіны з глебаўскіх балетаў, не пастаўлены ў Мінску. Пасля прэм'еры ў Хельсінкі (1982) ім зацікавіўся Вялікі тэатр СССР, і праз год новая пастаноўка «Маленькага прынца» ўжо ішла на сцэне Крамлёўскага Палаца з'ездаў.

Значныя музычна-тэатральныя творы Яўгена Глебава прагучалі за мяжой, і ў гэтым ён быў першы і адзіны сярод сваіх сучаснікаў. Ды каб толькі ў гэтым! З асяроддзя калег ён выбіваўся, адрозніваўся арыгінальнасцю, жывасцю, іранічнасцю і вастрынёй мыслення, шырынёй эрудыцыі, неверагоднай працаздольнасцю, а галоўнае — яркасцю музычнага таленту. Выбітны талент заўсёды робіць чалавека не такім, як усе. І менавіта ён, талент, адыграў галоўную ролю ў тым, што да сваёй прафесійнай дзейнасці Яўген Аляксандравіч прыйшоў выключным чынам.

Каб атрымаць прафесію кампазітара, патрэбна шмат часу. Гады. Дакладней, каля двух дзесяткаў гадоў. Давайце палічым. У спецыяльную школу даравітае шасці-сямігадовае дзіця паступае ў нас, як правіла, падрыхтаваным. За год, а то і за тры да гэтага яго пачынаюць навучаць элементам нотнага пісьма, ігры на якім-небудзь інструменце. На працягу 11-12 гадоў атрымлівае сярэднюю музычную адукацыю. Яшчэ пяць гадоў (або шэсць — завочна) працягваецца навучанне ў акадэміі музыкі. За два наступныя гады можна пры жаданні скончыць аспірантуру (асістэнтуру-стажыроўку) пад кіраўніцтвам прафесара. Бывае, што ў кампазіцыю музыкант прыходзіць не адразу, а пасля таго, як атрымае вышэйшую адукацыю па выканальніцкай спецыяльнасці і надумае зноў паступіць у акадэмію...

Неверагодна, але ўсю гэтую «арыфметыку» не давялося зведаць на сабе Яўгену Глебаву, які набыў спецыяльнасць кампазітара ўтрая хутчэй за прыняты мінімальны тэрмін. Ён прайшоў поўны курс музычнай адукацыі за 6 гадоў! Вучыцца пачынаў «з нуля», не ведаючы асноў нотнага пісьма, ва ўзросце



*Максім Танк, Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Яўген Глебаў, Васіль Быкаў.*

21 года. Экстэрнам здаваў іспыты. Хутка дагнаў маладзейшых і падрыхтаваных. І яшчэ да заканчэння Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (цяпер яна завецца акадэміяй музыкі) выйшаў у лідэры: за яркія творчыя дасягненні яго прынялі ў Саюз кампазітараў. «Гэтым я абавязаны не толькі сабе. Калі б жыццёвыя акалічнасці склаліся інакш, я наогул не атрымаў бы музычную адукацыю і ніколі не стаў бы кампазітарам...» — так аднойчы Яўген Аляксандравіч пракаменціраваў феномен сваёй адукацыі.

Напэўна, яе глыбінныя асновы закладваліся ў сям'і. Нарадзіўся (1929) і гадаваўся Яўген Глебаў на Смаленшчыне, у правінцыйным Рослаўлі, у рабочым асяроддзі. Але ў доме падтрымлівалася цудоўная традыцыя: бацькі, бліжэйшыя родзічы і суседзі часта збіраліся на своеасаблівыя музычныя вечарыны. Гучалі баян, балалайка, гітара, спевы. Ён сядзеў побач, слухаў. А гадоў з чатырох пачаў далучацца да старэйшых: спачатку проста падпяваў, потым дазволілі дакрануцца да інструментаў. Ноты ніхто з родзічаў не ведаў, вучылі, паказваючы «на пальцах».

Тым часам у горад прыйшло радыё, і побач з фальклорнымі матывамі, гарадскімі рамансамі, вулічнымі куплетамі ў доме загучалі савецкія песні. Моладзь падхоплівала іх. Творчасць Дунаеўскага, Салаўёва-Сядога, Блантэра фарміравала музычныя густы. Глебаву падабалася паўтараць пачутыя ўпершыню мелодыі, падбіраць іх па слыху на баяне ці на гітары. Рабіў ён гэта з лёгкасцю, і, магчыма, таму ўрэшце захацелася ўскладніць задачу: паспрабаваць прыдумаць нешта сваё. Нараджаліся немудрагелістыя напевы кшталту тых, што гучалі навокал, «творца» падыгрываў сабе на гітары. Думаў, што і ў дарослым жыцці будзе неяк звязаны з музыкай, а вось кім стане — зусім не задумваўся. І мара стаць лётчыкам або пажарным не назаляла.

У 1937-м, калі ён пайшоў у агульнаадукацыйную школу, у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі адбыўся першы выпуск. Сярод выпускнікоў — Анатоль Багатыроў: праз 13 гадоў ён будзе настаўнікам Яўгена Глебава, якога з часам, выхаваўшы ўжо некалькі кампазітарскіх пакаленняў, назаве сваім лепшым вучнем. Але праміне яшчэ шмат гадоў, у тым ліку і трагічных ваенных, пакуль адбудзецца іх сустрэча...

Сям'я, вярнуўшыся ў Рослаўль з эвакуацыі, жыла бедна. Родзічы былі супраць таго, каб таленавіты самародак сур'ёзна заняўся музыкай. Пад іх

уплывам Яўген Глебаў паступіў у Рослаўльскі тэхнікум чыгуначнага транспарту. Скончыўшы яго, малады спецыяліст папрасіў накіраванне на працу ў Магілёў. Вядома ж, невыпадкова: там было музычнае вучылішча, хацелася наладзіць знаёмства з хлопцамі, якія набывалі такую, здавалася, недасяжную творчую прафесію. Адзін з новых прыяцеляў паслухаў музыканта-самавука, сёе-тое запісаў нотамі, і з гэтым сшыткам Глебаў падаўся ў Маскву. Імя спадара, якога ён сустрэў у тамтэйшым Саюзе кампазітараў, даўно забытае. Гэта быў шарачковы музыкант і, напэўна, нячулы і недальнабачны чалавек. Шчырае памкненне даравітай натуры ён прыняў за надакучлівасць звычайнага меламана-невука, таму і разбірацца не стаў. Не падтрымаў ані словам, здзекліва кінуў: «Дерзайте!». Быў 1948 год.

Няўдача прыгнятала датклівага хлопца, як, зрэшты, і праца на чыгуначнай станцыі. Ён замкнуўся ў сабе. Але ў лёс умяшаўся Яго Вялікасць Выпадак! У Магілёўскае музычнае вучылішча прыехаў прымаць выпускныя экзамены выдатны артыст і педагог, легендарны Іосіф Жыновіч. Студэнты расказалі яму пра Глебава, пазнаёмілі. Адбылося імправізаванае праслухоўванне. У наіўных п'есах Жыновіч убачыў зерне вялікага таленту, «прысуд» вынес адразу: «Абавязкова вучыцца!». Але як? 21 год — узрост не школьны. Іосіф Жыновіч і Анатоль Багатыроў пасадзейнічалі, каб, зважаючы на выключны выпадак, Глебава залічылі студэнтам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Пачаўшы з азоў, малады кампазітар ужо ў 1951 годзе завяршыў буйны твор — Фантазію для фартэпіяна і сімфанічнага аркестра. А яго цыкл п'ес «Фантастычныя танцы», таксама студэнцкая работа, з часам зрабіўся хрэстаматыйным узорам камернай фартэпіяннай музыкі...

Перад таленавітым выпускніком кансерваторыі адкрывалася нямала перспектыў. Але менавіта для Глебава самай прывабнай была праца з жывым аркестрам. Выкладанне ў Мінскім музычным вучылішчы імя Міхаіла Глінкі ён вырашыў спалучаць з працай кіраўніка аркестра маладога калектыву — Рэспубліканскага тэатра юнага гледача, які адкрыўся акурат у 1956-м. Дзевяць гадоў так працаваў. Затым нейкі час дырыжыраваў эстрадна-сімфанічным аркестрам Белтэлерадыё. Вось адкуль такое дасканалае майстэрства аркестроўкі (кожны інструмент, нібы персанаж адмысловай імпрэзы), вось адкуль «зрокавая» тэатральнасць глебаўскіх вобразаў! Яўген Аляксандравіч называў працу з аркестравымі калектывамі самай лепшай прафесійнай школай: «Адна справа завучваць дыяпазоны гучання інструмента, штудзіруючы тэарэтычныя дапаможнікі, і зусім іншая — правяраць выразныя магчымасці гэтага інструмента на практыцы. Гэтага не замяніць ні мэтанакіраванае праслухоўванне класікі, ні падрабязны разбор бліскуча напісаных партытур».

На занятках са студэнтамі ў класе кампазіцыі прафесар Глебаў таксама гаварыў пра гэта. І наогул, шчыра дзяліўся ўласным досведам, імкнуўся перадаць максімум таго, што ведаў сам. А ў хвіліны адпачынку ўспамінаў сваё колішняе захапленне Моцартам, Чайкоўскім, Стравінскім, Элінгтанам, Пендэрэцкім, разважаў пра серыйную, канкрэтную, электронную ды іншыя «музыкі». І аднойчы зрабіў выснову: «Мастак не павінен ствараць сабе куміра або бяздумна пакланяцца якому-небудзь творчаму напрамку. Ведаючы, выкарыстоўваючы, спалучаючы прыёмы самых розных школ, плыняў у якасці формы, абалонкі для музычнай думкі, трэба ў самой думцы заставацца сабой. Таму я не разбіраю са студэнтамі чужыя творы, а кажу: больш вывучайце, слухайце ўласную музыку. Вучыцеся ў саміх сябе, на сваіх памылках — інакш лёгка трапіць пад уплыў і праз перайманне дайсці да плагіяту». Мабыць, таму ў яго такія адметныя, розныя і самастойныя вучні: незабыўныя Віктар Помазаў, Уладзімір Дамарацкі; сучасныя кампазітары Вячаслаў Кузняцоў, Леанід Захлеўны, Васіль Раінчык, Уладзімір Кандрусевіч, Алег Залётнеў, Алесь Рашчынскі, Уладзімір

Карызна-малодшы, Сяргей Бельцюкоў, Дзмітрый Далгалёў, Марына Марозава, Ядвіга Паплаўская... Зразумела, сын, Радзіён Глебаў, таксама сярод вучняў Майстра, хаця Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі ён заканчваў па класе кампазіцыі ў прафесара Анатоля Багатырова.

Яго музыка, народжаная ўжо ў мінулым, дваццатым стагоддзі, па-ранейшаму з намі. Яна — сучасная, хаця, мабыць, знаходзіцца ў бесперапынным пошуку ідэальнага **свайго** часу. Зрэшты, у такім стане няўстойлівай раўнавагі знаходзіцца ўсялякая класіка — можа, таму яна застаецца жывой і вечнай... І, можа, таму ні гаварыць, ні думаць пра Яўгена Аляксандравіча Глебава ў мінулым часе зусім не хочацца.

І, здаецца, няма сэнсу пералічваць творы, напісаныя ім: гэта даўно, яшчэ пры яго зямным жыцці, зрабілі складальнікі даведачнай, вучэбнай літаратуры, энцыклапедычных выданняў. Між іншым, такі звычайны пералік падкажа, што Глебаў любіў і ведаў літаратуру, не раўнуючы, усіх часоў і народаў. Ад гэтай любові — сюжэтная змястоўнасць і вобразная глыбіня яго твораў. Опера «Майстар і Маргарыта», балеты «Мара», «Выбранніца» (ганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі), «Альпійская балада», «Ціль Уленшпігель», «Маленькі прынц», «Курган», шэсць рознахарактарных сімфоній, аркестравыя сюіты, народна-інструментальныя, вакальна-аркестравыя, камерныя, эстрадныя інструментальныя творы, россыпы нацыянальна адметнай музыкі для тэатра, кіно, радыёпастановак, а яшчэ песні... Не, гэта далёка, далёка не ўсё. Вось толькі вельмі ўжо сціплае месца адводзіцца ў сённяшнім канцэртным жыцці акадэмічнаму айчыннаму мастацтву. А як любіў гаварыць у пэўных выпадках іранічны Яўген Аляксандравіч, «сціпласць — самы кароткі шлях у невядомасць».

Ён пакінуў зямны свет у студзені 2000 года. На сутоку часоў: стагоддзяў, тысячагоддзяў. Ён пакінуў зямному свету сваё імя, неадлучнае ад музыкі — жывой музыкі, якая не пакінула нас і на пачатку новай гістарычнай эпохі.

Яго лірычнасць, добры, ненадакучлівы гумар і здзеклівая іронія; яго калючая дасціпнасць і пяшчотная датклівасць; яго радасць, задуменне і драматычныя перажыванні; яго жывы, іскрысты розум; яго супярэчлівы, «нязручны» і «непрыручаны» геній... Майстар і Воланд, Гусляр і Машэка, Ціль і Маленькі прынц, Дастаеўскі, Стравінскі (бадай, усё ж такі кумір у прафесіі), Купала, Быкаў, Караткевіч, — вось яго музыка і вось ён сам. Усё, усё знойдзеш у гэтай музыцы, якая не пакіне зямны свет, пакуль будзе гучаць. А гучаць яна будзе, бо, насуперак іншым часавым (хай бы часовым!) прыярытэтам, яе слухаюць, яе любяць. Тут, у нас — і ў нашым часе.

***Фота Аляксандра Дзмітрыева.***





**Уладзімір ГУСАКОЎ,**

**намеснік Старшыні Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, акадэмік**

# СІСТЭМА МЕР УСТОЙЛІВАГА СТРАТЭГІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АГРАПРАМЫСЛОВАГА КОМПЛЕКСУ

Аграпрамысловы комплекс Беларусі ўступіў ва ўстойлівую стадыю эканамічнага пад'ёму і рыначнай стабілізацыі. Спад вытворчасці, зацягнены крызіс і працяглая стагнацыя, характэрныя для беларускай сельскай гаспадаркі ў 90-х гадах мінулага стагоддзя, можна сказаць, з вялікімі намаганнямі пераадолены. Стратнасць прадпрыемстваў практычна ліквідавана, абазначыўся ўстойлівы рост аб'ёмаў вытворчасці і збыту прадукцыі, актывізаваліся працэсы тэхнічнага і тэхналагічнага пераабсталявання сельскай гаспадаркі, даволі хутка рэалізуецца ў межах Дзяржаўнай праграмы адраджэння і развіцця сяла комплекс мер па аднаўленні і развіцці сацыяльнай інфраструктуры. Усё гэта пацвярджае правамернасць аграрнай палітыкі і стратэгіі краіны, якія выпрацаваны і праводзяцца ў апошнія гады.

Тым не менш, на нашу думку, стадыя стабілізацыі аграпрамысловага комплексу толькі пачынаецца, і сельская гаспадарка ў цэлым яшчэ перажывае вельмі сур'ёзныя цяжкасці. Варта звярнуць увагу, што многія сельскагаспадарчыя прадпрыемствы выжываюць толькі дзякуючы масіраванай дзяржаўнай падтрымцы, якая, да прыкладу, у 2006 годзе ў сукупнасці дасягнула 3,5 трыльёна рублёў, або каля 30 працэнтаў сумарнага аб'ёму вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Да гэтага часу шмат гаспадарак так і не змаглі працаваць на прынцыпах самаакупнасці і самафінансавання.

Вядома, для передачы прадпрыемствам функцый самагаспадарання і самакіравання патрэбна адпаведная эканамічная база — пераход на навейшыя тэхналогіі, устойлівае нарошчванне аб'ёмаў збыту прадукцыі, скарачэнне ўдзельных выдаткаў, а для вядзення расшыранага ўзнаўлення — яшчэ і хуткі рост даходаў і прыбытку.

Гэтаму перашкаджаюць не толькі вынікі працяглага крызісу 1990-х гадоў, калі адбылося накапленне вялікай запазычанасці і неплацяжоў (для даведкі: даўгі прадпрыемстваў складаюць каля 3 трыльёнаў рублёў), але і новыя цяжкасці, звязаныя з умацаваннем рыначнай кан'юнктуры, ускладненнем умоў канкурэнцыі на ўнутраным і асабліва на знешніх рынках. У прыватнасці, сельская гаспадарка краіны напрамую стала адчуваць складанасць пераадолення неплацежаздольнасці і пагрозу свайму далейшаму развіццю, звязаныя з актывізацыяй працэсаў міжнароднага гандлю, лібералізацыяй рыначных адносін і будучай інтэграцыяй у Сусветную гандлёвую арганізацыю. Гэта выклікае неабходнасць выпрацоўкі і паскоранай рэалізацыі неардынарных мер, накіраваных на пад'ём, умацаванне

і стабілізацыю нацыянальнай эканомікі. Для запаволеных, паэтапных дзеянняў часу ўжо не засталося.

Як сведчыць грунтоўнае вывучэнне практычнага вопыту, асноўныя ўнутраныя і знешнія супярэчнасці на шляху паскоранага развіцця аграпрамысловага комплексу, якія ўяўляюць сабой і цяжкасці, і пагрозы, зводзяцца да наступнага.

Адна з праблем унутраных супярэчнасцей — гэта істотны недахоп уласных абаротных сродкаў прадпрыемстваў, які не дазваляе выйсці на нарматывы іх суадносін з асноўнымі сродкамі. Так, у цяперашні час у гаспадарках недастае больш чым на 50 працэнтаў абаротных фондаў, што, як вядома, з'яўляюцца першаснай крыніцай нарошчвання навастворанай вартасці і фарміравання прыбытку.

Выклікаюць занепакоенасць недастатковыя аб'ёмы атрыманай прадукцыі і прыбытку ў разліку на адзінку выкарыстаных рэсурсаў. Толькі невялікая група прадпрыемстваў забяспечвае выхад на навукова абгрунтаваны ўзровень вытворчасці (напрыклад, для расшыранага ўзнаўлення неабходна атрымаць на адзін бала-гектар сельскагаспадарчых угоддзяў не менш як 130—150 кілаграмаў збожжа, 20—25 кілаграмаў малака, 5—6 кілаграмаў мяса і больш за 25 тысяч рублёў прыбытку). Сельскія гаспадарчыя прадпрыемствы ў сярэднім па рэспубліцы забяспечваюць толькі каля паловы патрэбных паказчыкаў.

Назіраюцца завышаныя памеры затрат многіх відаў рэсурсаў на атрыманне адзінкі прадукцыі. Да прыкладу, затраты кармоў на вытворчасць цэнтнера жывёлагадоўчай прадукцыі ў рэспубліцы завышаныя больш чым у 1,5 раза. У некаторых гаспадарках яны нават перавышаюць аптымальныя нарматывы ў два-тры і больш разоў. Пры гэтым неадэкватнымі з'яўляюцца не толькі затраты працы і тэхнічных сродкаў, але і агульнагаспадарчыя і агульнавытворчыя выдаткі.

Як і раней, праблема павышэння якасці і біялагічнай каштоўнасці прадукцыі вырашаецца марудна. У апошні час многія гаспадаркі прынізілі патрабаванні да якасці прадукцыі, якая вырабляецца і пастаўляецца на рынак. Сёння страчана практыка ацэнкі і стымулявання падтрымкі і росту якасці (для даведкі: у дарэформенны перыяд дзейнічала спецыяльная сістэма кантролю якасці, якая ўключала ў сябе моцныя і стымулы, і санкцыі). Вядома, рынак патрабуе толькі высакаякаснай і высокакаштоўнай прадукцыі, якая можа забяспечваць канкурэнтаздольнасць. Іншая прадукцыя ва ўмовах рынку незапатрабаваная ці прыносіць страты, бо рэалізуецца, як правіла, па дэмпінгавых (стратных) цэнах.

Слаба разгортваецца тэхнічнае і тэхналагічнае пераабсталяванне вытворчых працэсаў. Дзеючыя тэхналогіі на многіх прадпрыемствах адсталыя, не ўкамплектаваныя сучаснай тэхнікай, а ў некаторых гаспадарках яны практычна не змяняліся на працягу апошніх пятнаццаці — дваццаці гадоў. Знос сельскагаспадарчай тэхнікі за гады рэформ дасягнуў 80 працэнтаў, а яе дэфіцыт ацэньваецца ў памеры каля 10 мільярдаў долараў ЗША. Патрэбна прызнаць, што тэхналогія вытворчасці прадукцыі эфектыўная толькі ў тым выпадку, калі ўвесь тэхналагічны працэс забяспечаны надзейнай, прадукцыйнай і якаснай тэхнікай.

Да ліку ўнутраных супярэчнасцей адносіцца і недастатковая забяспечанасць сельскагаспадарчых прадпрыемстваў кадрамі вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай кваліфікацыі. Так, у цяперашні час не хапае каля паловы спецыялістаў. Акрамя таго, дзеючыя кадры кіраўнікоў і спецыялістаў маюць даволі нязначны вопыт арганізацыі вытворчасці ў рыначных умовах і яшчэ меншы вопыт прадпрымальніцтва і камерцыйнай дзейнасці. Не сакрэт, што абагулены кваліфікацыйны патэнцыял сучасных кіруючых кадраў нашмат ніжэй нават таго ўзроўню, які быў у часы Савецкага Саюза. Па агульным прызнанні, кіруючы персанал у некаторых рэгіёнах настолькі слабы, што нават цяжка падабраць кіраўнікоў і спецыялістаў на адказныя пасады. Да таго ж назіраецца недапушчальна частая змена кадраў.

Практычна ва ўсіх гаспадарках прымяняецца састарэлая, даволі слабая сістэма матывацыі і стымулявання працы, асабліва вытворчай. Традыцыйна дзейнічаюць палажэнні па аплаце, якія грунтуюцца на жорсткім нармаванні працы і тарыфікацыі ставак па аплаце і даплатах. Такая сістэма пераважна накіравана не

на кампенсацыю затрат рабочай сілы ў залежнасці ад якасці і колькасці працы і не на стымуляванне росту эфектыўнасці працы і вытворчасці, а хутчэй на забеспячэнне мінімальна неабходных матэрыяльных сродкаў для падтрымання пэўнага ўзроўню працаздольнасці. Гаспадаркі, як і раней, прытрымліваюцца прынцыпу ўраўноўвання аплаты рознай па інтэнсіўнасці працы і не даюць магчымасці ажыццяўляць у залежнасці ад вынікаў вытворчасці дыферэнцыяцыю матэрыяльных стымулаў, якая патрабуецца пры рынку. Такім чынам, на практыцы дзеючыя методыкі аплаты традыцыйна накіраваны ў асноўным на задавальненне інтарэсаў наёмных работнікаў і абсалютна не прыдатныя для матывацыі прадпрымальніцкай дзейнасці, а тым больш для стымулявання комплексных намаганняў таваравытворцаў-уласнікаў. Пры гэтым прымяняльна да сістэмнай працы ўласнікаў і прадпрымальнікаў дзеючыя палажэнні па аплаце хутчэй дэстымулююць інтарэсы, чым стымулююць эфектыўнасць. Яны спараджаюць і падтрымліваюць не толькі ўраўнілаўку, але і ўтрыманства, інерцыйнасць і безадказнасць, бо арыентаваны на атрыманне матэрыяльных сродкаў без належнай іх аддачы і акупнасці.

Пры разглядзе знешніх праблем і пагроз (катэгорыя «знешнія» прымяняецца тут у адносінах да сельскагаспадарчага прадпрыемства) патрэбна перш за ўсё звярнуць увагу на незбалансаванасць міжгаліновага тавараабмену і неэквівалентнасць міжгаліновых вартасных прапорцый, недастатковасць заканадаўчай нарматыўна-прававой базы і яе пераважную накіраванасць на забеспячэнне ў большай ступені інтарэсаў дзяржавы, чым таваравытворцаў, ірацыянальнасць сістэмы дзяржаўнай падтрымкі аграпрамысловага комплексу, жорсткасць і неадэкватнасць механізмаў рыначнага рэгулявання сельскай гаспадаркі, слабую падрыхтаванасць айчынных аграпрамысловых прадпрыемстваў да канкурэнцыі з замежнымі пастаўшчыкамі, а таксама да ўступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю і інтэграцыі ў сусветную гаспадарку.

Што маецца на ўвазе пад незбалансаванасцю міжгаліновага тавараабмену і неэквівалентнасцю міжгаліновых вартасных прапорцый? Неабходна падкрэсліць, што ў апошнія пятнаццаць гадоў пры ўзаемапастаўках гэта пагроза не зводзіцца толькі да непарытэту дынамікі цэн на сельскагаспадарчыя і прамысловыя тавары. Магчыма, такі непарытэт існуе, але яго складана аб'ектыўна разлічыць, таму што змяніліся не толькі самі цэны і метадалагічныя асновы іх фарміравання, але і іншымі сталі па сваёй якасці і ўплыву на эфектыўнасць сельскагаспадарчай вытворчасці прамысловыя рэсурсы. Просты тэхнічны падлік неэквівалентнасці цэн і рознай дынамікі іх змяненняў паказвае, што, напрыклад, у выніку незбалансаванага росту цэн на сельскагаспадарчую тэхніку з плацежнымі магчымасцямі прадпрыемстваў і рэзкага змяншэння яе паставак і закупак сельская гаспадарка толькі за апошнія пятнаццаць гадоў страціла каля 20 мільярдаў долараў ЗША.

Такі тэхнічны падлік наўрад ці можна прызнаць поўнасцю адпаведным сапраўднасці. Патрэбна звярнуць увагу на тое, што сельскагаспадарчыя прадпрыемствы цяпер не маюць патрэбы ў аграмаднай колькасці тэхнічных сродкаў (нізкапрадукцыйных і маланадзейных), якія былі ў канцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Новыя тэхналогіі патрабуюць нашмат менш адзінак тэхнікі, але пры ўмове, каб гэтыя тэхнічныя сродкі былі высокапрадукцыйнымі, надзейнымі, рэсурсазберагальнымі і мелі павышаны рэсурс эксплуатацыйнай здольнасці. З гэтага становіцца зразумелым, што парытэт у міжгаліновых узаемапастаўках рэсурсаў і прадукцыі, які склаўся ў 90-х гадах мінулага стагоддзя, нельга прымаць за аснову і тым больш нельга яго абсалютызаваць.

У агульнатэарэтычным плане парытэт — гэта раўнавага. У рыначных умовах парытэт заўсёды дасягаецца ў выніку ўраўнаважвання (балансу) попыту і прапановы зыходзячы з кошту рэсурсаў (або цэн) і плацежаздольных магчымасцей спажыўцоў. Вядома, што ў апошнія пятнаццаць гадоў цэны на рэсурсы прамысловай вытворчасці раслі нашмат хутчэй, чым цэны на сельскагаспадарчыя тавары, у выніку гэтага закупка тэхнікі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі істотна зні-

жалася і з аграпрамысловага комплексу вымываліся вялікія капіталы. Гэтыя супярэчлівыя ўзаемасувязі ўсё роўна адбываліся па эканамічных законах раўнавагі прапановы і плацежаздольнага попыту, гэта значыць па прынцыпах рыначнага парытэту вартасці і яе кампенсацыі, іншымі словамі, па прынцыпах раўнавагі цэн і плацяжоў. Інакш быць не можа. Парытэт, як вынікае з яго грунтоўнага вывучэння, заўсёды быў і ёсць, але толькі пры розных узроўнях і розных прапорцыях кошту, цэн і плацяжоў, а таксама пры рознай унутранай колькаснай і якаснай структуры рэсурсаў. Іншая справа, ці з'яўляюцца для сельскай гаспадаркі спрыяльнымі пры тавараабмене гэтыя цэны, колькасныя і якасныя памеры рэсурсаў? Калі казаць шчыра, то для сельскіх таваравытворцаў яны крайне неспрыяльныя. У гэтым і заключаецца асноўны сэнс незбалансаванасці міжгаліновага тавараабмену і неэквівалентнасці міжгаліновых вартасных прапорцый, калі браць не наогул, а толькі зыходзячы з інтарэсаў і патрэбнасцей сельскай гаспадаркі.

Пры такой пастаноўцы праблемы сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, зразумела, павінны прэтэндаваць на спецыяльныя сродкі падтрымкі (перш за ўсё збоку дзяржавы) для забеспячэння неабходных тэндэнцый узнаўлення рэсурсаў, а таксама аб'ёмаў вытворчасці і продажу сельскагаспадарчай прадукцыі. Такім чынам, важнейшай задачай у галіне падтрымання парытэту (балансу) міжгаліновага тавараабмену з'яўляецца рэальны разлік (у колькасным і якасным разрэзе) усіх матэрыяльных і тэхнічных рэсурсаў прамысловай вытворчасці, неабходных сельскагаспадарчым прадпрыемствам у дынаміцы і прымяняльна да канкрэтных гаспадарчых перыядаў, а таксама іх вартасці (цаны) і крыніц плацежнага забеспячэння як за кошт уласных сродкаў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, так і за кошт бюджэтных і пазыковых сродкаў. Напрыклад, калі акажацца, што рост цэн на прамысловыя рэсурсы будзе выклікаць узмацненне дэфіцыту ўласных сродкаў прадпрыемстваў на кампенсаванне і абнаўленне рэсурсаў, то, безумоўна, патрэбна адэкватная бюджэтная падтрымка аграпрамысловага комплексу, а калі даходы гаспадарак дазволяць набываць рэсурсы за ўласныя сродкі, то бюджэтныя і іншыя крыніцы могуць нівеліравацца.

Наступная вялікая праблема з ліку знешніх рызык — недастатковасць заканадаўчай базы і яе пераважная накіраванасць на забеспячэнне інтарэсаў дзяржавы і ў меншай ступені таваравытворцаў. Праблема надзвычай важная. На першы погляд можа падацца, што нарматыўна-прававая база рэгулявання аграпрамысловага комплексу ў краіне з'яўляецца дастатковай. Але гэта толькі на першы погляд.

На самай справе дзеючая нарматыўна-прававая база практычна не прадугледжвае заканадаўчага рэгулявання эканамічных механізмаў забеспячэння ўстойлівасці развіцця аграпрамысловага комплексу. Напрыклад, няма заканадаўчых асноў стабільнай і доўгатэрміновай бюджэтнай падтрымкі аграпрамысловага комплексу (кожны год адбываецца ўсё спантанна), няма ўзаконеных прыярытэтаў для пастаяннага інвесціравання бюджэтных і цэнтралізаваных сродкаў, адсутнічае ўстойлівая прававая аснова прыярытэтнага выкарыстання дзяржаўных інвестыцый, перш за ўсё фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі, харчавання і аграрнай навукі, адсутнічае дастатковая база для ўстойлівага забеспячэння прызнаных у свеце прыярытэтаў — аграрнай навукі, урадлівасці зямель, селекцыі, племянной справы і інш. У выніку невядома, якой павінна быць доля аграпрамысловага комплексу пры штогадовым размеркаванні кансалідаванага дзяржаўнага бюджэту, якія ўмовы субсідзіравання і крэдытавання сельскай гаспадаркі і якія формы падаткаабкладання ў найбольшай ступені адпавядаюць сельскім таваравытворцам. Кожны раз гэта носіць верагодныя характар. Менавіта таму сельскія таваравытворцы не могуць дакладна выпрацаваць сваю доўгатэрміновую аграрную стратэгію і палітыку.

З гэтага, натуральна, вынікае яшчэ адна праблема, якая адносіцца да знешніх рызык, — праблема ірацыянальнасці сістэмы дзяржаўнай субсідыярнай (як бюджэтнай і цэнтралізаванай, так і крэдытнай і падатковай) падтрымкі аграпрамысловага комплексу. Прадухіленне сапраўдных рызык абумоўлівае неабход-

насць выпрацоўкі выразных прыярытэтаў і напрамкаў пераважнай дзяржаўнай падтрымкі аграпрамысловага комплексу, стабільных механізмаў прадастаўлення дзяржаўных субвенцый, вызначэння аптымальных памераў субсідый па мэтавых крытэрыях устойлівага, прыярытэтнага і апераджальнага развіцця аграпрамысловага комплексу, а таксама неабходнасць прымянення да ўсяго гэтага комплексу стабільных і доўгатэрміновых мер заканадаўчага характару. У спалучэнні з іншымі мерамі, безумоўна, гэта дазволіць пазбегнуць распылення і нямэтавага выкарыстання сродкаў бюджэтных і цэнтралізаваных крыніц, нізкай акупнасці і пераразмеркавання ў сферы стратнай і бесперспектыўнай вытворчасці.

Вялікай знешняй праблемай, якая ўяўляе немалую рызыку для сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, з'яўляецца жорсткасць і неадэкватнасць механізмаў рыначнага рэгулявання аграпрамысловага комплексу. Гэта праблема выклікае прынцыповыя пярэчанні. Так, у краіне ўзяты курс на фарміраванне развітых рыначных адносін. У гэтым плане шмат зроблена. Можна сказаць, асновы рыначнай эканомікі ў цэлым ужо створаны. Аднак іх фарміраванне суправаджаецца відавочнымі перакосамі. Напрыклад, макраэканамічныя ўмовы работы таваравытворцаў ужо з'яўляюцца дастаткова рыначнымі (крэдытна-грашовая палітыка, сістэма паставак рэсурсаў, патрабаванні да якасці і асартыменту прадукцыі, арыентацыя вытворчасці на спажывецкі попыт і інш.), а макраэканамічныя ўмовы арганізацыі вытворчасці яшчэ вельмі далёкія ад рыначных (адзяржаўленне кааператываў і акцыянерных таварыстваў, адсутнасць дастатковай эканамічнай самастойнасці таваравытворцаў, устанаўленне цвёрдых збытавых цэн на сельскагаспадарчую прадукцыю, захаванне лішніх рабочых месцаў, абавязковасць выплаты заработнай платы і інш.).

Пры гэтым макраэканамічныя ўмовы пастаянна робяцца ўсё больш і больш жорсткімі, а мікраэканамічныя застаюцца кансерватыўнымі і адсталымі. Тут, як бачна, заканадаўства таксама не ў поўнай меры рэагуе на запыты таваравытворцаў і рэгулюе іх адносіны. Асабліва сімптаматычна, што з дзеючага права практычна выпалі механізмы рэгулявання манапольных сфер дзейнасці як дзяржавы, так і таваравытворцаў і іх аб'яднанняў, а гэта нярэдка прыводзіць да манапалістычных праяўленняў і тэндэнцый. Да таго ж у краіне практычна не сфарміравана дзейснае антыманапольнае заканадаўства.

Патрэбна разгледзець яшчэ адну знешнюю праблему, якая ўяўляе немалую рызыку для айчынных таваравытворцаў не толькі ў цяперашні час, але і будзе ўяўляць у перспектыве, — гэта слабая падрыхтаванасць айчынных прадпрыемстваў да канкурэнцыі з замежнымі пастаўшчыкамі, да ўступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю і да інтэграцыі ў сусветную эканоміку. Гэта відавочны факт. Практыка пацвярджае, што ва ўмовах узмацнення рыначнай кан'юнктуры нацыянальная вытворчасць з цяжкасцю вытрымлівае канкурэнцыю на ўнутраным беларускім рынку, і то пры яе масіраванай дзяржаўнай падтрымцы і абароне эканамічнымі і неэканамічнымі мерамі. Што датычыцца заняцця і ўмацавання пазіцый на знешніх рынках, і асабліва на заходніх развітых рынках, то тут адсутнічаюць многія складаючыя гандлёва-збытавой інфраструктуры (гандлёваправодная сетка, доўгатэрміновыя кантракты, замежныя гандлёвыя прадстаўніцтвы, спецыяльныя цэнтры па знешнеэканамічным збыце і інш.).

Глыбокае вывучэнне праблемы прыводзіць да высновы, што без хуткай рыначнай рэарганізацыі ўсёй нацыянальнай сістэмы вытворчасці і збыту, без шырокага прадастаўлення сельскім таваравытворцам магчымасцей самагаспадарання і прадпрымальніцтва, без стварэння развітай тавараправоднай сеткі за мяжой немагчыма абараніць айчынную вытворчасць, у прыватнасці, пры актыўнай інтэграцыі краіны ў сусветную эканоміку і пры магчымым яе ўступленні ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Адразу давядзецца ў адпаведнасці з умовамі і правіламі Сусветнай гандлёвай арганізацыі істотна зменшыць дзяржаўную бюджэтную і цэнтралізаваную падтрымку, зняць або рэзка зменшыць многія мытныя пошліны і бар'еры, адкрыць доступ на ўнутраны рынак танных імпарт-

ных прадуктаў харчавання. Безумоўна, для многіх айчынных прадпрыемстваў, у якіх нізкія збытавыя магчымасці, гэта можа аказацца катастрофай.

Што ж патрэбна рабіць у неадкладным парадку? Зразумела, у адным артыкуле прывесці ўвесь комплекс мер немагчыма, таму мэтазгодна спыніцца толькі на важнейшых рашэннях, якія носяць комплексны характар і ўключаюць у сябе ўсе іншыя рашэнні.

Перш за ўсё неабходна ісці шляхам хуткага фарміравання інавацыйнай эканомікі, якая прадугледжвае стварэнне рознаварыянтных інтэграваных сістэм па тыпу «навука — адукацыя — распрацоўкі — укараненне — канкурэнтныя прадукты харчавання — прыбытак». Такім чынам, інавацыйная эканоміка — гэта скразная навукова-адукацыйная і вытворчая сістэма хуткага і комплекснага інавацыйнага развіцця. Яна прадугледжвае вялікія інвестыцыі ў прыярытэтныя галіны і сферы развіцця аграпрамысловага комплексу і віды вытворчасці, якія забяспечваюць прарыўныя і паскораныя напрамкі росту (гэтак званыя «апераджальныя пункты росту»), што ствараюць таваравытворцам відавочную перавагу ў паказчыках якасці, асартыментнай разнастайнасці, спажывецкай каштоўнасці, вартасці, канкурэнтнасці і кан'юнктуры збыту прадукцыі. У цяперашні час у аграпрамысловым комплексе ў агульным аб'ёме вытворчасці інавацыйная прадукцыя складае не больш чым 5 працэнтаў. На працягу бліжэйшых трох-чатырох гадоў інавацыйную выніковасць патрэбна падняць як мінімум да 30 працэнтаў. Зразумела, гэта запатрабуе адпаведных інвестыцый і капіталу, таму што ў першачарговым парадку варта ўкараняць найноўшыя і інавацыйныя тэхналогіі, абсталяваныя новымі надзейнымі сістэмамі высокапрадукцыйных машын.

Належыць ствараць усе ўмовы (эканамічныя, прававыя, арганізацыйныя) для хуткага фарміравання ў аграпрамысловым комплексе краіны разнастайных прадуктовых і вытворча-збытавых кааператыўна-інтэграцыйных структур ці своеасаблівых кластэраў, якія замыкаюць тэхналагічныя ланцугі: ад атрымання зыходнай сельскагаспадарчай сыравіны — да збыту гатовых і якасных прадуктаў харчавання праз рыначны спажывецкі попыт. Такія кластэрныя прадуктовыя кааператыўна-інтэграцыйныя структуры могуць і павінны быць розных арганізацыйна-прававых форм і памераў (па колькасці ўдзельнікаў і тыпах арганізацыі). Гэта могуць быць кааператывы, навукова-вытворчыя і аграпрамысловыя аб'яднанні, фінансава-прамысловыя групы, аграфірмы і агракамбінаты, карпарацыі, саюзы і аграпрамысловыя кампаніі. У іх склад могуць і павінны ўваходзіць не толькі сельскагаспадарчыя арганізацыі і перапрацоўчыя прадпрыемствы, але і навуковыя і фінансава-крэдытныя падраздзяленні, а таксама структуры па збыце і забеспячэнні. Яны могуць функцыянаваць як сумесныя, змешаныя і прыватныя кампаніі і карпарацыі з долевым, акцыянерным і манапольным капіталам, у тым ліку замежным, у якога ёсць неабходная свабода рыначнага руху (зліццё, паглынанне, пералівы, пераразмеркаванне і г. д.). Безумоўна, для іх утварэння найперш патрэбна дзейснае заканадаўства, якое стымулюе, а не рэгламентуе і абмяжоўвае.

Асабліва варта падкрэсліць, што толькі такія кластэрныя аб'яднанні, паводле вопыту многіх краін, здольныя арганізаваць эфектыўную вытворчасць на базе ўласных (заробленых) сродкаў, забяспечыць патрэбную канкурэнтнасць на ўнутраным рынку і хутка замацоўвацца на замежных. Яны, як правіла, аператыўна асвойваюць і захопліваюць рыначныя сегменты, вытрымліваюць жорсткія ўмовы рыначнай кан'юнктуры, фарміруюць уласныя інвестыцыі і фонды інавацыйнага развіцця, а таму могуць працаваць на прынцыпах самаакупнасці і самафінансавання. У апошні час гэтыя працэсы атрымалі ў свеце паскоранае развіццё. На жаль, у Беларусі яны знаходзяцца толькі ў зародкавым стане.

Таксама важна забяспечыць пераход на рыначныя эканамічныя механізмы арганізацыі, вядзення і — у неадкладным парадку — рэгулявання аграпрамысловай вытворчасці. Гэта значыць патрэбна як найхутчэй засвойваць правілы і прынцыпы Сусветнай гандлёвай арганізацыі і пераводзіць увесь аграпрамысловы

інфраструктурны комплекс краіны на ўмовы работы, якія дыктуюцца патрабаваннямі сусветнага і міжнароднага гандлю. Беларусь яшчэ не з'яўляецца членам Сусветнай гандлёвай арганізацыі, і таму гэта можна рабіць паэтапна і менш балюча. У выніку на момант уступлення ў гэту арганізацыю нацыянальныя таваравытворцы акажуцца своечасова адаптаванымі і не зведаюць даволі значных і незваротных негатыўных вынікаў ад інтэграцыі ў сістэму сусветнага гандлю. Патрэбна ўсведамляць, што ў любым выпадку краіна павінна будзе ўступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, і да гэтага належыць грунтоўна рыхтавацца.

Такая перспектыва выклікае патрэбу пераважнай пераструктурызацыі ўсёй практыкі дзяржаўнай бюджэтнай і цэнтралізаванай падтрымкі аграпрамысловага комплексу па методыцы гэтак званага «зялёнага кошыка» (замест «жоўтага кошыка», як гэта робіцца ў цяперашні час), перагляду сістэмы гандлёвых пошлін і тарыфаў, ахоўных нетарыфных мер убок іх лібералізацыі і большай адкрытасці для замежных пастаўшчыкоў, а таксама ўстанаўлення больш жорсткай сістэмы санітарных і фітасанітарных мер, строгай рэгламентацыі сферы перапрацоўкі прадукцыі, забеспячэння якасці гатовых прадуктаў харчавання і іх паставак на рынак паводле крытэрыяў спажывецкай каштоўнасці і бяспекі. Дарэчы, калі ў бліжэйшы час краіна зможа ў арганізацыі нацыянальнага аграпрамысловага комплексу мэтанакіравана перайсці на прынцыпы, правілы і ўмовы Сусветнай гандлёвай арганізацыі, то пасля ўступлення ў гэту арганізацыю нацыянальныя таваравытворцы не зведаюць разаральнага шоку, а будуць паспяхова канкурыраваць з замежнымі пастаўшчыкамі не толькі на ўнутраным беларускім рынку, але і ўпэўнена прасоўвацца на замежныя, надзейна замацоўвацца на іх. Зразумела, для некаторых стратных, нізкарэнтабельных і бесперспектыўных прадпрыемстваў гэта будзе азначаць рэарганізацыю. Ды ў гэтым і заключаецца сэнс рыначнай эканомікі — пераважныя магчымасці павінны быць у моцных і канкурэнтаздольных вытворцаў і пастаўшчыкоў.

Патрэбна нагадаць, што высокаканкурэнтнымі могуць быць толькі адаптыўная інтэнсіфікацыя, канцэнтрацыя і культура сельскай гаспадаркі на аснове поўнага і шырокага выкарыстання крытэрыяў рэгіянальнай і занальнай спецыялізацыі і аптымізацыі структуры і аб'ёмаў вытворчасці. Тут, як вядома, эфект росту прадукцыйнасці і эканоміі выдаткаў дасягаецца за кошт маштабу вытворчасці. У той жа час важна падкрэсліць, што інтэнсіфікацыя і канцэнтрацыя павінны адпавядаць крытэрыям аптымальнасці, бо не толькі слабаінтэнсіўная і нізкаканцэнтраваная, але і празмерна інтэнсіўная і канцэнтраваная вытворчасць выклікае істотнае перарасходаванне затраты рэсурсаў на адзінку атрыманай прадукцыі. Пры гэтым як у адным, так і ў другім выпадку (асабліва пры высокаінтэнсіўнай і канцэнтраванай вытворчасці) можа моцна зніжацца біялагічная і спажывецкая каштоўнасць прадукцыі (з прычыны рэшткавых з'яў уздзеяння фактараў інтэнсіфікацыі). Вось чаму, на нашу думку, інтэнсіфікацыя і канцэнтрацыя вытворчасці павінны быць адаптыўнымі, гэта значыць у найбольшай меры адпавядаць рэгіянальным асаблівасцям і ўлічваць патрабаванні спажывецкага попыту.

Разам з тым пры рэалізацыі прынцыпаў інтэнсіфікацыі і канцэнтрацыі важна захоўваць культуру вытворчасці, заснаваную на глыбокіх навуковых ведах. Гаворка аб гэтым не выпадковая. Вядома, што ў практыцы нярэдка можна назіраць спробы хуткай змены форм гаспадарчай дзейнасці, карэннай пераспецыялізацыі, адмовы ад традыцыйных відаў вытворчасці, прыўнясення новых незвычайных метадаў і прыёмаў, ломкі сістэмы арганізацыі і культуры, якая сфарміравалася на працягу немалога часу. Звычайна гэта адбываецца пры змене кіраўніцтва прадпрыемстваў або змяненні органаў кіравання. У выніку кіраўніцкая чахарда пераносіцца на вытворчасць і ў рэшце рэшт эканоміка нясе неапраўданыя выдаткі. Капітальныя будынкі, збудаванні, тэхніка застаюцца закінутымі. Становяцца нядзейснымі зробленыя некалі інвестыцыі. Страчваецца такім чынам традыцыйная ці гістарычная культура вытворчасці, дзейнічаюць пераймальныя

матывы, мясцовае прызнаецца неэфектыўным і запазычваецца чужое. Вытворчасць губляе ўстойлівую аснову, уключаецца ў пастаянны пошук прыцягальных навінак і, па сутнасці, перажывае патрасенні і пачынае дэградзіраваць. Калі гэтыя патрасенні становяцца частымі, то сістэма гаспадарання губляе гэтак званую стрыжнявую ўстойлівасць. Гаварыць пра гэта маюцца ўсе падставы. Такія з'явы ўжо не адзінкавыя, а набываюць распаўсюджаны характар. У выніку цяжка сказаць, дзе менавіта беларуская аграрная культура, якая ў максімальнай ступені выкарыстоўвае мясцовыя перавагі, а дзе наносныя элементы, якія выклікаюць павышаныя выдаткі.

Назіраюцца эклектыка і кампіляцыя, спалучэнне несупастаўляльнага, культываванне яўна стратнага і непатрэбнага. У якасці прыкладу дастаткова прывесці той факт, што на працягу апошніх дзесяцігоддзяў у рэспубліцы амаль беззваротна страчаны многія мясцовыя пароды жывёлы, сарты раслін, сістэмы земляробства, якія ў максімальнай ступені былі адаптаваныя да мясцовых умоў. Сельская гаспадарка ўцягнута ў пастаянны эксперымент, дзе дамінуючую ролю адыгрывае метад «спроб і памылак». Гэта ўказвае на тое, што пры любых спробах мадэрнізацыі важны грунтоўны навуковы аналіз. Перш за ўсё неабходна адраджэнне традыцыйнай беларускай сістэмы вядзення сельскай гаспадаркі, пабудаванай на адаптыўных метадах інтэнсіфікацыі і канцэнтрацыі, на крытэрыях і прыярытэтах навуковай аптымізацыі. Зразумела, гэта не выключае пошуку і выкарыстання найбольш эфектыўных форм і відаў вытворчасці, але пры безумоўнай іх адпаведнасці традыцыйным сістэмам гаспадарання, якія склаліся ў рэгіёне, занальным асаблівасцям і культуры грамадства. Не сакрэт, што культура вытворчасці, як і культура грамадства, фарміруецца не адразу, а гістарычна, працяглы час. Ад яе залежаць доўгатэрміновы імідж і непаўторнасць, а значыць інтарэс і попыт.

Акрамя таго, патрэбна распрацаваць і прыняць спецыяльную дзяржаўную праграму «Расшыранае ўзнаўленне ўрадлівасці сельскагаспадарчых зямель». Як вядома, урадлівасць — гэта каштоўнейшы нацыянальны рэсурс, на базе якога заснавана ўся эканоміка сельскай гаспадаркі. Без пераўвелічэння, урадлівасць беларускіх зямель з'яўляецца антрапагеннай, рукатворнай. На дзве трэці яна сфарміравана вытворчай дзейнасцю чалавека, і ў такіх жа суадносінах яна вызначае фарміраванне ўраджаю: адна трэць — за кошт натуральных, прыродных фактараў, а дзве трэці — за кошт штучных, інтэнсіўных фактараў. Аднак за апошнія пятнаццаць гадоў, калі дамінавалі крызісныя адносіны, рэзка парушыліся суадносіны фактараў падтрымання глебавай урадлівасці, а значыць і ўраджаю. Зменшылася ўнясенне арганічных угнаенняў і мінеральных удабрэнняў, знізілася прымяненне сродкаў аховы раслін. Земляробства стала грунтавацца на эксплуатацыі створанай за многія гады эканамічнай урадлівасці без неабходнага замяшчэння фактараў інтэнсіфікацыі ўраджаю. У выніку выразна сталі праяўляцца тэндэнцыі зніжэння натуральнай глебавай урадлівасці, у першую чаргу ўтрымання гумусу. У цяперашні час наяўнасць гумусу ўпала да крытычна небяспечных памераў. У цэлым па рэспубліцы — гэта крыху больш чым 2 працэнты, калі яшчэ два-тры дзесяцігоддзі назад яго было больш за 3 працэнты.

Зніжэнне натуральнай урадлівасці робіць вытворчасць няўстойлівай да неспрыяльных прыродных фактараў — засухі, пераўвільгатнення, эрозіі і г. д. Для кампенсацыі яно патрабуе большага ўнясення штучных фактараў фарміравання ўраджаю. Найперш — гэта мінеральныя ўдабрэнні. Але павышаныя дозы мінеральных удабрэнняў пры зніжэнні гумусу і пагаршэнні гранулametрычнага стану глеб яшчэ больш узмацняюць залежнасць ураджаю ад прыродных фактараў. У выніку сельская гаспадарка становіцца штучнай і безабароннай. Менавіта таму і патрэбны на дзяржаўным узроўні комплекс неадкладных мер, накіраваных не толькі на падтрыманне існуючай урадлівасці зямель, але і на яе аднаўленне і паслядоўнае расшыранае ўзнаўленне. Толькі такім чынам можна стабілізаваць земляробства і забяспечыць устойлівае нарошчванне ўраджаяў пры любых прыродна-кліматычных умовах.

Неабходна ісці шляхам кардынальнага змянення сістэмы матывацыі працы і стымулявання вытворчасці. З аналізу айчыннай і замежнай практыкі арганізацыі эфектыўнасці сельскай гаспадаркі вынікае, што першаснымі фактарамі дынамічнага развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці з'яўляюцца эканамічны інтарэс, матывацыя і стымул. Гэта азначае, што аграпрамысловыя прадпрыемствы і сельскагаспадарчыя таваравытворцы павінны быць арганічна зацікаўленымі ў эфектыўнасці вытворчасці і прадукцыйнай працы. Без пераўвелічэння, светам кіруюць эканамічныя інтарэсы. Такая зацікаўленасць павінна стаць унутраным або, інакш кажучы, неад'емным перакананнем таваравытворцаў, пацверджаным гарантыямі дзяржавы ў выглядзе эканамічных і прававых умоў. Без моцных асноў зацікаўленасці і надзейных гарантый яе забеспячэння бесперспектыўна разлічваць на рост прадукцыйнасці і эфектыўнасці. На жаль, такой зацікаўленасці і яе гарантаванасці дзеючыя аграпрамысловыя прадпрыемствы яшчэ не маюць.

Відаў і форм стымулявання мноства (аплата працы, даплаты, прэміі і інш.). Зразумела, не ўсе яны маюць аднолькавае значэнне. Пры рыначнай трансфармацыі эканомікі і ўзмацненні камерцыйных пачаткаў метады стымулявання змяняюць свае функцыі і ролю. Напрыклад, цяпер роля асноўнай заработнай платы і прэміравання нашмат ніжэй, чым яна была ў дарэформенны перыяд (тады яна была асноўнай, а іншы раз і адзінай крыніцай даходу), асабліва ў групе сельскагаспадарчых прадпрыемстваў з нізкай прадукцыйнасцю і акупнасцю рэсурсаў. Аднак гэта нельга назваць упушчэннем. Гэта — усеагульная заканамернасць. Тое ж самае назіраецца ў замежнай сельскай гаспадарцы, заснаванай на прыватным прадпрымальніцтве, дзе дамінуюць не заработная плата, а даходы розных відаў.

Гісторыя развіцця сусветнай эканомікі пацвярджае, што самым моцным матыватарам эфектыўнасці, канкурэнтаздольнасці і прадпрымальнасці заўсёды была і застаецца ўласнасць. Дакладней, магчымасць назапашання ўласнасці ў розных яе мадыфікацыях: набыццё маёмасці, павелічэнне капіталу, атрыманне акцый і дывідэндаў, налічэнне працэнтаў, атрыманне і рост даходаў, укладанне капіталу ў справу ў мэтах яго далейшага ўзнаўлення, удзел у прыбытках прадпрыемства і г. д. Гэта цалкам можна вытлумачыць. Імкненне да ўласнасці і яе ўзнаўлення — прыроджаная якасць чалавека. І важна гэту якасць умела выкарыстоўваць для задавальнення як прыватных (таваравытворцаў, работнікаў), так і грамадскіх (дзяржавы) інтарэсаў, а не прыглушаць яе. У гэтым і заключаецца асноўны сэнс рацыянальнай палітыкі рэгулявання матывацыі і зацікаўленасці таваравытворцаў і прадпрыемстваў (дзеля таго, каб дасягнуць жаданых вытворчых вынікаў).

Менавіта таму ў апошні час асноўнай задачай для айчыннай сельскай гаспадаркі з'яўляецца ўзмацненне матывацыі і зацікаўленасці сельскіх таваравытворцаў праз назапашанне і рух уласнасці (маёмасці, капіталу, даходаў і г. д.) у цеснай сувязі з ростам вынікаў вытворчасці і збыту і, зразумела, са стварэннем дзейсных эканамічных і прававых механізмаў яе абароны і гарантый на недатыкальнасць (безумоўна, калі размова ідзе пра працоўную ўласнасць). А гэта, па логіцы, прадугледжвае змену цяперашняга ўласніка аграпрамысловых прадпрыемстваў. Так, замест малазацікаўленых кіраўнікоў, спецыялістаў і радавых работнікаў-выканаўцаў, якія ўтвараюць цяпер, па сутнасці, катэгорыю прадстаўнікоў абязлічанай наёмнай працы, павінны прыйсці зацікаўленыя, дзелавыя і ініцыятыўныя ўласнікі маёмасці і сродкаў вытворчасці гэтых прадпрыемстваў. Значыць, на месцы фармальна сфарміраваных па Грамадзянскім кодэксе ў апошнія гады акцыянерных таварыстваў і кааператываў усіх тыпаў (на базе былых калгасаў і саўгасаў) павінны быць утвораны ў сапраўдным сэнсе гэтага слова буйныя таварныя прыватнаўласніцкія і прыватнапрадпрымальніцкія прадпрыемствы, кіраванне якімі будзе ажыццяўляцца таваравытворцамі-ўласнікамі.

Нарэшце, апошняе. Неабходна карэнным чынам перагледзець сістэму падтрымкі аграрнай навукі. У кансалідаваным вылічэнні агульны памер фінансавання аграрнай навукі (маецца на ўвазе не толькі акадэмічная, але і вышэйшых

навучальных устаноў) з бюджэту і цэнтралізаваных крыніц па ўсіх відах праграм і напрамкаў даследаванняў складае каля 40 мільярдаў рублёў. У адносінах да валавога ўнутранага прадукту аграпрамысловага комплексу гэта менш як 0,3 працэнта, а ў адносінах да ўсяго аб'ёму сумарнай дзяржаўнай падтрымкі аграпрамысловага комплексу — каля аднаго працэнта. Зразумела, гэтага недапушчальна мала. Па шэрагу даных, фінансаванне навукі ў памеры менш аднаго працэнта ад валавога ўнутранага прадукту вядзе да яе відавочнай дэградацыі.

У рэспубліцы фактычны памер фінансавання аграрнай навукі ў тры разы меншы за мінімальна неабходны. Гэтым можна вытлумачыць многія праблемы айчыннай навукі, а адсюль і навукаёмістасці сельскай гаспадаркі: адставанне ад развітых краін у тэхніцы, тэхналогіях, сістэмах машын, прадукцыйнасці раслін і жывёлы; састарэнне навукова-тэхнічнай і машыннай базы; старэнне і скарачэнне кадравага патэнцыялу і інш.

Недафінансаванне айчыннай навукі вядзе да неканкурэнтнасці беларускіх распрацовак, а значыць — да масіраванага прытоку на ўнутраны рынак замежнай канкурэнтнай навукова-тэхнічнай прадукцыі. Значыць, уяўная эканомія на фінансаванні беларускай навукі выклікае ўскоснае субсідзіраванне замежнай навукі ў празмерным памеры.

Параўнальныя разлікі паказваюць, што на стварэнне раўнацэнных і нават пераўзыходзячых навуковых пробных вырабаў (узораў) айчынныя вучоныя затрачваюць, як правіла, у некалькі разоў менш сродкаў, чым патрабуецца для іх набыцця шляхам імпарту. Сапраўды справядлівы выраз — «калі не хочам фінансаваць працу сваіх вучоных, то будзем фінансаваць распрацоўкі замежных». Таму ключавое вырашэнне праблемы заключаецца ў інвестыцыях. На нашу думку, на першым этапе памеры фінансавання аграрнай навукі неабходна падвоіць, а ў далейшым давесці хоць бы да мэтазгоднага мінімуму — аднаго працэнта ад валавога ўнутранага прадукту па аграпрамысловым комплексе. Гэта дасць магчымасць паступова аднавіць і ўмацаваць навуковы патэнцыял, а разам з тым стварыць неабходныя ўмовы для росту канкурэнтаздольнасці айчынных навуковых распрацовак, а потым перайсці на паскоранае інавацыйнае развіццё аграпрамысловага комплексу. Таксама патрэбна прызнаць, што пры самых спрыяльных абставінах гэта адбудзецца не адразу, спатрэбіцца пэўны час. Вядома дзеянне кумулятыўнага эфекту, перш чым будзе атрыманы сінергічны эфект.

Такім чынам, зроблена спроба прадставіць комплекс кардынальных мер, неабходных для ўстойлівага і канкурэнтаздольнага развіцця сельскай гаспадаркі краіны ў бліжэйшай і аддаленай перспектыве. Кожнае з прадстаўленых рашэнняў складаецца з сукупнасці мер і мерапрыемстваў, патрэбных для яго паслядоўнай рэалізацыі. Прыведзеныя рашэнні з'яўляюцца сістэмнымі і інтэгральнымі. Яны ўяўляюць сабой асноўныя звенні, якія дазваляюць выцягнуць увесь ланцуг. Некаторыя рашэнні па пад'ёме аграпрамысловага комплексу змяшчаюцца ў Дзяржаўнай праграме адраджэння і развіцця сяла на 2005—2010 гады. Аднак праграма адраджэння мае часавыя абмежаванні і не закранае некаторых перспектыўных праблем макраэканамічнага і арганізацыйна-прававога характару. Ужо сёння навука павінна заглядваць далей і бачыць, што чакае айчынны аграпрамысловы комплекс за межамі 2010 года, і на гэтай аснове выпрацоўваць навукова абгрунтаваныя прагнозы і сцэнарыі развіцця, канкрэтныя рэкамендацыі і прапановы па павышэнні эфектыўнасці і канкурэнтаздольнасці нацыянальнага аграпрамысловага комплексу.

***Пераклад з рускай М. Міхайлава.***



Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ЗОРКА ІВАНА ШАЙКО

Доктар сельскагаспадарчых навук, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Беларускай аграрнай і Расійскай сельскагаспадарчай акадэмій Іван Паўлавіч Шайко — адзін з самых прызнаных аўтарытэтаў у нашай краіне (як, дарэчы, і за межамі Беларусі) у галіне жывёлагадоўлі. З'яўляецца аўтарам і кіраўніком шэрага праектаў па вывядзенні беларускай мясной пароды свіней, якая паспяхова прайшла апрабацыю і занесена ў Дзяржаўны рэестр навуковых аб'ектаў, што з'яўляюцца нацыянальным набыткам Рэспублікі Беларусь. Ён прымаў таксама ўдзел у вывядзенні чорна-пярэстага віда буйной рагатай жывёлы. Таму яму, як нікому іншаму, вядомы тыя праблемы, што ўзнікаюць у развіцці жывёлагадоўлі і, у прыватнасці, у селекцыйна-племяннай рабоце ў галіне свінагадоўлі на перыяд з 2005 — па 2010 гг. Галоўная мэта яе — далейшае ўдасканальванне парод, якія ўжо разводзяцца ў нашай краіне, шляхам мадэрнізавання і прагназіравання селекцыйнага прагрэсу з выкарыстаннем індэкснай ацэнкі жывёлы па ўласнай прадукцыйнасці, кныроў і матак — па якасці патомства метадам кантрольнага адкорму, укараненнем метадаў малекулярнай геннай дыягностыкі пры забеспячэнні паўнапраўным кармленнем у племянных і таварных гаспадарках усіх узроўняў і форм уласнасці.

Заўважыўшы, што нам з цяжкасцю ўдаецца ўнікнуць у сэнс сказанага, Шайко як бы вінавата апраўдваецца:

— Нічога не зробіш: без спецыяльнай тэрміналогіі ў нашай размове не абысціся. Як без лічбаў... — Ён ажыўляецца: — Ведаеце, што наконт іх сказаў Ёган Вольфганг Гётэ?.. «Лічбы не кіруюць светам, але дазваляюць лепш зразумець яго».

З Іванам Паўлавічам аднолькава цікава размаўляць і пра высокія сферы літаратуры, мастацтва, культуры ў цэлым. І гэта пры тым, што вышэйшую адукацыю яму давялося атрымліваць завочна.

Шайко ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі вучыўся так старанна, што чацвёрты і пяты курсы яе прайшоў за адзін 1970 год. У красавіку таго ж года яго прызначылі загадчыкам малочнатаварнай фермы калгаса «Шлях Ільіча» Ляхавіцкага раёна, а перад гэтым, пасля заканчэння сярэдняй школы, ён працаваў электраманцёрам у Баранавіцкім раёне. Праз год з нечым стаў галоўным заатэхнікам калгаса «Сцяг Саветаў» Клецкага раёна, яшчэ праз паўгода паступіў у вочную аспірантуру Беларускага навукова-даследчага інстытута жывёлагадоўлі. Калі ў акадэміі вучыўся на заатэхнічным факультэце, дык гэтым разам выбраў больш канкрэтную спецыяльнасць — развядзенне, селекцыя, генетыка і ўзнаўленне відаў сельскагаспадарчых жывёл.

Менавіта ў інстытуце ён паспеў па-сапраўднаму праявіць сябе не толькі ў вучобе, а і ў грамадскім жыцці. Ужо праз год Івану Паўлавічу даверылі ўзначаліць камсамольскую арганізацыю, якая на той час складалася са 120 чалавек. Сакратаром інстытуцкага камітэта камсамола ён быў да 1979 года. А як працаваў тады, відаць хоць бы па тым ужо, што вясной 1976 года па рашэнні ЦК ЛКСМБ у ліку лепшых маладзёжных важакоў рэспублікі паехаў у Маскву для фатаграфавання каля Сцяга Перамогі.

Акурат падчас навучання ў аспірантуры Шайко і заняўся сур'ёзна навукова-даследчыцкай работай, што дазволіла яму ў 1975 годзе паспяхова абараніць кан-



дыдацкую дысертацыю і быць залічаным на пасаду навуковага супрацоўніка ў аддзел развядзення сельскагаспадарчых жывёл. Працаваў самааддана, з улюбёнасцю ў сваю справу, таму за кароткі час дамогся значных поспехаў у закладцы і вывядзенні новых спецыялізаваных ліній у буйной белай пародзе свіней і беларускім мясным тыпе.

Гэта паўплывала на тое, што хутка быў заўважаны ў навуковых колах. І не толькі ў Беларусі. У маі 1978 года 30-гадовага вучонага перавялі на працу ў Ліпецкае аддзяленне Усерасійскага навукова-даследчага інстытута плямянной справы ў жывёлагадоўлі, дзе Шайко ўзначаліў лабараторыю па развядзенні свіней, буйной рагатай жывёлы і ўзнаўленні відаў сельскагаспадарчых жывёл.

На працягу дванаццаці гадоў ён прымаў актыўны ўдзел у кіраўніцтве і стварэнні некалькіх спецыялізаваных ліній і тыпаў свіней у буйной белай пародзе з падліваннем крыві англійскіх і шведскіх йоркшыраў, эстонскай белай і свіней з племзаводаў Маскоўскай вобласці. Гэта дазволіла распрацаваць і шырока ўкараніць у вытворчасць для Цэнтральна-чарназёмнай зоны РСФСР праграму плямянной справы і гібрыдызацыі ў свінагадоўлі, а сам Шайко па выніках яе ў красавіку 1986 года абараніў у Маскве доктарскую дысертацыю.

Праз чатыры гады ён вярнуўся на Беларусь і ўзначаліў лабараторыю вылічальна-аналітычных даследаванняў Інстытута жывёлагадоўлі, а потым стаў у гэтай установе намеснікам дырэктара па навуцы. Год папрацаваў намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення інтэнсіфікацыі жывёлагадоўлі і мяса-малочнай прамысловасці Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь. А ў 1996 годзе быў пераведзены на пасаду Генеральнага дырэктара навукова-вытворчага аб’яднання «Племэліта» і дырэктара Інстытута жывёлагадоўлі. На сённяшні дзень з’яўляецца першым намеснікам Генеральнага дырэктара па навуцы Навукова-практычнага цэнтра па жывёлагадоўлі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Згаданы інстытут стаў базавым, які поруч з Інстытутамі эксперыментальнай ветэрынарыі і рыбнай гаспадаркі, а таксама Беларускай занальнай станцыяй па птушкагадоўлі і вопытнай племяннной гаспадаркай «Зарэчча» ўваходзіць у гэты Навукова-практычны цэнтр.

А цяпер пра лічбы, якія дазваляюць лепш зразумець свет. У нашым выпадку — свет жывёлагадоўлі. Але спачатку не абысціся без невялікага экскурсу ў савецкія часы. І зусім не з-за настальгіі па іх, а каб успомніць, якога вялікага развіцця дасягнуў тады сельскагаспадарчы патэнцыял Беларусі і наколькі цесна яна была звязана з іншымі саюзнымі рэспублікамі. А таксама напомніць, як знішчэннне гэтых сувязей выклікала шматлікія праблемы, асобныя з якіх цалкам не ўдалося вырашыць яшчэ па сённяшні дзень. Маецца на ўвазе жывёлагадоўля.

— Да так званай перабудовы, — расказвае Іван Паўлавіч, — наша рэспубліка па вытворчасці мяса ўваходзіла ў лік пяці вядучых краін свету. Наперадзе былі толькі ЗША, Канада Францыя і Венгрыя. Па надоях жа малака на душу насельніцтва мы не змаглі абагнаць толькі Нідэрланды. У разліку на душу насельніцтва атрымлівалася 115 кілаграмаў мяса і 772 — малака. У іншыя рэгіёны Савецкага Саюза Беларусь вывозіла больш як два мільёны тон малака і каля 350 тысяч тон

мяса. Зразумела, каб атрымаць такую вялікую колькасць мяса-малочнай сельскагаспадарчай прадукцыі, патрабавалася агромністая колькасць кармоў. Адна беларуская галіна раслінаводства на той час зрабіць гэта была не ў стане. Таму з тых 7, 4 мільёна тон канцэнтратаў, што ішлі на падрыманне жывёлагадоўлі ў Беларусі, амаль палавіна завозілася з іншых рэгіёнаў Савецкага Саюза. З развалам магутнай краіны гэтыя цесныя эканамічныя ўзаемасувязі ў адно імгненне парушыліся, і наша рэспубліка апынулася сам-насам са сваімі праблемамі. Не ў апошнюю чаргу з тымі, што тычацца развіцця жывёлагадоўлі. Іх неабходна было вырашаць у самы кароткі тэрмін. І з многімі мы паспяхова справіліся. Як гэта ўдалося, можна шмат гаварыць, але...

Даводзіцца пагадзіцца з Іванам Паўлавічам, што і сапраўды памеры артыкула абмежаваныя, таму, дай Божа, не ўпусціць галоўнае. У дачыненні да жывёлагадоўлі гэта тычыцца рацыянальнага, высокакаларыйнага і якаснага кармлення жывёлы. Пра гэта Шайко, дарэчы, разважаў яшчэ ў 1999 годзе, адказваючы на пытанні карэспадэнта часопіса «Беларуская думка» Васіля Шырко ў сувязі з 50-годдзем Інстытута жывёлагадоўлі. З вуснаў Івана Паўлавіча тады прагучала: «Паверце, не фінансаванне рухае навуку, хоць і яно не на высокім узроўні. У параўнанні з замежнымі вучонымі мы атрымліваем грашы, аднак мы верым у заўтрашні дзень. Галоўная праблема — кармы, дакладней, іх адсутнасць. Невысокі ўзровень забяспечанасці жывёлы кармамі стрымлівае і работу селекцыянераў, і намаганні жывёлаводаў-практыкаў. Гэта аксіёма. Мы ўжо гаварылі сёння аб рацыянальным выкарыстанні кармоў. Але калі не хапае канцэнтратаў, прэміксаў, пастаянныя праблемы з фосфарам і мікрадабаўкамі, у вучоных апускаюцца рукі. Цяжка эксперыментаваць, няпроста дамагацца вынікаў...»

Апошнім часам, у параўнанні з тым перыядам, многае змянілася ў лепшы бок. Не ў апошнюю чаргу ў свінагадоўлі. Па словах Шайко, у Беларусі гэтая галіна высокаразвітая, яна забяспечвае харчовую бяспеку краіны і экспарт у бліжняе замежжа. З 2001 года намеціўся паступовы рост колькасці свіней. У грамадскім сектары іх пагалоўе склала амаль 2 млн. 600 тысяч. У структуры мяса свініна займае першае месца — каля 40 працэнтаў. Павелічэнне вытворчасці такога віду мяса ў грамадскім сектары адбылося ў асноўным за кошт павышэння сярэднесутачных прываг памеснага і гібрыднага маладняка.

Гэта — вынік не толькі значных тэмпаў генетычнага ўдасканалення зыходных парод, прымянення навейшых сістэм іх вытворчасці, а і шырокага выкарыстання сучасных метадаў пародна-лінейнай гібрыдызацыі. Больш як 80 працэнтаў свініны даюць жывёлагадоўчыя комплексы, якіх у краіне 105. Эфектыўнасць іх у параўнанні са звычайнымі фермамі вышэй у 2—2,5 раза. Існуючыя магутнасці разлічаны на вытворчасць 310 тысяч тон свініны ў год, але фактычна яе атрымліваецца каля 80 працэнтаў ад магчымага ўзроўню. З гэтым больш мірыцца нельга, бо да 2010 года валавая вытворчасць свініны павінна вырасці да 330—340 тысяч тон. Дый гэта, вядома, не мяжа. Вялікія перспектывы і ў іншых галінах жывёлагадоўлі.

— Генетычны патэнцыял кароў чорна-пярэстай пароды, — дзеліцца сваімі развагамі Іван Паўлавіч, — па малочнай прадуктцыйнасці складае 8—8,5 тыс. кг малака за лактацыю, а сярэднесутачны прырост малака на адкорме — 1200—1300 г, мясных гібрыдаў свіней — 800—850 г. Рэалізацыя яго нават на 80—85 працэнтаў пры існуючым пагалоўі дазваляе атрымліваць у год 7,5 млн. тон малака, 550—580 тысяч тон ялавічыны і 420 свініны. На жаль, генетычныя магчымасці ў нас рэалізуюцца толькі напалову. Перашкаджае гэтаму недастатковае забеспячэнне жывёлы паўнацэннымі кармамі. Пакуль яшчэ не створана сістэма па нарыхтоўцы высокаякасных траў. Па-ранейшаму далёка не заўсёды належным чынам збалансаваны рацыёны па бялках, цукры, мінеральных рэчывах і вітамінах.

Прычыну таго, што жывёлагадоўля нясе вялікія выдаткі, Шайко бачыць у тым, што яшчэ недасканалая структура кармавых угоддзяў. У першую чаргу

гэта тычыцца шматгадовых траў на раллі і сенакосна-пашавых землях. Мала вырошчваецца бабовых культур. Кепска і тое, што значныя плошчы адведзены пад дзікарастучыя злакавыя травы, а яны патрабуюць пераразалужэння і вялікай колькасці азотных угнаненняў. Куды рацыянальней вырошчваць бабовыя і бабова-злакавыя сумесі, што з'яўляюцца крыніцай самага таннага кармавога бялку, а да ўсяго сама глеба, дзякуючы якім, яна ўзбагачаецца азотам. На жаль, такія сумесі займаюць меней за трэць плошчаў.

Вядучы навукоўца-жывёлавод краіны перакананы, што патрабуецца новая стратэгія вядзення земляробства, галоўным накірункам якой павінна стаць вытворчасць высакаякасных кармоў у неабходных аб'ёмах, якія б маглі забяспечыць эканамічна эфектыўнае развіццё жывёлагадоўлі. Важкія вынікі дае кармленне на аснове балансіравання рацыёнаў тымі элементамі, якіх недастаткова. Аднак бяда ў тым, што апошнім часам камбікормавыя заводы скарацілі аб'ёмы і знізілі якасць прадуцыі. Больш як 2 млн. тон зерня скормліваецца ў выглядзе прасцейшых кармавых сумесяў без абагачэння бялковымі, мінеральнымі і вітаміннымі дабаўкамі. Не стае высокабялковых кармоў, а ў наяўнасці дарагавізна кармоў прамысловай выпрацоўкі ў спалучэнні з іх невысокім прадукцыйным дзеяннем. Выйсце неабходна шукаць як мага хутчэй, бо нарошчванне тэмпаў развіцця грамадскай жывёлагадоўлі прывядзе да таго, што ў 2010 годзе спатрэбіцца 7, 4 млн. тон камбікармоў. Каб вырабіць іх, неабходна 5, 4 млн. тон зерня злакавых, 800 тысяч тон бабовых, 350 тысяч тон рапсавага шроту.

Атрымліваецца, што кармы сапраўды — аснова асноў. Але пры ўсёй важнасці іх, нельга забываць, што яны толькі адна з састаўных на шляху паспяховага вядзення інтэнсіўнай жывёлагадоўлі ў цэлым і, у прыватнасці, свінагадоўлі.

— Наспела неабходнасць, — працягвае Шайко, — значнай карэкціроўкі да 2010 года існуючай сістэмы вырошчвання жывёлы, правядзення структурных змяненняў у галіне. Вопыт развітых сельскагаспадарчых краін свету сведчыць, што для якаснага павышэння эфектыўнасці работы нашых спецыялізаваных прадпрыемстваў неабходна істотна пераўтварыць структуру вядзення селекцыйна-племяннoй работы ў жывёлагадоўлі, мадэрнізаваць кормавытворчасць, змяніць падыходы ў забеспячэнні ветэрынарнага становішча гаспадарак, шырока ўкараняць прагрэсіўныя тэхналогіі ўтрымання жывёлы. Асаблівае значэнне набывае будаўніцтва племянных заводаў. Менавіта на іх павінна ажыццяўляцца стварэнне новых ліній і тыпаў, праводзіцца паглыбленая селекцыйная работа па ўдасканальванні тых планавых парод, якія разводзяцца, павышэнні і накапленні генетычнага патэнцыялу, падтрыманні неабходнай генеалагічнай структуры, забеспячэнні станцый штучнага асемянення чыстапародным маладняком, селекцыйна-гібрыдных цэнтраў, племрэпрадуктараў і свінагадоўчых комплексаў.

У бліжэйшай перспектыве Іван Паўлавіч бачыць узвядзенне ў кожнай вобласці па адной станцыі штучнага асемянення на 100—200 кныроў, што дазволіць апладатварыць да 147 тысяч свінаматак. Цяперашні падыход да селекцыйнай работы вымагае тэрміновага будаўніцтва дзяржаўнай станцыі па выпрабаванні новых генатыпаў. На думку Шайко, мэтазгодна стварыць самастойны аддзел свінагадоўлі пры Галоўным інфармацыйна-селекцыйным цэнтры, што дазволіць паскорыць навукова-тэхнічны прагрэс па інфарматызацыі селекцыйна-племяннoй работы, інтэнсіфікацыю працы спецыялістаў племяннoй службы. Для падобных мэтаў спатрэбяцца комплексныя АСУ: племгаспадарка — раён — вобласць — рэспубліканскі ўзровень.

— Слухаеш вас, Іван Паўлавіч, і адчуваеш, што і самі вы сярод іншых прадуктаў жывёлагадоўлі аддаяце перавагу менавіта свініне.

— А хто яе не любіць? Яна ж вельмі смачная: і адбіўныя, і паляндвіца, і каўбасы, і сальцісон. Хіба ўсё пералічыш!

У гаворцы з Шайко мы не змаглі абысці і яшчэ адзін вельмі важны момант:

— У друку часта можна прачытаць, што перспектыва паспяховага і з большай аддачай вядзення жывёлагадоўлі зусім не за буйнымі вытворцамі. Праўда,

цяпер усё ж стала меней жадаючых бачыць панацэю толькі ў далейшым развіцці фермерства, што назіралася гадоў пятнаццаць назад, тым не менш падобных ахвотнікаў вучыць іншых, як неабходна гаспадарыць, стае...

— Аналіз айчыннага і сусветнага вопыту паказвае, што магістральны накірунак у вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі будзе за буйнымі комплексна-механізаванымі і аўтаматызаванымі фермамі. Толькі там ёсць усе ўмовы для рэалізацыі новых эфектыўных тэхналогій, і, што вельмі важна, там могуць быць створаны найбольш спрыяльныя ўмовы і для саміх работнікаў. Наша краіна з'яўлялася першапраходцам у будаўніцтве ферм з высокай канцэнтрацыяй жывёлы. Менавіта ў нас былі распрацаваны і рэалізаваны тэхналогіі буйнамаштабнай вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі. Гэты бясцэнны вопыт з поспехам выкарыстоўваецца ва ўсім свеце. У ЗША — краіне класічнага фермерскага гаспадарання — цяпер на буйных спецыялізаваных фермах атрымліваеццаа 78 працэнтаў мяса птушкі, адкормліваецца 62 працэнты буйной рагатай жывёлы і 44 — свіней. Дастаткова сказаць, што 8 працэнтаў буйных ферм (ад агульнай колькасці фермерскіх гаспадарак) даюць 73 працэнты прадукцыі сельскай гаспадаркі. Працэсы канцэнтрацыі працягваюцца не толькі ў ЗША, а і ў Заходняй Еўропе. Праўда, буйныя жывёлагадоўчыя комплексы пакуль яшчэ недастаткова бяспечныя для навакольнага асяроддзя. Ды альтэрнатывы ім, як кажуць, няма. Іншая справа, што пры праектаванні новых комплексаў неабходна прымаць пад увагу экалагічны аспект. Дарэчы, інстытуты жывёлагадоўлі, земляробства і селекцыі, меліярацыі і лугаводства, механізацыі сельскай гаспадаркі, аграхіміі і глебазнаўства, эканомікі АПК і іншыя прыступілі да стварэння комплекснай праграмы, што будзе працаваць у рэжыме аднаго ланцуга: глеба — расліны — жывёла — прадукты харчавання — здаровы чалавек.

Належачы да тых выдатных вучоных, якія ўмела спалучаюць тэорыю з практыкай, Шайко надзіва шмат робіць для таго, каб смелыя задумы хутчэй станавіліся рэальнасцю. Ён не толькі сам плённа працуе, а і з'яўляецца кіраўніком 15 праектаў і заданняў, чатыры з якіх распрацоўваюцца сумесна з інстытутамі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а таксама даследчыцкімі ўстановамі Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі. З 1997 года як акадэмік-сакратар аддзялення жывёлагадоўлі і ветэрынарнай медыцыны Акадэміі аграрных навук курыруе навуковую дзейнасць трох вядучых інстытутаў і шасці дзяржаўных рэспубліканскіх, абласных і спецыялізаваных доследных станцый. У полі ягонага пастаяннага зроку знаходзіцца работа, што праводзіцца ў базавых племянных гаспадарках. А яшчэ Іван Паўлавіч нястомна клапоціцца, каб шырылася кола тых, хто ў жывёлагадоўлі, як і ён сам, бачыць сваё прызванне. Ім падрыхтавана восем дактароў і 38 кандыдатаў навук. Свайго роду падручнікамі на кожны дзень для спецыялістаў сталі ягоныя шматлікія навуковыя кнігі і публікацыі ў друку. Тэхналогіі, распрацаваныя Шайко, выкананы на ўзроўні вынаходніцтваў. Аўтарскімі пасведчанямі абаронены 18 яго распрацовак.

Чалавек ад зямлі, ён назаўсёды зрадніўся з ёю, як тое магутнае дрэва, што не толькі жывіцца сокамі яе, а і само шчодра адорвае наваколле і сваёй прыгажосцю, і жыватворным кіслародам. Гэтаксама, дзякуючы свайму таленту, Іван Паўлавіч куды больш аддае і зямлі, і людзям, чым бярэ ад іх. І пастаянна знаходзіцца сярод іх. Ягоная душа спявае, а сэрца весніцца, калі наведваецца на зямлю свайго маленства.

Адразу ахінае радасць, бо прыемна прайсціся сцяжынамі, якімі некалі бегаў басаногім хлапчуком ці крочыў юнаком, спяшаючыся на заняткі ў школу.

На жаль, бацькоў ужо няма ў жывых. Пры ўспаміне аб іх вочы Івана Паўлавіча засцілае здрадлівая павалока і душы ўжо не спяваць хочацца, а плакаць. Сэрца ж пачынае здрадліва ўздрыгваць, парушаючы свой звыклы рытм. Так заўсёды бывае падчас наведвання могілак, дзе спачываюць сваім вечным сном самыя дарагія яму людзі. І зусім іншае перажывае, калі прагульваецца паркам свайго маленства і юнацтва.

Здаецца, час непадуладны над невялікім астраўком, які размясціўся пасярод адной з сажалак. Яго па-ранейшаму ў тамашніх мясцінах называюць вострава́м кахання. І няхай ужо не столькі ахвочых цёплай летняй ноччу трапіць туды, ды ўсё адно ён гэткі ж прыцягальны для сённяшняй моладзі, як і для той часіны ў жыцці Шайко, калі не столькі кахалася, колькі марылася аб светлым, узвышаным каханні. Яно ў чымсьці было мройным, далёкім ад рэальнасці, але ад гэтай загадкавасці, таямнічасці станавілася яшчэ больш прывабным. Калі пачуцці настолькі бралі ў свой палон, што не мог заснуць, падымаўся з ложка і сваё самае запаветнае давяраў паперы:

Подари мне хоть вечер, хоть час,  
Подари, я прошу — подари!  
Пусть укроют лишь сумерки нас.  
Соловьи пусть поют до зари.

Пусть вокруг никого, никого,  
Только наши сердца пусть стучат,  
Расплескав тишины волшебство,  
А слова, а слова — помолчат!

Рэдкая ноч абыходзілася без таго, каб ім штосьці не напісалася. Цягам часу з тых юначых радкоў шмат што забылася, але лепшае засталося па сённяшні дзень у ягонай памяці. Ён пісаў пра сябе, пра свае пачуцці. Пісаў аб тым, аб чым не мог не пісаць. Гэта было ўсё сваё, блізкае, кроўнае. Напоўненае юначай шчырасцю і гэткім жа юнацкім максімалізмам.

Сваё сапраўднае каханне ён знайшоў пазней, калі паступіў у аспірантуру. Цяпер ягоная жонка Алена Іванаўна, як і ён, займаецца навуковай дзейнасцю: кандыдат біялагічных навук, дацэнт, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута жывёлагадоўлі. Дарогай бацькоў пайшлі і іхнія дзеці. Старэйшы сын Руслан таксама кандыдат сельскагаспадарчых навук, дацэнт, узначальвае лабараторыю гібрыдызацыі ў свінагадоўлі. Нядаўна абараніў кандыдацкую дысертацыю і малодшы Яраслаў, ён з'яўляецца навуковым супрацоўнікам Інстытута генетыкі і цыталогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Любоў да паэзіі пранёс Шайко праз усё сваё жыццё. І няхай цяпер пішацца куды менш, чым пісалася ў юнацтве, ды ўсё адно ён ведае на памяць каля ста вершаў. І самім напісаных, і створаных любімымі паэтамі. Гэтыя вершы ў яго пастаянна пад рукой: старанна занатаваныя, яны становяцца тым глытком свежага паветра, якога часам не стае яму ў тлуме паўсядзённасці. Свае творы нясуць у сабе традыцыйныя матывы. Няхай штосьці падобнае і іншымі сказана, хай больш па-майстэрску прамоўлена, ды яны для яго не менш дарагія, чым і любімых паэтаў, а часам і больш радуюць душу, бо за кожным радком — тое, пра што не мог не напісаць. Неаднойчы прызнаецца ў сваёй любові да роднай вёскі.

Калі ж апаноўвае смутак, абавязкова прамаўляе сваю сыноўнюю «Малітву маці»:

Пад дажджом шапатлівым і спорным  
Я іду па лясістай градзе.  
Ну, а ў высях бы круціць хто жорны —  
То гурчыць, то няўзнак прападзе.

Тут азонам маланка змяіцца,  
І сасну тут палохае гром.  
Божа, сілы мне дай не спыніцца,  
Не пазбыцца адвечных асноў.

Каб не згаснуць душы, не стаміцца,  
Не збаяцца ні сцюжы, ні зла,

Божа, дай мне з крыніцы напіцца,
Ля якой мая мама расла.

З маленства жыве ў сэрцы Івана Паўлавіча і любоў да прыроды. Абавязкова знаходзіць час, каб схадзіць у лес. І не толькі для таго, каб назбіраць грыбоў (а гэта ягоны любімы занятак) ці ягад. Прыемна часам і проста так пахадзіць, любуючыся харастве́м бярозак ці хвояў, а то і пасядзець дзе-небудзь на пяньку, застаўшыся сам-насам са сваімі думкамі. Хоць лес, па сутнасці, няхай і мініяцюрны, знаходзіцца і на ягоным прысядзібным участку. Разам з сынамі пабудаваў катэдж, стварыў цудоўны дэндрарый. Якіх толькі садовых дрэў, ягаднікаў, дэкаратыўных і пладовых кустоў у ім няма?!

Паэт у душы, ён не развітваецца з паэзіяй. Дый ягоная прафесіянальная дзейнасць, як бы каму не падалося дзіўным падобнае параўнанне, таксама свайго роду паэзія, бо ўжо не адзін дзесятак гадоў Шайко піша сваю ... «Оду мясу». Праўда, не літаратурную, а жыццёвую. Клапоціцца, каб стол беларусаў заўсёды поўніўся высакаякаснымі прадуктамі. Ды каб так шмат іх было, што не толькі самім нам ставала, а і на продаж заставалася. А гэта, як вядома, залежыць ад таго, наколькі высокапрадукцыйнай будзе жывёлагадоўля.

— Нічога недасягальнага няма, — робіць прагноз на будучае Іван Паўлавіч. — У бліжэйшай перспектыве нашай заатэхнічнай навукі неабходна павысіць генетычны патэнцыял прадукцыйнасці ў малочнай жывёлагадоўлі да 10—12 тысяч кілаграм малака ад каровы за лактацыю, а сярэднесутачны прырост маладняку спецыялізаваных мясных парод — да 1500—1600 г, гібрыдных свіней — да 90—950 г з мясістасцю туш 62—65 працэнтаў. Гэта дазволіць дасягнуць сусветнага ўзроўню. Але ... Як бы лепш адказаць. Канешне, навука на тое навука, каб выходзіць на новыя абсягі. Шляхі яе не спазнаныя. Аднак ні ў якім разе нельга імкнуцца да такога, каб дасягненне пэўных паказчыкаў станавілася самамэтай. Важна ж не толькі, колькі свініны атрымана, а якой яна якасці. Тое самае тычыцца і прывагі буйной рагатай жывёлы, малака, яек. Павінна дзейнічаць правіла: не нашкодзь.

— Падыходзіць у дадзеным выпадку і вядомае лацінскае выслоўе: спяшайся не спяшаючыся.

— Ведаеце, які ў мяне дэвіз? — уміхнуўся Іван Паўлавіч, і сам жа адказаў: — Пакуль дыхаю, я жыву, рухаюся наперад!

А жыве Шайко для ўсіх нас, бо такую прафесію выбраў сабе, што вынікі ягонай работы, работы выдатнага вучонага і практыка, адчувае на сабе — без перабольшання — кожны.



# ЯК СТВАРАЎСЯ ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН БССР

ПЯТРУСЬ БРОЎКА зачытвае тэкст пад дэвізам «Беларус».

ЗАЛАТАРОЎ. Мне вельмі падабаецца. Але ў прыпеве, мне здаецца, не варта столькі разоў паўтараць імя Леніна і Сталіна. Трэба гэта як-та ў тэкст уставіць, але не ў прыпеве. Наогул мне падабаецца і па сэнсе і па вершы.

ПАПКОЎ. Тэкст гэтага гімна, безумоўна, падыходзіць і яго можна будзе прыняць для музыкі. Я павінен сказаць у абарону гэтага тэкста. Праўда, ён таксама патрабуе некаторай перапрацоўкі і адшліфоўкі, але ўсё ж ён адлюстроўвае Беларусь і вобразна. Вось ужо першыя радкі:

Рэспубліка наша, прастор твой прыгожы:
У нівах шумлівых, у лугах і барах.
Ад Буга да Нёмна, ад Нёмна да Сожа,
Ад Прыпяці вольнай да хваляў Дняпра.

Ужо першыя радкі гавораць аб Беларусі...

КІСЯЛЁЎ. Тут ёсць спецыфіка Беларусі.

БРОЎКА. Замест «ускрыленым» трэба другое слова. Гэта папраўіць лёгка.

Народ беларускі асілак-герой...

Гэта добра сказана. Але трэба папрацаваць яшчэ над гэтым тэкстам. Наогул прыняць яго для музыкі можна.

КОЛАС. Я згодзен.

КІСЯЛЁЎ. У першых радках: «Рэспубліка наша, прастор твой прыгожы...» і г. д. прамова ідзе аб геаграфічным паняцці Беларусі. Пачынаць з геаграфіі гімн, мне здаецца, не падыходзіць. Пачынаюць з актыўнага пачатку, з народа. Беларускі народ стварыў Рэспубліку, змагаўся за яе, змагаецца зараз. Прырода павінна адлюстраваць гэтую барацьбу (з пункту погляду паэтычнага), на фоне якой яна ідзе. Але пачынаць з геаграфіі гімн няправільна.

Даў шчасце ў працы і ясную долю
Вялікі Кастрычнік ускрыленным нам...

Тут проста карава, цяжка. Наогул аддзелка паэтычная вельмі патрэбна.

КОЛАС. Я думаю ўсё ж, мы яго прымем, а потым аўтар перапрацуе.

КРАПІВА. Тут ёсць некаторыя бяссэнсіца ў першых радках — «Ад Прыпяці вольнай да хваляў Дняпра». Прыпяць з'яўляецца прытокам Дняпра.

КІСЯЛЁЎ. Затым, чаму Прыпяць называецца вольнай?

КОЛАС. Удакладніць трэба.

КРАПІВА.

Ленін і Сталін цябе, як дзяржаву
Стварылі, з'ядналі ў магутны Саюз...

А што зрабіў народ сам, нічога не відаць. Ніякага актыўнага пачатку, гэта ў тэксце адсутнічае.

КОЛАС. Значыць, для музыкі ўсё ж прымаем.

**П р ы м а е ц ц а.**

ПЯТРУСЬ БРОЎКА зачытвае тэкст пад дэвізам «Сталінград»:

Беларусь, наша родная маці...

---

Працяг. Пачатак у № 11, 2007 г.

ЗАЛАТАРОЎ. Тут таксама трохдольны памер, але тут вось які недахоп: у першых радках некаторыя мітусня, $^4/_{16}$ атрымліваецца, мітуслівa для гімна.

Затым «натхнілі» — гэта слова мне некалькі не падабаецца. Далей «З клапатлівай братэрскай падмогай...». Не зусім добра.

БАГАТЫРОЎ. Задоўгі тэкст, няма прыпеву. А для гімна гэта не добра.

ЗАЛАТАРОЎ. Вось глядзіце, як трохдольны памер, так не падыходзіць.

КІСЯЛЁЎ. Я за тое, каб адхіліць.

КРАПІВА. Па форме мала падыходзіць.

КОЛАС. Значыць, мы проста адхіляем яго.

**Адхіляецца.**

ПЯТРУСЬ БРОЎКА зачытвае другі тэкст пад дэвізам «Сталінград».

ЛЫНЬКОЎ. Штосьці маё сэрца не схільна да яго.

КОЛАС. У мяне пастаўлена літара «Л».

КІСЯЛЁЎ. У асноўным я выказваюся за тое, каб дапусціць яго да музыкі, але пакрытыкаваць можна.

З рускім народам свабоду і славу
Ты здабыла, Беларусь, у баях...

Гэта правільна.

Ленін і Сталін цябе, як дзяржаву,
Вывелі смела на сонечны шлях...

Мне падабаецца. Чаму «смела»?

У цэлым прыпеў падабаецца, але ці можна дапусціць тут слова «памерці»? Мы паміраць не збіраемся.

Роўная у брацкім саюзе між роўных
Дружных савецкіх рэспублік-сясцёр,
Ты ўзрасла, расквітнела чароўна,
Людзям адкрыўся шырокі прастор.

Не зусім чыстая гэтая страфа. Слова «сясцёр» прыклеена не да месца.

Мы за багацце тваё і за шчасце
Рынемся мужна на ворага ў бой,
Грознай часінай цябе ад напасці
Армія наша заслоніць сабой.

Чагосьці не хапае.

КОЛАС. Тут трошкі паўтарэнне.

КІСЯЛЁЎ. Выходзіць, што армія падставіць сваю грудзь. Армія павінна актыўна змагацца, пытанне актыўнай барацьбы трэба паказаць, а тут проста — заслоніць. Гэта не ўваходзіць у наш дэвіз па сутнасці.

КРАПІВА. Наконт другога радка:

Слаўся, рэспубліка, вечныя годы,
Дружбу народаў расці, памнажай!...

Як можа адна рэспубліка памнажаць дружбу народаў? Сэнс зразумелы, але выражана не акрэслена.

БРОЎКА. Слова «рынемся» не падабае для гімна. Наогул для музыкі варта тэкст пакінуць.

ЛЫНЬКОЎ. Я стаяў бы за тое, каб адхіліць.

КОЛАС. Для музыкі можна яго пакінуць.

**Прымаецца.**

ПЯТРУСЬ БРОЎКА зачытвае тэкст пад дэвізам «Не пагасне наша сонца».

ЗАЛАТАРОЎ. Тут якійсьці няўлоўны рытм. Я проста не змог знайсці рытм і я ні ў якім выпадку не вазьмуся пісаць музыку.

БАГАТЫРОЎ. Так, цяжкі вельмі памер. І наогул, якійсьці сярэдні тэкст па сваім мастацкім вартасцям.

ПАПКОЎ. Мне здаецца, мы лепшыя адхілілі, а гэты безумоўна трэба адхіліць.

КІСЯЛЁЎ. Я за тое, каб адхіліць.

КРАПІВА. З пункту логікі таксама ёсць недахопы: «Іскрыстае світанне запальвае нам ясныя агні...» Толькі цяпер запальвае?

Потым у прыпеве: «Пуціны» — ёсць другі сэнс гэтага слова.

«І зорамі асветлены Крамля». Гэта значыць трэба разумець, што зорамі Крамля асвятляюцца пуці, гэта не падыходзіць.

КОЛАС. Значыць, адхіляем.

**А д х і л я е ц ц а.**

ПЯТРУСЬ БРОЎКА зачытвае тэкст «Баец».

КОЛАС. У мяне стаіць літара «Л».

БАГАТЫРОЎ. У мяне таксама. І на музыку будзе добра перакласці. Форма добрая, змест, ідэя ёсць.

ЗАЛАТАРОЎ. Трошкі мітуслівы: «Беларусь Савецкая, Беларусь свабодная...»

Ці добра гэта «дык цвіці...»

КРАПІВА. Вядома, не.

[ЗАЛАТАРОЎ]. А наогул сардэчны падкупляючы тэкст.

БАГАТЫРОЎ. Шчыры.

ЛЫНЬКОЎ. Мілагучны, але мне здаецца, больш падыходзіць для песні. Няма ўрачыстасці.

КОЛАС. Па-мойму, прыняць можна для музыкі.

КІСЯЛЁЎ.

Шуміць наша слава ў палях каласамі...

Чыя слава?

Зямля наша маці, адвеку ты з намі,
Мы сэрцам адданым з табою навек...

То справа ідзе аб славе, а то адразу аб зямлі. У прыпеве ніяк не падыходзіць: «дык цвіці».

Далей:

Радзіма. Нямала ты зведала боль,
Вякамі гудзеў над табою віхор..?

Чаму вякамі? Я думаю, што тут ўсё ж трэба папрацаваць яшчэ мацней. Не даходзіць яшчэ. Я бяру сябе як радавога чалавека.

ПАПКОЎ. Безумоўна, недахопы тут ёсць, і іх нямала, але да музыкі можна дапусціць.

Не ведаю як другія, але ў мяне такая думка, што мы ўсе Беларусь паказваем як багатую барамі густымі, рэкамі, палямі і г. д. Але Беларусь была такой калісьці, цяпер яна не толькі гэтым багата, яна багата і прамысловасцю. Аб гэтым трэба сказаць як-та ўмела, урачыста.

КОЛАС. Я думаю, што да музыкі можна дапусціць гэты тэкст, а аўтару трэба будзе сказаць, каб ён пасур'ёзней папрацаваў над ім.

**П р ы м а е ц ц а.**

ПЯТРУСЬ БРОЎКА зачытвае тэкст гімна, напісаны Віктарам.

ЗАЛАТАРОЎ. На мой погляд, гэта лепшы гімн, але трошкі задоўгі. Тэхнічна ён падыходзіць для музыкантаў.

ЛЫНЬКОЎ. У мяне ён не стаіць у спіску лепшых. Можна яго пакінуць для музыкі, але з некаторымі заўвагамі. Тут і аб рускім народзе трэба дадаць. Далей у самым прыпеве трэба выправіць — «Хай імя...» Атрымліваецца словазлучэнне, не падыходзіць.

КОЛАС. А мая душа не зусім ляжыць да яго.

БРОЎКА. Чамусьці ён мне не падабаецца. Па-першае, гімн павінен быць просты, яго будзе спяваць увесь народ, ён павінен лёгка запамінацца, а тут такі пачатак цяжкі.

> У яркім сузор'і Рэспублік свабодных,
> Пад ленінска-сталінскім сонцам сцягоў...

Сам вобраз няправільны.

> Стаіць Беларусь на фарпосце Заходнім,
> На стражы савецкай зямлі рубяжоў.

Вельмі цяжка.

> Праменням сонца твае хай імя
> Нам азарае свабодны край!

Цяжка і сэнсу няма.
Далей:

> Палямі, лясамі, зялёным абрусам,
> Срэбранымі рэкамі, песнямі жней...

А касцоў, трактарыстаў?!
Затым «фарпост» устарэла.
Такім чынам, мне здаецца, што тэкст не падыходзіць.

ПАПКОЎ. Мая думка таксама, каб не прымаць яго.

**Адхіляецца.**

ПЯТРУСЬ БРОЎКА зачытвае апошні тэкст «Шыпшына» — «Крывёй палітае нашае поле».

**Адхіляецца аднагалосна.**

ПЯТРУСЬ БРОЎКА зачытвае тэкст Бэндзіка, які таксама аднагалосна адхіляецца.

Журы даручае камісіі ў складзе тт. Якуба Коласа, Крапівы і Броўкі апрацаваць заўвагі да прынятых тэкстаў з тым, каб апошнія былі агалошаны на пасяджэнні Праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі і даведзены да аўтараў.

Старшыня Якуб Колас[1]

*НАРБ. Ф. 4п. Воп. 47. Спр. 59. Л. 89—109. Арыгінал. Машынапіс.*

[1] *Подпісу няма.*

# № 4

## *Заўвагі журы конкурсу на тэксты, рэкамендаваныя для напісання музыкі гімна Савецкай Беларусі*

Тэкст пад дэвізам «Сталінград»

1. У першай страфе не зусім гладка гучаць два апошнія радкі:

Ленін і Сталін цябе, як дзяржаву,
Вывелі смела на сонечны шлях.

Важна падкрэсліць не «як дзяржаву вывелі», а тое, што дзяржаўнасць Беларусі далі Ленін і Сталін. Слова «смела» зусім не на месцы.

2. У прыпеве «жыць і памерці» граматычна не вернае спалучэнне. Апроч таго, у гімне нядобра гучыць само слова «памерці». Як гэта можна «жыць за родны наш край»? У тым жа прыпеве не зусім верная граматычная форма: «Дружбу народаў расці». Трэба было б «узрошчвай», але і ў такім утварэнні атрымліваецца аляпавата. Не зусім удалае спалучэнне: «з рускім народам... ты здабыла, Беларусь», дзе ставіцца знак роўнасці між народам і краінай.

3. Роля арміі паказана пасіўнай.

4. Радок «Дружбу народаў расці, памнажай» — недакладны. Як адна рэспубліка можа расціць дружбу ўсіх народаў.

5. «Людзям адкрыўся шырокі прастор» — бездапаможны радок.

6. Апошняя страфа паўтарае думку, выказаную ў прыпеве, і таму нічога новага не дае. Слова «рынемся» не на месцы.

Тэкст пад дэвізам «Баец»

1. Пачатак гімна «Шуміць слава каласамі, барамі густымі і хвалямі рэк» не мае яснай думкі. «Хвалі рэк» не з'яўляюцца здабыткамі народа і не могуць быць славай народа.

2. «Вякамі гудзеў над табою віхор» — трафарэтны і недакладны па зместу вобраз, які не перадае гістарычнага мінулага Беларусі.

3. «Зямля наша, маці, адвеку ты з намі» — нічога не гаворыць. Куды ж магла адлучыцца зямля?

4. Слова «зладзеі» ўжыта ў рускім значэнні «вор», да тэксту не падыходзіць па свайму сэнсу.

5. Немілагучна і бездапаможна ўжыванне аж два разы слова «цябе» ў трэцяй страфе.

6. У прыпеве слова «дык» непатрэбна.

Тэкст пад дэвізам «Беларусь»

1. Першая страфа не зусім выразная: «Ад Прыпяці вольнай да хваляў Дняпра» — не дае уяўлення аб сапраўдных прасторах радзімы. Дарэчы, чаму толькі Прыпяць «вольная»? Замест «Ад Буга да Нёмна, ад Нёмна да Сожа» лепей сказаць «ад Буга да Сожа» — будзе куды мацней.

2. «Саюз — Беларусь» — такія рыфмы, што толькі могуць збіваць якое-небудзь адно з гэтых слоў у гучанні іх канчаткаў.

3. Не размежаваны два разуменні: «Ленін і Сталін, вялікі Кастрычнік».

4. Слова «ўскрыленным» немілагучна і як выраз занадта далёкі ад народнай лексікі.

5. «Пазнаўшыя» — форма слова для гімна цяжкая, немілагучная.

6. «Цвіці і навекі красуй» — таўталогія.

7. «Мы ворагаў заўжды паб'ем і прагонім» — прымітыўна.
8. У прыпеве радок: «...з'ядналі ў магутны саюз» патрабуе ўдакладнення.
9. Агульны недахоп зместа — нічога не сказана аб рускім народзе. Пасіўная роля беларускага народа.

Тэкст пад дэвізам «За радзіму»
(Мы, беларусы, з братняй Руссю)

1. У першым радку замест «Руссю» лепш было б сказаць аб рускім народзе.
2. «У бітвах за волю, ў бітвах за долю» і «У слаўным саюзе» замест доўгага стаіць кароткае «ў», якое ў такіх выпадках цяжка вымаўляецца, а для гімна гэта загана.
3. Невыразна і не ў сваім сэнсе можа гучаць у песні «шукалі к волі» («шукалі кволых»).
4. «Мы здабылі сцяг перамог» — бледная і бедная думка.
5. У другой страфе «Вырас як волат нашых былін» — штучны і немілагучны радок.
6. «Дружбай народаў нашы граніцы ў сталь закуем» казённы радок.
7. У апошняй страфе апошнія два радкі злабадзённыя: не заўсёды на нашай зямлі будуць ворагі, каб іх змятаць. Наогул апошняя страфа слабейшая. Няўдалы і варыянт першай страфы.
8. У другім радку прыпева «Сталін павёў нас к шчасцю ў паход» слова «павёў», таксама, як і «вядзе», не на месцы.
9. Адцягнена і няўдала сказана ў II страфе: «...Люд Беларусі вырас, як волей нашых былін».
10. Прымітыўна пабудавана і трэцяя страфа.

Тэкст пад дэвізам «Мы пераможам»
(«Мы знатнае племя славян працавітых...»)

1. Некатарым самахвальствам гучыць пачатак — «Мы знатнае племя...». Наогул, першы радок трэба замяніць.
2. «Мы вышлі ў вялікі паход» — правільней было б сказаць «ідзем у паход».
3. «Праз буры-навалы» — няўдала ў тым сэнсе, што гэтая з'ява не сталая і не абавязковая.
4. У прыпеве «Красуй, наша доля» слова «доля» лепш замяніць словам «слава».
5. У трэцяй страфе тэкста тая ж загана, як і ў тэксце «Беларус I» — «Саюз — Беларусь».

*НАРБ. Ф. 4п. Воп. 47. Спр. 59. Л. 110—112. Машынапіс.*

## № 5

ПРАТАКОЛ № 2
пасяджэння журы па разглядзе тэкстаў і музыкі Дзяржаўнага гімна БССР
27 мая 1944 г.

Удзельнічалі: члены журы тт. Якуб Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, П. Броўка, Багатыроў, Залатароў, Папкоў.
Запрошаны: тт. Гліэр, Пукст, Аляксеева, Смольскі.
Старшынствуе Якуб Колас.

1. С л у х а л і: Абгаварэнне праслуханых у харавым выкананні твораў, прадстаўленных для гімна (Я. Колас).

Р а ш ы л і:

а) Дапусціць к другому туру наступныя музычныя творы:

1. Дэвіз «Прамень» — 28
2. —«— «Мінск» — 7
3. —«— «За Радзіму» — 1
4. —«— «Баян» — 11
5. —«— «Энергія» — 9

б) Адхіліць як не падыходзячыя для гімна наступныя музычныя творы:

1. Дэвіз «Паляшчук» — 21
2. —«— «Якорь» — 2
3. —«— «Утес» — 17
4. —«— «Штурм» — 4
5. —«— «Пагранічнік» — 8
6. Дэвіз «Альфа» — 35
7. —«— «Труд» — 6
8. —«— «Чырвоны Прамень» — 20
9. —«— «Проба пяра» — 34
10. —«— «Дыез» — 19
11. —«— «Прамень» — 13

Старшыня Я. Колас[1]

Члены М. Крапіва
М. Лынькоў
Ф. Пестрак[2]
П. Броўка
В. Залатароў
П. Папкоў

*НАРБ. Ф. 4п. Воп. 47. Спр. 59. Л. 113. Арыгінал. Машынапіс.*

## № 6

### СТЕНОГРАФИЧЕСКИЙ ПРОТОКОЛ № 2
### заседания жюри по рассмотрению представленных на конкурс текстов белорусского гимна

г. Москва 27 мая 1944 г.

ПРИСУТСТВОВАЛИ: Секретарь Президиума Верховного Совета БССР т. Папков и т. д.

Писатели и поэты: Якуб Колас, Крапива, Лыньков, Бровко, Глебко.

Композиторы: Глиэр, Богатырев, Золотарев, Пукст.

Музыкальные критики: Таранущенко, Смольский, тт. Азгур, Алексеева, Жезмер.

Председательствует Якуб Колас.

КОЛАС. Поступило еще восемь вариантов текста гимна. Я думаю, что мы рассмотрим их на специальном заседании, а сегодня займемся прослушиванием музыки. Всего имеется 16 мелодий.

Каким образом мы будем их прослушивать? Есть предложение прослушать группу мелодий, скажем, четыре, потом сделать небольшой перерыв, обсудить их, а затем снова прослушивать мелодии и т. д. Если члены жюри не возражают, то такой порядок примем.

Возражений нет. Принимается.

(После прослушания исполненных хором четырех вариантов музыкального оформления гимна: «Прамень», «Полещук», «Якорь» и «Утес» жюри приступает к обсуждению).

---

[1] *Подпісу няма.*

[2] Ф. Пестрак *дапісна ад рукі.*

КОЛАС. Давайте обсуждать в порядке прослушивания. Первое — «Прамень». Кто хочет взять слово?

ЗОЛОТАРЕВ. Здесь правильно отмечено: несколько «рубленый» ритм. Свежие гармонии также правильно отмечены, они налицо. Хор звучит довольно импозантно и надлежащее настроение. Оценка хора, я считаю, в конечном результате хорошая.

ГЛИЭР. Мне вообще трудно высказываться после одного прослушивания, особенно, когда один за другим следует.

Этот гимн мне показался средним, не таким ярким, чтобы на нем можно было остановиться.

КРАПИВА. У меня впечатление, что можно оценить на «удовлетворительно». На «хорошо» я не могу оценить. На «тройку», во всяком случае, можно.

КОЛАС. У меня тоже «тройка» стоит. Еще кто выскажется?

ПЕСТРАК. Если лучшего не будет, то этот можно оставить, по моему мнению.

КОЛАС. Еще какие будут замечания?

ЛЫНЬКОВ. Мы тут от двух человек выступаем, мы же профаны в музыке, из всех четырех музыкальных текстов первый, по-моему, самый лучший. Но и этот лучший получил у нас оценку, опять таки дилетантского порядка, оценку на «тройку».

(ЗОЛОТАРЕВ. Правильно, дилетантского порядка.)

БРОВКО. Если мы решаем, что из четырех выбираем один, который допускаем ко второму туру, то, мне кажется, этот можно допустить ко второму туру.

ПАПКОВ. Сегодня надо будет решить вопрос, что мы будем допускать ко второму туру.

КОЛАС. Как видно, заключение таково, что из всех прослушанных мелодий первая под девизом «Прамень» самая лучшая, но и эта лучшая получила среднюю оценку. Поэтому для гимна отпадает.

АЗГУР. Мне думается, что полноценный гимн из всех прослушанных, который бы удовлетворил всех понимающих музыкантов, мы вряд ли получим. Мне думается, что жюри прежде всего должно подойти с точки зрения, есть ли здесь в потенции гимн, потому что в дальнейшем он может разработаться и если в потенции есть, то тогда есть и смысл его оставить с тем, чтобы потом сделать из него гимн.

БОГАТЫРЕВ. Это правильно.

АЗГУР. Мне лично из четырех прослушанных «Прамень» больше всего понравился, там в потенции есть возможность развить гимн. И последний под девизом «Утес», я бы сказал, музыкально хорошо связан с текстом. Там такая торжественная и мужественная подача отдельных слов, которые имеют большое государственное и политическое значение. Мне кажется, что между первым и последним может стоять вопрос — кто из них имеет больше потенциальных возможностей к развитию гимна.

КРАПИВА. Разрешите внести предложение. Я думаю сделать так, как сделали с текстами. Мы ориентировочно допускаем ко второму туру с условием, что автор на основе замечаний жюри доработает музыку.

БОГАТЫРЕВ. Когда уже на третий тур допускаем, тогда будем дорабатывать. Когда выяснится, какая вещь подходит, тогда будем говорить о доработке этой вещи, потому что вряд ли мы найдем из всех представленных вещей ту, которая на 100% подходит для гимна. Может быть вещь, которая в основе подойдет и которую можно будет доработать. А сейчас нам нужно отобрать для второго тура.

ЗОЛОТАРЕВ. Не забывайте, товарищи поэты, что наша музыкальная ткань гораздо более громоздкая. Что значит практически, что Вы предлагаете. Это значит, что композитор должен переделать, что является очень сложным. Затем вещь поступает к переписчику, от переписчика — к хору. Стоит ли овчинка выделки.

БОГАТЫРЕВ. Когда вещь есть кандидатура на гимн, есть смысл оркестровать, дорабатывать и т. д.

ПАПКОВ. Ну, какое Ваше мнение?

БОГАТЫРЕВ. У меня двойка стоит. Здесь меня смутило, что в этой вещи есть что-то чуждое. Сама вещь неплохая, но здесь есть какие-то элементы от джаза. Нет какой-то строгости, она совершенно из чуждого тем задачам, которые требуются от гимна, мира. Поэтому я поставил неудовлетворительную оценку этому произведению. Здесь какая-то банальность.

ЛЫНЬКОВ. Нескромный вопрос — как Вы, Анатолий Васильевич, относитесь к остальным текстам?

БОГАТЫРЕВ. Мне больше понравился последний гимн «Утес». Во всяком случае я поставил «тройку». Но это можно слушать еще раз и что-то решать. Я не говорю, что «Утес» может иметь какие-то элементы гимна, но что-то есть добропорядочное в этой музыке.

КОЛАС. Какое же у нас будет заключение по поводу первой мелодии, мы ее оставляем или просто отвергаем?

БОГАТЫРЕВ. Надо суммировать или отметки ставить по пятибалльной системе.

КОЛАС. Я все-таки думаю, что мы оставим ее как достойную для прослушания еще раз.

ЛЫНЬКОВ. Давайте проголосуем.

БОГАТЫРЕВ. Надо подходить формально в данном случае, лучше такие вопросы решать голосованием.

КОЛАС. Так вот есть предложение — оставить эту вещь до второго тура. Кто за это предложение, прошу поднять руки.

(Голосуют. Большинством голосов допускается ко второму туру.)

КОЛАС. Пойдем дальше. Следующий «Полещук» № 21. Мое непросвещенное музыкальное мнение подсказывает мне, что он для гимна не подходит. Песня средняя. Пусть композиторы более подробно скажут, как они расценивают.

ЗОЛОТАРЕВ. Ну что ж, глас народа — глас божий. Он уже подсказал, что из четырех более подходит первый и тот имеет лишь удовлетворительную оценку. Этим предрешается вопрос и с этим нельзя не согласиться. Тут при более подробном тщательном рассмотрении видна убогость техники автора. Как гимн, это не подходит, потому что, несомненно, это скорее песня, и неплохая. Фольклор имеется, но он так подан, что никоим образом не убеждает. По моему мнению, не допускать.

КОЛАС. Так что, если нет возражений, отклоняем.

Голосую: кто за то, чтобы отклонить, прошу поднять руки.

(Голосуют. Большинством голосов отклоняется.)

КОЛАС. Следующий «Якорь» № 2. Какие будут высказывания?

ЗОЛОТАРЕВ. Этот вариант, несомненно, выше предыдущих. Там отмечается асимметрия, но она интересней в звучании получается: 2—1 и даже шестидольный размер. Тем не менее конец куцый, оборванность получается, потому что автор выбрал такую асимметричную форму. У меня между «двойкой» и «тройкой». Серо звучит очень.

ГЛИЭР. Мне показалось средним.

КРАПИВА. У меня «тройка».

ЛЫНЬКОВ. У меня тоже.

КОЛАС. У меня тоже.

ПАПКОВ. За гимн принять нельзя.

КОЛАС. Есть предложение — отклонить. Давайте проголосуем. Прошу голосовать. Кто за то, чтобы отклонить.

(Большинством голосов отклоняется.)

КОЛАС. Теперь «Утес». Анатолий Васильевич его хвалил. Может быть, он скажет нам про «Утес».

БОГАТЫРЕВ. Я буду отстаивать. Ко второму туру он может подойти. Сама вещь, может быть, не столь яркая, но здесь есть какая-то формальная сторона, которая может подойти для гимна. Хорошая форма в этой вещи. Это более или менее законченное произведение из тех, которые мы прослушали, при наличии неплохой мелодической линии. Ко второму туру может, конечно, подойти.

ТАРАНУЩЕНКО. Я бы поддержала мнение Анатолия Васильевича с той только разницей, что этот гимн не производит на меня законченное впечатление, но потенции к доработке у него хорошие. Кандидатом он может быть на второй тур, потому что путем доработки можно будет из него сделать неплохую вещь.

КРАПИВА. Я не совсем согласен с Анатолием Васильевичем и вот почему. Мне кажется, что мелодия здесь не очень выразительная и запомнить ее не представляется легким, как должен запомниться гимн.

БОГАТЫРЕВ. Ни один иностранный гимн Вы сразу не запомните. Гимн надо внедрять, только тогда он запоминается. Вот до сих пор гимн Александрова еще не дошел, для этого должен пройти какой-то период.

КРАПИВА. Иногда мелодия сложная, но органически она прививается, а здесь оригинальности нет.

КОЛАС. Петрусь, может быть, ты скажешь.

ГЛЕБКО. Мне кажется, что он труден для выполнения массы. Не знаю, как музыкально это называется, мне трудно судить, конечно. Я пробовал повторить вслед — тяжеловато.

ЗОЛОТАРЕВ. Приходится на лету быстро выписывать самое существенное. У меня записано: гармония не всегда увязана, а это много значит, в результате в звучании получается неожиданность и умничание.

КОЛАС. Здесь два течения: одно — за, другое — против. Давайте голосовать. Кто за то, чтобы допустить ко второму туру.

(Голосуют. Большинством голосов отклоняется.)

(Жюри заслушивает в исполнении: «Минск» № 7, «Штурм» № 4, «Пограничник» № 8, «Альфа» № 35, «Труд» № 6, «За Родину» № 9).

КОЛАС. Итак, товарищи, обменяемся мнениями. Первым идет «Минск». Кто хочет высказаться? Я бы хотел слышать мнение композиторов.

ЗОЛОТАРЕВ. Длинно очень, припев неожиданно вклиняется второй раз более длительными нотами и получается растянуто. Мое мнение — дальше не допускать.

ГЛИЭР. Мне показалось, что это может быть гимном. Характер гимна здесь есть.

ТАРАНУЩЕНКО. И мне понравилось.

ЛЫНЬКОВ. Из всех шести — это лучший.

ПАПКОВ. Моя оценка — посредственно.

КОЛАС. Из того, что мы прослушали, — это самое лучшее. Тут чувствуется сила, есть торжественность и мелодия хорошая, так что я считаю это самым лучшим из того, что мы сегодня прослушали.

АЗГУР. И надо сказать, что он может быть близок Белоруссии. Сама мелодия, она соответствует нашей напевности. Мне этот гимн понравился.

КОЛАС. Кто еще хочет высказаться?

БРОВКО. Есть предложение допустить ко второму туру.

КОЛАС. Других предложений нет.

ПАПКОВ. Может быть, еще кто-нибудь из композиторов скажет? Мнение тов. Золотарева — не допускать.

ЗОЛОТАРЕВ. Да.

[ПАПКОВ]. ...а Анатолий Васильевич, ваше мнение.

БОГАТЫРЕВ. Мне также не особенно нравится. Мелодия запоминается, но опять-таки в ней какая-то похабность есть, с народностью она ничего не имеет общего. Банальная запоминаемость, этого надо в гимне бояться.

ТАРАНУЩЕНКО. Я также сказала бы, что здесь народности мало. Сложновато и длинновато.

КОЛАС. Если нет желающих больше высказаться, будем голосовать. Кто за то, чтобы этот вариант допустить ко второму туру, прошу поднять руки?

(Большинством голосов допускается ко второму туру. Голосуют против Золотарев, Богатырев, Таранущенко.)

КОЛАС. Следующий «Штурм».

БРОВКО. Как песня — неплохая, как гимн — не подходит.

ЗОЛОТАРЕВ. У меня такое же мнение.

БОГАТЫРЕВ. Я бы этого не сказал. Она не хуже предыдущих. У меня «тройка» стоит.

КОЛАС. У меня тоже «тройка» стоит. Написано — для гимна не подходит.

Есть предложение голосовать.

(Большинством голосов отклоняется.)

КОЛАС. Следующий «Пограничник».

(Общее единодушное мнение присутствующих за то, чтобы отклонить и абсолютным большинством голосов «Пограничник» отклоняется.)

КОЛАС. Следующий «Альфа».

(Абсолютным большинством голосов «Альфа» отклоняется.)

КОЛАС. Следующий «Труд».

(Большинством голосов «Труд» отклоняется. Богатырев, Золотарев и Таранущенко голосуют «за».)

КОЛАС. Следующий «За Родину». Хороший гимн, мне он очень понравился, в нем есть какая-то эмоциональность, но вместе с тем и крикливость какая-то.

ЗОЛОТАРЕВ. Нужно принять во внимание, что большинство гимнов будет в таком же духе. Эта крикливость зависит от исполнения.

КОЛАС. Я слышу здесь голоса за то, чтобы оставить ко второму туру. Давайте обсудим.

БОГАТЫРЕВ. У меня «четверка» стоит. Я подхожу как музыкант, для меня все моменты должны быть ясны — и мелодия, и гармония, всё, иначе я никак не воспринимаю музыкальное произведение.

АЗГУР. Он очень эмоциональный.

КРАПИВА. Может быть эмоциональный, но по характеру не является гимном.

АЗГУР. Не по характеру, но в потенции гимн.

БОГАТЫРЕВ. Вообще, из того, что мы здесь слушали, ни один не является гимном. Мы выбираем для 2-го тура, на котором будем судить еще раз, а может быть, мы ошиблись.

КОЛАС. Ввиду того что есть два течения, будем голосовать. Кто за то, чтобы допустить ко второму туру, прошу поднять руки.

(Большинством голосов допускается ко второму туру. Композиторы голосовали за, писатели — против.)

(Жюри заслушивает в исполнении хора: «Червонный прамень» № 20, «Проба пера», «Диез», «Баян», «Прамень» № 13 и «Энергия»).

КОЛАС. Какие будут замечания по «Червонному Праменю».

БОГАТЫРЕВ. Я считаю, что он написан торжественно, близко к гимну, но фольклорная мелодия вырывается как-то из общей композиции.

ПУКСТ. Здесь кажущаяся торжественность, о которой сейчас говорили, она подчеркивается использованием композитором из гимна союзного, особенно припева, и поэтому это не свежо. В целом гимн не отличается яркостью, оригинальностью. Обычная песня, трафаретная.

ПЕСТРАК. Вывод какой. Оставить или нет?

ПУКСТ. По-моему, не следует оставлять.

КОЛАС. Ваше мнение, Анатолий Васильевич.

БОГАТЫРЕВ. У меня «единица» стоит.

ЗОЛОТАРЕВ. У меня «двойка».

КРАПИВА. У меня «двойка».

БОГАТЫРЕВ. Совсем несамостоятельная музыка.

КОЛАС. У меня «тройка» стоит.

ЛЫНЬКОВ. У меня «три» с минусом.

КОЛАС. Есть предложение — отклонить. Кто за это предложение, прошу поднять руки.

(Большинством голосов отклоняется.)

КОЛАС. Следующий «Проба пера». У кого какие отметки?

ЛЫНЬКОВ. У меня «двойка» с плюсом.

КРАПИВА. У меня «двойка».

КОЛАС. Композиторы, Ваше мнение.

ГЛИЭР. Неважное.

БОГАТЫРЕВ. «Двойка».

КОЛАС. Есть предложение отклонить. Проголосуем.

(Единодушно отклоняется.)

КОЛАС. Следующий «Диез». Какие будут мнения по поводу этого варианта?

ЛЫНЬКОВ. У меня «двойка».

ГЛЕБКО. Хороший все-таки.

ПАПКОВ. Вначале напоминает какого-то страдающего человека.

КРАПИВА. У меня впечатление, что какая-то металлическая конструкция, нет мелодичности.

ПЕСТРАК. Совершенно за душу не задевает.

АЗГУР. Хорошая конструкция. Из нее может получиться гимн.

КОЛАС. У меня «двойка». Какие же будут предложения?

ЛЫНЬКОВ. Отклонить.

КОЛАС. Голосуем. Кто за то, чтобы отклонить, прошу поднять руки.

(Большинством голосов отклоняется.)

КОЛАС. Следующий «Баян». У меня, грешным делом, «тройка».

КРАПИВА. У меня «три» с минусом.

ПАПКОВ. С натяжкой «тройка». Этот припев напоминает гимн союзный, так вообще-то ничего.

БРОВКО. Ко второму туру можно допустить.

ЗОЛОТАРЕВ. Я прежде всего за то, чтобы музыкантов здесь привлечь гораздо больше. И я делаю вывод: ведь важное мы дело делаем и надо его как можно серьезнее сделать. Что же получается? Ясное дело, что наиболее ходячая монета дойдет до товарищей, сидящих здесь, которые говорят «мы ничего в музыке не понимаем» и сейчас же рубят сплеча и поднимают то, что недостойно этого. Значит, нам нужны специалисты, чтобы это было немножко выше посредственности, которая фатально должно нравиться малопонимающим. Конечно, здесь много значит та непосредственность, которая к вам попадет, но рядом с этим вы можете пропустить то, что очень ценно.

Теперь я скажу об этой вещи. Она шаблонная. Здесь перепевы очень знакомые. Дешево сделано. У меня между «двойкой» и «единицей».

БОГАТЫРЕВ. У меня — «два».

ЛЫНЬКОВ. У меня тоже «двойка».

КРАПИВА. Здесь вопрос ставится уже о правомочности нашего жюри.

ЗОЛОТАРЕВ. Я не так ставлю вопрос. Но чрезвычайно важное условие, чтобы были специалисты.

АЛЕКСЕЕВА. Для этого надо больше высказываться композиторам, а вы молчите.

БОГАТЫРЕВ. Я вообще протестовал против того, чтобы вводили композиторов в жюри, которые могут участвовать в этом деле. Поэтому мы так не высказываемся, нам неудобно. Я прямо говорю, что не могу высказываться, мне неудобно, ведь я могу высказаться о своем произведении. Мне неудобно выступать.

ЛЫНЬКОВ. Учтите, что в жюри участвуют поэты, которые также могут участвовать в составлении текстов. Они молчат по своим текстам, но друга зарежут все равно, если плохо.

СМОЛЬСКИЙ. Мне «Баян» нравится и мне кажется, что не всегда правильным будет критерий, что все ценное должно обязательно быть гимном. Ведь есть очень гениальная музыка, а все-таки она не может быть гимном. Я бы не сказал, что в этом «Баяне» есть очень много ценного, но с точки зрения непосредственного восприятия не только для музыканта он все же производит неплохое впечатление, и мне кажется, что на 2-й тур можно допустить.

ТАРАНУЩЕНКО. Мне «Баян» тоже нравится. Я также стою за то, чтобы ко второму туру допустить его. Особой оригинальности здесь нет, но он эмоционально убедителен, что очень важно.

КОЛАС. Есть предложение допустить ко 2-му туру. Прошу голосовать.

(Большинством голосов допускается ко 2-му туру. В числе голосовавших против — Глиэр, Богатырев, Золотарев.)

КОЛАС. Следующий «Прамень».

БОГАТЫРЕВ. У меня «двойка» стоит.

ЗОЛОТАРЕВ. У меня также.

БРОВКА. У меня «двойка».

ЛЫНЬКОВ. У меня «двойка» с плюсом.

КОЛАС. Значит, композиторы и поэты сходятся. Есть предложение отклонить.

(Большинством голосов отклоняется.)

КОЛАС. И последний «Энергия». Какая оценка?

ЛЫНЬКОВ. «Три» с минусом.

БОГАТЫРЕВ. «Четыре».

ЗОЛОТАРЕВ. «Четыре».

КОЛАС. В этой мелодии есть какая-то безнадежность. Надрыв, но мелодия неплохая.

ЗОЛОТАРЕВ. Как раз мелодия бодрая.

БОГАТЫРЕВ. У меня такое же впечатление.

КОЛАС. Какие будут предложения?

ЛЫНЬКОВ. Допустить ко 2-му туру.

(Голосуют. Большинством голосов допускается[1].)

Председатель[2]

*НАРБ. Ф. 4п. Воп. 47. Спр. 59. Л. 115—124. Арыгінал. Машынапіс.*

## № 7

### ПРАТАКОЛ № 3

пасяджэння журы па разглядзе тэкста і музыкі Дзяржаўнага гімна БССР

1 чэрвеня 1944 г.

Удзельнічалі:

Члены журы тт. Я. Колас, К. Крапіва, Ф. Пестрак, М. Лынькоў, П. Броўка, А. Багатыроў, В. Залатароў, Л. Папкоў.

Запрошаны: Цікоцкі, Аладаў, Пукст, Смольскі.

Старшынствуе Я. Колас.

---

[1] *Дописано от руки вместо* отклоняется.

[2] *Подпісу няма.*

1. С л у х а л і: Разгляд уноўпаступіўшых тэкстаў (Л. Папкоў).
Р а ш ы л і:
а) Прыняць і дапусціць да напісання музыкі наступныя тэксты:
6. Дэвіз «Вясна» — «Красуйся, Радзіма, красуйся вякамі».
7. —»— «Мы пераможам» — «Мы роднай краіны адданыя дзеці».
8. —»— «Прамень» — «На родных прасторах мы шчасце пазналі».
б) Адхіліць:
15. Дэвіз «Белавежская пушча»
16. —»— «Маладая дзяржава»
17. —»— «Дняпро»
18. —»— «Сож»
19. —»— «Не пагасне наша сонца»
20. —»— «Кветка».
2. С л у х а л і: Абгаварэнне праслуханых у харавым выкананні музычных твораў, прадстаўленных для гімна (Я. Колас).
Р а ш ы л і:
а) Дапусціць к другому туру наступныя музычныя творы:
6. Дэвіз «Ударнік» —18
7.—»— «Служу савецкаму народу» — 12
8.—»— «Ліра» — 39
9.—»— «Ліра» — 37
10.—»— «Дыез» — 38
б) Адхіліць як непадыходзячыя для гімна наступныя музычныя творы:
12. Дэвіз «Чырвоная каліна» — 27
13. —»— «Вадзім» — 3
14. —»— «Доля» — 26
15. —»— «Пуцёўка ў жыццё» — 30
16. —»— «Доватор» — 10
17. —»— «Попытка» — 36
18. —»— «Прыпяць» — 51

Старшыня Я. Колас

Члены: К. Крапіва
Ф. Пестрак
М. Лынькоў
П. Броўка
А. Багатыроў
В. Залатароў
Л. Папкоў

*НАРБ. Ф. 4 п. Воп. 47. Спр. 59. Л. 125—125 адв. Арыгінал. Машынапіс.*

* * *

*Калі матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, знайшліся новыя дакументы адносна лёсу гімна, які ў 1945 годзе быў ухвалены ў Мінску і пасланы ў Маскву на зацвярджэнне.*

*Упраўленне прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б) выказала заўвагі па тэксце, і Кандрат Крапіва ўнёс змены ў прыпеў, які раней гучаў так:*

Пад сцягам савецкім мы шчасця людскога,
Як светлага рання, вітаем прыход.
Красуйся, Радзіма, расці ў перамогах!
Будзь слаўны ў вяках, беларускі народ!

*Дапрацаваны варыянт быў ухвалены ў Мінску 10.06.1947 года і зноў накіраваны ў Маскву на зацвярджэнне (гл. НАРБ, ф.4 п., воп. 61, спр. 416, стар. 1—6).*

*Ніжэй друкуецца тэкст П. Броўкі і К. Крапівы, зацверджаны Мінскам у 1947 годзе:*

## Гімн Беларускай ССР

Тэкст П. Броўкі, К. Крапівы

Жыві, Беларусь, і красуйся вякамі
Пад сонцам свабоды на вольнай зямлі!
Мы шчасце сваё здабывалі з баямі,
З баямі і працай да славы прышлі.

Прыпеў:

Ад лёсу цяжкога да шчасця людскога
Вядзе нас савецкі праслаўлены сцяг.
Красуйся, Радзіма, расці ў перамогах!
Народ беларускі, будзь слаўны ў вяках!

Узняў нас Кастрычнік і вывеў з нядолі,
Расія вялікая нам памагла.
Нас Ленін вучыў, як змагацца за волю,
Са Сталіным наша краіна ўзрасла.

Прыпеў.

У сталінскай дружбе народы з'еднаны
Ў адзіны магутны Савецкі Саюз.
Мы любім Айчыну душою адданай,
Грудзьмі абаронім Радзіму сваю.

Прыпеў.

***Публікацыя В. Скалабана.***

***Працяг будзе.***

Наталля КУЗЬМІЧ

# У САДЗЕ РАДАСЦІ І ЖУРБЫ

*Раіса Баравікова.* **Дрэва для райскай птушкі: лірыка.** Мінск, Мастацкая літаратура, 2007.

Паэзія Раісы Баравіковай, як і наогул усякая таленавітая творчасць, пазначана адметнай уласцівасцю: яна адразу забірае ў палон, ёй верыш, бо за радкамі ў трапяткім вобразным выяўленні радасці і беды, надзеі і трывогі, — адным словам, агромністы мастацкі свет творцы, сугучны нашым настроям і перажываванням; гэты свет нібыта і зразумелы і ў той жа час новы і загадкавы, поўны будзённых ісцін і няўтомнага шукання іх. Чытаеш новы зборнік паэткі «Дрэва для райскай птушкі», выдадзены ў серыі «Залатое пяро», і міжволі ўзнікае адчуванне, што ты знаходзішся побач з лірычнай гераіняй, чуеш яе неспакойны ўнутраны голас, разам з ёй самотна ўзіраешся ў мінулае, замглёнае дажджамі за далёкім небасхілам, і з хваляваннем задумваешся пра заўтрашні дзень, які толькі нясмела яснее ў праблісках дзянніцы, — такая сіла прыцягнення мастацкага слова.




Адчуванне гэта ўзмацняецца, калі з поўным даверам, які пасяліўся ўжо ў сэрцы, слухаеш шчырую размову лірычнай гераіні з маці ў вершы «Як ціха яблыні шумяць...». У гэтым творы і светлы ўспамін пра дарогі, пройдзеныя ў пошуках простага зямнога шчасця, і крыху вінаватая споведзь дачкі, якая бясконца любіць маці, аб тым, што набыта і страчана, што баліць, і шкадаванне, што нешта трэба ўтаіць. Асэнсоўваеш адкрытую, тонка-далікатную танальнасць, за якой бачыцца чысціня ўзаемін, і разумееш: ты ў незвычайным садзе; у ім родныя душы зведваюць невымоўную еднасць; уяўленне малюе своеасаблівы Эдэм, дзе ў блакіт неба мкнуць дрэвы мудрасці і любові, у якіх казачная птушка вядзе бясконцую песню радасці і журбы, што перапляліся, як у рэальным жыцці, успрынятым ва ўсіх яго праявах; гэта галоўны сад нашага зямнога бытавання, бо ён сагрэты і асветлены любасцю і ласкай маці.

Характэрна, што, гаворачы пра самае запаветнае, лірычная гераіня ўнікае пафаснасці: яна была б тут надуманай. Радкі стрыманыя і ёмістыя па змесце. Сутнасць перанесена ў падтэкст, дзе ўся глыбіня пачуццяў. На мяжы эстэтычнага чараўніцтва гучаць радкі:

> ...цень адвячоркавы, густы
> на шыбку ляжа,
> табе пра тое, што ўтаю,
> вясна дакажа...

Наогул вобраз матчынага саду, гэтага эдэмскага прытулку мудрасці і любові, ключавы ў зборніку па сваёй канцэптуальна-мастацкай ролі. Ён з'ядноўвае ўсю

структуру ў адно цэлае, з'яўляецца своеасаблівай парадыгмай, на аснове якой вызначаецца шырыня і глыбіня ўспрымання рэчаіснасці і яе асваенне выяўленчымі сродкамі, і ў той жа час гэта філасофска-эстэтычны стрыжань, які выяўляе каштоўнасныя арыентацыі паэткі. Яна здольная кахаць і ненавідзець, радавацца і засмучацца, быць строгай і ўмець даравань памылкі, — словам, быць зямной, як і ўсе. Толькі не можа змірыцца са здрадай і подласцю, якія нявечаць чалавека. Такая вышыня яе эстэтычнага ідэалу.

Цікава разам з паэткай — а гэта і сама лірычная гераіня — прайсці па матчыным садзе, падзівіцца на дрэвы мудрасці і любові, паслухаць песню райскай птушкі, у якой мелодыі нашага жыцця. Тым больш што для гэтага не патрэбна спецыяльнага запрашэння: паэтка рада падзяліцца ўсім, што перадумала, адчула і перадала ў сваім радку.

Творы Раісы Баравіковай выснаваны са звычайных праяў жыцця. Увесь сэнс у тым, што яна здольная ў сваім радку натуральна злучыць вечнае, да якога заўсёды будзем імкнуцца, і звычайнае, якое побач кожны дзень. Такая асаблівасць сапраўднага таленту — адкрываць святло высокіх ісцін, якія ўзвышаюць духоўна, у побытавых будзённых праявах перадаваць хараство і веліч чалавечага быцця, калі яно ў роўных берагах, без узрушэнняў.

Сярод сузор'яў, сярод зор
кладзецца песенны узор...
І сярод гукаў, сярод слоў
таемнай згадкай золкіх сноў
мая дарога пралягла...

*(«Двое на зямлі»)*

Зразумела, што лірычная гераіня, якая жыве па высокіх ідэалах, не можа быць раўнадушнай як да сябе, так і да тых, хто побач. Сутнасць яе маральных памкненняў у тым, каб сцвердзіць, што ў нашым жыцці, дзе супярэчнасці і канфлікты, нічога лёгкага не бывае, ілюзія нават у тым, што зусім просты шлях да матчынага саду, які — дзе б ні былі — заўсёды будзе вабіць і клікаць да сябе, хоць і здаецца, што і бліжэй да яго нічога ў свеце няма. Шлях жа пралягае праз маральна-духоўныя выпрабаванні, праз самасцвярджэнне на вернасць сабе і чалавечаму прызначэнню на зямлі. Лірычная гераіня не хавае, што ішла праз сумненні і ваганні, пераадольваючы рамантычныя павевы і ўяўленні. Як творца яна ўзяла сабе за мерку купалаўскую песню. Замілаванасць ёю як узорам адмыслова перадаецца ў вершы «Світанне ў парку імя Янкі Купалы». Вось лірычная гераіня стоена, у трывожна-радасным хваляванні, услухоўваецца ў музыку вераснёўскай раніцы. Чуйная душа, якая імкнецца спасцігнуць высокае ў будзённым, ужо ўспрымае і тоненькі плач русалкі, і глухія ўдары Свіслачы аб камень, і — о, гэта цуд! — шэпт Купалы, апранутага ў бронзу, пра недапісаны радок. Яна ўжо нават разумее, спадзеючыся на ўласную інтуіцыю і яшчэ невялікі творчы вопыт, пра што ён будзе, гэты радок, бо сэрцам далучаецца да яе вялікасці Паэзіі. Вядома, ён пра лёс нашай Беларусі і бязмежную любоў да яе, як да роднай маці.

На купалаўскім радку, падслуханым восеньскім ранкем у парку, сталела творчая муза Раісы Баравіковай. У ёй упэўнена набірала моц у сваім мастацкім гучанні ўсё, чым жыве лірычная гераіня. Яна, маладая і прыгожая, хоча быць шчаслівай, спазнаць да канца ўсю слодыч кахання, чуць звонкі смех родных дзяцей. Аднак не ўсё адназначна ў жыцці, і вельмі проста памыліцца, асабліва, калі трэба зрабіць выбар, які вызначае ўвесь твой лёс. Паэтка знаходзіць надзіва празрыстыя ў сваёй мастацкай дасканаласці ўзнёсла-вобразныя радкі, каб выказаць самыя складаныя і супярэчлівыя пачуцці лірычнай гераіні. У вершах «Я памаўчу. Ты гавары...», «Прастора спазнаецца ў руху...», «Сярод папер, сярод лістоў...», у лірычным цыкле «Госць», у іншых творах, што адносяцца да ранняга перыяду, яна пакутліва спрабуе асэнсаваць: што ў каханні галоўнае? з кім можна падзяліць пачуццё? як яго захаваць на ўсё жыццё? Прычым трэба асабліва падкрэсліць, што

ў гэтых па-юнацку дапытліва-трывожных пытаннях няма халоднай рафінаванасці пачуццяў. Ёсць адказнасць за дваіх, што пойдуць разам па жыцці. Таму і зусім натуральна, без адценняў фальшу гучаць радкі:

Кране тугою краявід
пад боскім зоркавым кілімам,
і плакаць хочацца наўзрыд
аб нечым тайным, немагчымым...

*(«Я памаўчу. Ты гавары...»)*

Або:

Там за акном маім — ліхтар,
адзіны сведка слёз і мар,
ці ж я прызнаюся яму —
пісаць ужо няма каму.

*(«Сярод папер, сярод лістоў...»)*

У абароне права жанчыны на сваё шчасце спазнаецца ўся глыбіня трагізму кахання, якое здольнае падняць да зорных вышынь і кінуць у вір нянавісці. Пасля ўжо, калі спазнала сэнс мудрасці і любові ў матчыным садзе, лірычная гераіня ў цыкле «Саламея» ў «Вершы да Пільштына» з запалам прамовіць:

Каханне, ты — прывабная быліна,
дзе з двух герояў нехта вечны раб.

Гордая і свабодная жанчына, яна, славянка, якую шчырае каханне закінула ў ісламскае замежжа, гатова ісці на разрыў з глыбокім пачуццём, калі яно становіцца сілом, што замінае рэалізаваць сябе як асобу.

Нягоды і цяжкасці, якія непазбежныя ў стасунках з каханым, не разбураюць, а гартуюць пачуццё лірычнай гераіні, яна становіцца мудрэйшай і больш абачлівай у сваіх ацэнках, са шкадаваннем перажывае няўдачы і памылкі. Узбагачэнне вопытам пашырае і паглыбляе погляд на само жыццё з яго вечнай пераменлівай плынню адчуванняў, у якіх радасці, боль і трывогі. Філасофскі пачатак становіцца ў творах дамінантай, ён кладзе свой выразны адбітак на лад і змест думак, дае ім адзнаку сталага роздуму над вечнымі праблемамі. У вершах «Жыццё, жыццё — начэй і дзён паток!..», «...І растрывожыць халадок нізіны...», «Лістапад», «Нішто не вечна...», у лірычным цыкле «Люстра», іншых творах перадаецца імклівы рух часу, які непазбежна нясе змены ў нашы адносіны да свету і маральных каштоўнасцей. Прыкметы жалю па тым, што ўжо адцвіло і што ўжо не дадзена вярнуць, не засланяюць радасці сённяшняга дня і здольнасці бачыць і ўспрымаць жыццё прыгожым, ва ўсёй паўнаце, як яно ёсць, бо ўсе яго праявы — які б узрост мы ні мелі, — заўсёды новыя і непаўторныя. Кранаюць свежасцю думкі і вобразна-выяўленчай выразнасцю радкі:

Душы абуджанай парыў,
шчымлівай музыкі ўзнясенне...
І люстра бляск, як паўтарэнне,
прыкмет чароўнае пары.

*(цыкл «Люстра»)*

Спасціжэнне сэнсу жыцця на аснове вечных ісцін, да чаго непазбежна схіляюць гады, яшчэ больш заглыбляе філасофскую аснову творчасці. Ужо і вастрэйшы зрок, і адточанае пачуццё, і ўзважанае слова. Зразумела, наступае час нейкіх вынікаў, хаця яшчэ, як і ў маладыя гады, трывожыць сэрца блякла-чырвоны пасак вячэрняй зары на восеньскім небасхіле. Стыль, падуладны задуме, якая дыктуецца светаўспрыманнем, набывае афарыстычную празрыстасць. Фраза, адточаная ў сваёй сэнсава-эмацыйнай дакладнасці, — такое ёмістае мысленне, што рэалізуецца выяўленчымі сродкамі, якія кладуцца ў радок важка і асэнсавана. Тут згад-

ваюцца вершы і перыяду сталення, і тыя, што напісаны ў апошнія часы, бо яны звязаны ў адзіную непарыўную мастацка-псіхалагічную плынь асобай лірычнай гераіні, якая няўтомная ў пошуках свайго самавыяўлення. Для яе ўзроставыя асаблівасці зусім не важныя, калі думаецца лёгка і нязмушана. Напрыклад, у вершы «Старэюць людзі, дрэвы і кусты...» яна ў згадцы-роздуме:

I ўсе законы — і быцця, і з'яў,
як не праломіць векавая прызма, —
жыццё ў абсягах вечных толькі прысмак,
а што ёсць смак, —
ніхто мне не сказаў.

А вось у лірычным цыкле «Ліпа цвіце» толькі чалавек, які ўжо шмат чаго асэнсаваў на жыццёвых скрыжаваннях, мог з поўным правам сцвярджаць:

Як ноч сама, як неба шыр,
жыццёвы міг — такі кароткі,
сягоння — з галавою ў вір,
а заўтра нават боль — салодкі...

І ў тым жа цыкле лірычная гераіня з упэўненасцю ў сваёй праваце прамаўляе:

«...Няма віны — ніколі не вініся,
жыццё саткана з мёду і крыві,
на ім згары, і горка падманіся,
і зноў уверуй — з гэтым і жыві»...

Набыты вопыт і рэальныя трывогі, выкліканыя часам і перажытым, абвастраюць патрэбу ў спасціжэнні сутнасці і цаны жыцця, бо прыходзіць само па сабе разуменне, што гэта — усяго толькі кароткае імгненне, дадзенае чалавеку для самарэалізацыі. А яна мае высокі сэнс, асветлены мэтай, калі знаходзіцца ў гармоніі з паняццямі аб вечным. Іх да свайго лёсу як бы прымярае лірычная гераіня. У цыкле «Васьміradкоўі апошніх пацалункаў» — смелы выклік небыццю, як бы пераход у вымярэнне, дзе не будзе тла, бо застаецца памяць. Лірычная гераіня тут уся ў асабістым, што ляжыць у сховах сэрца. Часам — толькі інтымныя матывы. Аднак няма адчування нейкай камернасці, замкнутасці ў аднастайным коле. Чыстая і светлая ў сваіх памкненнях, лірычная гераіня сягае туды, дзе таемнае дзейства, якое дае сэнс бытаванню на грэшнай зямлі. Як знак спробы зразумець яго сутнасць — радкі:

І мы забываем пра тлум і знямогу
ў палоне дасюль невядомага нам пачуцця,
нібы дзесь высока расказваем Богу
урыўкі з яшчэ недапісанай кнігі Быцця.

Васіміradкоўі ў зборніку — не аскепкі пачуццяў, яны ўспрымаюцца ў цэласным маральна-этычным вымярэнні як своеасаблівы асабісты кодэкс, які лірычная гераіня прамаўляе вершам па праве чалавека, што многа прайшоў шляхоў-дарог, дзе была радасць жаданых сустрэч і горкі прысмак расстанняў. Пра гэта — многія радкі, у тым ліку і такія:

Я не прыеду больш сюды.
Хай набірае сэнс свой драма
пад назвай дзіўнай: «Тры гады
і ноч яшчэ адна ў Адама».

Васьміradкоўі ў зборніку — узор філасофска-эстэтычнай чысціні паэзіі, дзе асабістае падымаецца майстэрствам мастацкага слова ў неба вечнасці; у ёй зямное і высокае ўвасоблена ў субстанцыю нашага жыцця.

У зборніку ва ўсёй красе зазззяла стылявая мадэль паэзіі Раісы Баравіковай. Яе вызначальная рыса — гэта сплаў лірыкі, часцей за ўсё інтымнай, і публіцыстычнай

завостранасці, калі зусім выразнае стаўленне лірычнай гераіні да сацыяльна-побытавых праяў жыцця, да паваротаў лёсу. Гэту мадэль жывіць усё багацце вобразнавыяўленчай палітры, узятай у адзінстве ідэі і спосабаў яе рэалізацыі. Метафара, як правіла, разгорнутая асацыятыўная, за ёй — разнастайнасць сувязей і ўзаемадачыненняў матэрыяльнага свету і пачуццяў лірычнай гераіні. Напрыклад, у вершы «У мяне палянка ёсць за садам...», прысвечаным мастаку Міколу Селяшчуку, кранаюць сэрца шчымліва-тонкай інтанацыяй, сваёй дакладнасцю радкі:

Упадзе ў траву пялёстак клейкі,
задрыжыць расінка на плячы, —
адгукнуся голасам жалейкі,
каб не сумавалася ўначы.

За метафарай угадваецца рэха жалю, што нас пакінуў чалавек, і разуменне, што жыццё працягваецца, — такая яго логіка: захоўваць з намі самае дарагое. Нават у палёце ў садзе лёгкага матылька.

Эпітэт у паэткі заўсёды свежы ў перадачы самых складаных і тонкіх адценняў думак і пачуццяў; у кантэксце ён пашырае і па-новаму адкрывае рэальныя з'явы, расхінае іх новы змест. Напрыклад, у вершы «Гэта ж проста восень адшумела...»:

І растала ў *снежнай* дымцы *белай*
астраўком *буслінага* крыла (выдзелена мной. — **Н. К.**).

Можна яшчэ здзіўляцца ўменню паэткі знаходзіць выяўленчыя сродкі, якія ў канкрэтным кантэксце адкрываюць невычэрпныя магчымасці слова. Таму ў зборніку свет рэальны і мастацкі як цэласны малюнак, дзе ўсе ўзоры, увасобленыя ў вобразным радку, знаходзяцца ў адным патоку адчування і ўспрымання.

Пра што б ні вяла сваю песню лірычная гераіня, яна раз-пораз нагадвае нам, што ў яе створаны свой сад. Вобраз яго выштукоўваецца з любасцю і замілаваннем. У ім добра думаецца і марыцца, высноўваюцца ідэі і летуценні. Ён то ў цьмяных абрысах за далёкай заслонай дажджоў, дзе згублена тое, што некалі было лёсам (верш «Стары сад»), то ўваскрэсне ў памяці сярод старых прысад, дзе блукае поўня, нібы лунь, і густая, някошаная трава (лірычны цыкл «Двое на зямлі»), то пад цяжарам важкіх пладоў (верш «Хто з нас не ўспомніць пладаносны сад...», прысвечаны Георгію Марчуку). Матыў саду як асяродка, дзе сляды свайго лёсу, працінае іншыя вершы. У іх лірычная гераіня і ўзнёсла-вясёлая, і журботна-роздумная, але — якой бы ні была ў сваіх перажываннях, — заўсёды шчырая і непадробная ў памкненнях, набаку людзей, якія нясуць з сабой дабро і радасць жыцця.

...Разам з лірычнай гераіняй закончым агледзіны матчынага саду. Ён звычайны ў сваёй жыццёвай прастаце і ў той жа час выдае казачным. Тут вечназялёныя дрэвы мудрасці і любові гамоняць з небам, у іх райская птушка вядзе сваю бясконцую песню радасці і журбы пра жыццё. Слухаеш яе чароўны голас пра высокае і зямное, што зліліся ў непадзельнасці, і ўсведамляеш, што ўжо цяпер лепей разумееш людзей, якія побач, і многія супярэчлівыя і складаныя праявы штодзённага зямнога бытавання. І, зведваючы душэўнае ўзварушэнне, яшчэ раз перачытваеш радкі з верша пра матчын сад, у якіх філасофскі роздум узбагачаны жыццёвымі ісцінамі:

Жаночы лёс — няпросты лёс,
я гэта знаю,
удосталь смеху, ўдосталь слёз —
усё прымаю,
да сэрца блізка не бяры
мае нягоды,
яшчэ спяваюць салаўі
мне цераз годы...

*(«Як ціха яблыні шумяць...»)*

Ірына САВІЦКАЯ

# НАДЗЁННАЕ ВЫДАННЕ

*Надзея Мажэйка.* **Частотны слоўнік беларускай мовы.** Зоркі гор, 2006.




У беларускім мовазнаўстве практыка колькаснага аналізу ўжывання лексічных адзінак была распачата ў 70-я гады XX стагоддзя і працягнута да 90-х гадоў (гл. Мажэйка Н. С., Супрун А. Я. Частотны слоўнік беларускай мовы. Мастацкая проза. Мінск, 1976; Публіцыстыка, 1979; Вусная народная творчасць, 1982; Гутарковая мова, 1989; Паэзія, 1992), аднак зводны частотны слоўнік выкананы ў айчыннай лексікаграфіі ўпершыню. Гэтая слоўнікавая праца складзена на аснове лексічнага матэрыялу з пачатку XX стагоддзя і да нашых дзён у аб'ёме 1 801 000 словаўжыванняў, якія колькасна склалі 64 536 слоў; выбарка рабілася з тэкстаў розных функцыянальна-стылістычных груп — мастацкай прозы, вуснай народнай творчасці, паэзіі, публіцыстыкі, гутарковай і дзелавой моў — у прыблізна роўнай прапорцыі.

На думку аўтара працы, прэзентацыя матэрыялу з асноўных функцыянальных сфер мовы не толькі забяспечвае дастатковую рэпрэзентатыўнасць выбаркі, але і аб'ектыўна адлюстроўвае склад беларускай лексікі. Вялікая ілюстратыўная ёмістасць слоўніка (амаль 65 000 слоў) абумовіла і яго значны аб'ём: кніга мае вялікі фармат і налічвае 658 старонак.

Зыходным матэрыялам для выбаркі словаўжыванняў з мастацкай прозы з'явіліся творы беларускіх класікаў — Якуба Коласа, Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча, Івана Шамякіна, Васіля Быкава, Кузьмы Чорнага, Ядзвігіна Ш., Змітрака Бядулі, Янкі Маўра, Эдуарда Самуйлёнка, Янкі Брыля, Міхася Зарэцкага і інш.

Частотная характарыстыка лексічнага складу ўзораў вуснай народнай творчасці зроблена на аснове тэкстаў розных жанраў: прыказак і прымавак, абрадавых песень, загадак, прыпевак, казак, дзіцячага фальклору і інш. Выбарка выканана з тэкстаў збору «Беларуская народная творчасць» (выдавецтва АН БССР) і зборнікаў «Песні народных свят і абрадаў» і «Лірычныя песні» (складальнік Ніл Гілевіч).

Выклікае цікавасць прынцып выбаркі лексічнага матэрыялу з паэтычных тэкстаў: з твораў паэтаў-класікаў, такіх, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Танк, Уладзімір Караткевіч, Пімен Панчанка, Пятро Глебка, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Аркадзь Куляшоў, было ўзята па 10 000 словаўжыванняў; з твораў Анатоля Вярцінскага, Яўгеніі Янішчыц, Петруся Макаля, Міхася Стральцова, Васіля Віткі і некаторых іншых аўтараў было выбрана па 2000—5000 словаўжыванняў. Выбаркі па 1000—2000 словаўжыванняў былі зроблены з твораў маладых паэтаў, надрукаваных у беларускай перыёдыцы, і з перакладных тэкстаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Язэпа Семяжона, Васіля Сёмухі, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Алега Лойкі. Выбарка ў 2000 словаўжыванняў была зроблена і з ананімнай паэмы «Сказ пра Лысую гару». Гэты падыход дазволіў аб'ектыўна адлюстраваць адметнасць паэтычнай мовы розных жанраў і этапаў беларускай мастацкай творчасці XX стагоддзя.

Даволі разнастайным з'яўляецца і матэрыял з публіцыстычных тэкстаў: пры апрацоўцы лексікі выкарыстоўваліся і так званыя перадавыя артыкулы, і інфармацыйныя рэпартажы, і спартыўная хроніка, і тэксты сацыяльнага і палітычнага зместу з газет «Звязда», «Мінская праўда», «Голас Радзімы», «ЛіМ», з часопісаў «Полымя», «Беларусь».

Матэрыял для выбаркі гутарковых словаўжыванняў быў узяты не толькі з пісьмовых тэкстаў (запісаў рэгіянальных гаворак з хрэстаматый па беларускай дыялекталогіі, з дыялогаў у празаічных мастацкіх і драматургічных творах), але і з магнітафонных запісаў нязмушанага маўлення.

Матэрыял дзелавой мовы ўключае ў свой склад таксама навукова-тэхнічную лексіку і быў выбраны з энцыклапедычных выданняў і асобных прац па розных галінах грамадскіх і прыродазнаўчых навук. Матэрыялам паслужылі і вучэбныя дапаможнікі для сярэдняй і вышэйшай школы.

Зрэшты, усе гэтыя звесткі пазначаны ва «Уводзінах» да слоўніка і сведчаць пра храналагічную і жанравую разнастайнасць ілюстрацыйнага матэрыялу. Складальніца падрабязна апісвае ход даследавання, указвае, якія лексемы ўлічваліся ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу (абрэвіятуры, амонімы, запазычаныя назоўнікі, складаныя словы, мянушкі, субстантываваныя назоўнікі і інш.), прынцыпы абазначэння часцінамоўнай прыналежнасці і ўжывання стылістычных памет.

Неабходна падкрэсліць, што каштоўнасць працы палягае не толькі ў гэтым, але, як ужо адзначалася, у яе зводным характары: да кожнага слова, размешчанага ў алфавітным парадку, прыводзяцца статыстычныя паказчыкі яго агульнай частотнасці і частаты ўжывання адразу ва ўсіх функцыянальных стылях. Напрыклад, да слова ***абавязак*** прыведзены наступныя дадзеныя: 140-109 (20-14, 2-2, 17-14, 65-48, 14-4, 22-20). Гэта азначае наступнае: агульная частата слова — 140; яно сустрэлася ў 109 фрагментах; частата яго ўжывання ў мастацкай прозе — 20 у 14 фрагментах, у вуснай народнай творчасці — 2 у 2 фрагментах, у паэзіі — 17 у 14 фрагментах, у публіцыстыцы — 65 у 48, у гутарковай мове — 14 у 4, у дзелавой мове — 22 у 20. Калі ў пэўнай падмове слова не ўжывалася, то яго адсутнасць абазначаецца дэфісам. Аналіз падлікаў даў магчымасць складальніцы зрабіць некаторыя высновы, у прыватнасці, пра словы з нізкай частатой, якія характэрны для жывой гаворкі. На думку Надзеі Мажэйкі, «гэтая частка слоў, у першую чаргу, і характарызуе багацце слоўніка, яго стылістычныя асаблівасці і магчымасці, паколькі менавіта ў гэтую частку ўключаны словы, якія нават не зафіксаваны слоўнікамі, рэдка ўжываюцца, з'яўляюцца архаічнымі альбо дыялектнымі і т. п.».

Аднак найбольшую цікавасць і лінгвістаў, і неспецыялістаў выклікаюць самыя частотныя словы — агульнаўжывальная лексіка, так званае ядро лексічнага складу мовы, першая тысяча слоў якога змешчана ў асобным раздзеле слоўніка. Акрамя простага пераліку такіх словаўжыванняў, ва «Уводзінах» змешчаны аналіз іх часцінамоўнай прыналежнасці, які дае пэўнае ўяўленне аб заканамернасцях функцыянавання моўнага ядра.

Разам з тысячай найбольш частотных слоў у слоўніку змешчаны (у асобным раздзеле) больш за 2000 адзінак незразумелых (загадкавых, дыялектных) і рэдкаўжывальных лексем з іх семантызацыяй і кантэкстнымі ілюстрацыямі, напрыклад: **АРУДАЎСКІ** (*прым., в.* ад *рус.* ОРУД — аддзел рэгулявання вулічнага руху): — ... *перад пастом **арудаўскім*** (Г. Бураўкін. Вершы // Ч.М. 1969. № 5. С. 7); **КАЛАНОК** (*абл.*) — тут: прыпечак. — *На **каланку** клалі агонь* (запісана І. Яновіч у в. Грэск Слуцкага р-на).

Як бачым, у «Частотным слоўніку беларускай мовы» ў статыстычным аспекце прааналізаваны розныя пласты лексікі паводле яе функцыянальна-стылістычнай прыналежнасці і ступені ўжывання — як найбольш частотнай, так і рэдкаўжывальнай. Гэта грунтоўнае і актуальнае лінгвістычнае даследаванне, якое базуецца на колькасным аналізе функцыянавання канкрэтных моўных адзінак у жывой маўленчай практыцы. Сучасная беларуская мова характарызуецца высокай лексічнай і граматычнай варыянтнасцю, а прадстаўлены слоўнік дазваляе прасачыць заканамернасці словаўжывання ў кожным функцыянальным стылі, сістэматызаваць агульную структуру лексікі беларускай мовы ў сінхронным і дыяхронным аспектах, што пацвярджае яго надзённасць і своечасовасць.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Палескія Афіны

Калі вы яшчэ не былі ў старажытным беларускім горадзе Слоніме, то спазніліся як мінімум на 200—300 гадоў. І шмат чаго ўжо не ўбачыце. Але моцна засмучацца не трэба. Бо Слонім — горад, пра які можна распавядаць бясконца, ды і паглядзець тут ёсць на што нават і сёння.

Летась горад над ракой Шчарай адзначыў сваё 755-годдзе. Але, па археалагічных дадзеных, умацаванае гарадзішча на тэрыторыі сучаснага горада магло ўзнікнуць яшчэ ў 1040 годзе. Многія сучасныя даследчыкі, спасылаючыся на польскага гісторыка XV стагоддзя Яна Длугаша, пішуць, што ў 1040 годзе кіеўскі князь Яраслаў Уладзіміравіч, «спаткаўшыся на палях слонімскіх з літвінамі, перамог іх так, што затым, калі ён праехаў Літву да самага Нёмана, прымусіў яе на пэўны час падпарадкавацца».

На думку гісторыкаў, калі існавалі «палі слонімскія», то, лагічна, мусіў існаваць і сам Слонім. Такім чынам, спасылаючыся на Длугаша, у гістарычных даведках пра Слонім з'явілася і другая дата — 1040 год, як пачатак існавання горада, першае ўпамінанне аб ім у хроніках. Узгадваецца Слонім і ў старажытнарускім летапісе «Повесть временных лет».

Да XIV стагоддзя Слонім у пісьмовых дакументах фігураваў як Услонім, Вслонім, Васлонім. Пытанне паходжання назвы горада і цяпер цікавіць многіх даследчыкаў. Адны з іх выказваюць думку, што горад названы так, бо тут знаходзілі шмат слановых і мамантавых касцей. Іншыя даследчыкі кажуць, што назва горада паходзіць ад польскіх слоў «слома» (салома) ці «слоніна» (сала), спасылаючыся на саламяныя стрэхі старых будынкаў горада і шырокі гандаль салам. Гісторык Васіль Мялешка некалі прапанаваў сваю версію наконт назвы горада. Ён пісаў, што назва «Слонім» паходзіць ад слоў «сленіс», «сленумас», што азначае нізіна, нізінны. А слонімскі краязнавец Васіль Супрун сцвярджае, што назва «Услонім» паходзіць ад слова «ўслон», «услона» — заслон, пэўнае засланяючае збудаванне. Бо, як вядома, рака Шчара, якая працякае праз Слонім, яшчэ ў старажытныя часы была важнай магістраллю, якая злучала Палессе з Панямоннем і Прыбалтыкай.

З канца XIII стагоддзя Слонім уваходзіў у Вялікае княства Літоўскае. Пры князю Альгерду Слонім ахоўваўся яго братам Кейстутам, які валодаў і Трокамі. Трокі, дарэчы, былі месцам яго асноўнага княжання. Тым не менш князь з сынам Вітаўтам часта бывалі ў слонімскім замку і добра ведалі гэты край. Пасля трагічнай смерці Кейстута Слонім перайшоў пад непасрэдную апеку князя Вітаўта. Вітаўт любіў Слонім. Ён вельмі часта тут бываў, а ў 1409 годзе наведаў Слонім разам з жонкаю Ганнай.

У 1410 годзе ў Грунвальдскай бітве пад камандаваннем вялікага князя Вітаўта мужна змагаліся і слонімскія харугвы. А пасля перамогі Слонімскае княства было ператворана ў Слонімскі павет і ўвайшло ў Трокскае ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Дзесьці ў 1490 годзе вялікім князем літоўскім і каралём польскім Казімірам Ягелончыкам побач з Замкавай плошчай быў пабудаваны першы ў горадзе каталіцкі касцёл. Цяпер на гэтым месцы ўзвышаецца касцёл Святога Андрэя — славутасць горада Слоніма.

Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага і кароль Польшчы Жыгімонт I Стары ў 1532 годзе даў Слоніму Магдэбургскае права. З гэтага часу ўся ўлада ў гора-



*Рынак у Слоніме пачынаўся каля сінагогі. Фота пач. XX стагоддзя.*

дзе перайшла ў рукі рады. Зыгмунд III Ваза ў 1591 годзе пацвердзіў Слоніму Магдэбургскае права і даў герб гораду: залаты леў з падвойным сярэбраным крыжам на блакітным полі. З 1631-га да 1685 года ў Слоніме праходзілі перадсеймавыя генеральныя сеймікі.

Інтэнсіўнае развіццё горада прыпадае на той час, калі слонімскім старостам стаў вялікі літоўскі канцлер Леў Сапега. Новы староста спрыяў уздыму культуры і прамысловасці горада, яго палітычнай значнасці. Побач з замкам на беразе Шчары Леў Сапега ўзвёў мураваны палац, названы яго імем. У гэты час Сапега сабраў і меў вялікую бібліятэку і архіў. Парупіўся ён і аб добраўпарадкаванні вуліц і мастоў горада. Не без захаду слонімскага старосты з 1605 года горад атрымаў права «склада». Гэта абавязвала розных купцоў, якія везлі праз яго тавары, спыняцца і гандляваць імі ў Слоніме. Леў Сапега заснаваў у горадзе над Шчарай першы ткацкі цэх.

Калі вы першы раз прыехалі ў Слонім, то лепш за ўсё пачаць знаёмства з горадам менавіта з плошчы Льва Сапегі. На гэтай плошчы сёння ўзвышаецца касцёл Святога Андрэя, пабудаваны ў 1775 годзе. Настаяцель касцёла айцец Вітольд распавядае вам цікавую гісторыю пра гэты храм, а яшчэ пра тое, як у слонімскім касцёле ў спецыяльным куфэрачку зберагалася сэрца Міхала Казіміра Агінскага. А калі Слонім захапілі бальшавікі, яно было ўкрадзена і вывезена далёка на Усход.

З плошчы Льва Сапегі вы можаце прайсці праз два масты і патрапіць у слонімскі гарадскі парк. Праз парк працякае славуты канал Агінскага. Так-так, я не памыліўся, менавіта канал Агінскага. Справа ў тым, што росквіт Слоніма ў другой палове XVIII стагоддзя звязаны з дзейнасцю вялікага гетмана літоўскага Міхала Казіміра Агінскага. У 1771 годзе Агінскі перайшоў на бок Барскай канфедэрацыі, але не здолеў са сваім войскам заняць Нясвіж і Слуцк. У ноч на 23 верасня 1771 года яго трохтысячнае войска было разбіта пад Сталавічамі (цяпер Баранавіцкі раён) рускімі войскамі Суворава. Пасля паразы Міхал Казімір Агінскі эміг-




*Слонімская пажарная дружына. Фота пач. XX стагоддзя.*

рыраваў. Праз чатыры гады, атрымаўшы амністыю і секвестраваныя маёнткі, Агінскі вярнуўся ў Слонім, дзе пабудаваў некалькі прадпрыемстваў, друкарню, заснаваў тэатр і капэлу. Па яго ініцыятыве і на яго сродкі быў пабудаваны ў Слоніме і канал Агінскага.

У тэатры Агінскага працавалі прафесійныя беларускія, польскія, італьянскія оперныя і драматычныя акцёры, мастакі, прыгонны хор і балет. Збор нот твораў, што выконваліся на сцэне тэатра, уключаў 60 опер, 18 балетаў, 3 музычныя камедыі, 253 сімфоніі і больш за 460 іншых музычных твораў. У 1781 годзе функцыянаваў «плывучы тэатр» на баржах на Агінскім канале ў Слоніме. А «дом оперы» меў вялікую сцэну, прыстасаваную для паказаў любых барочных спектакляў, оперных і балетных, для выхаду вялікай колькасці спевакоў і статыстаў, для тэатральных баталій коннікаў і водных феерый (частка сцэны затаплялася вадой з канала і па ёй плавалі лодкі), для складаных дэкарацый, розных сцэнічных эфектаў. Тэхнічныя магчымасці сцэны дазвалялі паказваць і два фантаны, якія асвятляліся бенгальскімі агнямі.

Побач з тэатрам у 1765 годзе ў Слоніме пачала дзейнічаць першая кавярня («кафенхаўс»). Гэта быў сапраўды шыкоўны цагляны будынак, аздоблены ўнутры шаўковымі шпалерамі і гравюрамі на медзі. Посуд тут быў фаянсавы, варшаўскай вытворчасці.

Сам Міхал Казімір Агінскі пісаў музыку і літаратурныя творы, некаторыя з іх былі надрукаваны ў слонімскай друкарні. Ён выдаў кнігу «Байкі і не байкі» ў двух тамах. Як паэт, драматург і перакладчык, ён увайшоў у гісторыю польскай літаратуры. Як расказваюць гістарычныя крыніцы, калі памёр Ж. Ж. Русо, Агінскі адразу адправіўся ў кабінет караля і сказаў: «Ваша міласць, памёр мой калега!» Кароль палічыў, што гаворка ідзе пра польскага польнага гетмана Сасноўскага. «Не, — запярэчыў Агінскі, — я маю на ўвазе смерць Русо!» Калі ж ён убачыў здзіўленне караля, то растлумачыў: «Бо Русо ж напісаў музыку да оперы «Le Devin du Village». Я таксама пісаў лібрэта і музыку да операў, якія былі пастаўлены ў Слоніме. У гэтым сэнсе Русо — мой калега!»

Тэатр Агінскага ў Слоніме знаходзіўся на Опернай вуліцы. На вялікі жаль, будынак тэатра да сённяшніх дзён не захаваўся. Але ёсць у Слоніме Оперная вуліца. Такой вуліцы не мае ні адзін горад у свеце. І той, хто наведае Слонім, можа прайсціся па гэтай вуліцы, па якой некалі спяшаліся артысты ў свой славуты тэатр. А яшчэ захавалася аўстэрыя, пабудаваная з цэглы архітэктарам Я. Боем, які праектаваў пры палацы Агінскага шэраг барочных надворных пабудоў. Палова першага паверха аўстэрыі была адведзена пад гасцінную, перакрытую чатырма ветразевымі скляпеннямі з цэнтральнай апорай. Пад гэтай часткаю дома знаходзяцца шырокія скляпеністыя падвалы. Цэнтральная лесвіца вузкага вестыбюля вядзе на другі жылы паверх. Аўстэрыя — адзіная ўцалелая пабудова аднаго з цікавейшых палацавых ансамбляў Беларусі другой паловы XVIII стагоддзя. Яна сёння дае ўяўленне аб агульным характары яго барочнай архітэктуры.

Слонім часоў Агінскага нярэдка называлі палескімі Афінамі. Сюды ў святочныя дні з'язджаліся вяльможы і багацейшая шляхта з усяго краю і нават з Варшавы. Горад меў узорны парадак. Скверы, сады, аранжарэі і рыбныя ставы ствараліся і даглядаліся лепшымі спецыялістамі Еўропы. Дарэчы, у Слоніме пры двары Міхала Казіміра Агінскага прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады яго пляменніка Міхала Клеафаса Агінскага, аўтара вядомага ўсім паланеза «Развітанне з Радзімаю». Тут ён атрымаў пачаткую музычную адукацыю ў вядомага музыканта і кампазітара Іосіфа Казлоўскага.

Той тэатральны шлях, які пачаў у Слоніме Міхал Казімір Агінскі амаль 300 гадоў назад, працягваецца і сёння. У горадзе існуе прафесійны дзяржаўны беларускі драматычны тэатр, які ставіць спектаклі па п'есах беларускіх, рускіх, польскіх, французскіх і італьянскіх драматургаў. Спектаклі ставяцца як для дарослых, так і для юных гледачоў. Плануецца ў цэнтры горада пачаць будаўніцтва тэатра, а плошчу Леніна перайменаваць у Тэатральную плошчу і перад тэатрам паставіць помнік Міхалу Казіміру Агінскаму.

Калі вы азнаёміліся з мясцінамі, звязанымі з Львом Сапегам і Агінскімі, можаце наведаць у цэнтры Слоніма яшчэ кляштар бернардзінак і кляштар бернардзінцаў, Спаса-Праабражэнскі праваслаўны сабор і сінагогу. Слонімская сінагога — найстарэйшы архітэктурны помнік у Слоніме. Яна была пабудавана ажно ў 1642 годзе. Гэта выдатны помнік архітэктуры барока з архітэктурна-кампазіцыйнымі прыёмамі, характэрнымі для манументальнага дойлідства Беларусі XVII—XVIII стагоддзяў і арыгінальным арнаментальна-дэкаратыўным вырашэннем інтэр'ера. У будучым плануецца зрабіць тут беларускі рэспубліканскі музей яўрэйскага мастацтва.

Слонім — горад шматканфесійны. На левым беразе канала Агінскага знаходзіцца і слонімская мячэць. Можна завітаць і сюды, дзе старшыня-імам слонімскай мусульманскай абшчыны Сулейман Байрашэўскі раскажа вам гісторыю мусульман на слонімскай зямлі, зробіць экскурсію па мячэці. Татары ў Слоніме з'явіліся ў XVI стагоддзі, а ў 1765 годзе тут ужо была мячэць. Цяпер пры мячэці існуе нядзельная мусульманская школа, арганізавана навучанне арабскай мове, гісторыі ісламу.

Азнаёміўшыся ў Слоніме з усімі канфесіямі і іх храмамі, неабходна вярнуцца ў цэнтр горада і наведаць мясцовы краязнаўчы музей імя Язэпа Стаброўскага. Язэп Стаброўскі быў археолагам, краязнаўцам, гісторыкам, філосафам, вынаходнікам, заснавальнікам музея ў Слоніме ў 1929 годзе.

Бацька Язэпа Стаброўскага — Іосіф — удзельнічаў у венгерскай, турэцкай і севастопальскай войнах. Штабс-капітан Мурамскага палка Іосіф Вікенцьевіч Стаброўскі быў паранены падчас бітвы пад Севастопалем і звольнены са службы па раненні ў 1859 годзе. Пахаваны ў вёсцы Орлавічы на Слонімшчыне.

Маці Язэпа Стаброўскага — Людвіка — была родам з князёў Масальскіх. Памерла ў 1902 годзе, пахавана побач з мужам у Орлавічах. Дарэчы, бацька Людвікі Стаброўскай — Адольф Масальскі — прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863 года. За гэта Мураўёў-вешальнік саслаў яго ў Нерчынскія руднікі. І родны брат маці — Карл Масальскі — таксама ўдзельнічаў у гэтым паўстанні. Ён быў камандзірам аднаго з атрадаў Кастуся Каліноўскага. Яго схапілі, пасадзілі ў клетку і вазілі па вуліцах Слоніма, а пасля расстралялі...

Дзякуючы сваім здольнасцям Язэп Стаброўскі атрымаў магчымасць закончыць Полацкі кадэцкі корпус, Маскоўскі археалагічны інстытут і Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце. Быў членам-карэспандэнтам Віленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага таварыства і сябрам Яраслаўскага археалагічнага таварыства.

Першую сусветную вайну Язэп Стаброўскі закончыў у чыне палкоўніка. Пасля кастрычніцкага перавароту ў Расіі служыў у Чырвонай Арміі. Але з цягам часу навуковыя інтарэсы ўзялі верх над прафесіянальна-ваеннымі, хоць Язэп Язэпавіч, як расказваюць блізкія яму людзі, да канца сваіх дзён не здымаў шыня-

ля. У 1921 годзе Язэп Стаброўскі вяртаецца на родную Слонімшчыну і ўсе свае сілы і веды аддае даследаванню роднага краю. Ён збірае ўсё, што, на яго погляд, уяўляла гістарычную каштоўнасць. У калекцыі Язэпа Стаброўскага былі такія экспанаты, якія маглі б упрыгожыць стэнды і залы найлепшых музеяў Еўропы: багатая калекцыя крамянёвых і каменных вырабаў часоў мезаліту і неаліту, галава старажытна славянскага ідала, аўтографы Карамзіна, Дзяржавіна, Льва Талстога, два пісьмы Пушкіна да яго жонкі Наталлі Ганчаровай, гістарычныя рукапісы XII—XVI стагоддзяў і многія іншыя рэчы.

Восенню 1924 года Язэп Стаброўскі арганізаваў у Слоніме выставу старадаўніх дакументаў і кніг, якія збіраў шмат гадоў. Выстава выклікала вялікую цікавасць у наведвальнікаў, асабліва сярод моладзі. Пасля яе закрыцця ўвесь сабраны археалагічны матэрыял і каштоўную калекцыю вырабаў каменнага веку Стаброўскі паклаў у аснову гісторыка-краязнаўчага музея, які расчыніў дзверы перад наведвальнікамі ў верасні 1929 года.

Сапраўдны росквіт музей Стаброўскага ў Слоніме набыў у канцы 1939 года і на пачатку 40-х гадоў. Жыхары горада і раёна ахвотна наведвалі музей. Дзякуючы нашаму гісторыку і краязнаўцу ён узбагаціўся каштоўнымі — мінералагічнай і палеанталагічнай, выставамі па гісторыі і рэлігіі, карцінамі, нумізматыкай, этнаграфічным матэрыялам. Усё складалася даволі добра, але раптам — вайна. У чэрвені 1941 года гаспадарамі ў Слоніме ўжо былі немцы. І ўсё ж 2 кастрычніка 1942 года на Паркавай вуліцы, 42, у старажытным горадзе над Шчарай музей зноў адчыніў свае дзверы.

Язэп Стаброўскі быў не толькі выдатным археолагам і краязнаўцам, але і таленавітым гісторыкам і вынаходнікам. Ім даследавана больш за 150 курганоў на Гродзеншчыне, напісаны і надрукаваны дзесяткі артыкулаў па краязнаўстве і гісторыі. Дарэчы, першы артыкул быў надрукаваны аж у 1899 годзе ў сакавіцкім нумары часопіса «Исторический вестник». Ён меў назву «К вопросу об ископаемых стеклянных шарах».

Спадаром Стаброўскім былі напісаны дзесяткі навуковых прац. Адны назвы гавораць самі за сябе. Гэта «Састаў і абсягі Сусвету», «Сутнасць жыцця і яго з'яўленне на Зямлі», «Праваслаўе, каталіцызм і унія. Іх узаемаадносіны на Слонімшчыне», «Каменны век (неаліт) на Слонімшчыне і ў суседніх рэгіёнах», «Норавы і звычаі ў Заходняй Беларусі ў XVI і XVII стагоддзях», «Сіметрыя і хараство ў прыродзе», «Крывавым следам», успаміны з вайны 1914 года, альбом з 300 здымкамі і мемуарамі і многія іншыя.

Што датычыць вынаходлівасці, то трэба адзначыць, што і яна была ў Стаброўскага. Асабліва знайшлі ў свой час прымяненне шрапнель удасканаленага ўзору (зацверджана ў 1907 годзе Галоўным артылерыйскім упраўленнем) і тэлефон-прыёмнік удасканаленай канструкцыі (польскі патэнт № 18728)…

Язэп Стаброўскі пражыў 98 гадоў. Пасля сябе пакінуў музей у Слоніме. Экспазіцыя яго налічвае сёння 9 залаў. Экспанаты гістарычнага аддзела знаёмяць з гісторыяй краю ад сівой даўніны і па сённяшні дзень. Зацікавяць і экспанаты аддзела прыроды, якія распавядаюць аб насельніках ледніковай фауны краю, яго ландшафце, сучасным жывёльным, раслінным свеце, карысных выкапнях. Сярод экспанатаў музея ёсць вельмі рэдкія, нават унікальныя. Да іх належаць стараславянскі ідал X стагоддзя, клад польска-літоўскіх манет XVI—XVIII стагоддзяў, калекцыя старадрукаў і дакументаў XVI—XIX стагоддзяў, царкоўных рэчаў XVIII—XIX стагоддзяў, стары драўляны водаправод XVIII стагоддзя, бронзавы бюст Напалеона, выкананы ў Парыжы ў 1885 годзе, Статут Вялікага княства Літоўскага на польскай мове 1648 года, план Слоніма 1825 года, планы асобных маёнткаў XVIII—XIX стагоддзяў і іншыя.

Краязнаўчы музей у Слоніме праводзіць экскурсіі для дарослых і для дзяцей, тэматычныя заняткі са школьнікамі і дашкольнікамі, стварае штогод па 10 выстаў, якія прысвячаюцца знамянальным датам у жыцці Беларусі і горада, адметным землякам. Тут наладжваюцца розныя выставы мастакоў, майстроў




*Шчара. Фота пач. XX стагоддзя.*

народнай творчасці, цікавых экспанатаў з фондаў музея. Кожны год музей наведвае каля 30 тысяч чалавек.

З краязнаўчага музея трэба толькі перайсці вуліцу і вы трапіце ў музей кнігі Слонімскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Якуба Коласа. Гэта першы музей кнігі ў Гродзенскай вобласці. Складаецца ён з дзвюх залаў. Адна зала прысвечана класіку беларускай літаратуры Якубу Коласу, імя якога носіць бібліятэка. Другая зала музея распавядае пра літаратурную Слонімшчыну.

Ёсць у Слоніме яшчэ музей «Горад Слонім і яго героі», мемарыяльный музей сярэдняй школы № 2, які прысвечаны героям Другой сусветнай вайны Кузьме Гнідашу і Клары Давыдзюк, этнаграфічны музей-майстэрня «Беларускае мястэчка», а таксама народны музей імя Аляксандра Жукоўскага сярэдняй школы № 4, у фондзе якога захоўваюцца звыш 6 тысяч унікальных экспанатаў. За адзін дзень цяжка абысці гэтыя музеі.

А яшчэ вы абавязкова павінны трапіць у Альбярцін — стары мікрараён горада Слоніма. Раней гэта быў пасёлак. А яшчэ раней — сядзіба маршалка шляхты Слонімскага павета В. Пуслоўскага. Да сённяшніх дзён захаваўся яго мураваны палац, дзе некалі знаходзілася багатая калекцыя твораў мастацтва. Захаваліся канюшня і пейзажны парк. Ды, калі шчыра казаць, пасля наведвання Слоніма — ён будзе доўга стаяць перад вачыма, бо гэты горад не падобны на ўсе іншыя гарады Беларусі. Ён сам па сабе, ён цікавы, ён разнастайны сваімі гістарычнымі і культурнымі мясцінамі. Таму шчыра запрашаем!



## Антоні Дымар

### ПЕГАС І АВЁС

*Пегас мой думны, кормлены аўсом,*
*Не раз мяне імчаў высока...*

Мікалай Віняцкі

Быў і ў мяне зайздросны лёс,
Быў час — і я наўсцяж галёкаў:
Пегас мяне высока нёс
Сваім крылатым лётам-скокам.

Ды неспадзеўны выпаў год —
Дзікі авёс мой патапталі.
Змарнеў Пегас, прыцішыў лёт,
І крылы лёткія апалі.

І ціха стала навакол,
А на душы — пякельна-ціха...
Конь раптам грымнуўся аб дол,
А з ім і я — на тое ліха.

Ляжыць Пегас, не можа ўстаць,
І на мяне тарашчыць зрэнкі:
«Як хочаш трохі палятаць, —
Пазыч хоць сечкі ў Федарэнкі».

### ВЕРШАСТИХИ

*Я збавіцель твой аднойчы,*
*А заўжды — «палач»...*

Анатоль Кудласевіч

Хата мая з краю.
Там я «шчы» вару,
Вершыкі ствараю,
А парой — «творю».

Можа, ад ляноты,
Як настрой благі,
Не купляю боты,
Лепей — «сапоги».

Смела гляну ўгору,
Быццам незнарок:
Столь бялела ўчора,
Сёння — «потолок».

А зірну пад ногі,
Як з-пад хмар арол:
Дзе была падлога —
Непамыты «пол».

Нехта есць са смакам
Костку ля бяроз.
Гэта ж мой сабака,
Злосны-злосны «пёс».

Дзесьці сярод ночы
Мэкае каза.
Што не бачаць вочы —
Ведаюць «глаза».

Я такі не першы
У наш час ліхі:
Днём пішу я вершы,
А ўначы — «стихи».

## ПАРАДЫЙНАЯ ПАРОДА

*...Калі з мяне выводзілі пароду.*

*Прызнаюся: сядзелі ў рэстаране...*

Сяргей Панізнік

Я верыў, што спазнаю асалоду
І мой спадзеў выключнай з'явай стане...
Калі з мяне выводзілі пароду,
Сядзелі парадысты ў рэстаране.

Сядзелі, быццам суддзі на прысудзе.
І першы страпянуўся Толя Зэкаў:
«Не ведаю, якой парода будзе,
А толькі — каб па-наску кукарэкаў».

Здалёку распачаўшы: «Так бы мовіць... —
Сказаў з пранонсам знаны Барадулін. —
Хай толькі кукарэкне, бы Шабовіч,
Адважу яму безліч наскіх дулін».

Не змоўчаў, угару узняўшы палец,
З хітрынкаю нясмелай у паглядзе,
Завёў гугнява-думна Янусь Малец:
«Шабовіч... Ён жа сёння пры пасадзе...»

Пал рэстаранны сцішыў Ермалаеў,
Адчуўшы, што не так пяе катрынка.
З ухмылкай лавеласа ён прабаяў:
«А што, калі спародзіцца дзяўчынка?..»

## ХЛОПЦЫ І МАНАХ

*Пакіньце мне, — я не манах...*

Міхась Скобла

Па трэцяй чарцы хлопцы п'юць,
А на мяне і не зважаюць.
Чакаю я, калі нальюць, —
Я ж не манах, хіба не знаюць?

Дзяўчыну хлопцы павялі
Катаць па возеры на лодцы,
Мяне чамусьці не ўзялі, —
Я не манах, вазьміце, хлопцы.

А хлопцы жэняцца, гляджу,
А я ж, як ёлуп, на калодцы
У слёзным одуме сяджу:
«Я не манах, паверце, хлопцы!»

Сяджу не дзень, сяджу гады,
Нібы асуджаны да плахі...
І кажа хлопец малады:
«Пара ўжо, дзеду, у манахі».





# *МЕТРЫКА*
## *літаратурная*

**485**

гадоў таму (1523) была выдадзена ў Кракаве паэма **М. Гусоўскага «Песня пра зубра».**

**440**

гадоў з часу заснавання (1568) **І. Фёдаравым і П. Мсціслаўцам** Заблудаўскай друкарні, у якой былі выдадзены **«Евангелле вучыцельнае» і «Псалтыр з Часаслоўцам»**. Існавала да 1571 г.

**430**

гадоў таму нарадзіўся **Руцкі** Іосіф Вельямін (свецкае імя Іван Феліксавіч; 1573 ці 1574—1637), беларускі пісьменнік, царкоўны дзеяч.

**290**

гадоў таму нарадзілася **Пільштын** (Пільштынова, дзявочае Русецкая) Саламея Рэгіна Іаахімаўна (1718—пасля 1760), беларуская мемуарыстка, падарожніца, лекарка.

**215**

гадоў таму нарадзіўся **Петрашкевіч** Ануфрый (1793—1863), польскі і беларускі паэт.

**215**

гадоў таму нарадзіўся **Шыдлоўскі** Ігнат Іосіфавіч (1793—1846), беларускі і польскі паэт, перакладчык, выдавец, фальклярыст.

**200**

гадоў таму нарадзіўся **Ходзька** (Барэйка) Міхал (1808—1879), паэт, перакладчык, палітычны дзеяч.

**190**

гадоў таму нарадзіўся **Бартэльс** Артур (1818—1885), беларускі мастак-карыкатурыст, ілюстратар, польскамоўны паэт-песеннік.

**185**

гадоў таму нарадзіўся **Замбржыцкі** Станіслаў Валянцінавіч (1823—1907), беларускі паэт, краязнаўца.

**170**

гадоў таму нарадзіўся **Кулжынскі** Рыгор Іванавіч (1838—1910?), беларускі этнограф, фальклярыст.

**170**

гадоў таму (1838) была заснавана газета **«Минские губернские ведомости»**. Выдавалася да 1918 г.

**170**

гадоў таму (1838) была заснавана газета **«Могилевские губернские ведомости»**. Выдавалася да 1918 г.

**170**

гадоў таму нарадзіўся **Тапчэўскі** Фелікс Феліксавіч (літаратурны псеўданім Хвэлька з Рукшэніц; 1838—1892), беларускі паэт-дэмакрат.

**155**

гадоў таму нарадзілася **Кавалеўская** Соф'я (1853—1918), беларуская фальклярыстка, пісьменніца, этнограф.

**150**

гадоў таму нарадзіўся **Дмахоўскі** Фадзей Уладзіслававіч (1858—?), беларускі жывапісец, графік.

**145**

гадоў таму нарадзілася **Бірута** (сапр. Даравінская Амелія; 1863—1891), беларуская і польская фалькларыстка, этнограф.

**125**

гадоў таму нарадзіўся **Быліна** Янка (сапр. Семашкевіч Іван; 1883—1955), беларускі паэт, драматург.

**120**

гадоў таму нарадзіўся **Баранкевіч** Іван Міхайлавіч (1888—1942), беларускі празаік, нарысіст, перакладчык. Пісаў на рускай мове.

**120**

гадоў таму нарадзіўся **Светлячок** Янка (сапр. Гаеўскі Іван Яфімавіч; 1888—1957), беларускі паэт, публіцыст, фалькларыст.

**115**

гадоў таму нарадзіўся **Мрый** А. (сапр. Шашалевіч Андрэй Антонавіч; 1893—1943), беларускі празаік.

**115**

гадоў таму нарадзіўся **Снапко** Юрка (сапр. Лявіцкі Язэп Язэпавіч; 1893?—1916), беларускі паэт.

**115**

гадоў таму нарадзіўся **Шыманоўскі** Станіслаў Вінцэнтавіч (1893—1920), беларускі паэт.

**100**

гадоў таму нарадзіўся **Люгоўскі** Браніслаў (1908—пасля 1940), беларускі паэт.

**100**

гадоў з часу выхаду (1908) першага зборніка вершаў **Я. Купалы «Жалейка».**

**95**

гадоў таму нарадзіўся **Розна** Алесь (Абрам Ісакавіч; 1913—1942), беларускі паэт, перакладчык.

**95**

гадоў з часу выхаду (1913) зборніка **М. Багдановіча «Вянок».**

**95**

гадоў таму (1913) было заснавана **прыватнае беларускае выдавецтва Б. А. Клецкіна** ў Вільні. Існавала да 1932 г.

**95**

гадоў таму (1913) было заснавана **Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні**. Існавала да 1916 г. і ў 1919—1930-х гг.

**95**

гадоў таму нарадзіўся **Дзенісенка** Іван Піліпавіч (1913—1943), беларускі паэт, журналіст. Пісаў на рускай мове.

**90**

гадоў таму (1918) было заснавана **Беларускае навуковае таварыства ў Вільні**. Існавала да 1940 г.

**85**

гадоў з часу заснавання (1923) грамадска-палітычнага і літаратурнага часопіса **«Крывіч»**. Выдаваўся ў Коўне (Каўнасе) да 1928 г.

**85**

гадоў з часу заснавання (1923) літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса **«Маладняк»**. Выдаваўся да 1933 г.

**80**

гадоў з часу стварэння (1928) **Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм»**.

**75**

гадоў з часу заснавання (1933) **Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь**. Да 1994 г. мела назву Урадавая.

**70**

гадоў з часу стварэння (1938) **Беларускага саюза мастакоў**.

**50**

гадоў з часу заснавання (1958) **«Белавежы»**, беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання ў Польшчы.

**40**

гадоў з часу стварэння (1968) беларускай кінастудыі хранікальна-дакументальных фільмаў **«Летапіс»**. Існавала да 1999 г.

**25**

гадоў з часу выхаду (1983) грамадска-палітычнага і навукова-папулярнага ілюстраванага часопіса **«Мастацтва»**.

**20**

гадоў з часу выхаду (1988) навукова-метадычнага ілюстраванага часопіса **«Роднае слова»**. Да 1992 г. называўся «Беларуская мова і літаратура ў школе».

# Студзень

**1**

— **85** гадоў таму ў вёсцы Сенькава Магілёўскага раёна нарадзіўся **Грамыка** Віктар Аляксандравіч, беларускі жывапісец, педагог.

Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. У 1958 годзе скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, пазней там жа працаваў як выкладчык, быў старшынёй праўлення Саюза мастакоў БССР.

Выстаўляе свае творы з 1947 года. Аўтар карцін «Дарогамі мсціўцаў», «Жанчынам Вялікай Айчыннай вайны прысвячаецца», «На радзіме Янкі Купалы» і іншых.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, народны мастак Беларусі.

**1**

— **60** гадоў таму ў горадзе Слоніме нарадзіўся **Дарохін** Уладзімір Васільевіч, беларускі кампазітар, педагог.

У 1973 годзе скончыў Ленінградскую кансерваторыю. Працаваў адказным сакратаром, намеснікам старшыні праўлення Саюза кампазітараў БССР.

Аўтар многіх музычных твораў, сярод якіх — балет «Апалон і Марсій», кантата «Песні лета» (словы У. Карызны), шматлікія рамансы, эстрадныя песні і іншыя.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**1**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Гута Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці нарадзіўся **Ткачоў** Васіль Юр'евіч, беларускі празаік, паэт, драматург, публіцыст.

У 1966 годзе скончыў Ільічоўскую сярэднюю школу. Да службы ў Савецкай Арміі працаваў у Івацэвіцкай і Кармянскай раённых газетах. У 1973 годзе скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. Працаваў ваенным карэспандэнтам у Туркменіі. У 1980 годзе вярнуўся ў Беларусь, працаваў у гомельскай шматтыражцы «Сельмашавец», у абласной газеце «Гомельская праўда», сакратаром Гомельскага абласнога адзялення СП Беларусі.

Друкавацца пачаў з 1966 года. Выдаў зборнікі апавяданняў для дзяцей «Хітры Данік», «Партрэт салдата», а таксама кнігі для дарослых — «Дзень у горадзе», «Пахавалі пражыты дзень» (публіцыстыка) і інш. Напісаў п'есы «Сівы бусел», «Вокны», «Прыгоды з Канапухіным» і іншыя. Займаецца таксама перакладамі з рускай мовы.

Жыве ў Гомелі.

**1**

— **50** гадоў таму ў вёсцы Курыцічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці нарадзіўся **Сітніца** Рыгор Сямёнавіч, беларускі графік, паэт.

У 1982 годзе скончыў Тэатральна-мастацкі інстытут. Працуе ў мастацкім стылі, які сам вызначае як «графічны джаз». Ягоныя творы выстаўляюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, Рэспубліканскай мастацкай галерэі, Дзяржаўным музеі гісторыі Другой сусветнай вайны, за мяжой. Таксама выступае як паэт, друкуе свае вершы на старонках літаратурна-мастацкіх выданняў.

Акадэмік Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва (з 1995 года).

**3**

— **270** гадоў таму нарадзіўся **Нарбут** Казімір, беларускі асветнік, прадстаўнік эклектычнага кірунку ў філасофіі эпохі Асветніцтва ў Беларусі і Літве.

Вучыўся ў піярскай школе ў Шчучыне, у Любешаўскім навіцыяце, у піярскім калегіуме ў Дубровіцы. Затым, з 1759 года — у Віленскім піярскім калегіуме, каля чатырох гадоў — у піярскім вучылішчы ў Рыме. Працаваў

прэфектам у Дубровіцы. З 1773 па 1775 жыў у Германіі і Францыі, быў выхавацелем сыноў літоўскага падскарбія. Некаторы час працаваў у Варшаве. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай адышоў ад выкладчыцкай дзейнасці, жыў у вёсцы пад Лідай.

У 1769 годзе выдаў у Вільні працу «Логіка, або Навука роздуму і разумнай размовы». Напісаў курс «Эклектычная філасофія». У 1771 годзе разам з вучнямі выдаў «Выбраныя меркаванні з філасофіі...». У сваіх творах сцвярджаў, што мэта філасофіі — пошук ісціны, накіраваны на вырашэнне практычных задач грамадскага жыцця. Выступаў супраць схаластыкі, лічачы яе перашкодай для развіцця навукі. Быў прыхільнікам дэізму. Крытыкаваў сістэму адукацыі і выхавання, займаўся школьнай рэформай у Беларусі і Літве.

Памёр у 1807 годзе.

**3**

— **100** гадоў таму ў горадзе Невелі Пскоўскай вобласці нарадзіўся **Зайцаў** Яўген Аляксеевіч, беларускі жывапісец.

Да Вялікай Айчыннай вайны скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум, Ленінградскую акадэмію мастацтваў. Падчас вайны ўдзельнічаў у афармленні выданняў «Партызанская дубінка» і «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Пачаў удзельнічаць у выстаўках з 1935 года. Пераважна працаваў у станковым жывапісе ў жанры сюжэтна-тэматычнай карціны, пейзажа, нацюрморта, партрэта. Аўтар карцін «Чапаеў», «Пахаванне героя», «Абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе» і іншых. Стварыў жывапісныя партрэты пісьменнікаў М. Танка, П. Броўкі, П. Глебкі, К. Крапівы. Удзельнічаў у стварэнні манументальнага роспісу ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета, у кінатэатры «Піянер».

Народны мастак Беларусі.

Памёр у 1992 годзе.

**3**

— **85** гадоў таму ў вёсцы Малая Чэрніца Віцебскага раёна нарадзілася **Гапава** Валянціна Ігнатаўна, беларускі крытык, літаратуразнавец.

Удзельнічала ў абароне Ленінграда. Скончыла Ленінградскі універсітэт. Працавала выкладчыцай у Мінскім педагагічным інстытуце, з 1959 — у Інстытуце літаратуры АН БССР.

Займалася даследаваннем беларуска-польскіх і беларуска-рускіх літаратурных сувязяў. Аўтар шматлікіх навуковых кніг, у тым ліку пра творчасць Элізы Ажэшкі, Янкі Купалы.

Памерла ў 2003 годзе.

**3**

— **85** гадоў таму ў вёсцы Раманаўшчына Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці нарадзіўся **Шашкоў** Алесь (Аляксандр Андрэевіч), беларускі празаік.

У 1941 годзе, адразу пасля заканчэння сярэдняй школы, пайшоў у Савецкую Армію. Ваяваў на Заходнім, 1-м Прыбалтыйскім і 2-м Беларускіх франтах, дзе быў двойчы паранены. Пасля вайны працаваў у чашніцкай раённай газеце. У 1950 годзе, пасля заканчэння Рэспубліканскай партыйнай школы пры ЦК КПБ, працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда», у армейскай газеце «Сталінскі воін», у часопісе «Калгаснік Беларусі». У 1959 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве, а ў 1961 — Літаратурны інстытут імя М. Горкага (завочна). Працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», быў галоўным рэдактарам у Міністэрстве культуры БССР, загадчыкам рэдакцыі выдавецтва «Народная асвета».

Упершыню выступіў у друку ў 1947 годзе з нарысамі. Выдаў празаічныя кнігі «Абуджэнне», «Ранняй вясной», «Спытай сваё сэрца», «Навальніца спее ў цішыні», кнігі для дзяцей «Змена», «На рачных плёсах», «Лань — рака лясная» і іншыя.

Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны I ступені, Чырвонай Зоркі і медалямі.

**4**

— **100** гадоў таму ў Мінску нарадзіўся **Садоўскі** Яфім Ільіч, беларускі празаік, нарысіст, паэт.

Вучыўся ў сталярнай майстэрні, у прафтэхшколе, скончыў агульнаадукацыйныя курсы. Працаваў у газетах «Савецкая Беларусь», «Рабочы». Уваходзіў у групу рускіх літаратараў «Звенья». Падчас Вялікай Айчыннай вайны быў ваенным журналістам на Заходнім і Цэнтральным франтах. З 1943 па 1970 гады з'яўляўся супрацоўнікам газеты «Советская Белоруссия».

Творчую дзейнасць пачаў у 1923 годзе з вершаў. Пісаў на беларускай і рускай мовах. Выдаў зборнікі апавяданняў «Скрыпка і ордэн», «Я вижу», «Ясные дали» і іншыя. Аўтар шматлікіх брашур і кніг нарысаў. Склаў зборнікі «Маякоўскі ў Беларусі» і «Успаміны пра Змітрака Бядулю»(з К. Цвіркам).

Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны II ступені і Чырвонай Зоркі, медалямі.

Памёр у 1993 годзе.

**4**

— **85** гадоў таму ў Мінску нарадзіўся **Ваданосаў** Мікола (Мікалай Міхайлавіч), беларускі празаік.

Дзіцячыя гады пісьменніка прайшлі ў вёсцы Котава Барысаўскага раёна. Да вайны вучыўся ў Мінскім дарожна-механічным тэхнікуме. Падчас Вялікай Айчыннай вайны быў радыстам партызанскага злучэння на Маладзечаншчыне. Быў тройчы паранены. Пасля вайны да 1957 года працаваў на Беларускім радыёцэнтры. У 1959 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў рэдактарам выдавецтва «Беларусь», рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Друкавацца пачаў у 1948 годзе. Выдаў кнігі апавяданняў і аповесцей «У Баркоўскай пушчы», «Надзеі і здзяйсненні», «Дзень і ўсё жыццё». Аўтар шматлікіх кніг для дзяцей, зборнікаў гумарыстычных апавяданняў.

У 1983 г. выйшлі Выбраныя творы ў 2 тамах.

Узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны II ступені, медалямі. Заслужаны работнік культуры БССР.

Памёр у 2006 годзе.

**4**

— **60** гадоў таму ў гарадскім пасёлку Глуск Магілёўскай вобласці нарадзіўся **Іваноў** Валерый Кірылавіч, беларускі кампазітар.

У 1975 годзе скончыў Беларускую кансерваторыю. З 1977 года выкладае там жа музычна-тэарэтычныя дысцыпліны, а з 2004 года адначасова з'яўляецца дырэктарам музычнага вяшчання Беларускага радыё.

Распрацоўвае гераіка-патрыятычныя тэмы, у стварэнні сваёй музычнай мовы абапіраецца на беларускі фальклор. Аўтар 2 сімфоній (1974, 1980), вакальна-сімфанічнай паэмы «Элегія аб чацвёртай бярозе» (1977), сімфанічнай паэмы «Прысвячэнне старому гораду» (1979) і іншых твораў, у тым ліку музычных п'ес, прэлюдый, твораў для дзяцей, песень, музыкі да тэатральных і радыёспектакляў, кінафільмаў.

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, народны артыст Беларусі.

**5**

— **70** гадоў таму ў горадзе Смаленску (Расія) нарадзіўся **Ждан** Алег (сапр. Пушкін Алег Аляксеевіч), беларускі празаік, перакладчык.

У 1960 годзе скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Магілёўскага педінстытута. Працаваў будаўніком, геолагам у розных рэгіёнах СССР, з 1963 года — у Мінску. У 1969 годзе завочна скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага.

Працаваў рабочым розных спецыяльнасцей на трактарным заводзе, рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, на кінастудыі «Беларусьфільм». Цяпер — у часопісе «Всемирная литература».

Свой творчы шлях пачаў, апублікаваўшы апавяданне ў газеце «Літаратурная Россия». Піша на беларускай і рускай мовах. Выдаў зборнікі апавяданняў і аповесцей «Во время прощания», «В гостях и дома», «Черты и лица» і іншыя.

**9**

— **75** гадоў таму ў вёсцы Леніна Чарапавецкага раёна Валагодскай вобласці нарадзіўся **Савелічаў** Аркадзь Аляксеевіч, беларускі празаік.

У 1965 годзе скончыў БДУ. Працаваў у газетах «Знамя юности», «Советская Белоруссия», у часопісе «Нёман».

Першыя публікацыі з'явіліся ў 1959 годзе. Піша на рускай мове. Аўтар кніг прозы «Земной дворец», «Зеленый день», раманаў «Инженеры», «Заберг», «Сельга», «Переборы» і інш.

Перакладае творы беларускіх аўтараў на рускую мову.

**14**

— **115** гадоў таму ў горадзе Вільні нарадзілася **Буйло** (сапр. Калечыц) Канстанцыя Антонаўна, беларуская паэтэса.

Скончыўшы ў 1914 годзе настаўніцкія курсы ў Вільні, настаўнічала на Лідчыне, загадвала беларускай кнігарняй у Полацку. З 1923 года жыла ў Маскве, была хатняй гаспадыняй. Пасля таго як у 1933 годзе быў арыштаваны яе муж, Калечыц Віталь Адольфавіч, працавала ў розных установах Масквы. З 1954 года знаходзілася на пенсіі. Сябравала з Уладзіславай Луцэвіч, ліставалася з ёю.

Упершыню надрукавала вершы ў 1909 годзе ў газеце «Наша ніва». Першы яе зборнік «Курганная кветка» выйшаў у 1914 годзе ў Вільні (рэдактарам быў Янка Купала). У наступныя гады выходзілі зборнікі «Світанне», «На адноўленай зямлі», «Май», «Роднаму краю», выбраныя творы — у 1954, 1968, 1976, 1981 гг. Аўтарка некалькіх кніжак для дзяцей, п'ес «Кветка папараці», «Сягонняшнія і даўнейшыя». Шмат якія творы паэткі пакладзены на музыку, а песня «Люблю наш край» набыла шырокую папулярнасць, зрабілася сапраўды «народнай».

Заслужаны дзеяч культуры БССР, узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны» і медалямі.

Памерла ў 1986 годзе. Спачатку была пахавана ў Маскве, а ў 1989 годзе урна з яе прахам была перавезена і захавана ў вёсцы Вішнева на Валожыншчыне.

**14**

— **60** гадоў таму ў горадзе Полацку нарадзіўся **Гальпяровіч** Навум Якаўлевіч, беларускі паэт, празаік, публіцыст.

Працаваў на Полацкім шклозаводзе, у рэдакцыі полацкай газеты «Сцяг камунізму», рэдактарам радыёвяшчання вытворчага аб'яднання «Палімір» у Наваполацку. Завочна вучыўся на журфаку Белдзяржуніверсітэта. У 1979 годзе скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава. Працаваў уласным карэспандэнтам Дзяржтэлерадыё БССР па Віцебскай вобласці, у рэдакцыі часопіса «Вожык» — намеснікам галоўнага рэдактара, намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё. Цяпер працуе галоўным дырэктарам замежнага вяшчання Беларускага радыё.

Друкуецца з 1967 года. Аўтар зборнікаў: «Брама», «Востраў душы», «Струна», «Шляхі і вяртанні», «Святло ў акне», «Голас і рэха», «Гэта ўсё для цябе».

**15**

— **100** гадоў у вёсцы Маўчаны Сенненскага павета Віцебскай губерні нарадзіўся **Азгур** Заір Ісакавіч, беларускі скульптар.

Вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме (1922—1925), у Ленінградскім вышэйшым (1925—1928) і ў Кіеўскім мастацкім (1928—1929) інстытутах. З 1980 года кіраўнік Творчай майстэрні скульптуры ў Мінску.

Працаваў у галіне манументальнай, станковай, манументальна-дэкаратыўнай скульптуры. Стварыў цыкл партрэтаў дзеячаў беларускай культуры і навукі, у тым ліку Ф. Скарыны, Цёткі, Ф. Багушэвіча, К. Крапівы і іншых. Аўтар помнікаў Янку Купалу, В. Талашу, П. Машэраву. У 1972 годзе ім быў створаны скульптурны ансамбль помніка Якубу Коласу на аднайменнай плошчы ў Мінску. Пісаў таксама публіцыстыку, мемуары.

Народны мастак Беларусі. Герой Сацыялістычнай Працы.

Памёр у 1995 годзе.

**20**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Заямнае Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся **Жыбуль** Вячаслаў Васільевіч, беларускі крытык, літаратуразнавец.

Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў столярам, служыў у Савецкай Арміі, быў дырэктарам сельскага Дома культуры. Вучыўся на філалагічным факультэце БДУ (1972—1976), у аспірантуры Інстытута літаратуры АН БССР (1976—1979). Працаваў навуковым супрацоўнікам гэтага інстытута, у Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

З 1980 года змяшчаў у друку літаратуразнаўчыя, крытычныя артыкулы. Даследаваў беларускую ваенную прозу, беларуска-рускія літаратурныя сувязі пасляваеннага часу. Аўтар манаграфіі «Беларуская проза аб вайне і класічная трагедыя».

Кандыдат філалагічных навук. Пісаў на беларускай і рускай мовах.

Памёр у 1996 годзе.

**21**

— **190** гадоў таму ў вёсцы Слівіна Манастыршчынскага раёна Смаленскай вобласці нарадзіўся **Кіркор** Адам Ганоры Карлавіч (псеўданімы Ян са Слівіна, Ян Валігурскі, Сабары і інш.), беларускі этнограф, гісторык, археолаг, публіцыст, выдавец, грамадскі дзеяч.

Навучаўся ў Магілёўскай і Віленскай гімназіях. Выдаваў у Вільні літаратурна-навуковыя альманахі «Радэгаст», «Разумовыя дзённікі», «Памятныя кніжкі Віленскай губерні», часопіс «Віленскі зборнік», «Віленскі альманах». Пачынаючы з 1855 года — член Віленскай археалагічнай камісіі, хавальнік Віленскага музея старажытнасцей. З 1860 па 1865 гады ўзначальваў газету «Виленский вестник». Меў уласную друкарню ў Вільні, дзе выдаваў кнігі на польскай, літоўскай і рускай мовах, планаваў выдаваць кнігі і на беларускай мове. Аўтар прац «Пра літаратуру брацкіх славянскіх народаў», «Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі», «Аб першабытнай славяншчыне» і іншых. Вядомы як кіраўнік віленскага гуртка беларускіх, польскіх і літоўскіх пісьменнікаў, у якім удзельнічалі Уладзіслаў Сыракомля, Ігнат Ходзька, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і іншыя.

Памёр у 1886 годзе.

**21**

— **110** гадоў таму ў вёсцы Калядзічы каля Мінска нарадзіўся **Запольскі** Міхал Мікалаевіч беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык.

Звестак пра яго паходжанне, сям'ю, адукацыю няма. Доўгі час жыў у Каралеўстве сербаў, харватаў і славенцаў, працаваў на чыгунцы. Пазней па палітычных матывах з'ехаў у Балгарыю. З 1955 — у Расіі, з 1956 — у Беларусі, працаваў лабарантам у Інстытуце харчовай прамысловасці.

Творчасцю пачаў займацца з 1913 года. Пісаў на беларускай, рускай, сербскахарвацкай і балгарскай мовах. Друкаваў допісы, вершы і апавяданні ў заход-

небеларускіх, югаслаўскіх выданнях. Ёсць падставы лічыць, што пісаў і п'есы для дзяцей, якія ставіліся ў Бялградскім дзіцячым тэатры. Аўтар некалькіх кніг. Рукапісы твораў пісьменніка, сярод якіх паэма «Рагнеда», п'еса «Мана кахання» і іншыя, захоўваюцца ў ЦБ АН Літвы.

Памёр у 1956 годзе ў Мінску, пахаваны на Усходніх могілках.

**21**

— **80** гадоў таму у вёсцы Антонаўка Чавускага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся **Аношкін** Іван Архіпавіч, беларускі празаік.

Пасля заканчэння Суражскага педагагічнага вучылішча працаваў выхавацелем, адказным сакратаром раённай газеты на Браншчыне. З 1948 года — у Беларусі, загадваў пачатковай школай, працаваў у рэдакцыі раённай газеты на Жабінкаўшчыне. Скончыў Рэспубліканскую партшколу, гістфак Магілёўскага педінстытута. Працаваў у чэрыкаўскай раённай газеце, у абласной газеце «Магілёўская праўда», сакратаром Магілёўскага абласнога аддзялення СП БССР.

Літаратурнай дзейнасцю займаецца з 1951 г. Аўтар празаічных кніг «Лішні мінус», «Брантазаўр», «Землякі», кніг для дзяцей «Навічок», «Алёнчын сакрэт» і іншых.

**22**

— **75** гадоў таму ў Вільнюсе нарадзілася **Лось** Алена Георгіеўна, беларускі графік.

У 1955 годзе скончыла Дзяржаўны мастацкі інстытут Літоўскай ССР. Выстаўляе свае работы з 1960 года. У асноўным займалася мастацкім афармленнем дзіцячых кніг. Праілюстравала такія кнігі, як «Дударык» Васіля Віткі, «Скарб» Змітрака Бядулі і іншыя. Таксама працуе ў станковай графіцы ў тэхніках лінагравюры, літаграфіі, дзе найбольш вядомыя яе творы — цыклы ілюстрацый да беларускіх народных казак, станковыя серыі «Дзеці Белавежы», «Палессе», «Партрэты беларускіх пісьменнікаў» і іншыя. Фальклорныя традыцыі, стылістычная блізкасць да народнага лубка — асноўныя рысы творчасці Алены Лось.

**22**

— **50** гадоў таму ў г. п. Касцюкоўка Гомельскага раёна нарадзіўся **Сцяпан** Уладзімір (сапр. Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч), беларускі празаік, паэт, мастак.

Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча і Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Пасля службы ў Савецкай Арміі працаваў мастаком, рэдактарам Беларускага тэлебачання, быў аўтарам і вядучым папулярных тэлевізійных праграм.

Упершыню выступіў у друку з вершамі ў 1982 годзе. Уваходзіў у суполку «Тутэйшыя». Друкаваўся ў шматлікіх калектыўных зборніках. Выдаў кнігі прозы «Сам-насам», «Вежа». У сааўтарстве з Максімам Клімковічам напісаў раман «Тэолаг», які быў надрукаваны ў часопісе «Маладосць».

**26**

— **90** гадоў таму у вёсцы Нязнань Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся **Новікаў** Іван Рыгоравіч (1918—2001), беларускі празаік, журналіст.

У 1935 годзе скончыў Магілёўскі газетны тэхнікум. У розныя гады навучаўся ў Аршанскім настаўніцкім інстытуце, у Ленінградскім інстытуце журналістыкі імя В. В. Вароўскага. Падчас Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у абароне Сталінграда, у вызваленні Украіны, Малдавіі, Балгарыі, Югаславіі, Аўстрыі. Быў паранены. Пасля вайны працаваў у газетах «Советская Белоруссия», «Правда».

Літаратурную працу пачынаў як нарысіст. Выдаў шматлікія кнігі нарысаў, фельетонаў, дакументальных аповесцей, такіх, як «Дзесяць тыдняў у Злучаных Штатах Амерыкі», «Палескае золата», «Уласны іншаземец», «Минск — город-герой». Аўтар аповесці «Тварам да небяспекі», рамана «Ачышчэнне», даку-

ментальнай трылогіі «Мінскі фронт», кнігі аповесцей і апавяданняў «Параненая памяць». Разам з І. Чыгрынавым напісаў сцэнарый тэлефільма «Руіны страляюць».

Ганаровы грамадзянін балгарскага горада Слівена. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа, Дзяржаўнай прэміі БССР, Літаратурнай прэміі імя А. А. Фадзеева. Заслужаны дзеяч культуры БССР.

Памёр у 2001 годзе.

**28**

— **65** гадоў таму ў вёсцы Федзюкі Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці нарадзіўся **Пташук** Міхаіл Мікалаевіч (1943—2002), беларускі кінарэжысёр.

У 1967 годзе скончыў Маскоўскае тэатральнае вучылішча імя Б. Шчукіна, а ў 1972 — вышэйшыя рэжысёрскія курсы Дзяржкіно СССР (майстэрня Г. Данеліі). Працаваў рэжысёрам у тэатрах Масквы і Казані. З 1974 г. — на кінастудыі «Беларусьфільм».

Зняў стужкі «Пра Віцю, пра Машу і марскую пяхоту», «Лясныя арэлі», «Час выбраў нас», «Вазьму твой боль», «Чорны замак Альшанскі», «Знак бяды», «Наш браняпоезд», «Кааператыў «Палітбюро», або «Будзе доўгім развітанне», «Гульня ўяўлення», «У жніўні 44-га», «У чэрвені 41/Песня Ружы». Ягоныя фільмы неаднаразова займалі прызавыя месцы на міжнародных кінафестывалях.

Заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, народны артыст Беларусі.

Загінуў у аўтакатастрофе ў 2002 годзе.

**29**

— **130** гадоў таму ў Мінску нарадзіўся **Самойла** Уладзімір Іванавіч, беларускі публіцыст, паэт, празаік, літаратурны крытык, філосаф.

Вучыўся ў Маскоўскім, Петраградскім універсітэтах. Быў адным з заснавальнікаў кніжнага таварыства «Мінчук». Працаваў выкладчыкам у гімназіях, супрацоўнічаў з віленскімі, мінскімі перыядычнымі выданнямі.

Актыўна ўдзельнічаў у беларускім літаратурна-грамадскім руху ў Мінску. Садзейнічаў надрукаванню ў газеце «Северо-Западный край» верша «Мужык» (першае выступленне Янкі Купалы ў друку). Займаўся аналізам творчасці А. Блока, Ф. Дастаеўскага, Г. Ібсена, М. Горкага, К. Сваяка. У сваіх публіцыстычных творах закранаў пытанні грамадскага-палітычнага і культурнага жыцця. Пісаў таксама нарысы, філасофскія эсэ.

Памёр у 1941 годзе.

**31**

— **80** гадоў таму ў вёсцы Кудрычы Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся **Юрчанка** Георгій Фёдаравіч, беларускі паэт-сатырык, парадыст, мовазнаўца, крытык.

Пасля заканчэння ў 1951 годзе Магілёўскага настаўніцкага інстытута працаваў настаўнікам беларускай і рускай мовы і літаратуры ў школах Гродзеншчыны. Скончыў (завочна) філфак Гродзенскага педінстытута, аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР. Працаваў рэдактарам, загадчыкам рэдакцый у выдавецтве «Навука і тэхніка».

Упершыню апублікаваў свае творы ў 1959 годзе ў воранаўскай раённай газеце «Путь социализма». Выдаў кнігі літаратурных пародый і эпіграм «Распрэжаны Пегас», «Вярхом на вожыку», «Немеладычныя мелодыі» і іншыя. Аўтар шматлікіх навукова-папулярных прац, збораў дыялектнай фразеалогіі, такіх, як «І коціцца і валіцца»(у 3-х кнігах), «Сучаснае народнае слова: З гаворак Мсціслаўшчыны» і інш.

*Аўтар рубрыкі Янка Лайкоў.*

